Навуковы рэдактар
*доктар філалагічных навук М. В. БІРЫЛА*

**Сцяцко П.**

С 92 Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны. Навуковы рэдактар доктар філалагічных навук М. В. Бірыла. Мн., Выд. БДУ імя У. І. Леніна, 1970.

184 с. 2500 экз. 19 к.

У слоўніку тлумачыцца значэнне да 2,5 тысяч дыялектных слоў, адлюстроўваюцца граматычныя і фанетычныя асаблівасці гаворак, словаўтварэнне і сінаніміка, паказваецца сфера бытавання дыялектызмаў.

Слоўнік прызначан навуковым работнікам, выкладчыкам вну, студэнтам-філолагам, настаўнікам школ.

**7-1-5**
**41-70**

**4(Бел)(03)**

Народны слоўнік — гэта пышны яр,
Цудоўны скарб ён дасць вам пры доглядзе.

*Максім Рыльскі*

# УВОДЗІНЫ

Жывая народная мова — невычэрпны скарб. Якімі фарбамі ён пераліваецца, якімі дыяментамі зіхаціць!

Кожны раз, бываючы на Гродзеншчыне, слухаючы народную гутарку, міжволі прыгадваеш словы геніяльнага паэта Адама Міцкевіча пра народныя гаворкі Гродзеншчыны (Навагрудчыны) як «найбагацейшы і найчысцейшы з усіх славянскіх дыялектаў».

На працягу многіх год я вывучаю гаворкі гэтага краю. Сабраны матэрыял амаль з усіх куткоў Гродзеншчыны. Гэты слоўнік складзены на матэрыяле гаворак Зэльвеншчыны.

Шмат якія словы тут надта трапныя, дакладныя, выключна яркія і выразныя. Прывяду два прыклады. Часта мы кажам (і пішам): *Зусім нічога ў рот не бралі*. Або: *Абсалютна нічога не елі*. А ў гаворках пачуеш: *І не расіліся* (г. зн.— І расінкі ў роце не было). Прыназоўнік *спаміж* абазначае адразу і месца і накіраванасць дзеяння: *Выскачыў (кот) спаміж будынкаў*.

Значнае месца ў гаворках займае эмацыянальна-экспрэсіўная лексіка. Напрыклад: *абшастаць* — абрэзаць, і не проста, а па-дзікунску; *адпудзіць* — адкроіць (хлеба) як бы пудовую лусту.

Багатая сінаніміка гаворак. Слова *есці* мае, напрыклад, сінонімы *аплята́ць, га́мацьь, глэ́мацьь, глэ́мзацьь, го́мджыцьь, джгацьь, дзю-*

*бацъ, жміндзіцъ, лóпацъ, лэпацъ, лыгацъ, нығацъ, пляскáцъ, пéрці, пýгацъ, трубіцъ, хрýмстацъ, церабіцъ, чáмкацъ, нацялéскацца* і іншыя. Нямала ў гаворках арыгінальных і цікавых фразеалагізмаў — гэтых згусткаў народнай думкі.

Лексіка зэльвенскіх гаворак амаль не адлюстравана ў навуковай літаратуры і фальклорных друкаваных матэрыялах. Усё гэта і падштурхнула ўзяцца за складанне дыялектнага слоўніка Зэльвеншчыны.

## ФАНЕТЫЧНЫЯ І ГРАМАТЫЧНЫЯ АСАБЛІВАСЦІ ЗЭЛЬВЕНСКІХ ГАВОРАК

Гаворкі гэтай мясцовасці фанетычнай сістэмай і марфалагічным ладам у большасці супадаюць з літаратурнай мовай.

Да найбольш яркіх дыялектных асаблівасцей у галіне фанетыкі адносяцца наступныя:

моцнае яканне (у часціцы *не* і словах *няма, яшчэ, мяне* вымаўляецца і): *купляя, пяракýпшчык, вяраўчáны;*

захаванне канцавога ненаціскнога о: *мнóго, кéпско, балóто, жыто;*

гук о на месцы а ў канцы слова пасля мяккіх зычных і зацвярдзелых і ў часціцы *-ся* дзеясловаў I асобы адзіночнага і множнага ліку цяперашняга і будучага часу і ў прошлым часе ў мужчынскім і ніякім родзе: *снéданё, грабільнё, тапарышчо, клóчо, запісваюсё, старáюсё, схóпімсё, зрабіўсё, сапсавáласё, разгубіўсё;*

адсутнасць падаўжэння зычных на месцы

старажытнага спалучэння «зычныя+ьј»: *насе́нё, раля́, руж'е́, чыта́нё;*

галосны у на месцы ы ў канчатках прыметнікаў (дзеепрыметнікаў, займеннікаў і лічэбнікаў): *у но́вум, на на́шум, у се́мум, у параплёцянум;*

закрытыя галосныя о, е (гэтая асаблівасць гаворак па тэхнічных прычынах у слоўніку не перадаецца);

канчатак -е (-э) у назоўным-вінавальным склонах назоўнікаў мужчынскага і жаночага роду (у націскным становішчы) [1]: *брато́, разарэ́, ваўке́, хутарэ́, каравэ́;*

сцягнутыя формы прыметнікаў (дзеепрыметнікаў, лічэбнікаў, займеннікаў) у назоўным-вінавальным склонах: *но́ва (хустка), цёплу (зіму), се́му (штуку), вы́рабляну (зямлю).*

Формы будучага складанага часу часта ўтвараюцца пры дапамозе старажытнага дзеяслова *иметь,* які зліваецца з інфінітывам: *рабіціму, рабіцімеш, стая́цімуць, піса́ціму, гуля́цімяш.*

## БУДОВА СЛОЎНІКА. МАТЭРЫЯЛ. УМОЎНЫЯ АБАЗНАЧЭННІ І СКАРАЧЭННІ

Значэнні дыялектных слоў растлумачваюцца шляхам падбору адпаведнікаў літаратурнай мовы або тлумачацца апісальна.

Пры дублетных парах робяцца адсылкі да больш ужывальнага слова.

[1] Пра марфалагічныя рысы гэтых гаворак гл. наш артыкул «Марфалагічныя асаблівасці гаворак Зэльвенскага раёна Гродзенскай вобласці» (Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. VIII, 1961, стар. 159—177).

Загалоўнае слова даецца ў арфаграфічным напісанні, а ў дужках пасля яго — вымаўленне слова, калі яно не супадае з напісаннем. Для ілюстрацыі значэння слова прыводзяцца ўрыўкі (сказы) мясцовай мовы, запіс іх даецца ў спрошчанай транскрыпцыі, набліжанай да арфаграфічнага пісьма. Выбухны **г** абазначаецца літарай *Г, г*. Мяккасць перад зычнымі і ў канцы слова абазначаецца мяккім знакам, перад галоснымі — літарамі **е, ё, ю, я, і**.

У слоўнік уключаны словы, не зарэгістраваныя «Беларуска-рускім слоўнікам» 1962 г. З зарэгістраваных падаюцца толькі тыя словы, якія ў БРС маюць іншае значэнне ці памету *абласное*. Да некаторых слоў прыводзяцца фразеалагізмы, у складзе якіх яны ўжываюцца. Адны з дыялектных слоў адрозніваюцца ад агульнапашыраных цалкам, другія — значэннем, трэція — словаўтваральнымі марфемамі (параўн: *падваротня* і *падваротніца*), чацвёртыя — формай роду (*каромысел* і *каромысла*), пятыя — фанетычным складам (*персі* і *персці, штурхаць* і *штырхаць*).

З граматычных памет даюцца: у назоўніках — род, у дзеясловах — трыванне, да астатніх часцін мовы — іх назва. У дзеясловах даюцца формы першай і другой асобы адзіночнага ліку або трэцяй, калі слова ўжываецца толькі ў 3-й асобе; у назоўніках — форма роднага склону множнага ліку.

Закончанае і незакончанае трыванні дзеясловаў, якія адрозніваюцца прыстаўкамі (зрэдку — суфіксамі), падаюцца асобнымі артыкуламі.

Калі слова ўжываецца як стылістычна афар-

баванае, пры ім даецца адпаведная стылістычная паметка. Амонімы падаюцца як асобныя загалоўныя словы з лічбовымі паказчыкамі.

## I. Скарачэнні назваў вёсак

*Ал.*— Алексічы
*Вальк.*— Валькевічы
*Зл.*— Зэльва
*Кар.*— Караліно
*Вар.*— Варонічы
*Гал.*— Галынка
*Гр.*— Грабава
*Даўг.*— Даўгаполічы
*Дзяр.*— Дзярэчын
*Едн.*— Едначы
*Кр.*— Крывічы
*Пл.*— Плецянічы
*Св.*— Савічы
*Ст. С.*— Старое Сяло
*Угр.*— Угрынь
*Яр.*— Ярнева

## II. Стылістычныя паметкі

*абразл.*— з адценнем абразлівасці, *асудж.*— асуджальнасці, *груб.*— грубасці, *грэбл.*— грэблівасці, *жартаўл.*— жартаўлівасці, *зламоўн.*— зламоўнасці, *зняважл.*—зняважлівасці, *іран.*— іранічнасці, *незад.* — незадавальнення, *непаш.* — непашаны, *пагардл.* — пагардлівасці, *пяшчотн.*— пяшчотнасці, *спагадл.*— спагадлівасці, *узмацн.* — узмацнення, *устар.* — устарэласці.

## III. Іншыя скарачэнні

*адз.*— адзіночны лік
*ас.*— асоба
*безас.* — безасабовы
*выкл.*— выклічнік
*гл.*— глядзі
*гукаперайм.* — гукапераймальнае слова
*дзіцяч.* — з дзіцячай лексікі
*дзеепрым.* — дзеепрыметнік

*дзеепрысл.* — дзеепрыслоўе
*ж.*— жаночы род
*займ.*— займеннік
*м.*— мужчынскі род
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*незак.* — незакончанае трыванне
*пабочн. сл.*— пабочнае слова
*параўн.*— параўнай
*перан.*— пераноснае значэнне
*прам.*— прамое (намінатыўнае) значэнне
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*зак.*— закончанае трыванне
*зборн.*— зборны назоўнік
*злучн.*— злучнік
*ліч.*— лічэбнік
*розн. знач.*— розныя значэнні
*руск.*— руская мова
*часц.*— часціца

# А

АБАДЗЕ'Н, -днёў *м.* Авадзень. Абаднёў нат-то коні баяцца, бо мо́цно куса́юць. *Гр.*

АБАЛВАНЕ'ЦЬ, -ею, -еяш *зак.* Здурэць. Абалване́яш з гэтымі дзе́цьмі за дзень. *Ал.*

АБАПНУ'ЦЦА, -усё, -есься *зак.* Завязаць (фартух) на скорую руку. Хоць хвартухо́м абапні́ся, ні так заве́дзгаясься кала чыгуно́ў гэтых. *Св.*

АБАРЛЮ'ХТА, -аў *ж.* Фрамуга. Фо́ртачак німа́ і абарлю́хты ні аччы́ніць. *Кар.*

АБДЗІ'РКУС, -аў *м. асудж.* Той, хто хутка дзярэ адзенне. Дзе ты наўме́ясься абдзіркусу гэтаму адзе́жы тае́,— ляціць, як на рышта́нту ўсё. *Ст. С.*

АБЕ'Д (абе́т) *м.* 1. Перыяд прыёму ежы ў дзесяць гадзін. *Яр.* 2. Яда на гэты час. Абе́т нішчы́мны ў абе́т прынясла́, да палу́дня ні дацягняш. *Пл.*

АБ'Е'ДЗІНЫ, -аў *толькі мн.* Аб'едкі. *Даўг.*

АБЕ'РТУХА, -аў *ж. жартаўл.* Вялікі кавалак хлеба, вялікая луста. Хіба ты зьзясі абе́ртуху гэту, га? *Гр.*

АБЕ'ЧАК, -аў *м.* Вечка, накрыўка ў кубле. *Едн.*

АБІРА'ЦЬ I -аю, -яш *незак.* Абгрызаць (мяса з косці). Абяры́ косьць — мя́са мно́го на ёй. *Гал.*

АБІРА'ЦЬ II-аю, -яш *незак.* Прабіраць. Абірала-абіра́ла яго́, а ён як слуп, ходзь бы славе́чко якоё сказа́ў — маўчы́ць. *Ст. С.*

АБЛЕ'ЗЛІК (аблéзьлік), -аў *м. зняважл.* Пра чалавека з аблезлым тварам. *Кр.*

АБМАГА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Перамагаць. Твой дýжайшы, абмагáя майгó. *Дзяр.*

АБМАГЧЫ' (абмахчы́), -у, -жаш *зак.* 1. Падужаць. Кап ты ягó ні абмóх — ні мóжа гэ́таго быць. *Гр.* 2. Змагчы (з'есці, зрабіць што). Ой, ліхо ты, каб зацéркі мíску ні абмóх! *Ст. С.*

АБМАЧА'НКА, -аў *ж.* Мачанка. Нарабíла абмачáнкі, і абмачáйця блінцэ́. Ні гóлат. *Вальк.*

АБМІ'НАК (аммíнак), -аў *м.* 1. Незасеяная (па недаглядзе) палоска нівы. Стары́, ні даглéдзяў, два аммìнкі ў той лáві зрабіў. *Едн.* 2. Тое, што і у р э х. Як слабы́, аммінкаў нарóбіш, гаручы́. *Едн.*

АБМЫЛІ'ЦЦА, -юсё, -ісься *зак.* Памыліцца. Нáтто хýтко лічыш, лядзì, кап ні абмылíўсё. *Кр.*

АБМЫ'ЛКА, -аў *ж.* Памылка. *Вальк.*

АБО'РВАНЕЦ (абóрваняц), -нцаў *м, асудж.* Пра таго, хто ходзіць у падраным адзенні. І як ямý ні бры́тко: абóрваняц такì — і ў сялó ідзé? *Гал.*

АБРАБІ'ЦЦА, -блюсё, -бісься *зак.* Запэцкацца. Нéдзя ў смалý абрабіўсё. *Зл.*

АБРАБІ'ЦЬ, -блю, -біш *зак.* Запэцкаць. Паўзірáйся, як ты пальтó абрабíла, гаш страх глядзéць на ягó. *Ст. С.*

АБРО'БА *ж. зламоўн.* Халера. Часцей у кленічы. Хай ягó абрóба абрóбіць, каб я ўсё на ягó дáрам рабіла! *Кр.*

АБРО'БЛЕНЫ (абрóбляны) *дзеепрым.* Запэцканы. Абрóбляны прышóў, нéдзя ў гразì пóўзаў, ці што? *Вар.*

АБРО'ХАЦЦА, -юсё, -ясься *зак.* Абрасіцца — абмачыцца расою. Трава́ ве́лька на бало́ці — па по́яс абро́хаўсё, як адбро́джваў сваю́ дзя́лку. *Гр.*

АБРЫ'ДНІЦА, -аў *ж. зняважл.* Тая, хто надакучае (размовамі і г. д.); абрыдлівая. Ні хачу́ і ба́чыць, абры́дніцы гэ́тае! *Гр.*

АБРЫКА'НСКАЕ (абрыка́нско) (яйцо). Надта моцнае — яйцо курыцы-афрыканкі. Я с твайім біцца ні бу́ду — тваё абрыка́нско. *Кр.*

АБРЫ'НДАНІЦА, -аў *ж. асудж.* 1. Хто ходзіць абрынданы, заляпаны гразёю. Усю́ спаніцу заля́пала гразёю. От абры́нданіца! *Ст. С.* 2. Абарваная. Пярадзе́нь абры́нданіцу, хай ні трасе́ лэ́хамі. *Гр.*

АБРЫ'НДАНЫ *дзеепрым.* 1. Абляпаны, запэцканы. *Зл.* 2. Абарваны. *Гр.*

АБРЫ'НДАЦЦА, -юсё, -ясься *зак.* 1. Запырскацца, заляпацца (гразёю). *Дзяр.* 2. Абарвацца, абтрапацца (пра адзенне). Чы́сто абры́ндалася спаніца, і падлажы́ць німа́ ча́су. *Ст. С.*

АБРЫ'СКЛАЕ (абры́скло) (малако) — якое толькі пачало кіснуць. Адно́ прынёс і ўжэ абры́скло малако́ му́шу е́сьці. *Гр.*

АБСА'Ц (апса́ц), -аў *м. устар.* Абцас. *Едн.*

АБУБНІ'ЦЬ, -ю, -іш *зак. асудж.* Пастрыгчы нагола. Ве́лькі хло́пяц, а яго́ абубнілі, як аве́чку. *Гр.*

АБЦЕ'ПКАНЫ (апцёпканы) *прым.* Абарваны, абабіты (край адзення, тканіны). *Кр.*

АБЦЕ'ПКАЦЦА (апцёпкацца, ацёпкацца), -юсё, -ясься *зак.* Абабіцца (пра край адзення, тканіны). Рука́ў ацёпкаўсё, трэ зарубіць. *Св.*

АБЦЭ'НГІ (апцэ́нгі), -аў *толькі мн.* Абцугі. *Ал.*

АБЧА'С (апча́с), -аў *м.* Абцас. *Гр.*

АБШАЛЕ'СТАЦЬ (апшалёстаць), -аю, -яш *зак. асудж.* 1. Абабраць (плады). *Яг дарвáліся, чысто ўсе яблыкі апшалёсталі гіцлі гэтыя! Гр.* 2. Абкрасці. *Апшалёсталі, і ні вéдаюць, хто і калі. Ст. С.*

АБША'СТАЦЬ (апшáстаць), -аю, -аяш, *зак. асудж.* Абрэзаць. *Нéшто ты раскалізавáўсё, усё дзéраво апшáстаў — ссóхня вóзьмя. Гр.*

АБЯЧЭ'ЙКА (абячэ́йко), -аў *н.* 1. Абечак. *Св.* 2. Абадок (у вечку дзяжы, кубла). *Ст. С.*

АГА' *выкл.;* ужываецца ў спалучэнні а г ә в ó ў к а! Так палохаюць (адганяюць) ваўка. *Кр.*

АГАРА'ДЖВАЦЦА, -юсё, -яська *незак. зламоўн.* Апраўдвацца; агрызацца. *Ні́ма́, кап паслýхаў, так агарáджваяцца ўсё, раскóл гэ́ты! Гр. Мо ніпрáўду кажý, ці што? Чагó ты агарáджваясься? Ст. С.*

АГЛЕ'ДЗЕЦЬ (аглéдзяць), -джу, -дзіш *зак.* Выпараць, знайсці (схаванае). *Дзе ты ні схавáй, усярóўно аглéдзяць і разваlакýць. Гр.*

АГУ'ЛАМ *прысл.* Супольна. *Як агýлам — і рабіць лёхко, а аднамý збрыдня, агóркня гэ́та рабóта. Св.*

АДБЕ'ГАЦЬ, -ая *зак.* Пабегаць, пакрыцца (пра карову). *Гр.*

АДБІ'ЦЦА, адаб'ецца *зак.* Пакрыцца (пра кабылу). *Ст. С.*

АДВАРО'НІЦЫ, -аў. Тое, што і а д в а р о н к і. *Едн.*

АДВАРО'НКІ, -аў *адз.* а д в а р о н к а *ж.* Бульба, зваранaя ў «мундзірах». *Лупі адварóнкі да еш сь сяляццóм. Гр.*

АДВЕ'ДАЦЬ, -аю, -аяш. *зак.* Наведаць —

блізкага чалавека, даведацца пра яго здароўе. Мо дзе хвора ляжыць твая Ганўля — і ні адведаяш. От тавáрышка! *Пл.*

АДВЕ'ДКІ (адвéткі), -аў *толькі мн.* Водведы, адведзіны. У адвéткі пайшлá да Агáты. *Яр.*

АДГАДЗІ'ЦЦА, джусё, -дзісься *зак.* Адпомсціць, не дараваць. Век ні дарўю. Адгаджўсё, хоць праз гот ці два. *Гр.*

АДГА'КАЦЬ, -аю, -аяш *зак. непаш.* 1. Прайсці (многа). За дзень мы гунь кóлькі адгáкалі вёрст. *Ал.* 2. Зрабіць, паставіць (дом). От адгáкаў хáту, як палáц! *Ст. С.*

АДГАНУ'ЦЬ, -ну, -неш *зак.* Адгадаць. Я табé яг заганў зáгатку — нігды ні адганéш. *Гр.*

АДДАДУ'РЫЦЬ, -у, -ыш *зак. зняважл.* Адставіць. Аддадўрыў азáдак — і ні туды ні сюды, ні прайсьці ў сўтачках. *Вальк.*

АДДАЛЕ'К. 1. *прысл.* Воддаль. *Кр.* 2. *прыназ.* (з родным склонам). Воддаль. Аддалёк лёсу ні байіцца, а як пры лéсі — нігды ні застанéцца адзін. *Гр.*

АДДУБА'СІЦЬ, -ашу, -асіш *зак.* Адлупцаваць. Німá рáды з гэтым хлóпцам. Алé як аддубáсіла — трóхі паслухмяняйшы стаў. *Вар.*

АДЖЫМА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Мыць бялізну. Хай аджымáя плáцё, а я пайдў лўбін ламáць. *Кр.*

АДЗІНА'КАВЫ *прым.* Аднолькавы. *Даўг.*

АДЗІЯ'ДЛА (адзіядло), -аў *н.* Коўдра, часцей ватовая. Пад адзіядлам, і то халаднó ў нáшуй хаці. *Дзяр.*

АДКАПЫ'ЛІЦЬ, -ю, -іш *зак.* Адставіць (губу), закапыліць. Як што ні па ягó, так і адкапыліць лўпу — злуé. *Гр.*

АДКАЧА'ЦЬ (аткачáць), -аю, -аяш *зак.* Ад-

касаць. Аткачáй ганавіцы, ужэ́ ш рэ́чку пярайшóў! *Зл.*

АДКА'ЧВАЦЬ (аткáчваць), -аю, -яш *незак.* Гл. адкачаць. Нéшто ні аткáчваяш рукáў, цéсны стаў, ці што табé? *Ал.*

АДЛО'Г (адлóх) *м.* Аблог. Ні гарэ́м бóляй пад лéсам, адлóгам ляжы́ць вы́ган. *Ст. С.*

АДНАЛІ'ЧНІК, -аў *м.* Аднаасобнік. Аднальічнікам жы́ця ні былó: рабіў, як вол, і трáсцу меў. *Гал.*

АДНО'ЛЕТКІ (аднóляткі), -аў. Аднагодкі. Аднóляткі, а палядзі, якія нірóўныя: мой намнóго бóльшы за твайгó. *Кр.*

АДПА'СЦІ, -дзе *зак.* Адмерці (пра пчолы). Збаяліся хóладу і атпáлі пчóлы. *Св.*

АДПУ'ДЗІЦЬ (атпýдзіць), -джу, -дзіш *зак. жартаўл.* Адрэзаць (вялікі кавалак, лусту хлеба). Хіба ты зьзясі — такýю лýсту атпýдзіў? Рукá адлóміцца. *Ст. С.*

АДРАБІ'ЦЬ, -блю, -біш *зак.* Выканаць (урокі). Прыдý, як адраблю́ ўрóкі. *Гр.*

АДРО'БАК, -аў *м.* Які гэто адрóбак: с паўдня рóбіш, аднó шчот, што прышлá. *Яр.*

АДСЕ'Ў (ацьсéў), -ваў *м.* Збожжа, пасеянае ў другі раз (на месцы прапалай руні). Тут гóршо жы́то: вéдама, ацьсéў — пóзно пасéялі. *Яр.*

АДУКАВА'ЦЬ, -кую, -куяш *незак.* Муштраваць. І чагó ён узяўсё каня́ адукавáць — усё пýгаю па хрáпах шлёгая! Гр.

АДУ'РА: адýра галавы́ — адурыць (галаву). *Ст. С.*

АДХЛЯ'ШЧЫЦЬ (атхля́шчыць), -у, -ыш *зак. асудж.* Адчыніць (дзверы) — звычайна —

надоўга. Па́дло, шмараво́с гэ́ты, адно́ зачыня́й за ім ха́ту — атхля́шчыць і пайшо́ў. *Гр.*

АДХУ'КАЦЬ (атху́кацы), -аю, -аяш *зак.* 1. Адхукаць. 2. *перан.* Выхадзіць, выратаваць ад смерці. Ле́дзьвя адху́калі, як упа́ў с сто́га. *Гр.*

АДЧУЖЫ'НІЦЦА (аччужы́ніцца), -юсё, -ісься *зак.* Адчужацца. Аччужы́ніўсё і зна́цца ні хо́ча. От свая́к які̀ ў нас! *Дзяр.*

АДШПА'РЫЦЬ (ачшпа́рыць), -у, -ыш *зак.* Адлупцаваць, набіць. Бо́ляй ні ла́зіць у я́блыкі, як ачшпа́рылі. *Ст. С.*

АДШЧЫКНУ'ЦЬ (ачшчыкну́ць), -ну, -нош *зак.* Адрэзаць, адцяць. Но́жна го́стрыя — магу́ і па́ляц ачшчыкну́ць. *Кр.*

АД'Я'ДА, -аў *ж. зняважл.* Надаедлівы (сваёй просьбай). Дай ты яму́ ту́ю кні́шку, хай сэ́рца ні ад'ядá́я ад'я́да гэ́та. *Ст. С.*

АЖЫГА'НЕЦ (ажыга́няц), -нцаў *м. зняважл.* Той, хто хутка зношвае адзенне. Каб жале́зно было́ — раз-два́ парве́ ажыгàняц гэ́ты. *Гр.*

АЖЫГА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак. іран.* Біць (кіем), караць. Раз зарабіў, то і ажыга́юць, бо нілю́цкі такі̀. *Вар.*

АКАНІ'ЦЫ, -аў адз. а к а н і́ ц а (і акяні́ца) *ж. перан.* Навочнікі ў вуздэчцы. *Едн.*

АКЛАДА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Лупцаваць (бязлітасна, моцна). Як міляныкі стаў, як наакладáла, а то ўсё ні слу́хая, як усяро́ўно про́сіцца акладáць яго́. *Гр.*

АКЛА'ДЗІНА, -аў *ж.* Частка драбінаў (у возе акладзіны змацоўваюцца лёсткамі). Жэ́рткі вы́стругаў на аклáдзіны, ішчэ̀ ляскаў бракýя, каб драбі̀ны зрабіць. *Дзяр.* Сядаві̀ся на аклáдзіну. *Кр.*

АКРУЦІ'ЦЬ, -чу, -ціш *зак.* Завязаць (хустку). Канаплянку акруці, мо халадно будзя. *Гр.*

АКУЛЯ'РЫ, -аў *толькі мн. перан.* Навочнікі ў вуздэчцы. *Кар.*

АКУ'ЦЦЕ (акуцё), -яў *н.* Акоўка. Лыжы бяз акуця. *Яр.*

АЛЬШЫНА' *ж. зборн.* Альхоўнік, альшаннік. У альшыне пасе каравэ. *Гр.*

АЛЯКТРО'ЎНЯ, -яў *ж.* Электрастанцыя. Зэльвянская аляктроўня мало алектрыкі давала. *Даўг.*

АМАРАТУ'РА *ж. устар.* Пенсія. Яг даўнеи, то хто табе тую амаратуру плаціў бы. Гэто цяперака старыя пэнсію маюць, уласць паклапацілася. *Зл.*

АНДУЛЯ'ЦЫЯ, -яў *ж. устар.* Завіўка. Даўней ніхто тае андуляцыі ні рабіў, усё косы насілі. *Св.*

АНІ'ГДАЧКІ, *прысл.* Аніколі ў жыцці. Аніґдачкі боляй да яго ні паеду, хай хоць азалоціць міне. *Ал.*

АНТУЛЯ'ЖЫ, -аў *толькі мн.* Карункі. Настольніцу з антуляжамі на сьвято засьцялі — харашэйшу трэба. *Кр.*

АПАНО'ЎКА, -аў *ж.* Скаварада, патэльня. Насмажыла грыбоў апаноўку. *Едн.*

АПІВО'Ш, -аў *м. пагардл.* Той, хто многа п'е не за свой кошт, хто «апівае» людзей. Адно і валочыцца па хатах, каб выпіць далі. От апівош! *Дзяр.*

АПІ'НІЯ *ж.* Рэпутацыя. Стараяцца, каб апінію заслужыць. *Зл.*

АПЛЯТА'НІК (і аплецянік), -аў *м.* Гаршчок

(збанок), аплецены дротам. Малако́ кап ча́сам ні пацякло́, кладзі ў аплята́нік ма́сло. *Вар.*

АПО'ЛЕЦ (апо́ляц), -льцаў *м.* Вялікі кавалак сала. Апо́льцаў два сабе́ бу́дзя і даццэ тры адда́м, як закo̓ляш свіню́. *Пл.*

АПО'НА, -аў *ж.* Пакрышка веласіпеда. Ужэ стары́я апо́ны — рву́цца на ро́вары. *Дзяр.*

АПО'СТАЛЫ, -аў *толькі мн. жартаўл.* Пра абутак, звычайна завялікі, не зусім прыдатны для носкі. Хай іїх хале́ра, з гэтымі чаравіка-мі — апо́сталы не́кія, усе́ но́гі абму́ляў. *Гр.*

АПО'ЎЗЛІК (апо́ўзьлік), -аў *м. зняважл.* Нязграбнае, няздатнае, непаслухмянае дзіця. Нічо́го ні дам апо́ўзьліку гэтаму, рас ён нічо́го ні ро́біць, адно́ па сяле́ вало́чыцца. *Гр.*

АПРА'ТВАЦЬ, -ваю, -ваяш *незак.* Апранаць. Хай апра́твая тваё пальто́ — цяпле́йшо бу́дзя ў даро́гу. *Вар.*

АПУ'ШЧАНІК, -аў *м. пагардл.* Пра таго, хто апусціўся, не глядзіць за сабою. Гаш страх лядзе́ць на яго́ — апу́шчанік не́кі: ні руба́шкі на ём, як трэ́ба, німа́, ні нагавіцаў, адно́ лэ́хамі трасе́. *Вальк.*

АРАННЕ' (гаранё) *н.* Ворыва. Кончыў гаранё, трэ́ба се́яць. *Яр.*

АРА'ННІК (гара́ньнік), -аў *м.* Араты. Гара́ньнікаў мне такіх ні трэ́ба, каб адно́ ў баразьне́ пале́жвалі! *Ст. С.*

А'РХА, -аў *ж.* Веялка, арфа. Аве́с прапусьцілі на а́рху — чысты, як трэ́ба. *Вар.*

АРХАВА'ННІК (архава́ньнік), -аў *м.* Той, хто вее, арфуе. *Кр.*

АРХАВА'ЦЬ, архую, -яш *незак.* Веяць (на арфе). *Яр.*

АСА'ДА, -аў *ж.* Аснова (драўляная, металіч-

ная) найпрацейшых сельскагаспадарчых машын, прылад (арфы, малатарні, бараны). Асáду для бараны́ зрабіў, адно́ зубо́ў бракýя. *Гр.*

АСКО'М. Набіў зýбы аско́м — баля́ць, ні магý ўкусіць нічо́га. *Гр.*

АСМАЛЕ'НАК, -нкаў *м.* 1. Асмалак. *Гр.* 2. *перан. жартаўл.* Пра смуглага, чорнавалосага чалавека. Мáці рýса, бáцько ні чо́рны — а гэ́то асмалё́нак вы́радзіўсё. *Гр.*

АСМАЛЕ'НКІ, -аў *адз.* асмалёнка *ж.* Бульба з прыгаркамі (абгарэлая). Асмалё́нкі нáтто лю́біць е́сці, паскро́пшы. *Ст. С.*

АСТО'ЯЦЦА, -юсё, -іська *зак.* Устаяць. Як штырханýў бýйвал гэ́ты, то дзе ты асто́йісься, каб ні хацéў — упáдзяш. *Кр.*

АСТРЫЖО'НАК, -аў *м. і ж.* 1. *пагардл.* З кароткімі валасамі (пра дзяўчат). Пáдло, гэ́тыя астрыжо́нкі. Я йіх цярпéць ні магý. *Гр.* 2. *жартаўл.* Нагола астрыжаны (хлопец). Ну, астрыжо́нак, калі служы́ць ідзéш? *Ст. С.*

АСЫПА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Акопваць (агародніну), акучваць, абганяць (бульбу). Со́шку прынясý — і бýдзям карто́плі асыпáць. *Угр.* Капýсту асыпáў. *Дзяр.*

АСЯНЧУ'К, -оў *м.* Пра народжанага восенню (цяля, ягня). Двоё асянчуко́ў на зіму пушчý. *Кр.*

АТНУ'ЦЬ *прысл.* Бесперапынна, раз за разам. Што за абжо́ра? Нічо́го ні рабі, адно́ е́сыці атнýць ямý давáй. *Гр.*

АТО'Р, -аў *м.* Вузенькі загончык, што астаецца (пры ворыве) ад звычайнага загона. Мы на заго́ні дзьвёх стáням, а ты, Лё́нічак, на ато́ры жáцімяш. *Св.*

АЎСЮГА′ *ж.* Аўсюк. Нека хвароба напала на збожо — аўсюгі много. *Вар.*

АЎСЯ′НІСКА (аўсяніско) *н.* Поле, дзе рос авёс. *Ал.* Паралельна бытуе і а ў с я н і ш ч а.

АХА′ЙВАЦЬ, -ваю, -ваяш *незак. зламоўн.* Мыць, прыбіраць, ачышчаць. Пакуль ахаяла хату, гаш у вачох пацямнело. Вёдама, цэлы месяц жылі і ні мылі. *Гр.*

АХАЛО′ДАЦЬ, -ая *толькі ў 3 ас.* Астыць, ахаладзіцца. Пакуль ты зьбярэсься есьці, то ўсё ахалодая. *Ст. С.*

АХА′ЯЦЬ, -аю, -аяш *зак. зламоўн.* Гл. а х а й в а ц ь. А хто твайіх дзяцей ахая, як хварэцімяш? *Гр.*

АХВАЦІ′ЦЦА, -чусё, -цісься *зак.* Захварэць, выпіўшы халоднай вады, калі ўвагрэешся. Нешто прыстало да яго. Мо ахваціўсё. Так воду жлукціў, з гараня прышоўшы. *Кр.*

АХІЛІ′ЦЦА, -юсё, -ісься *зак.* Ахінуцца. Хоць хусткаю ахілісся, усё цяплей будзя. *Кр.*

АХІЛІ′ЦЬ, -ю, -іш *зак.* Ахінуць. Ахілі шалікам шыю, раз горло баліць. *Св.*

АХІЛЯ′ЦЦА, -яюсё, -яясься *незак.* Гл. а х і л і ц ц а. Хай ахіляяцца, кап цяплей было. *Кр.*

АХІЛЯ′ЦЬ *незак.* Гл. а х і л і ц ь. *Вар.*

АЦО′ЎКЛАЕ (малако) — якое пачало кіснуць, але яшчэ не скісла. Німа як ацоўклым забельваць. *Гр.*

АЦО′ЎКНУЦЬ, -ня *зак.* Пачаць кіснуць, быць нясвежым (пра малако). Збяжыцца, німа яг забельваць малаком: ацоўкло. *Св.* Ацоўкня, чаму не, у цёплум стаяўшы цэлы дзень. *Кр.*

АЦЯ′ЦЦА, атнусё, -есься *зак.* Згубіць жа-

данне есці. Натто добро еў паршук бацьвінё, але ацяўсё — і ў рот цяпер ні бярэ. *Вальк.*

АЧУЦІ'ЦЬ, -учу, -ціш *зак.* Прывесці ў прытомнасць, ажывіць. Лєдзьвя яго ачуцілі пасьля наркозу, думалі — умёр. *Зл.*

АШТЫГА'ЦЬ *зак. жартаўл.* Біць, муштраваць. Бацько йіх часто аштыгая, як ні слухаюць. *Гр.*

АЮ'СЬКІ *выкл.* Ужываецца пры адгоне свіней. *Кр.*

## Б

БА'БА І -аў *ж.* Гатунак грушы; бэра. *Кр.*

БА'БА ІІ *ж.* Саха, развіліна калодзежнага жураўля. *Ст. С.*

БА'БЕЦЬ (бабяць), -яя *незак.* Маршчыніцца, карабаціцца ў выніку засыхання (пра грушы, бульбу). Картоплі бабяюць ад духаты, гарачо йім у хаці. *Кр.* Грушы ні гніюць, адно бабяюць. *Гр.*

БАБО'К *м.* Бабоўнік. *Дзяр.*

БАГА'ЦТВА (багацтво) *н.* Багацце. Гэдулькі багацтва спалілі нямчурэ тыя! *Зл.*

БАДА'К, -оў *м.* 1. Асот. Бадакє заглушылі ўвесь ячмень. *Кр.* 2. Вазон-сталетнік. *Гр.*

БАЙ: у словах з казкі: Бег бай па сьцянє, баяць ці не? *Кр.*

БА'ЙБУС, -аў *м.* Дурань. *Зл.*

БАЙЧ, -аў *ж.* Пуга. *Едн.*

БАКАВІ'ЦА, -аў *ж.* Бакавая частка тушы; бакавіна. Бакавіцы тонкія — мало клустасці нацячэ. *Гр.*

БА'ЛА (бало) 1. *прысл.* Даўней, раней, уперад. Бало дзєці ні такія цікавыя былі. *Гр.*

2. *пабочн. сл.* Бывала. Ён, бáло, сядзя і сядзіць на гáнку да вéчара. *Кр.*

БАЛВА'Н, -оў *м.* 1. Снегавая баба. *Кр.* 2. Дурань. Што гэты балвáн зробіць люцко. *Вар.*

БАЛЕ'СЦІ (балéсьці), -яў *толькі мн. іран.* Хвароба, хваравітасць. Каб бізуná даў, то ўсе балéсьці паўцякáлі б. *Ст. С.*

БАЛО'ТА (балóто), -оў *н.* 1. Сенакос. Хўтко вырабілі і мы сваé балóто, хоць сéна і нівéльміся мнóго. *Кр.* 2. Луг. На балóці атáва вырасла. *Гр.*

БАЛЮ'ШЧЫ *прым.* Балючы. Нарыў, і такі балюшчы — ні вéдаю, дзе падзéцца. *Вар.*

БАЛЯНО'ЎКА, -аў *ж.* Веласіпед з шырокімі коламі. *Зл.*

БАЛЯ'СКІ, -аў *толькі мн. асудж.* Зубы. Чагó баля́скі выставіў і смяéсься? *Гр.*

БАЛЯ'ШЧЫНА, -аў *ж.* Баляса (у плоце). Як выцягну с плóту баля́шчыну, то я табé наагрызáюсё. *Св.*

БА'НКА, -аў *ж.* Бляшанка для адстойвання смятаны. У бáнцы малакó ў калóдзісі. *Пл.*

БА'НЯ, -яў *ж.* Лазня. Бáню ў сялé зрабілі ўжэ. *Даўг.*

БАРАЗНА', -зён і -наў *ж.* Радок бульбы. Дзьве баразьнé выбраў картóпяль да палўдня. *Ал.*

БАРАНАВА'ННІК (баранавáньнік), -аў *м.* Той, хто баранue. *Гал.*

БАРВІ'НЕЦ *м.* Від расліны — барвенак. *Ст. С.*

БАРО'ЦЦА, -аццa *незак.* Бадацца. Гэта карóва бóрацца, ні лесь, дзéткі, да яé. *Гал.*

БАРУКА'ЦЦА, -áюсé, áясься *незак.* Дужац-

ца. Барукáюцца, хóчуць вéдаць, хто дýжайшы. *Ст. С.*

БАРУ'ШЧЫ *прым.* Бадлівы. Ні руш, сынóк, бо гэта карóва барýшча. *Даўг.*

БАРЭ'ЛКА (барэлко), -аў *н. жартаўл.* Невялікая бочка (для вады, гарэлкі). *Дзяр.*

БА'СА, -аў *ж.* Вялікая кадушка (для сечкі, збожжа). Бáсу сéчкі нарэзалі на сьвята. *Гр.* У бáсу як усáдзяць, то зь яé ні вылязяш. *Ст. С.*

БАСЭ'ТЛЯ, -яў *ж. жартаўл.* 1. Вялікая бочка. *Кр.* 2. Пра мажную жанчыну. Яé і конь ні пацягня — басэтлю гэту. *Св.*

БАТАРЭ'ЙКА, -аў *ж.* Кішэнны ліхтарык. Цёмна ноч, дóбра што батарэйка сьвяціла. *Кр.* Пасьвяці батарэйкаю. *Ст. С.*

БАЎКУ'Н, -оў *м.* 1. *Устар.* Частка ярма. *Едн.* 2. Няўмека, недалёкі чалавек. Ты яму́ аднó, а ён сваé — баўкýн нéкі. *Кр.*

БА'ХАЦЬ, -аю, -яш *незак. зламоўн.* Ліць, разбаўляць (занадта многа). І囊 наштó былó гэдаквяля вады́ бáхаць. Ні цéсто — пóйло нéко; дзé тыя сьвіння éсьцімуць. *Ст. С.*

БАХУ'Р, -оў *м. пяшчотн.* Пра малое дзіця. Пусьці, хай бахýр папóўзая па лáві. *Даўг.*

БАЦЬКІ' (бацькé), -оў *мн.* Пасланцы ад маладой на вяселлі ў жаніха (маладога); звычайна не родныя бацькі. Ганýля і Лáдзё — бацькé ў Йівáна Сальвéсяваго. *Гр.*

БАЧО'НАК, -аў *м.* Невялікая бочка (для вады, гарэлкі). Бачóнак вады́ вы́пілі да абéду канцэ, і ішчэ ні хвацíло. *Вальк.*

БА'ЯЦЬ, -ю, яш *незак.* Расказваць казкі. От любіць, каб бáяў яму́. *Св.*

БЕ'ГІ, -аў *толькі мн.* Гулі, беганіна. Кабра-

біць, так німа́, адно́ бе́гі наўме́. От вісус гэ́ты! *Ст. С.*

БЕДНАТА′ *ж.* Беднасць. Пры такой бяднацэ́ і гэ́то пажыва. *Пл.*

БЕ′ДНЫ *прым.* Пакараны. Од бу́дзя рука́ бе́дна, як пале́зя ні ў сваё! *Гр.*

БЕЗ′РАБО′ТНЫ (бязрабо́тны) *м.* Беспрацоўны. *Яг* бязрабо́тны, шлы́ндаю. *Гал.*

БЕЗРАБО′ЦЦЕ (бязрабоцё) *н.* Беспрацоўе. І гэ́та ні ке́пска рабо́та, каза́ў пан, на бязрабо́цё. *Дзяр.*

БЕЛЕХКАЦЕ′ЦЬ (бяляхкаце́ць), -іць *незак.* Бялецца. Не́што бяляхкаціць у по́лі. *Гр.*

БЕ′ЛЫ ДЗЕНЬ. Світанне. Сыпіць да бе́лага дня. *Св.*

БЕ′ЛЬМА (бе́лма), -аў *толькі мн. абразл.* Вочы. Чаго́ ён на міне́ гэ́тыя бе́лма вы́рачыў? *Св.*

БЕЛЬМАЧЫ′ (бялмачэ́), -оў *толькі мн.* Тое, што і б е л ь м а. Бялмачэ́ кало́м пастáвіць і ёнчыць. *Ст. С.*

БЕРАЗІНА′ (бяразіна́) *ж. зборн.* Бярэзнік. У бяразіне́ каравэ́ хо́дзяць, там до́бра трава́ парасла́. *Гр.*

БЕСПЯРЭ′СЦІХУ (бяспярэ́сьціху) *прысл.* Бесперапынна, бесперастанку. Ні была́ п гэ́то во́сянь: дошч бяспярэ́сьціху джга́я ўжэ два́ньні. *Вар.*

БЗЫІЯ′ЦЬ, -іць *незак.* Бзыкаць. Не́што пчо́лы бзыя́ць. *Кр.*

БІБЛІЯТЭ′КАРЧА (біблятэ́карча), -аў *ж.* Бібліятэкар-жанчына. Хай біблятэ́карчу бярэ́ за́муш — до́бра па́ра бу́дзя. *Гр.*

БІБУ′ЛА, -аў *устар.* Прамакальная папера. Бібу́лаю прамакні. *Зл.*

БІЕ'МІН, -аў *м.* Гультай, лежабока. Халера ён рабіцімя, біёмін гэты. *Гр.*

БІЗУ'Н, -оў *м. абразл.* Вельмі бедны чалавек. Што ён табе пазычыць, бізун гэты. *Св.*

БІ'ЛА (біло), -аў *н.* Спінка ложка. Яг за біло ўляплюсё, трохі ўстану, а так ні магу. *Даўг.*

БІ'НДУС, -аў *м.* Гультай. Нічагутко ні робіць — біндус некі, і ўсё. *Вар.*

БІ'ТКА, -аў *ж.* Снапы, раскладзеныя на таку для малацьбы; пасад. Мо зь бітку змалоцімо да сьнядання. *Пл.*

БЛАШЧЫ'ЦА, -аў *ж.* Клоп. *Вальк.*

БЛІЗНА' *ж.* Блюзна. От, каб ні блізна, то ішчэ ні парваласё п (палатно), а так разьлёзласё. *Кр.*

БЛІН І, -оў *м.* Тоўсты блінец са скваркамі. Блінцоў напякла. Бацьку у балото ішчэ блін сьпякла. *Гр.*

БЛІН ІІ *м.* Млын. Да бліна паехаў прыварку змалоць трохі. *Гр.*

БЛО'ТНІК, -аў *м.* Металічны абруч над колам веласіпеда — засцерагае ад распырсквання гразі. Бяз блотнікаў чысто запырскаўсё, як ехаў дажджом. *Ал.*

БЛЮ'МЫ, -аў *толькі мн.* Нюні. Чаго ты распусьціў блюмы? Што мне твой плач! *Кр.*

БЛЯВУ'ЗГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Балбатаць, гаварыць непатрэбнае; плявузгаць. Слухай, што ён блявузгая — на вярбе грушы. Ст. *С.*

БО'ЖКАЦЬ (бошкаць), -аю, -аяш *незак. незад.* Так кажуць на таго, хто, хвалюючыся, прыгаворвае: «Божа мой». Чаго ты бошкаяш? Што ўжэ будзя, тоё будзя. *Едн.*

БО'МКАЦЬ, -аю, -аяш *незак. непаш.* Мар-

мытаць. От, нешто сабе пад нос бомкая, халера яго разьбярэ, чаго ён хоча. *Вар.*

БО'НДАЧКА, -аў *ж.* 1. Закваска ў дзяжы (у выглядзе булачкі). Бондачкі ні пакіняш — і хлеп ні ўкісьня. *Гр.* 2. Невялічкая баханка белага хлеба для дзяцей. Бондачкаў вам напякла, хлопцы. *Кр.*

БРА'ЗГАЎКА, -аў *ж.* Бразготка (у розн. знач.). От, бразгаўку дасі — і забуляяцца. *Зл.*

БРА'МКА, -ак і -каў *ж.* Фортка (у варотах). Праз варота ёгдзімо, а брамку аччыняям, як ідзе хто. *Гр.*

БРАНДЗО'ВЫ *прым.* Бронзавы. От запаліўсё, гаш брандзовы стаў ат сонца. *Гр.*

БРАЦЕ'НІК, -аў *м.* Дваюрадны брат. *Кр.*

БРАЦІ'ШАК, -аў *м. зняважл.* Брат. Гэто брацішак твой нарабіў усё. *Ст. С.*

БРАЦЬ, бярэ *незак.* Кусаць (пра сабак). Добро Лыско бярэ і ні скаваўшы,— паганы, падло. *Св.*

БРУКАВА'ЦЬ, -куя *незак.* Варкаваць. Мусіць, голуб брукуя: бруку-бруку! *Гр.*

БРУ'КУ-БРУ'КУ! *гукаперайм.* Так перадаюць варкаванне галубоў. *Вар.*

БРУХІТА'ЦЬ, -хічу, -хічаш *незак. незад.* Таптаць. Як пачнуць коні брухітаць — ні травінкі ні будзя. *Даўг.*

БРУЧКАВІ'ННЕ (брушкавенё) *н. зборн.* Лісце бручкі. Сьвіня брушкавеня нешто ні ядуць. *Вар.* Брушкавенё ні благоё, а брушка малая. *Ст. С.*

БРЫСКО'ТЛІВЫ прым. *Золкі.* Цяплей апратвайся, а то вецяр такі брыскотлівы — да касьцей працінае. *Гр.*

БРЫСЬ *м. жартаўл.* Здаровы, чырванатвары

чалавек. Дзе ён у халёры хворы — брысь такі! *Гр.*

БРЫТА'ЦЬ, -аю, -таяш *незак.* Заблытваць (ніткі). Нешто брытая цэўка ў чаўныку. *Вар.*

БРЭ'НГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Бразгаць. І чаго ён там брэнгая дзвярыма? *Вар.*

БУ'БА *ж. дзіцяч.* Гарошына. Дам бубы, адно вылушчу с стручка. *Вальк.*

БУ'БЕХІ (бубяхі), -аў *толькі мн. незад.* Малыя плады. Што гэто за яблыкі — бубяхі некія *Гр.*

БУБНАЧЫ' (бубначэ), -оў *толькі мн. зняважл.* Пра малых дзяцей. Хай іх, з гэтымі бубначамі. Калі я іх пагадую? *Гр.*

БУГАІ'СКА (бугайіско), -аў *м.* 1. *узмацн.* Бугай. *Св.* 2. *асудж.* Пра дужага, але гультаяватага чалавека. Гэдыкі бугайіско, а каб нічого ні памахчы старой! *Гр.*

БУ'ДЗЕНЬ (будзянь), -дняў *м.* Будзённы дзень. *Кр.*

БУДЗЬ (буць) *часц.* Абы. Будзь-хто, абы занёс мяшок. *Гр.*

БУ'КІШ *выкл.* Так кажуць, каб баран пачаў біцца (удар лбом). *Гр.*

БУЛГА'КЦЕР (булгакцяр), -оў *м.* і *ж.* Бухгалтар. За булгакцяра вучыцца хлопяц. *Кр.*

БУ'ЛЬБА, -аў *ж.* Завязь на сцябле бульбы. Як пярацьвітуць картоплі, бульба расьце на картаплені. *Гр.*

БУ'ЛЬБАТКА, -аў *ж.* Бурбалка. Бульбаткі становяцца (на вадзе) — дошч доўго ісьціму. *Гал.*

БУНТАВА'ЦЬ, -тую, -туяш *незак.* Блытаць, зблытваць. Хай бунтуя, я яму складаць ні буду. *Гал.*

БУРАКАВІ'ННЕ (буракаве̂нё) *н. зборн.* Бацвінне. Буракаве̂нё парасята натто любяць. *Едн.* Буракаве̂ня прыняслá — бацьвіня звáрымо. *Вальк.*

БУРАКІ' (буракé), -оў *толькі мн.* Боршч. Ні хачу капусты, а дай яму канешня буракôў паесьці. *Вар.*

БУРВА'ЛАК, -лкаў *м.* 1. *жартаўл.* Кавалак бервяна. Бярэмянё дроў будзя з бурвáлка гэтаго. *Гр.* 2. *перан.* Моцны, прыземісты чалавек; камлюкаваты. От загадаваў сілу бурвáлак гэты! *Кр.*

БУ'РКА, аў *ж.* Дзіцячая цацка — нітка з костачкай, якая, абарочваючыся вакол асініткі, бурчыць. *Гр.*

БУ'РСА *ж.* Сварка, лаянка. Чагó ты бурсу падняў? Ні мóжаш, як чалавек, пагаварыць! *Кр.*

БУРЧА'К *м.* Гатунак высокаўраджайнага скараспелага гароху. Нáтто дóбры гарóх бурчáк: хутко сьпе̂я і ядрóны. *Кр.*

БУ'СЬКІ: д а ц ь  б у с ь к і — пацалаваць (дзіця). Дай бусьмі, то дзет гасцінца дáсць. *Гр.*

БУ'ТЛЕЦЬ (бутляць), -яя *незак.* Гніць ад сырасці (пра бервяно). Ні будзя зь яе падрубы — бутляя. *Вар.*

БУХІ'КАЦЬ, -аю, -аяш *незак. незад.* Кашляць. Зноў будзяш бухікаць, як ле̂ду насмóкчасься. *Гр.*

БУ'ЧЫЦЦА, -ыцца *незак.* Наважвацца бадаць (пра карову). Не̂што бучыцца, лядзі, сынку, каб ні ўбарóла янá цябé, нілюцкая. *Кр.*

БУШВА'ЛАК, -аў *м.* Тое, што і б у р в а л а к. (у 1 і 2 знач.). На дванні паліць печ былó п,

кап папілаваў той бушвалак. *Гр.* Бушвалак такі, дзе ён цябе ні пакоціць *Ст. С.*

БУЯ'ЦЬ, -йіш, *незак.* 1. Буяніць. Напіўсё і давай буяць, пакуль ні надавалі ў карк. *Гр.* 2. Гудзець. Мусіць, самалёт буйіць недзя над лесам! *Ст. С.* Чмель буйіць. Каб ні ўкусіў, лядзі. *Св.*

БЫ'ЛЯ *часц.* Абы; ужываецца толькі з займеннымі словамі. Лэндзіць быля-што, абы ні маўчаць. *Кр.*

БЫСЬ-БЫСЬ-БЫСЬ! Так клічуць быка. *Вар.*

БЫ'СЬКА, -аў *ж дзіцяч.* Карова, цяля. Пагляць. Лёнічак, быську, яна любіць слухаць, яг глядзяць. *Ст. С.*

БЫ'ТТА (бытто) 1. *злучн.* Быццам. Казаў, бытто прыедзя сёніка. *Вальк.* 2. *часц.* Быццам. Бытто сам лепшы, што другіх ганіць. *Кр.*

БЭ'КАЦЬ, -аю, -аяш *незак. непаш.* Чытаць па складах. Які зь яго чытар! От бэкая трохі. *Гр.*

БЭ'МБЛІ, -яў *толькі мн.* Пухіры. Руку апарыў — на бэмблі пабіло. *Ст. С.*

БЭ'НЦНУЦЬ, -ну, -няш *зак.* Ударыць рэзка, з сілай. Яг бэнцнуў, гаш йіскры пасыпаліся з воч. *Зл.*

БЭ'РСАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. *непаш.* Пісаць. Нешто бэрсаў, і ні ведая сам што. *Кр.* 2. *асудж.* Нячыста жаць. Каб ні бэрсаў, яг жаць ні ўмеяш! *Вар.*

БЯЗО'ДДЫХУ *прысл.* Беспераcтанку, не адпачываючы. Дзе ты сьцягняш, цэлы дзень робячы бязоддыху. *Св.*

БЯЗЭ'ННІЦА (бязэньніца) *ж.* Бездань. Як

пайшóў, то як у бязэ́ньніцу — прапáў нéдзя. *Гр.*

БЯЛЕ'ЦЬ, -ея *незак.* 1. Бялець. 2. Спець, паспяваць (пра збожжа). Ужэ́ і ячмéнь бялéя, зáрас жáцімям. *Дайг.*

БЯРЭ'СЦІНА (бярэ́сьціна), -аў *ж.* Бераст. З бярэ́сьціны дýгі гнýцца дóбро. *Кр.* Бярэ́сьціна дóбро расьцé. *Ст. С.* От высóка гэ́та бярэ́сьціна. *Гр.*

БЯССТЫ'ДНІК (бястыднік), -аў *м.* Бессаромнік. Ямý, бястыдніку гэ́таму, хоць у вóчы плюй — усярóўно. *Дайг.*

БЯССТЫ'ДНІЦА (бястыдніца), -аў *ж.* Бессаромніца. Такóй бястыдніцы сьвет ні бáчыў. *Зл.*

## В

ВАГАВА'ЦЬ, *-гýю, гýяш незак. зламоўн.* Будзіць, падымаць са сну. Вагýй, вагýй ягó, а ён сьпіць як укóпаны! *Ст. С.*

ВА'ДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *незак.* Ставіць цурку пры гульні ў клёк. (гл.). Хто клёк ні саб'é, той ідзé вáдзіць. *Гр.*

ВАЗЕ'ННЕ (вазéнё) *н.* Возка. Як пачнéцца вазéнё (снапоў), ні бýдзя чáсу хадзіць на лячэ́нё. *Ст. С.*

ВАЙЦЯ'ЦЬ, -яю, -яяш *незак.* Лаяць, выгаворваць, прабіраць. Як застáў лéжачы — от вайцяў, што ні касілі. *Вар.*

ВАЛАЧА'Й, -ёў *м.* 1. Валацуга. Аднó валóчыцца за éю — валачáй гэ́ты. *Ст. С.* І ў хáці ні пасядзіць — усé пацягнýўсё і пацягнýўсё, як валачáй. *Гр.* 2. Бадзяга. Дзе ён ні быў — валачáй гэ́ты! *Кр.*

ВА′ЛЕНТ (ва́лянт), -аў *м.* Вясельная сукня. Ва́лянт маладая злажы́ла на вясе́лё. *Кр.*

ВА′ЛЕЦ (ва́ляц), -льцаў *м.* Вальс (танец). *Зл.*

ВАЛКАВА′ТЫ *прым.* Сыраваты. Німа́ як браць се́на: ішчэ́ валкава́то, каб ні папрэ́ло ў гумне́. *Ст. С.*

ВАЛО′КІ, -аў *устар.* Вераўчаныя лапці. *Едн.*

ВА′ЛЯНКА, -аў *ж. устар.* Пасудзіна з дошчак (авальнай формы) для захоўвання высевак, мукі. *Гр.*

ВАННАРО′ВЫ *прым.* Ганарысты, з пыхай. Бы́ля с кім ні гаво́рыць, ваннаро́вы такі̀. *Кр.*

ВА′РА *ж.* Згатаваная страва, часцей рэдкая; варыва. Ва́ры ні паясі̀ — *яг* гало́дны хо́дзіш. *Гр.*

ВАРАЖЭ′Й, -яў *м.* і *ж.* Варажбіт. Які́ зь яе́ варажэ́й! Кап цыга́нка, та́я наваражы́ла п. *Кр.*

ВАРЫ′ЦЬ I: г а л а в а́ в а́ р ы ц ь — цяміць, разумее, кеміць. О, у яго́ галава́ ва́рыць: што хоч напіша. *Кр.* Го́лавы ва́рацць, так вы́вучацца на ве́лькіх людзе́й. *Гр.*

ВАРЫ′ЦЬ II, -ыць *незак. безас.* Парыць (пра надвор'е). Ва́рыць, му́сі, на дошч. *Гал.*

ВА′ХТА, -аў *ж.* 1. Хвалі на рацэ (у час ветранага надвор'я). Як ва́хта, німа́ як ры́бу лавіць ву́дачкаю. *Едн.* 2. Кругі ад кінутага ў ваду прадмета (каменя). Нічо́го на дне ні ба́чу: ва́хты нарабіў ка́мяням. *Едн.*

ВАЧАНЯ′, -я́ці *н. мн.* в а ч а н я́ т ы (вачаня́та), -аў *пяшчотл.* Вока, вочка. От ужэ́ адно́ вачаня́ расплю́шчыў, по́тум другоё. *Гр.*

ВАШАВА′ЦЬ, -шу́ю, -шу́яш *незак. зламоўн.* Калыхаць. От пага́но дзіця́. Вашу́й і вашу́й. І ні сьпіць. *Гр.*

ВЕЛЬКАЛЕ'Н *м.* Даўгунец (лён). Велькалён дзе ні пасей — уродзіць. *Даўг.*

ВЕРАПЛА'Н (вяраплан і яраплан), -аў *устар.* Самалёт. *Дзяр.*

ВЕ'СНІЦЫ (весьніцы), -аў *толькі мн. перан. непаш.* Пра рэдкія зубы. Выскаліў весніцы. *Кр.*

ВЕТРАНІ'ЦА (вятраніца) *ж.* Ветранае надвор'е. Такая вятраніца — з нох валіць. *Вар.*

ВЕ'ЦЦЕ (веццё) *н. зборн.* Дробныя галінкі бярозы, з якіх робяць венікі. Веця нарэзаў, трэба венік зьвязаць. *Вальк* .

ВЕ'ЧАР *прысл.* Увечары. Рано і вечар даю трасянкі, а ўдзень сечкаю кармлю каравэ. *Гр.* Рано і вечар даю, а ў дзень ні доіімо. *Ст. С.*

ВЕ'ЯЛКА, -аў *ж.* Павека. Ячмень на вока сеў, гаш веялка спухла. *Св.*

ВІДО'ЧАК, -аў *м.* Карціна (на сцяну), пераважна пейзаж. От, відочак які трэ павесіць. *Гр.*

ВІДО'ЧНА (відочно) 1. *прысл.* Відавочна. *Кр.* 2. *пабочн. сл.* Відавочна. Ні я, так ён, відочно, зойдзя да цябе. *Ст. С.*

ВІ'ЛКІ, -аў *толькі мн.* 1. Прылада (невялікая рагаціна), якой устаўляюць у печ (і вымаюць з печы) скавараду. Вілкамі сквараду бярэм, як блінцэ пячэм. *Гр.* 2. Відэлец. Ні рукою, вілкамі бяры каўбасу. *Ст. С.*

ВІРГА'ЦЦА, -яцца *незак.* Брыкацца (пра коней). Мо конь віргаяцца, ні лесь бліско, каб ні здаў. *Кр.*

ВІРГЛІ'ВЫ прым. Брыклівы. Ззаду ні падлась: віргливы (конь). *Кр.*

ВІРЛА'Ч, -оў *м. абразл.* Вірлавокі. *Гр.*

ВІРЛАЧЫ' (вірлачэ), -оў *толькі мн. абразл.*

Вочы. Чагó вірлачэ́ вырачыў? Ні бáчыў, ці што? *Гр.*

ВІ'СЛА *м.* і *ж. устар. абразл.* Віславухі. От вісла нéкі — вýшы паадвісáлі, як каўбáсы. *Ст. С.*

ВІСО'К, -скоў *м.* Скроня. У вісóк каб даў — забіў бы. У пашчэ́нку — то жыцімя. *Вар.*

ВІЦІНА'Р, -аў *м.* Ветэрынар. Карóву лядзіць віцінáр. *Гал.*

ВО'ГІР, -аў *м.* 1. *устар.* Жарабец. *Кр.* 2. *перан. зняважл.* Пра чалавека. От вóгір гэ́ты аднó зýбы скáліць. *Ст. С.*

ВО'ГНІК *м.* Пякучка — хвароба, пры якой рана «агнём гарыць». Ні лячыла балячкі, так вóгнік упáў. *Гр.*

ВО'ЖАГ (вóжах), -жахóў *м.* 1. Палка. Каб якóго вóжаха, а так мóжа ўкусіць сабáка. *Св.* 2. Дзяржанне ў пячных прыладах — вілах, качарзе, памяле. Вóжах абгарэ́ў у вілóх. *Гр.*

ВО'КЛАДКІ (вóклаткі), -аў *адз.* в ó к л а д к а *ж.* Аправа ў сцізорыку. Нóжык дóбры. І вóклаткі харóшыя, у рýку ні рэ́жуць. *Гр.*

ВО'ЛЛЕ (вóлё) *н.* Зоб, валлё. Вéлько вóлё наéла гусь. *Даўг.*

ВО'ЛЬНАСЦЬ. *ж.* Панос (хвароба). *Пл.*

ВО'МПІЦЬ, -плю, -піш *незак.* Сумнявацца (у чым), баяцца за неабдуманы крок (справу). Усё вóмплю, каб дзе ні прапáў серп на пóлі, што Настýля пакінула. *Вар.*

ВО'ПЕРАДКА (вóпяратка), -аў *ж.* Складзеная папалам вяровачка для кідання каменя. З вóпяраткі далéко ляціць кáмянь. *Ст. С.*

ВО'ПСАСАМ *прысл.* Неадчэпна, смаліцаю (лезці). Прóсто с кулакáмі вóпсасам лéзя. *Вар.*

ВО'СЬДЗЕКА (возьдзяка і го́зьдзяка) *часц.* Вось. Во́зьдзяка даха́ты трэ́ба йісьці, а ты ні прада́ў. *Кр.*

ВОЎК: На во́ўка — нашто, начорта. На во́ўка мне та́я па́ша, як каро́ву прада́м! *Гр.* Пад во́ўка — к чорту. Прада́ў бы пад во́ўка ты яе́ (карову), рас малака́ ні дае́. *Ст. С.*

ВУГЛІ' (вугле́), -е́ў *толькі мн. зборн.* Вуголле. Вугле́ ў пе́чы да ве́чара ні паты́хлі — му́сіць, на паго́ду. *Ст. С.*

ВУГЛІ'К, -о́ў. Вугаль. Вуглíка́ бяра́ і прыку́рвая. *Кр.*

ВУЖ (вуш) I, -о́ў *м.* 1. Гадзюка, вужака. Лядзі, каб вуш ні ўкусі́ў. *Св.* 2. *перан. асудж.* Пра таго, хто многа выпівае. От хле́пча гэ́ту га́ру, ат стала́ ні адго́ніш вужа́ гэ́тага. *Гр.*

ВУЖ (вуш) II *м.* Частка хамута, гуж. Як даў у хамут, так і паляцеў вуш. *Кр.*

ВУЖО'ЎКА, -аў *ж.* Скручаны, звіты дубец, якім завязваюць калы ў загарадзе, прывязваюць салому на страсе. *Гр.*

ВУ'ЖЫК, -аў *м.* Раменная частка цэпа. Ву́жык ло́пнуў, і біч паляце́ў у прыстаранак. *Вар.*

ВУ'ЗГАЛАВАК, -лаўкаў *м.* Пярэдняя частка саней. *Гр.*

ВУЗЫ'Р, -оў *м.* Камель снопа. Вузыро́м ўве́рх адно́ ша́пку ста́вім на мыдлях. *Гр.*

ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ! Падзыўное слова. Так клічуць галубоў і качак. *Кр.*

ВУ'МЯНЕ (ву́мянё), -яў *н.* Вымя. Ве́лько ву́мянё, мо і мно́го малака́ дава́цімя каро́ва. *Гр.*

ВУ'ПАР, -аў *м.* і *ж.* *зняважл.* Упарты чалавек. От жа ву́пар! Як упрэ́цца, што хоч кажы́ — усё́ сваё́ цьвярдзіць. *Ст. С.*

ВУ'ТЛЫ *прым.* Хілы, слабы, нядужы. На́тто ву́тлы, дзе яму́ дзяравіну падыма́ць. *Гр.*

ВУЧЫ'ЦЕЛЬ (вучы́цяль), -ёў *м.* Настаўнік. *Зл.*

ВУЧЫЦЕ'ЛЬКА, -аў *ж.* Настаўніца. *Даўг.*

ВУШАНЯ', -яці *н. мн.* вушаняты (вушаня́та), -аў *пяшчотл.* Вуха, вушка. Дай сваё вушаня́, накручу́, што спаць ні спіш! *Св.*

ВУ'ШКА (вушко́), -аў *н.* Ручка (збанка, кубка, гаршка). За вушко́ бяры́ ку́бак, ні бу́дзя такі гара́чы. *Вар.*

ВЫ'БАХАЦЬ, -аю, -аяш *зак. асудж.* Выліць (многа, усё). Чым я пла́цё мы́ціму, як ты ўсю во́ду вы́бахаў. *Гр.*

ВЫ'БІРАНКІ, -аў *толькі мн.* Каноплі, якія раней паспелі (іх выбіраюць, даючы магчымасць астатнім расці). *Кр.*

ВЫ'БРУХІТАЦЬ, -чаш, -ча *зак. асудж.* Вытаптаць. Як улёзьлі ў вагаро́т, усё гуркё вы́брухіталі. *Гр.*

ВЫ'ВАРАТ, -аў *м.* Вывернутае дрэва, вываранень. Вы́варат прывёс на дро́ва. *Гр.*

ВЫ'ГІНУЦЬ, -ня *зак.* Прапасці на корані (пра пасевы). Хало́дна вясна́ была́, так у лахціні жы́то чы́сто вы́гінуло. *Кр.*

ВЫГЭ'ЛЬЦВАЦЬ, -ваю, -ваяш *незак, асудж.* Выскокваць. Ніц ні хо́ча рабіць, адно́ выгэльцвая зь вяро́вачкаю. *Ст. С.*

ВЫ'ДЖГАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Налупцаваць, насцёбаць. Хіба я жы́ва ні бу́ду, як ні вы́джгаю цябе за твае́ гу́лі. *Ст. С.*

ВЫ'ДЗІРАК, -ркаў *м.* Першы раз апрацаванае поле. На́тто лён ро́дзіць на вы́дзірку до́бро. *Вар.*

ВЫ'ЖАЛАПАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Выжлук-

таць, выхлебтаць. Выжалапаў цэлу бутлю гарэлкі за сьвято. *Пл.*

ВЫ'ЖЛА, -аў *ж. зняважл.* Пра таго, хто віжуе. Настаяшча выжла, усё вывіжуя. *Кр.*

ВЫЗІКА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Крычаць, вызвярацца. І чаго ты вызікаяш на міне? Я ні баюсё цябе. *Гр.*

ВЫ'ЗІКНУЦЬ, -у, -еш *зак.* Гл. в ы з і к а ц ь. Як вызікня на міне, гаш спалохалася. *Ст. С.*

ВЫЗІРА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. Выглядаць, Чаго вызіраяш з-за дзьвярэй? Ідзі ў хату. *Гр.* 2. *перан. незад.* Прасіць, чакаць ласкі. Як магу — сам сабе зараблю, а як нізамагу — тагды буду вызіраць, каб есьці далі. *Ст. С.*

ВЫ'ЗУБАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Выбраць моцнае яйцо (стукаючы аб зубы). Яйцо вызубаў, што ніхто ні выб'я. *Кр.*

ВЫЗУ'БВАЦЦА, -аяцца *незак.* Усходзіць (пра збожжа). Ужэ пачало вызубвацца, хутко пасходзіць (жыта). *Гр.*

ВЫ'ЗУБІЦЦА, -іцца *зак.* Гл. в ы з у б в а ц ц а. Хутко і авес вызубіцца. *Кр.*

ВЫ'ЙСЦІ (высьці), выдзя *зак.* 1. Вылецець. Пчолы вышлі, трэ рой лавіць, недзя на вішні сеў. *Вар.* 2. Вылупіцца (з яйца). Троё куранятаў вышло, да вечара мо ўсе паўходзяць. *Гр.* Індычаня вышло зь яйца. *Кр.*

ВЫ'КАПАНЫ *прым.* Надта падобны, як дзве каплі вады; выліты. А Валік той — выкапаны бацько. *Ал.*

ВЫ'КАЧАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Гл. к а т а ц ь. Трохі мёду выкачаю. *Ст. С.*

ВЫ'КРУМКАЦЬ, -аю, -аяш *зак. непаш.* Выпрасіць. Ні быў бы гэто ён: выкрумкаў у бацька (грошы). *Гр.*

ВЫ'ЛАЖЫЦЬ, -у, -ыш *зак.* Кастрыраваць. *Вар.*

ВЫ'МАГЛЯВАЦЬ, -лююю, -люяш *зак.* Надта добра, з любоўю зрабіць што. Од жа вы́магляваў, хоць ты на выста́ву нясі гэту ра́мку. *Гр.*

ВЫ'НЕСЦІ (вы́нясьці), -я *зак.* Заважыць. Мая́ сьвіня́ такве́ля ні вы́няся. Мо пудо́ў с п'яць бу́дзя. *Ст. С.*

ВЫ'НЯЦЬ: в ы́ н я ц ь б і л е́ т — купіць білет (*устар*). Пачака́йця, я ішчэ́ біле́т ў ка́сі ні вы́няла. *Зл.*

ВЫ'ПЕРЦІ (вы́пярці), -пру, -праш, -пра 1. *безас. непаш.* Прагаладацца. От вы́пярло — хлеп сухама́ папо́ўніцы то́пча. *Гр.* 2. *перан. груб.* З'есці. Цэлу мі́ску вы́пяр, і яшчэ́ ма́лю. *Кр.*

ВЫ'ПІРЫЦЬ *зак.* Гл. п і р ы ц ь. Ужэ́ палатно́ вы́пірыла, забіра́й пра́нік. *Гр.*

ВЫ'ПРАГЧЫСЯ (вы́прахчыся), -жасься, -жацца *зак.* Здохнуць. Каб яны́ вы́прагліся, з гэ́тымі кура́мі, адно́ агаро́т выграба́юць. *Вальк.*

ВЫ'ПРАСТАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак. перан.* Памерці. Паку́ль да до́хтара давязьлі — і вы́прастаўсё. *Дзяр.*

ВЫ'ПУГАЦЬ, -аю, -аяш *зак. жартаўл.* Выесці, выпіць. Паку́ль я завіну́лася — ужэ́ і вы́пугаў заце́рку. *Ст. С.*

ВЫ'ПУТРЫЦЦА, -усё, -ысься *зак. зняважл.* Прагаладацца. Як вы́путрыўсё — усе́ пат ката́лку есьць. *Гр.*

ВЫ'ПШЫКАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак. жартаўл.* Прагаладацца. Вы́пшыкаўсё, так адно́ падава́й е́сьці. *Гр.*

ВЫ'РАБІЦЦА, -блюсё, -бісься *зак.* 1. Вызваліцца, вылезці (пры дужанні). Як пако́ціць,

то ўжэ с-пад яго ні вырабіўся. *Кр.* 2. Моцна схуднець пры рабоце. От вырабілася — у трэску. *Пл.*

ВЫ'РАБІЦЬ, -блю, -біш *зак.* Выклапатаць, атрымаць. Хутко ў школу, трэ дакумянты вырабіць. *Зл.*

ВЫ'САДКІ (высаткі), -аў *толькі мн.* Агароднiна, высаджаная на семя; высадак. *Ал.*

ВЫСАЧЫНЯ' *ж. узмацн.* Надта высокі. Гаш галава́ кружыцца, такая высачыня той дом. *Гр.*

ВЫ'СКАЛІЦЦА, -іцца *зак.* Паказацца (пра сонца). Мо яшчэ пацяплея, як сонцо выскаліцца. *Гр.*

ВЫ'СКУРАЦЬ, -аю, -аяш *зак. непаш.* Здолець, мець магчымасць. Дзе ты выскураяш на кожан дзень у новум хадзіць! *Вар.*

ВЫСМЫ'ГЛЫ *прым.* Тонкі і высокі (пра чалавека). Як стусіна, высмыглы гэты Юшкевіч. *Ал.*

ВЫ'СНЯКАЦЦА (высьнякацца), -аюсё, -аясься *зак.* Высмаркацца. *Вальк.*

ВЫ'СНЯКАЦЬ (высьнякаць), -аю, -аяш *зак.* Высмаркаць. Хадзі, дзеткі, нос табе высьнякаю. *Вар.*

ВЫСТА'ВА *ж.* Выстаўка. Як на выставу, выбраўсё. *Зл.*

ВЫ'СТАРЧЫЦЬ, -ыш, -ыць *зак.* Хапіць. Дзе ты яму выстарчыш, каб адных смакоў даваць есьці? *Кр.*

ВЫ'СТРЫГНУЦЦА, -нусё, -нясься *зак.* Паказацца, высунуцца. Адно выстрыгнуўсё на вочы, ужэ і ідзі памагай яму! *Ст. С.*

ВЫ'СТРЫГНУЦЬ, -у, -яш *зак.* Выставіць,

высунуць. Пайдзі нос выстрыгні, палядзіш, які марóс. *Вар.*

ВЫ'СЦЕЖЫЦЦА (высьцяжыцца), -усё -ысься *зак.* *жартаўл.* Накіравацца, выправіцца ў дарогу. Хай хоць трóхі пачакáў бы. Так нé — ужэ́ высцяжыўсё! *Гр.*

ВЫСЦІГО'ВЫ (высьціго́вы) *прым.* Гоначны (веласіпед). На высьціго́вум хучэ́й заéдзяш. *Кар.*

ВЫ'СЫП *м.* Пясчаны ўзгорак, астравок; выспа. На высыпі нічóго ні расьцé. *Дзяр.*

ВЫ'ТАНУЦЬ: хай янó вытане — хай яно згарыць (прападзе). Ні жывéм, а гніéм с хварóбаў гэтых. Хай янó вытаня, с такім жыццям. *Гр.*

ВЫ'ТРУБІЦЬ, -блю, -біш *зак.* *іран.* З'есці. Пасьці ўсей гаршчóк буракóў вытрубілі двох. *Гр.*

ВЫ'ХВАРАЦЬ, -аю, -аяш 1. Прахварэць. *Зл.* 2. *перан.* Прапасці, знікнуць. Кап ты выхварала, з гэтаю вадóю. *Кр.*

ВЫХО'ДЗІЦЬ, -іць *незак.* Гл. выйсці (у 1 і 2 знач.). Пчóлы выхóдзяць, трэ лавіць. *Кр.* Ужэ́ кураня́та выхóдзяць. *Зл.*

ВЫ'ЦВІЧЫЦЬ (выцьвічыць), -у, -ыш *зак.* Выадукаваць, вывучыць, прывучыць. Так каня́ выцьвічыў, як чалавéк панімáя ўсё. *Ст. С.*

ВЫ'ЦЕПКАЦЦА (выцяпкацца), -аяцца *зак.* Абабіцца (пра край, бераг тканіны, адзення). Каўнéр выцяпкаўсё, трэ́ба падвярну́ць. *Гр.*

ВЫ'ЦЕПКІ (выцяпкі), -аў *толькі мн.* Абарваныя, распушчаныя ніткі (па краях тканіны, адзення). Выцяпкі пабрэ́зваю, хай ні вісяць. *Вар.*

ВЫ'ЦЕРАБІЦЦА (выцярабіцца), -блюсё,

-бісься *зак.* Вызваліцца, перамагчы (пры дужанні). Дзе ты выцярабісься с-пад яго́, мядзьвецъ такі! *Кр.*

ВЫ'ЦЕРАБІЦЬ (выцярабіць), -блю, -біш *зак. жартаўл.* Выесці. Цэлу міску выцярабіў, як прагаладаўсё хло́пяц. *Ал.*

ВЫ'ЦУХЛІЦЬ, -ю, -іш *зак.* Выжлуктаць. Усё выцухліў і ка́плі ні пакінуў гу́бы аммачыць. *Ст. С.*

ВЫ'ЦЫГАНІЦЬ, -ю, -іш *зак. незад.* Выпрасіць. Ён усё выцыганіць, ты яго́ ні ве́даяш ішчэ́. *Вар.*

ВЫЧАЎПЛЯ'ЦЬ, -яю, -яяш *незак.* Вытвараць, вычвараць. Чаго́ яны́ на том ве́чары ні вычаўпля́лі: і скака́лі, і сьпява́лі! *Св.*

ВЫЧВАРА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Балбатаць, гаварыць пустое. Як стаў вычвара́ць — гаш бры́тко слу́хаць. *Ст. С.*

ВЫЧЫ'ТВАЦЬ, -аю -аяш *незак.* Галасіць, плакаць з прыгаворваннем. А як ста́ла вычы́тваць па Іва́ну, гаш усе́ запла́калі. *Вар.*

ВЫ'ШЧЫТЫ, -аў *толькі мн.* Вылікі. Бяз вы́шчытаў гэ́дакввяля ні бу́дзя. *Ал.*

ВЭ'ДЛУГ (вэ́длух) *прыназ.* У параўнанні з Што твой ро́вар вэ́длух матаро́ўкі! *Гр.*

ВЭ'НГРЫН, -аў *м. жартаўл. устар.* Той, хто кастрыруе. *Гр.*

ВЯЗ (вяс), -аў *м.* Папярочная дошчачка, якая звязвае палазы ў адно цэлае; замацоўваецца да капылоў у ніжняй частцы. *Даўг.*

ВЯСЕ'ЛЬНІК, -аў *м.* Удзельнік вяселля. Ужэ́ ўсе вясе́льнікі парасхо́дзіліся, ціхо ў ха́ці ста́ло. *Св.*

ВЯСНЯ'НЫ (вясьня́ны) *прым.* Вясновы. Вясьня́ныя апе́нкі смажымо. *Пл.*

ВЯТРА'К, -óў *м*. 1. Барабан у арфе. *Кр*. 2. Флюгер. Вятрáк пакáзвая, што с палýдня вéцяр. *Пл*.

ВЯТРО'ЎКІ, -аў *адз*. **вятроўка** *ж*. Басаножкі. Лéтам і ў вятрóўках нóгі прэ́юць, яг гарачó. *Ал*.

ВЯША'К, -óў *м*. Вешалка (насценная). На вяшáк павéсь пальтó. *Зл*.

## Г

ГАВЭ'НДА *ж*. *жартаўл*. Гутарка, размова, папрок. Трэ́ба вы́піць, раз гавэ́нда такáя. *Едн*.

*ГА'ДАЦЬ*, -аю, -аяш *незак*. Пляткарыць. Гóдзі вам тут *гáдаць*, ідзéця жаць. *Гр*.

ГАДО'ВАНАК, -аў *м*. Хлопчык, якога бяруць на выхаванне; гадаванец, выхаванец. Пятрусёў гадóванак нéдзя вучы́цца пайшóў за вучы́цяля. *Кр*.

ГАДО'ВАНКА, -аў і -нак *ж*. Дзяўчынка, якую бяруць на выхаванне; выхаванка. *Гр*.

ГАЁ'ВЫ *м*. *устар*. Ляснік. Даўнéй казáлі гаёвы, а цяпéрака — лясьнік. *Кар*.

*ГА'ЗА* *ж*. Лямпа. *Гáзу* павéсь нат сталóм — віднéй бýдзя. *Вар*.

ГАЙСТРЫ'ЦЬ (і гастры́ць), -у, -ыш *незак*. Вастрыць. Хай кóсу гóйстрыць. *Едн*.

ГАК, -аў *м*. Тое, што і **гака**. Акóпваю картóплі гáкам. *Едн*.

ГА'КА, -аў *ж*. Матыка. Гáкаю горш капáць, як драпачóм: картóплі расьсякáяш. *Гр*.

ГА'КАЦЬ, -аю, -аяш *незак*. *незад*. Секчы. Бýдзя гáкаць, я сам насякý. *Ст. С*.

ГАЛАВЕ'ШКА, -аў *ж*. *жартаўл*. 1. Вялікая бульбіна. Од галавéшку пат кáльвам вы́ка-

паў — яг два кулакé. *Вар.* 2. *перан.* Пра дзіця. Чагó ён ні прыдýмая, галавéшка гэта. *Кр.*

ГАЛАДАМЕ'Р, -аў *м.* і *ж.* *абразл.* Ненаедны (якога цяжка накарміць). Аднó дапусьці галадамéраў гэтых, панясýць ні аднó гуркé, а і гуркавéнё. *Гр.* Од галадамéры — усё паéлі, і кусóчка хлéба ні пакінулі. *Ст. С.*

ГАЛАКАНІ'ЦЬ, -ю, -іш *незак.* Гаманіць. Нé-дзя на шашы́ галаканя́ць. Мо з запóйінаў ідýць? *Гр.*

ГАЛАПУ'ПАК, -пкаў *м.* *жартаўл.* Галапузы. *Кр.* 2. *абразл.* Бедны. Што ў ягó калі былó — галапýпак гэты! *Зл.*

ГАЛАШЧА'ЧКА, -аў *ж.* Непакрытая карова. *Вар.*

ГАЛУ'ЗА, -аў *м.* і *ж.* Тое, што і а с т р ы ж о н а к. І наштó былó так стры́хчыся нагóло. Ніхарóшы стаў — галýза. *Ст. С.*

ГАЛУ'Й, -ёў *м.* і *ж.* Галадранец. Німа і ні былó нічóго ў галуя́ гэтаго. *Гр.*

ГАЛЬВА' *ж.* Кручок на ворчыку. *Едн.*

ГАЛЬДО'БА, -аў *ж.* *абразл.* Высокая і худая (пра дзяўчыну). Нуй гэто дзéўчына: вéлька і худáя — гальдóба! *Гр.*

ГА'ЛЬКА, -аў *ж.* *устар.* Споднняя спадніца з карункамі ўнізе; носяць толькі на свята. Бáло, знарóк гáльку вы́пусьціць с-пат спаніцы і хвáліцца, што мáя ў чом хадзіць. *Зл.*

ГАЛЯ'ЦЬ, -я́ю, -я́яш *незак.* *асудж.* Бегаць (без занятку). Дай і ямý сярпá, хай жне, ні галя́я. *Вальк.*

ГАЛЯ'ШКІ *толькі мн.* *жартаўл.* Голае цела. Адзявáйся, а то надаю па галя́шках. *Гр.*

ГАМАВА'ЦЬ, -мýю, -мýяш *незак.* 1. *незад.* Брахаць. Сабáка нáтто гамýя. *Гр.* 2. *зламоўн.*

Крычаць, лаяць. Гаму́й, гаму́й, а ён і ву́хам ні вядзе́. *Ст. С. З.* Тармазіць. Яг загамава́ў ро́вар, чуць ні пярак і́нуу́сё це́раз го́лаў. *Кр.*

ГА'МАР *м. непаш.* Пра вялікі і цяжкі прадмет. Дзі ты адзін падымяш гамар такі! Каб двох — мо і паднялі п каме́ль. *Ст. С.*

ГА'МАТНЫ *прым.* Завялікі (пра адзенне, абутак). Ні бу́ду купля́ць — га́матны пінджа́к, у яго́ яшчэ́ такі́, як я, уле́зя. *Гр.* Га́матныя бо́ты — трэ́ба мно́го гану́чаў накру́чваць. *Ст. С.*

ГА'МБА *ж.* Недахоп, загана, ганьба. Га́мбы німа́, до́бра каро́ва. Купля́йця. *Св.* Малада́я, як ля́лька. Га́мбы німа́, харо́ша дзе́ўка. *Гр.*

ГАМБАВА'ЦЬ, -бу́ю, -бу́яш *незак.* Прызнаваць кепскім, які мае недахоп, загану. Не́што ты гамбу́яш мае́ю ядо́ю: ні ясі́, ні п'еш. *Кр.*

ГАМЗЕ'ЦЬ, -зіць *незак.* Турбаваць (пра зубы). Ні магу́ ўтры́ваць; зу́бы гамзя́ць: мя́са назала́зіло. *Гр.*

ГАНАВІ'ЦЫ, -аў *толькі мн.* Штаны (верхнія і споднія). Пінджа́к купі́ў, трэ ганаві́цы дакупі́ць — і бу́дзя касьцю́м на свя́то. *Гр.*

*ГА'ПА*, -аў *м.* і *ж. устар.* Разява. Каб ні быў *га́паю*, купі́ў бы, а так прага́піў. *Зл.*

ГА'ПКА, -аў *ж.* Пятля ў адзенні (металічная і прарэшка). *Гу́зік* е́сьцяка, а га́пку вы́ража у. *Кр.* Гаплю́к ў га́пку ні ле́зя. *Св.*

ГАПЛЮ'К, -оў *м.* Металічны кручок у адзенні; гаплік. *Дзяр.*

ГАРАБІ'НА, -аў *ж.* Рабіна. Гарабі́ны от ядро́ныя. Ка́жуць, мо́кра во́сянь бу́дзя. *Гр.*

ГАРБУ'З (гарбу́с), -оў *м. перан. зняважл.* Пра малога і недарослага. Гарбу́с — на вячарке́ ра́но табе́ хадзі́ць! *Ст. С.* Ні вы́рас. Гарбу́с, таму́ і ні дастае́ш да вяшака́. *Гр.*

ГАРБУЗЯНЯ', -нятаў *н. пяшчотл.* Пра малое дзіця. І як ні любіць гарбузяня гэто. *Кр.* Забяру́ с сабо́ю, гарбузяня́, цябе́. *Кр.*

ГАРКАЦЕ'ЧА *ж. узмацн.* Пра надта горкае. Хале́ра яе́ е́сьцімя, ту́ю рэ́цьку — гаркаце́ча така́я! *Гр.*

ГАРЛА'Ч, -оў *м. абразл.* Той, хто бярэ горлам. *Кр.*

ГАРМО'НІК, -аў *м.* Малы (губны) гармонік. От харашо́ гра́юць: стары́ на гармо́ні рэ́жа, а сын на гармо́ніку выцілі́нквая. *Гр.*

ГАРМО'НЯ, -яў *ж.* Гармонік. Купіў гармо́ню, за музыка́нта ву́чыцца. *Вар.*

ГАРМУ'ШКА *ж.* Ежа — накрышаны ў малако (часам у пасоленую ваду) хлеб; цура. Скары́нкі накрышы́ ў малако́ і пахлё́баяш гарму́шкі. *Гр.*

ГАРО'ХАВІСКА (гаро́хавіско) *н.* Поле, дзе рос гарох. Па гаро́хавіску жы́то ро́дзіць до́бро. *Кр.*

ГАРШКО'ВІК, -аў *м.* Фартух для адымання гаршкоў. Гаршко́віка дзе́ці не́дзя закінулі, німа́ чым карто́пяль аццадзіць. *Ст. С.*

ГАРШКО'ВІЦА, -аў *ж.*Ануча, якой вымаюць з печы і адцэджваюць гаршкі. *Гр.*

ГАРШКО'УКА, -аў *ж.* Тое, што і г а р ш к о в і ц а. *Кр.*

ГАСЦЮКІ' (гасьцюке́), -оў *адз.* г а с ц ю к. *м. зборн.* Асцё з каласоў ячменю. Гасьцюко́ў у руба́шку нале́зло — ко́люцца. *Св.*

ГА'ЧКА *ж.* Тое, што і г а к а. Га́чкаю адно́ асыпа́ям бураке́. *Едн.*

*ГЕ'ГНУЦЬ*, -у, -яш *зак.* 1. *груб.* Памерці. Ду́маяш, ве́чно жы́цімяш. Не, *ге́гняш* і ты. *Кр.* 2. Забіць. І тагды́ *ге́гнулі* таго́ за́йца. *Вар.*

*ГЕ'ЛЗАЦЬ*, -аю, -аяш *незак.* Кілзаць. Трэ *гёлзаць*, а то мо́жа панясьці з во́зам — і касьцёй ні пазьбіра́яш,— во́гір такі. *Гр.*

ГІБА', гіп *ж.* Мера па даўжыні асновы ці палатна (прыкладна 4—6 м); губка. *Гібу́* за дзень вытку, яг зара́нё ўста́ну. *Кр.* Пяць *гіп* аснава́ла. *Гр.*

ГІБА'ЦЬ: г і б а́ ц ь к а р а в а́ й — мясіць, рабіць каравай (ляпіць шышкі, кветкі). *Гр.*

*ГІЖА'ЦЬ*, -ыць *толькі ў 3 ас.* Кішэць. А што там людзёй тых было́, гаш усё место *гіжа́ло*. *Дзяр.*

*ГІ'ЗНУЦЬ*, -у, -яш. *незак.* Кіснуць. І чаго́ ён *гізьня*, як наста́ня ра́нак? *Гр.*

ГІ'РА *ж. жартаўл.* Валасы, чуб. За *гіру* як вазьму́сё — куды́ хоч завяду́. *Вар.* Усю *гіру* апстры́гла. *Кр.*

*ГІРО'С м. жартаўл.* Дрэнная справа, варыва. Хіба гэтаго *гіро́су* (пра зацерку) наясіся? *Кр.*

ГІ'ЦЦАЛЬ, -цляў *м.* 1. Сабакар. Гіццаль ба́ло саба́к лавіў. *Гр.* 2. Гарэза, свавольнік, гіцаль. Бу́ду біць *гіцля* мало́го, харо́шаго. *Кр.* 3. *устар, жартаўл.* Вешалка (у адзенні). *Кр.*

*ГЛА'БАЦЬ*, -аю, -аяш *незак. незад.* Мацаць. Чаго́ *гла́баяш*? Па рука́х надаю́! *Гр.*

ГЛІВЕ'ЦЬ, -ёю, -ёяш *незак. незад.* Мерзнуць, калець (пры сырым надвор'і). Чаго́ на по́лі *глівёць* у таку́ю нігадзіну? Ехаў бы даха́ты! *Ст. С.*

ГЛІНЯ'НІК, -аў *м.* Гліняная пасудзіна (гаршчок). *Вар.*

ГЛУХЯНДЗ'Я' *ж.* Глушак (пра жанчыну). *Кр.*

ГЛУШМА'Н, -оў *м.* Глушак, глушэц. Нігды нічо́го адра́зу ні пачу́я. Трэба мо́цно крыча́ць *глушману́* гэтаму. *Гр.*

ГЛЫКА'ЦЬ, -áю, -áяш *незак*. Глытаць. Глыкáй, ні трымáй у рóці. *Ст. С.*

ГЛЫНУ'ЦЬ, -ý, -ёш *зак*. 1. Глытнуць. *Кр* 2. *перан. груб*. Падзець, закінуць што так, што цяжка ці зусім няможна адшукаць. Дзе ты глынýў сваю шáпку, што ніяк ні знóйдзяш? *Вар.*

ГЛЭ'МАЦЬ, -аю, -аяш *незак*. Есці, хапаць на хаду (траву — пра кароў). *Кр.*

ГЛЮЗ (глюс) *м*. Плесня (на скуры сала). Глюс сскрабі с сáла і еш. *Гр.*

ГЛЮ'ЗНУЦЬ, -ня *толькі ў 3 ас*. Пакрывацца плесняй, «глюзам» (гл.). У рáсцы сáло глюзьня, трэ́ба вéшаць апóльцамі. *Гр.*

ГНАЦЬ, ганю́, гóніш *незак*. Даставаць мёд з рамак з дапамогай цэнтрыфугі. Дзя́цько мёд гóніць, і пчóлы ні даю́ць прахóду, так тнуць. *Вар.*

ГНАЯВЫ' *прым*. Прызначаны для гною. Гнаяв́ымі вілáмі разьбівáю (гной). *Кр.*

ГНАЯ'НКІ, -аў *адз.* г н а я́ н к а *ж*. 1. Дошкі, што ставяцца замест драбін пры возцы гною. Бяз гная́нкаў яг гной вазіцімяш? *Гр*. 2. *толькі мн*. Павозка для возкі гною. У гная́нках на кярмáш ні паéдзяш. *Кр.*

ГНЕ'НІК, -аў *м. зняважл*. Сутулы, сагнуты. Які гэ́то кавалéр — гнéнік нéкі. *Дзяр.*

ГНІЛЯ'К, -оў *м. зняважл*. Хваравіты. За гэ́тым гнілякóм усé жы́цё пакýтую. *Гр.*

ГНЭ'МБІЦЬ, -млю, -мбіш *незак. асудж*. Біць, таўчы, караць. За што ты гнэ́мбіш гэ́то дзіця́? Янó і так нідóшло. *Вар.*

ГНЯНУ'ЦЬ, -ý, -éш *зак*. Моцна ўдарыць. Хацéў забіць, яг глянýў. *Ст. С.*

ГОЙСЬ! *выкл*. Тое, што і а ю с ь к і. *Гр.*

ГО'ЛЫ *прым.* 1. Няўзброены (пра вока). Го́лым во́кам мох зацьме́нё со́нца ба́чыць. *Гр.* 2. Пусты. З го́лымі рука́мі ні по́йдзяш на радзіны! *Ст. С.*

ГО'МДЖЫЦЬ, -у, -ыш *незак. жартаўл.* Есці; комчыць. Чаго́ сухама́ го́мджыць, бяры́ малако́м запіва́й — смашне́й бу́дзя. *Гр.*

ГО'МТАЦЬ, -аю, -аяш *незак. асудж.* Класці абы-як, не згортваючы (пра адзенне). Німа́, каб акура́тнянько злажы́ў адзе́жу да ў сунду́к палажы́ў, а го́мтая. Дзе яна́ ні патрэ́цца! *Гр.*

ГО'РАЧ *ж.* Надта горача; гарачыня. Од го́рач на двара́. Як у гаршку́ ва́рыць. *Кр.* Ве́лька го́рач і ле́тась была́. *Ст. С.*

ГО'РБА, -аў *ж.* Куча. Карто́плі ў го́рбу капа́ям, а тагды́ ў мяхе́ зьбіра́ям. *Гр.* Скіда́й камене́ ў го́рбу. *Гал.*

ГО'РКІ *прым. незад.* Недаpraслы, хто яшчэ мала разумее; малакасос; ужываецца часцеї як узмацняльнае слова. Куды́ яму́ ў шко́лу — яшчэ́ дзіця́ го́рко. *Ст. С.*

ГРАБЕ'ЛЬНЯ, -яў *ж.* Конныя граблі. *Едн.*

ГРАБЕ'ННІК (грабе́ньнік), -аў *м.* Грабец. *Кр.*

ГРАБЕ'ННІЦА (грабе́ньніца), -аў *ж.* Грабец-жанчына. *Гр.*

ГРАБІ'ЛЬНЯ (грабільнё), -яў *н.* Дзяржанне ў граблях, грабільна. *Вар.*

ГРАБІНА' *ж. зборн.* Грабняк. У грабіне́ мно́го грыбо́ў, сінякоў. *Св.*

ГРАБЛІ'ШЧА (граблішчо), -аў *н.* Грабільна. *Гр.*

*ГРА'ДКА* (гра́тка), -аў *ж.* Насценная шафа для пасуды. На гра́ццы палмісак, вазьмі, як капу́сту наліва́цімяш. *Ст. С.*

ГРАЗЕ́ТА *ж.* Гразішча. *Яг* дошч прóйдзя — гразéта, хоць ты с хáты ні вылáсь. *Гр.*

*Г*РАМУ́ШКА, -шок і -каў *ж.* Крэмень. От йіскры ляцяць, *яг грамýшка* гóстрая і сяканéш крэ́сівам. *Гр.*

ГРАНАТО́ВЫ *прым.* Цёмна-сіні. Нáтто сіні, гаш гранатóвы цьвет. *Кр.*

ГРАЦКО́ЎЕ (грацкóўё) *н.* 1. Салома грэчкі. *Вар.* 2. Поле, на якім расла грэчка. *Кр.*

ГРАЧЫНА́ *ж.* Грэчка. Грачынá дóбро рóдзіць. *Едн.*

ГРУДАВО́Е (грудавóё) *прым.* Сена з груда. Накасіў ні мáло, аднагó грудавóго больш як вос бýдзя. *Ст. С.*

ГРУЗА́ЎКІ, -каў і -вак *адз.* г р у з á ў к а *ж.* Дробныя нерасцёртыя кусочкі бульбы ў бульбяным пюрэ. Грузáўкі на язык пападáюць — кéпско патаўклá картóплі. *Гр.*

ГРУМА́ДА, -аў *ж.* Натоўп, гурт, чарада, маса. Грумáда людзéй, то дзе там ціхо бýдзя! *Кр.* Ваўкé на грамніцы грумáдамі хóдзяць. *Вар.*

ГРУНТ *прысл.* Галоўна, важна. Ямý грунт хáту пастáвіць, а хлéў і налéто зрóбіць. *Ст. С.*

ГРЫБ (грып), -оў *м.* Баравік. Казякóў мнóго, а грыбóў ішчэ́ німáшака. *Вар.*

ГРЫВА́Ч *м.* Гатунак аўса — з тоўстымі каласамі. *Гр.*

ГРЫ́ЖА *ж.* Згрызота. Ад гэ́гае грыжы сьвет ні мілы. *Св.*

ГРЫ́КА *ж.* Грэчка. З грыкі мёт нáтто смáшны. *Гр.*

ГРЫ́МАР, -аў *м. пяшчотл.* Жэўжык. Хадзі сюды, мой ты грымар. *Гр.*

ГРЫЧА́НІСКА (грычáніско) *н.* Тое, што і г р а ц к о ў е (у 2-ім знач.). *Кр.*

ГУ'ДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *незак.* Паказваць у кепскім выглядзе, бракаваць. Ні гýцьця вы яго́, ён до́бры хло́пяц. *Гр.* На́тто гýдзіць Ма́ню. Ка́жа, ке́пска для яго́ дзе́ўка. *Кр.*

ГУЖВЫ' (гужвэ́), -оў *толькі мн.* Аснова самаробнай плеценай бараны (звязвае зубы). Гужвэ́ рвýцца, і зýбы выпада́юць. *Едн.*

*ГУЗЁ'Л*, -злоў *м.* 1. Вузел. *Гузло́м* ні завя́звай, ле́пяй за́смаргаю, кап хýтко разьвяза́ць. *Пл.* 2. *перан. зняважл.* Малы, недарослы. Саўсім малы́ — *гузёл* не́кі. *Кр.*

*ГУЗЛЫ'* (*гузлэ́*), -оў *толькі мн. груб.* Вочы. *Гузлэ́* вы́трашчыў і е́нчыць! *Гр.*

ГУ'КАЦЬ, -ая *незак.* Пакрывацца (пра свінню). *Вар.*

*ГУ'ЛДА*, -аў *ж.* 1. Шышак, гуз. Не́ка *гýлда* нарасла́ на ло́кці. *Вальк.* 2. *перан.* Від прычоскі. *Гýлду* на галаве́ навяза́ла. *Кр.*

*ГУ'НА* *м.* і *ж.* Пустаслоў. Калі ты пяраста́няш мало́ць, *гýна*? Бо́чку арышта́нтаў нагавары́ў і так. *Гр.*

ГУ'НЬДЗЕКА (гýньдзяка і вýньдзяка) *часц.* Вунь. *Кр.*

ГУ'РА, -аў *ж.* Гурба (снегу). От ве́лькія гýры панадува́ло ка́ла пло́ту. *Дайг.*

ГУРКАВІ'ННЕ (гуркаве́нё) *н. зборн.* Сцябло (і лісце) агуркоў; агурочнік. Гуркаве́нё нат ні благо́ё, а гурко́ў німа́ — пустацьве́т адзін. *Яр.*

ГУСА'ЧЫНА *ж.* Мяса (з гусака). Гусака́ засёк, гуса́чыны зва́рымо. *Гр.*

ГУСЦІ' (гусьці), гудзе́, *толькі ў 3 ас. незад.* Балець ад стомы (пра ногі, рукі, галаву). Хай іх халéра, з грыба́мі гэ́тымі, гаш но́гі гудýць.

Ве́дама, вёрст зь дзе́сяць праджга́лі ў адзі̀н кане́ц. *Ст. С.*

ГУЧУ'КАЦЬ -аю, -аяш *незак.* Гушкаць. Хай ён гучу́кая, бярэ́ на ру́кі, мне німа́ калі̀. *Вар.*

ГЫ'ЛЯ! *выкл.* Так адганяюць гусей. *Гал.*

ГЭР-ГЭР! *гукаперайм.* Пра гусей. А гу́сі ты́я адно́ гэр-гэр-гэр! Лята́юць па надво́рку, як на дошч. *Гр.*

ГЭ'ТАКВЕЛЯ (гэ́дакквяля) *прысл.* Стольікі. То гэ́дакквяля і я падыму́. *Гр.*

ГЭ'ТТА *прысл.* Тут. Каб і гэ́тта пасадзіў, лён до́бры вы́раз бы. *Кр.*

ГЭ'ТТАКА *прысл.* Тое, што і г э т т а. *Яр.*

ГЭ'РШКІ: б а́ б ы г э́ р ш к і — так кажуць, калі хочуць узяць дзіця на плечы (абвіўшы нагамі шыю). Мо ты хо́чаш, Ва́лік, ба́бы гэ́ршкі? *Гр.*

ГЭЦ. Скок; гоц. А ён гэц з во́за і пабе́х. *Кр.*

ГЭ'ЦАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Скакаць, прыгаць, гоцаць. І чаго́ яна́ гэ́цая, дзе́ўка така́я! *Ст. С.*

ГЭЦАЦУ'-ГЭЦАЦУ'! *выкл.* Гоц-гоц. Німа́, кап пасядзе́ў, да ўсё гэцацу́ і гэцацу́ — бе́гая, ніве́дама чаго́! *Гр.*

## Д

ДАБА'ВАК, -ўкаў *м.* Дадатак. І так ні пайшо́ў бы, а тут у даба́вак ішчэ́ сын захварэ́ў. *Гр.*

ДАБРУ'ТКІ *прым.* Зусім добры (цэлы). Яшчэ́ пінджа́к дабру́ткі, а ўжэ ні хачу́. Дава́й но́вы яму́! *Ст. С.*

ДАВІ'ЦЬ, -іць *незак.* Станавіцца ў горле (пра даўкія плады). Да́вяць гру́шы, ні палкну́ць. *Ст. С.*

ДАЕ'ННІЦА (даёньніца), -аў *ж.* Дойшчыца, даярка. Як новае ўжываецца і д а я р к а. *Гр.*

ДАЖДЖЭ'ВІЦА, -аў *ж.* Дажджлівае надвор'е. У такую дажджэвіцу адно ў хаці сядзець. *Кр.*

ДАЙМО'М *прысл.* Не адгінаючыся, без перапынку, прагна (піць). Літар вады даймом вып'я! *Ст. С.*

ДАЛІКТУ'СЯ, -яў *м.* і *ж.* *пагардл.* Вельмі далікатны (пра чалавека). Даліктуся такі, што ні зачапі — так і раз'едзяцца (расплачацца). *Гр.* Такоё цяпло, а яна ў пальцэ. От даліктуся! *Ст. С.*

ДАЛЬБО' *выкл.* Далібог. Дальбо скажу, як спытаюць, ні буду тайіцца. *Ст. С.*

ДАЛЯГА'ЦЬ, -ая. *незак. толькі ў 3 ас.* Балець, турбаваць, непакоіць, мучыць (пра арганізм). Мусіць яму нешто далягая, рас ён кульгая? *Кр.* Каб ні далягало, ні ляжаў бы ў пасьцелі. *Гр.*

ДАНІ'ЧКА, -аў *ж устар.* Гаршчок для кветак, вазон. *Гр.*

ДАПНУ'ЦЬ, -у, -еш *зак. асудж.* Дабрацца, дайсці, знайсці, дапасці. Такая дапнé і за сорак вёрст. *Вар.*

ДАПЭЎНЯ'ЦЦА (дапяўняцца), -яюсё, -яясься *незак.* Дапытвацца, упэўнівацца (роспытамі). Сванька яе ўсё дапяўнялася, ці Валік наш там быў. *Гр.*

ДАРАЖЫНЯ' *ж.* Дарагавізна. Дзе ты дакупісься бало, даражыня такая была на ўсё! *Кр.*

ДАСА'ДА *ж.* Прыкрасць. Гаш дасада бярэ на гэтаго старого: памагчы нічого ні паможа. *Дзяр.*

ДАЎГЕ'ЛЬ *м. непаш.* Высокі, доўгі (пра чалавека). Даўгéль гэты ў хáту тваю ні ўлéзя. Хіба на калéнях стаяцімя. *Гр.*

ДАЎНЯ'ШНІ *прым.* Не свежы. Даўняшнё мáсло — ні нáтто смáшно, хіба сьвéжаго зьбіць? *Гал.*

ДАХАЛЕ'РЫ *прысл.* Надта многа. Прыгджáй, дам зь мяшóк, у мінé дахалéры яшчэ тых картóпяль. *Гр.*

ДАХВАТО'ВЫ *прым.* Слабы, падатлівы да захворвання. Лéпяй апрáтвайся, а то вéцяр вéлькі, каб ні прастудзіўсё, дахватóвы такі. *Кр.*

ДА'ЦЦА, дáмсё, дасіся, дáсца, *зак.* Стаміцца. Чысто дáўсё пры малатáрні, прышóў як ніжывы. *Вальк.*

ДВАЙГА', *ліч. устар.* Двое. Двайгý ўжэ мáю, і ўсё хлóпцы. *Гр.*

ДВУХЗІ'МАК, -аў *м.* Пра цяля (жарабя), якое пеpажыло дзве зімы (каля двух год). *Кр.*

ДВУХЛА'ПКІ (двóхлáпкі), -аў *толькі мн.* Вілы (на два рогі) для падачы снапоў. *Кр.*

ДЖГАЦЬ, -áю, -áяш *незак.* 1. Біць, муштраваць. Хай джгáя, папрýгу зьняўшы, раз зарабіў. Бо нілюцкі ты нáтто. *Гр.* 2. Сячы (пра ападкі). Од джгáя дошч, як зь вяравóк. *Кр.* 3. *жартаўл.* Хутка ісці. Дзе ты ягó дагóніш, так джгáя. *Вар.* 4. *жартаўл.* Заўзята есці. Папóўніцы джгáя, ні глядзіць, што нісмáшно падалі. *Гр.*

ДЖЫГА'ДЛА (джыгáдло), -аў *н.* Джала. У шэршаня от вéлько джыгáдло. *Вар.*

ДЗЕ'ЙСЦВІЕ (дзéйсьцвіё) *н.* Рух, дзейнасць. Рукá сусім бязь дзéйсьцвія ўжэ катóры гот. *Кр.*

ДЗЕ'ЛА (дзéло), -оў *н.* Справа. Каб адно

дзе́ло было́, а то гібяль йіх, ні спра́вісься с усімі. *Зл.*

ДЗЕРАВІ'НА (дзярав́іна), -аў *ж.* Ствол спілаванага дрэва, бервяно; дзеравячына. Дава́й да пло́ту паткоцім дзяравіну. *Гал.*

ДЗЕ'ЎКА, -вок, -каў *ж.* 1. Дарослая дзяўчына. Ужэ́ дзе́ўка настая́шча, ху́тко два́ццаць бу́дзя. *Гр.* 2. Дзяўчына, з якой заляцаецца хлопец. Хоць ты сваю́ дзе́ўку паказа́ў бы мне. *Кр.* 3. Незамужняя немаладых год дзяўчына, халасцячка. Ішчэ́ ўсё дзе́ўкаю хо́дзіць. *Ал.*

ДЗЕ'ГНІСТЫ *прым.* Цёмна-чырвоны (пра масць жывёл). Каза́ та́я прывяла́ казьляня́, гаш дзе́гністо не́ко — у ле́сі ба́чыў. *Гал.*

ДЗІ'ВА (дзіво): З до́браг а дзіва — ні з таго ні з сяго, бездайпрычыны. Кап хто зачапа́ў яго́, а то з до́браго дзіва стаў ла́яць, бэ́сьціць гэту дзе́ўчыну? *Ст. С.*

ДЗІК, -оў *м. прам., перан.* Дзікун. Такі дзік і ў ха́ту байіцца зайсьці. *Гр.*

ДЗЫ'ГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Скакаць. Чаго́ ты, яг за́яц, дзы́гаяш па ха́ці? *Ст. С.*

ДЗЯ'БАЦЬ, -аю, -аяш *незак. асудж.* Секчы. Чаго́ ты тут усе́ дзя́баяш, як ра́нак наста́ў? Як усяро́ўно ча́су табе́ ні бу́дзя бо́ляй ніѓды. *Гр.*

ДЗЯДЗІ'НЕЦ (дзядзіняц), -нцаў *м. устар.* Вялікі двор на прыгуменні. *Кр.*

ДЗЯ'ДЗЮШКА (дзя́дзюшко) *м. пяшчотн.* Дзядзечка. *Гр.*

ДЗЯ'ЛКА, -аў *ж.* 1. Частка зямлі, якую трэба апрацаваць; дзялянка. На мае́й дзя́лцы і лён ле́пшы паро́с, як пало́ла до́бро. *Гр.* 2. *устар.* Надзел зямлі, хутар; дзялянка. Даўне́й тут ма́я дзя́лка была́, ха́та стая́ла. *Кр.*

ДЗЯРНО' *н.* Дзірван, дзёран. *Гр.*

ДЗЯРНО'ЎКА, -аў *ж. устар.* Чапец (галаўны ўбор). Ба́ло дзярно́ўку на галаве́ насілі. *Една.*

ДЗЯ'ЎГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. Пабрэхваць. Не́шта наш Лы́ско дзя́ўгая! *Гр.* 2. *зняважл.* Гаварыць, напамінаць. Го́дзі ўжэ дзя́ўгаць, я і так ве́даю, што мне трэ́ба рабі́ць. *Кр.*

ДЗЯЦІ'СКА, -аў *толькі мн. зборн. непаш.* Дзеці, дзетвара. Чы́сто ўсю мо́ркву павылу́пвалі дзяці́ска гэ́тыя! *Гр.*

ДЛУ'БАЦЬ, -аю, -аяш *незак. незад.* Калупаць, пароць. Ні длу́бай, накрышы́ў і так сы́ру гэ́тага на зе́млю! *Ст. С.*

ДРА'БА, -аў *ж.* 1. Від павозкі, драбы. Запро́х у дра́бу. *Кр.* 2. Кляча. Хіба на мы́ло здаць дра́бу гэ́ту? *Вар.*

ДРАБІ'НА, -аў *ж.* 1. Лесвіца, драбінкі. Па драбі́ні пале́с на ха́ту. *Ст. С.* 2. Частка воза, якая навешваецца на ручкі. Паскіда́ям адну́, другу́ю драбі́ну і гная́нкі пазаклада́ям, па гной е́дучы. *Гр.* 3. Яслі — у выглядзе драбінак — для кармлення авечак. Пярае́дзіны ат каро́вы вы́няў і аве́чкам за драбі́ну кі́нуў, хай пярабі́ра́юць. *Св.*

ДРАБЯСЦЕ' (драбясьцё) *н. зборн.* Жэрдачкі для прымацавання саломы (да латаў) пры накрыцці страхі. Драбясьцё е́сьцяка, само́му і дупцэ́ нясі — і бу́дзям крыць сьві́ніняц. *Ст. С.*

ДРАБЯ'СЦІНА (драбя́сьціна), -аў *ж.* Адна такая жэрдачка. Кі́нь драбя́сьціну на стрэ́ху мне! *Гр.*

ДРАМА'К, -о́ў *м. жартаўл.* Хвост вепрука (як мяса). Куцю́ з драмако́м зварыла. *Гр.* Еш драма́к, каб за пра́сьніцаю ні драма́ла. *Ст. С.*

ДРАПА'Ч, -о́ў *м.* Капач (мае выгляд расстаўленых трох пальцаў). Га́каю сячэ́ш кар-

то́плі, а драпачо́м разграба́яш зе́млю, і пясо́к астае́цца, а карто́плі выграба́юцца. *Ст. С.*

ДРА′ПЦІ, -яў *толькі мн.* Тое, што і драпач. Дра́пцямі капа́ям карто́плі, ні рука́мі. *Едн.* Дра́пці ў ку́зьні зрабіў — карто́плі капа́ць. *Кар.*

ДРАПЧА′К, -оў *м. устар.* Від брычкі. *Гр.*

ДРАЎНУ′ШКІ, -аў *толькі мн.* Дровы на распалку. *Едн., Кар.*

ДРО′НАК, -аў *м.* 1. Тоўстая палка, якой закрываюць у хляве выхад з дзвярэй. *Гр.* 2. Металічны вал, што злучае малатарню з прывадам. *Ст. С., Гр.*

ДРУЖБА′НТ, -аў *м.* Сябра маладога ў час вяселля; шафер, дружко. За дружба́нта Мішы е́гдзіў. *Ст. С.* Часцей ужываецца шафер.

ДРУЖЫ′НА, -аў *ж.* 1. *устар.* Сям'я. Ве́лька дружы́на, ядако́ў хвата́я. *Гр.* 2. Група, брыгада. Каб дружы́наю, да ве́чару жжа́лі п. *Ст. С.*

ДРЫГВА′ *ж.* Від стравы — халоднае, квашаніна. З нох і галавы́ дрыгву́ вары́ла. *Гр.*

ДРЫН, -оў *м.* Кіёк, дручок. *Едн.*

ДРЫ′СЛІ (дрысьлі), -яў *толькі мн. грэбл.* Нямоцны матэрыял. Што ты з гэ́тых дры́сьляў шы́цімяш — разьле́зуцца шы́ючы. *Гр.*

ДРЭ′ЙМА *ж. жартаўл.* Кампанія, група, брыгада. Усе́ дрэ́ймаю як вы́йдзям — за два́ньні вы́капаям твае́ карто́плі. *Ст. С.*

ДУБАЛЬТО′ЎКА, -о́вак і -каў *ж.* Хустка — вялікая суконная. Дубальто́ўкаю і пле́чы акры́яш, ні адно́ го́лаў — і цяпле́й бу́дзя. *Вальк.*

ДУБІНА′ *ж. зборн.* Дубняк. У дубіне́ на́тто сіняке́ расту́ць. *Гр.*

ДУ′НДЗІЦЬ (ду́ньдзіць), -джу, -дзіш *незак. жартаўл.* Ссаць. Ніц е́сьці ні хо́ча, адно́ ўсё ду́ндзіць цы́цку. *Вар.*

ДУРАЛЕ′Й, -яў *м.* Дурань. От дурале́й, адно́ сьмяе́цца і сьмяе́цца. *Ал.*

ДУРАЛЕ′ІНА (дурале́йіна) *м. узмацн.* Дурань, дурачына. *Ст. С.*

ДУРАТА′ *ж. незад.* Клопат. Вазьмі дзіця́ да сябе́, то дураты́ ко́лькі трэ́ба адно́. *Кр.*

ДУРНІ′ЦА *ж. незад.* Дарэмшчына, дармавое. Саўсім за дурніцу пра́даў я́блыкі. *Гр.*

ДУРЫ′ЦА, -аў *ж.* Дурная, дурніца. Хто з гако́ю дуры́цаю жы́цімя. *Ст. С.*

ДУРЭ′Ц, -рцоў *м.* Дурань. Не́кі дурэ́ц, ні чалаве́к з ро́зумам. *Гр.*

ДЫГА′ТЫ *прым.* З доўгімі нагамі, цыбаты. От пяту́х дыга́ты ў Насту́лі. *Ст. С.*

ДЫ′ГАЦЬ, -ая *незак.* Моцна біцца (пра сэрца). Як тро́хі параблю́ бо́ляй, так і ды́гая сэ́рцо. *Кр.*

ДЫ′ГУСЬ, -яў *м. жартаўл.* Цыбаты. От вы́цягнуўусё, бо́льшы за ба́цька — ды́гусь гэты. *Ст. С.*

ДЫ′КТА *ж.* Фанера. Ды́ктаю аба́б'ю сьце́нку. *Гр.*

ДЫ′ЛЯ, -яў *ж.* Адна з дзвюх рамаў варштата. Ды́лі паста́віў, а тагды́ наво́й і астально́е прычапля́й. *Гр.*

ДЭ′БАЦЬ, -аю, -аяш *незак. спагадл.* Ісці, дыбаць. От які зь яго́ хадо́к. Дэ́бая кры́шачку кала́ до́му. *Гр.*

ДЭ′КА (дэ́ко), -аў *н.* Дэкаграм. Што там, яг дэ́ко ні дава́жыла! *Гр.*

ДЭ'НТКА, -аў *ж.* Камера велаcіпеда. Дэ́нтка ў ро́вары дух спусьціла. *Ст. С.*

ДЭ'ЎЖАР *м. незад.* Надта доўгі. Такі дэ́ўжар гэты загон, дзе ты яго́ выжняш да палу́дня! *Гр.*

## Е

Е'ГДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *незак.* Ездзіць. Е'гдзіў да до́хтара. *Гр.*

Е'ДКІ (е́ткі) *прым.* Прыдатны да яды, смачны (пра траву, сена). Грудаво́ё от е́тко се́но. *Кр.*

ЕЛАВЕ'Ц (ялаве́ц і ядлаве́ц) *м.* Ядловец. Ялаўцо́м ве́ндзім каўба́сы. *Ст. С.* Ядлаве́ц па ро́с ве́лькі. *Гр.*

ЕЛІНА' (яліна́) *ж. зборн.* Ельнік. Пагна́лі ў яліну́ караве́ па́сьвіць. *Ст. С.*

Е'ЎБАЛА (е́ўбало), -аў *пагардл.* Неразумны, дурань. *Гр.*

## Ж

ЖАГЛЯВА'ЦЬ, -лю́ю, -лю́яш *незак. незад.* Веяць (пра вецер). Дзе ты ўсто́йіш на тако́м ве́тры, так жаглю́я. *Гр.*

ЖА'ДНЫ *займ.* Ніякі. Жа́днаго рату́нку німа́ ад яго́. *Вар.*

ЖАЛАПА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак. незад.* Піць, хлябтаць. Хай жалапа́я, хоць ло́пня, як ён ме́ры ні ве́дая. *Ст. С.*

ЖАМЯРВА' *ж. зборн. абразл.* Галота (пра дзяцей). Дзе ты нако́рміш жамярву́ гэту. *Кр.*

ЖАНДАРО'ВЫ *прым.* Светла-чырвоны. *Кр.*

ЖАНЕ'ННЕ (жане́нё) *н. незад.* Жаніцьба.

Адно́ жане́нё наўме́, а як рабіць — так німа́. *Св.*

ЖА'РНУЦЦА, -усё, -ясься *зак.* Ударыцца. З разьбе́гу *яг* жа́рнуўсё, гаш увачу́ пацямне́ло. *Кр.*

ЖА'РЫЦЬ, -у, -ыш *незак.* Біць, лупцаваць (не шкадуючы). Ду́маў, пячо́нкі адаб'е́, так жа́рыў па сьпіне́. *Ст. С.*

ЖМІ'НДЗІЦЬ (жміньдзіць), -джу, -дзіш *незак. зламоўн.* Есці. Калі ён нае́сца? Яг дзень ве́лькі — усё жміньдзіць і жміньдзіць. *Вальк.*

ЖНІВА'РКА, -аў *ж.* Жняярка. Жніва́ркаю жа́лі. *Зл.*

ЖУ'ЙКА *ж.* Жвачка. Каро́ва жу́йку жуе́. *Гр.*

ЖУРАВЕ'Й, -аўёў *м.* Журавель. Чаго́ шы́ю вы́цягнуў, яг жураве́й? *Вар.*

ЖЫВУ'ШЧЫ *прым.* Жывучы. Жыву́шчы, як кот. *Даўг.*

ЖЫВЫ' *прым.* Сапраўдны. Ну, жывы́я партіза́ны, як на сцэ́ні паказа́ліся. *Зл.*

ЖЫДКАВА'ЦЬ (жыткава́ць), -ку́я *незак.* Выгінацца і не ламацца (пра дубец). З лазы́ дубе́ц до́бро жытку́я. Каро́ві шлёгняш — як пу́гаю ўсяро́ўно. *Гр.*

ЖЫ'ДКІ (жы́ткі) *прым.* Які добра выгінаецца і не ломіцца. Жы́ткіх дупцо́ў на кашэ́ль нарэ́заў. *Ст. С.*

ЖЫ'ЖА *ж. дзіцяч.* 1. Агонь. Жы́жу запа́лім. *Гр.* 2. Гарачае. Тут жы́жа, апячэ́сься. *Гр.*

ЖЫРО'МСКІ *м. іран.* Абжорлівы. Каб гэ́ты жыро́мскі да ні зьзеў. *Гр.*

ЖЫЦЬ *незак.* 1. Жыць. 2. Бываць, моцца. У магазі́ні жыве́ ўся́кі тава́р. *Гр.*
Як ча́сто ў ла́ўцы жыво́ш, то натра́піш, ку́піш што трэ́ба. *Ст. С.*

# З

ЗАБРЫТА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак.* Заблытаць (ніткі). Клубо́к ні размо́тваяцца, забрыта́ў так. *Гр.*

ЗАБУЛЯ'ЦЦА, -я́юсё, -я́ясься *незак.* Забаўляцца. *Вар.*

ЗАБУЛЯ'ЦЬ, -я́ю, -я́яш *незак.* Забаўляць. Хай дзіця́ забуля́я, до́ма се́дзячы. *Гр.*

ЗАВАДО'ВЫ *прым. грэбл.* Спрактыкаваны, прафесіянал. Завадо́вы музыка́нт, абы-каму́ і ні по́йдзя граць. *Гр.*

ЗАВАДЫЯ'ЦКІ *прым.* Заліхвацкі. Завадыя́цкі хло́пяц, нічо́го ні ска́жаш. *Зл.*

ЗАВАЖА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Перашкаджаць. Скінь галіну з даро́гі, хай ні заважа́я е́гдзіць. *Кр.*

ЗАВА'ЖЫЦЬ, -у, -ыш *зак.* Падняць вышэй (канец дошкі, бервяна), выкарыстоўваючы сістэму блока. Гэ́ты кане́ц ні зава́жыш: кала́ ні пацса́дзіш, хіба другі канец падыма́ймо. *Ст. С.*

ЗАВА'ЛАК, -лкаў *м.* Жаўлак. Зава́лак у ро́ці — е́сьці ні магу́. *Вар.*

ЗАВАЛІ'НА, -аў *м.* і *ж.* Лежань, гультай, завала. Яка́я зь яго́, заваліны, рабо́та! *Кр.*

ЗАВЕ'СІЦЬ, -шу, -сіш *зак.* Засудзіць умоўна. Ва́ліку заве́сілі на тры ро́кі, а таго́ пасадзілі. *Гр.*

ЗАВІ'ДАВАЦЬ, -дую, -дуяш *незак.* Зайздросціць. Усе́ нам завідуюць, што сынэ́ ву́чаныя. *Гр.*

ЗАВУ'ГЛІЧЧА (заву́глічо) *н.* Завуголле. Па заву́глічу адно́ бе́гаюць, а рабіць німа́! *Кр.*

ЗАВЯ'ТЫ прым. Напаўсухі (сыр). Сьве́жаго ні лю́біць, а завя́ты сыр е́сьць до́бра. *Кр.*

ЗАГАНУ'ЦЬ, -ну́, -нёш *зак.* 1. Загадаць (загадку). Од заганӯў, што ніхто́ ні адгане́ тває́ за́гаткі. *Ст. С.* 2. *непаш.* Зажадаць. *Яг* заганӯў, то хоць зь не́ба яму́ тых я́блыкаў дастáнь. *Гр.*

ЗА'ГАРАДА, -аў *ж.* 1. Агароджа з жэрдак, загарадзь. За́гараду на капу́сьнiку каравэ́ паламáлі. *Гр.* 2. Адгароджанае месца ў полі (лузе); загарадзь. У за́гарадзі хо́дзяць каравэ́. *Ст. С.* 3. Стойла ў хляве, загарадка. *Кр.*

ЗАГА'РАК, -ркаў *м. устар.* Гадзіннік. *Зл.*

ЗАГЕ'ЛЗАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Зацугляць, закілзаць. Каня́ загелзаў, каб ні панёс з усіх чатыро́х. *Дайг.*

ЗАГНЯСЦІ' (загнясьці), -нягу́, -няце́ш *зак. непаш.* Закалоць. Загняцём паршукá пад зіму, да вясны́ сáла бу́дзя. *Кр.*

ЗАГО'ДЗЬ (заго́ць) *прысл.* Загадзя. Каб заго́ць сказáў, то дастáў бы хвáрбы табе́. *Гр.*

ЗАГРА'НАЕ (загрáно) *прым.* Аплодненае (яйцо). Ні загрáно яйцо́ — кураня́ ні вы́йдзя. *Ст. С.*

ЗАГУ'СЛЫ *прым.* Загусцелы. Загу́слую зацёрку ці е́сьцімя ён. *Пл.*

ЗАГУ'СНУЦЬ, -ня *зак. толькі ў 3 ас.* Зрабіцца густым, загусцець. Ро́шчына рэ́тка, ні загу́сла — і хлеп замалады́ вы́шаў. *Кр.*

ЗАГЭ'ТЫМ *прысл.* Затым, таму. Загэ́тым і ні кажу́, што карáць бу́дуць. *Ст. С.* 2. *злучн.* Затым, таму. Самá да цябе́ прышлá, загэ́тым што ты ні хо́дзіш да міне́. *Кр.*

ЗАДА'ТНЫ *прым.* Удалы. Задáтно парася́ за рок бо́льшо вы́расьця, як друго́ё за два. *Гр.*

ЗАДА'РАМ *прысл.* Задарма. Хоч, каб усе́ задáрам табе́ рабілі, га? *Пл.*

ЗАДА'ЦЦА, задáсца *толькі ў форме 3 ас. і ў прошлым часе, зак.* Удацца, стаць удалым. *Яг* задáсца, то і без дражджэй дóбры хлеп жывé. *Гр.*

ЗАДЖГА'ЦЬ, -áю, áяш *зак. жартаўл.* Зайсці, прыйсці. Баяўсё, каб ні сьцямнéло, то раз-двá заджгáў дахáты. *Вар.*

ЗАДЫ'ГАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Забіцца, затахкаць (пра сэрца). Задыгало сэ́рцо, нібóсь, як падбéх? *Св.*

ЗАЗРО'НІК, -аў *м.* Зайздроснік. Зазрóнік гэ́ты нігды нічóго ні дасьць. *Гр.*

ЗАЗРО'НІЦА, -ніц *ж.* Зайздросніца. *Дзяр.*

ЗАЗРО'НЫ *прым.* Зайздросны. От зазрóны ні крóшкі ні дасьць, хоць ты ўвамры́. *Ст. С.*

ЗА'ЗУБЕНЬ (зáзубянь), -бняў *м.* Рэгулятар (у плузе, спружыноўцы). Зáзубянь ніско — плух нáтто глыбóко лéзя ў зéмлю. *Даўг.*

ЗА'ЙМІСТЫ *прым.* Такі, якім можна зрэзаць за раз многа сцяблоў (пра серп). Зáймістым сярпóм хучэй жаць. *Ст. С.*

ЗАЙЧЫ'СКА (зайчы́ско), -аў *незад.* Заяц. Усé прысáткі пааб'ядáў зайчы́ско гэ́ты. *Гр.*

ЗАКАЛЕ'НЫ *прым. асудж.* Надта жорсткі, злосны. Закалёны нéмяц: ці прасі, ці малі — нічóго ні памóжа. *Гр.*

ЗАКА'ЧАНЫ *дзеепрым.* Закасаны. Закáчаны адзін рукáў, а другі не, і так хóдзіць! *Кр.*

ЗАКАЧА'ЦЬ, -áю, -áяш *зак.* Закасаць. Закачáць трэ рукавэ́, каб ні памачы́ў. *Ст. С.*

ЗАКВЕ'ЧАНЫ *дзеепрым.* Упрыгожаны, з кветкамі. Як на вясéлі, то ўсе заквéчаныя: і маладыя, і шáфяркі. *Гр.*

ЗАКВЕ'ЧВАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Упрыгожваць (кветкамі, дзеразою, галінкамі бярэзіны,

яліны). Усю хату заквечваюць, як сьвято находзіць. *Вальк.*

ЗАКО'ТЫ, -аў *толькі мн.* 1. Манжэта. Закоты ў сароццы паадрэзвай — абабіліся. *Кр.* 2. Абшлаг (завернутая частка калашын). Ганавіцы закароткія — трэ закоты атпусьціць. *Гр.*

ЗА'ЛАБ (залап) *прысл.* Узяўшыся за чубы. Як шчўбіліся залап, гаш чубэ трашчаць. *Кр.*

ЗАЛА'ПІЦЬ, -плю, -піш *зак.* Паставіць латку (у адзенні), залатаць. Залапіла хлопцу ганавіцы. *Пл.*

ЗАЛЯГА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. Напружвацца ў рабоце. Нашто так залягаць, хіба работа ў лес уцячэ? *Кр.* 2. Моцна брахаць. Сабака гаш залягая. Мо дзе зладзеі лезуць? *Гр.*

ЗАМАЛАДЫ' *прым.* Зарэдкі (хлеб). Замалады быў і сьсеўсё. *Ал.*

ЗАМЕ'ЖАК, -жкаў *м.* Узмежак. На замешку трава парасла, хоць ты касі. *Св.*

ЗАМУЛЬДАВА'ЦЬ, -дую, -дуяш *зак. устар.* Зарэгістраваць. Хадзіў у сяльсавет дзіця замульдаваць. *Кр.*

ЗАНАВЕ'СКА, -аў *ж.* Фіранка. Завесь занавескаю акно. *Гр.*

ЗАНЕМАГЧЫ' (занімахчы), -гу, -жаш *зак.* Абнядужаць, абнемагчы. Як занімагу, то і вады лошкі ні падасі — такая добрая! *Пл.*

ЗАНУ'ДА, -аў *м.* і *ж.* *зламоўн.* Той, хто сумуе, незадаволены чым. Такі ўжэ зануда, што нічым ні ўгодзіш яму. *Гр.*

ЗАНЯДЗЕ'ЛЯВАЦЬ- люю, -ляяш *зак.* Застацца на нядзелю. Мало сыботы, так занядзелявала ішчэ. *Кр.*

ЗАНЯ'ТНЯ *ж.* Занятак. Як занятні німа, то ўсяка халера ў голаў лезя. *Пл.*

'ЗАНЯ'ЦЬ, займу, -еш *зак.* Забраць (да сябе ў хлеў чужое быдла). Як папускаў у шкоду, то занялі, цяпер выкупляцімяш хіба. *Гр.*

ЗА'ПЕК (запяк), -аў *м.* Запечак. *Вар.*

ЗАПІВА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Заручаць. Хутко вясёлё будзя — Надзю Настусіну запіваюць. *Гал.*

ЗАПІРА'ЦЬ: з а п і р а ц ь д у х — не даваць гаварыць (*зламоўн.*). І слова ні скажаш, дух запірая табе. *Ст. С.*

ЗАПІ'ЦЬ, -п'ю, -п'еш *зак.* Гл. з а п і в а ц ь. Ужэ запілі, шыкуйся на вясёлё. *Кр.*

ЗАПЛАЦІ'ЦЬ, -чу, -ціш *зак.* Адмовіцца выйсці замуж, пакрыўшы кошт заручынаў. Вяселя ні будзя — заплаціла. *Гр.*

'ЗАПЛЕХАВА'ЦЬ (запляхаваць), -яхую, -яхуяш *зак.* Замасціць, заткнуць (адтуліну); занесці (снегам). Ніяк трубы ні ачышчу, так запляхаваў смеццям. *Вар.* Запляхаваў сьнех усе ямэ. *Дзяр.*

ЗАПНУ'ЦЦА, -ўсё, -есься *зак.* Абвязацца (на скорую руку). Запніся трохо чым, каб ні гэдык пырскало, і ідзі памагай. *Вар.*

ЗАПУСЦІ'ЦЦА (запусьціцца), -ушчусё, -усцісься *зак.* Далёка зайсці (пры пасьбе кароў). Пат Курыны запусьціліся, то хутко ні прыжануць кароў. *Гр.*

ЗАПЯКА'ЦЦА, -аюсё, -аясься *зак.* Загараць. Недзя запякаяцца на сонцы. *Даўг.*

ЗА'РА *прысл.* Скора; зараз. Пачакай трохі, я зара прыду. *Ст. С.*

ЗАРА'НЕ (заранё) *прысл.* Загадзя, зараней.

Каб заранё сказаў, мог бы прынясьці, а так ні ўсьпеў. *Зл.*

ЗАРВА'ЦЬ, -рвé *зак, безас.* Зацяць. Як углéдзяў міне, то *яг* зарвáло, а то ўсё хвалі́ўсё і хвалі́ўсё. *Гр.*

ЗАСВЯ'ДЧЫЦЬ (засьвя́ччыць), -вя́ччу, -вя́ччыш *зак.* Пасведчыць, засведчыць. Як засвя́чу, то і цябé, злыдухá, пасáдзяць. *Ст. С.*

ЗАСІНІ'ЦЬ, -ю, -іш *зак.* Забяліць у надта недастатковай ступені. Аднó засініла — і еш, кáжа, зацéрку. Хай самá есьць! *Гр.*

ЗА'СМАРГА, -аў *ж.* 1. Своеасаблівы вузел, зашмарга. Зáсмаргу лёхко разьвязáць. *Кр.* 2. *перан.* Пятля. Каб яго зáсмарга ўзялá, як ён усё забрáў. *Ст. С.*

ЗАСМАРГНУ'ЦЬ, -нý, -éш *зак.* 1. Завязаць зашмаргай. *Кр.* 2. Зацісну́ць пятлю. Засмаргну́ць мацнéй трэ́ба, а то пятля́ атхóдзіць. *Гр.*

ЗАСТЭ'МПЕЦ (застэ́мпяц) -пцаў *м.* 1. *устар.* Наместнік. Нéкалі ён быў застэ́мпцам судзьі. *Дзяр.* 2. *жартаўл.* Наместнік. Хай мой застэ́мпяц кáжа, я паслу́хаю. *Гр.*

ЗАТНУ'ЦЦА, -éцца *зак.* Занатурыцца (пра каня). *Гр.*

ЗАТРУСІ'ЦЬ, -ушý,- у́сіш *зак.* Запарушыць. От трóхі сьмéцё затрусіў сьнех. *Вар.*

ЗАТУ'РЫЦЬ, -у, -ыш *зак.* жартаўл. Занесці. Лéдзьвя затýрылі, гэ́дулькі каўбáс у рáшку наклáлі. *Гр.*

ЗА'ТХЛЯ *ж.* Затхласць. Хоць ты ў хáту тýю ні захóць, зáтхля такáя. *Гр.*

ЗАЎСЮ'ДЫ *прысл.* Заўсёды, увесь час. Ён заўсю́ды такі нівясёлы быў. *Св.*

ЗА'ЎША *прысл.* Заўсёды. Зáўша хутчэ́й за ўсіх паéсьць і ішчэ́ паглядáя. *Зл.*

ЗАФУНДАВА'ЦЬ, -ду́ю, -ду́яш *зак. зламоўн.* Пачаставаць. Каб зафундава́ў, то памо́г бы, так ні хо́ча. *Едн.*

ЗАХВЭ'НДАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак.* 1. Запэцкацца, забрындацца (пра ніжнюю частку адзення). Захвэ́ндалася, паку́ль свіня́м падава́ла. *Гр.* 2. *незад.* Стаміцца. Чы́сто захвэ́ндалася за рабо́таю, хадзіць ні магу́, но́гі запля́та́юцца. *Вар.*

ЗАЦЕ'РКА *ж.* Страва з перацёртай мукі, зацірка. Заце́ркі звары́ла. *Гр.*

ЗАЦЁ'РЫЧ, -аў *м.* Прылада, якой робяць выразы (для дна) у драўлянай пасудзіне. *Кр., Ст. С.*

ЗАЦІ'НЛІВЫ *прым.* Наравісты (пра коней). Мно́го ні кладзі: конь зацінлівы, яг затне́цца, скіняш усе́, а ён — ні з ме́сца. *Ст. С.*

ЗАЦУ'ГАЦЬ, -аю, -аяш *зак. асудж.* Занасіць, запэцкаць носячы (пра адзенне). От зацу́гаў саро́чку: чо́рна, як зямля́. Хале́ра яе́ адмы́я. *Гр.*

ЗАШМУ'ЛЕНІК (зашму́лянік), -аў *м. асудж.* Той, хто ходзіць у брудным, заношаным адзенні. С ха́ты ні пу́сьцімо, як ні пярадзе́няцца зашму́лянік гэ́ты. *Пл.*

ЗАШЧЫМІ'ЦЬ, -млю́, -міш *зак.* Сціснуць (кулакі, зубы). Зашчымі́ў кула́к і со́ваяцца біцца. *Угр.* Яг зашчы́міць зу́бы — от страшны ро́біцца. *Гр.*

ЗАШЫПУ'ЛІЦЦА, -люсё, -лісься *зак. жартаўл.* Забрацца ў цесны куток, зашыцца. Не́лзя зашыпу́ліцца, і папро́буй знайдзі яго́. *Гр.*

ЗБА'БЕЦЬ (зба́бяць), -яю, -яяш *зак.* Звянуць, пакарабаціцца (пра бульбу, грушы). Ра́но абабра́лі, так ні пры́ле́жалі, адно зба́бялі —

нісмáшныя грýшы! *Пл.* Цяпло́ ў хáці, так збáбялі картóплі. *Гр.*

ЗБАБО'ЎЧЫЦЬ, -у, -ыш *зак. зламоўн.* Ударыць чым цяжкім. Свіны́м мялам яг збабóўчыла, гаш закульгáў. *Ст. С.*

ЗБАМБЕ'РЫЦЬ, -у, -ыш *зак. незад. 1.* Падняць цяжкое (на плечы, на воз). Лéдзьвя збамбéрылі трайіх камéль тоі́ на пярадóк. *Ст. С.* 2. Спухнуць. Усю́ рýку збамбéрыло, мýсіць, заражэ́нё. *Гр.*

ЗБЛАЖА'ЦЬ, -áю, -áяш *зак.* Пахуднець. Зблажáў за хварóбу, а так быў сы́ты. *Вар.*

ЗБРО'ЙНЫ *прым.* Задзірысты. О, ён збрóйны, зь йім ні патаварышкýяш дóўго. *Даўг.*

ЗБРУХІТА'ЦЬ, -хічаш, -хіча *зак. непаш.* Стаптаць (пра жывёлу). Ноч ні даглядáў, так чы́сто збрухітáлі тоі́ хвост картóпяль. *Гал.*

ЗБРЫ'ДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *зак.* З'ганіць, зляяць, нарабіць брыдкасці. Лéпяй ты ягó ні зачапáй, а то збры́дзіць. *Ал.*

ЗБРЫ'ДНУЦЬ, -у, -яш *зак.* Надакучыць, збрыдзець. Збры́дня казáць, а ён ні панімáя ішчэ́. *Вальк.*

ЗБУ'РЫЦЦА, -русё, -рысься *зак. непаш.* Сабрацца, нечакана кінуцца што зрабіць. Чагó вы збýрыліся ўсе? Пасядзéця ішчэ́! *Кр.* Дзе ты йіх асáдзіш, яг збýрыліся дахáты. *Гр.*

ЗБУ'ТЛЕЦЬ (збýтляць), -ляя *зак.* Збуцвець. На балóці чы́сто збýтляла дзяравіна. *Даўг.*

ЗБЫТКАВА'ЦЬ, -ткýю, -ткýяш *незак.* Жартаваць. Хай збыткýюць, рас ні злуé. *Гр.* Зь ягó мóжно збыткавáць, ён ні злуé. *Ал.*

З'БЫ'ТКІ, -аў толькі *мн.* Жарт. Усé збы́ткі стрóйіць з малóго. *Ал.* І ён збы́ткі лю́біць. *Кр.*

ЗВАГАВА'ЦЬ, *-гýю, -гýяш зак. незад.* 1. Пад-

няць. Халéра яé звагýя адзін, такýю штýку, трэ, каб чалавéк с п'яць. *Гр.* 2. Разбудзіць. Дзе ягó звагýяш, сáмо разаспáўсё! *Ал.*

ЗВАЛЯ'ЦЬ, -яю, -яяш *зак. асудж.* Зрабіць непрыгодным, запэцкаць, не носячы. Ішчэ навюткі пінджáк, а зваляў, глядзéць німá на што. *Гал.*

ЗВАНО'ЧКІ, -аў *адз.* з в а н о́ ч а к *м.* Званец (расліна). *Гр.*

ЗВОН, -оў *м.* Частка драўлянага вобада (у коле воза). З гэтае чачóткі дóбры звон бýдзя, якрáз дзьве сьпіцы захвáціць. *Ст. С.*

ЗВУЧЫ'ЦЬ, -ý, -ыш *зак.* Прывучыць. Як звучылі цялý с пáльцаў ссаць, так і ні хóча інáчай. *Св.*

ЗВЯГАВА'ЦЬ (зьвягавáць), -гýю, -гуяш *незак.* Звягаць. Нéшто сабáка зьвягýя, мо дзе хто ідзé да нас? *Кр.* Зьвягýй ні зьвягýй — ніхтó цябé ні слýхая. *Вар.*

ЗВЯЗЦІ' (зьвясьці), -у, -еш *зламоўн.* Ударыць. Каб зьвёс палéнам, то ні скакáў бы, як пятýх, біцца. *Гр.*

ЗГАМБАВА'ЦЬ, -бýю, -бýяш *зак.* Зганьбаваць. Такія яблыкі згамбавáў! Лéпшых ні бýдзя! *Кр.*

ЗГА'ПІЦЬ, -плю, -піш *зак.* Празяваць. О, згáпіў, што прадáў паршукá за такія грóшы. Сéні бóляй узяў бы. *Даўг.*

ЗГО'МТАНАЕ (згóмтано) *дзеепрым.* Нязгорнутае, кінутае абы-як, скамечанае. Дзе янó ні патрэцца, яг згóмтано ляжáло, усé пакамячано, прасавáць трэба. *Гал.*

ЗГО'МТАЦЬ, -аю, -аяш *зак. асудж.* Пакласці абы-як, не згарнуўшы. Німá, каб акурáт-

нянько згарнýла і палажыла, а згóмтая і кіня, то дзе янó ні пакамячыцца. *Пл.*

ЗГРЫ'БЧЫЦЬ (згрыпчыць), -у, -ыш *зак. жартаўл.* Узяць (у розн. знач.). Дóбру дзéўку ты згрыпчыў сабé! *Кр.* Згрыпчыць і ні ўглéдзіш — па грóшах бýдзя. *Ал.*

ЗДАРАВІНЯ' *м.* і *ж.* Здаравяка. Нуй здаравіня той Ёзік! *Гр.*

ЗДАРО'Е (здарóё) *н.* Здароўе. Німá здарóя. *Гр.*

ЗДА'ЎНІЦЦА *зак. безас.* Прайсці многа часу. Калі гэто былó? Здáўніласё — і мы ні пóмнім. *Яр.*

ЗДЫМА'ЦЬ, -áя *незак. безас.* Енчыць.. Чагó вас здымáя? *Даўг.*

ЗДЫ'РДЗІЦЦА, -джусё, -дзісься *зак. груб.* Памерці. А ты, дýмаяш, век жыцімяш? Парá прыдзя — здырдзісься. *Кр.*

ЗДЫХ *м.* Здыханне, здыхата. Нéкі здых напáў на сьвіня. *Ал.*

ЗДЫХЛЯ'К, -оў *м. зняважл.* Худы, хваравіты чалавек; здыхля. Есьць і ягó есьць, здыхляк гэты. *Пл.*

ЗЕГРАЧЫ' (зяграчэ), -оў *толькі мн. груб.* Вочы. Заліў зяграчэ і нікóго ні бáчыць. От п'яніцы кусóк! *Кр.*

ЗЕ'ГРЫ (зéгра), -аў *толькі мн. груб.* Вочы. Зéгра вылупіў на яé і éнчыць. *Вар.*

ЗЕЛЯНІ'ЦЫ (зяляніцы), -аў *адз.* зеляніца *ж.* Зялёнкі (грыбы). *Едн.*

ЗЕЛЯНЦО'ВЫ (зялянцóвы) *прым.* Колеру зеляніны, зелянковы. Зелянцóвы касыцюм. Бáло, усé салдáты зашчытны казáлі. *Гал.*

ЗЕ'МКА *ж. пяшчотн.* Зямля, земляная пад-

лога. Ідзі, сынку, на зёмку, хай мацяры рукі трохі адыдуць ат цябе. *Ст. С.*

ЗЖЫЦЬ (жжыць), -ыву́, -ывёш *зак.* Пражыць. От, век жжыў, а нічо́го ні ба́чыў, нідзе ні быў. *Гал.*

З-ЗА: ◊ З-за паго́ды — пакуль пагода. До́бро, што з-за паго́ды сёно ўвабра́лі. *Гр.*

ЗЗА'МАЛАДУ *прысл.* Замалада. Прывык зза́маладу да акура́тнасьці — і цяпёр натто акура́тны мушчы́на. *Яр.*

ЗЛАЖЫ'ЦЬ I, -ў, -ыш *зак.* Адзець. Злажы́ но́выя ганавіцы, рубашку, як на кярма́ш паёдзяш. *Гр.*

ЗЛАЖЫ'ЦЬ II: ◊ Злажы́ць во́кам — задрамаць. *Гр.*

ЗЛАПА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *зак.* Зла́віць. Ку́рыцу сьвіня́ злапа́ла і чуць ні задушы́ла. *Кар.*

ЗЛЕ'ЦІЦЦА (зьлёціцца) *толькі ў 3 ас. зак.* Зрабіцца крыху цёплым, падагрэцца. Хай вада́ зьлёціцца, пайду́ пла́цё намачу́. *Св.*

ЗЛЫ'ГАЦЬ, -яш, -я *зак.* З'есці (пра гусей). Раз-два́ злы́галі і іщчэ дзюбы панастаўля́лі — дава́й. *Гр.*

ЗЛЫДУ'Х, -о́ў *м.* Злыдзень. Тако́го злыдуха́ іщчэ ні ба́чылі на сьвёці. *Пл.*

ЗМАЛЯНКО'СЦІ (змалянко́сьці) *прысл.* Змалку, змаленства, з дзіцячых год. Ён і змалянко́сьці ўсё нёкі здо́хлы. *Дзяр.* Яшчэ змалянко́сьці до́бро по́мню ўсё гэто. *Кар.*

ЗМАНУ'ЦЬ, -у́, -ёш *зак. непаш.* Звыкнуць, уцягнуцца ў што. *Яг* зману́ў по́начы чыта́ць, так і ні хо́ча аго́нь запа́льваць. *Ст. С.*

ЗМАХЛЯВА'ЦЬ, -лю́ю, лю́яш *зак.* Сказаць няпраўду, сылгаць, схлусіць. Сло́ва ні ска́жа пра́ўды, каб ні змахлява́ў. *Гр.*

ЗМЫ'ЛЬНІК, -аў *м*. 1. Змылак (кусочак мыла). *Кр*. 2. Кубачак для брыцця. У змы́льніку мы́ла німа́, быў малёнькі змы́льнік, і той змы́лілі. *Кр*.

ЗНАТУ'РАНЫ *дзеепрым*. Натурысты, натурлівы. Знату́раны конь, мно́го ні пало́жыш — затнёцца і ні з мёсца, хоць забі́ яго́. *Вар*.

ЗНАТУ'РЫЦЬ, -у, -ыш *зак*. Знаравіць. Так знату́рылі, што конь гэ́ты цэ́ню сваі́го́ байіцца. *Пл*.

ЗНАЧЫ'ЦЦА *незак*. Каро́ва значы́цца — ху́тко ацёліцца. *Гр*.

ЗНЯБО'ЖЫЦЦА (зьнібо́жыцца), -усё, -ысься *зак*. Прыняць пакорны выгляд. Зьнібо́жыўсё і сядзіць, бёдны, як яго́ ўсяро́ўно і німа тут. *Ст. С*.

ЗО'БКА (зо́пка), -аў *ж*. Аброчная торба. У зо́пку сёчкі каню́ набра́ў. *Вальк*.

ЗРАКЧЫ', -у́, -чэ́ш *зак*. Сурочыць, урачы. Ка́жуць, яна́ мо́жа зракчы́ дзіця́. *Вар*.

ЗРА'НЯ *прысл*. Зранку. Зра́ня дошч, а ўдзень паго́да. *Ст. С*.

ЗРУ'ШАНЫ *прым*. Надарваны (пра чалавека). Яму́ німо́жно ця́жко рабіць: зру́шаны. *Угр*.

ЗУБА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак*. Вызначаць мацунак яйца, стукаючы аб зубы. Зуба́й ні зуба́й, а маё мацнёйшо яйцо́. *Пл*.

ЗУХАВА'ТЫ *прым*. Фанабэрысты, задавака. О, ён быля с кім дружы́ць ні бу́дзя — зухава́ты такі́. *Кр*. Лядзі, як нос задра́ў — зухава́ты на́тто. *Гр*.

ЗУХАВА'ЦЦА, -ху́юсё, -ху́ясься *незак*. Задавацца, фанабэрыцца. Цяпёр до́бры, а пато́м ста́ня зухава́цца — ні падысьці́ бу́дзя. *Св*.

ЗЫСК *м.* Выгода, карысць. Раз зыску німа́, то хто яе́ (грэчку) се́яцімя? *Гр.*

ЗЯБЛЕ́ННЕ (зябле́не̂) *н.* Зяблівае ворыва. Як пачне́цца зябле́нё, ні бу́дзя ча́су на другое. *Кр.*

ЗЯ́БЛЯ *ж.* Зябліва. *Гр.*

ЗЯВА́ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак. пагардл.* Абгаворваць. Нашто́, каб на цябе́ зява́лі, што ты чужо́ё ко́сіш. *Ал.*

ЗЯГРА́ТЫ *прым.* 1. З вялікімі вачыма, зыркаты. Мало́ё, а зяграто, яг ба́цько. *Вальк.* 2. Буйны (пра семя). Мо і до́бры лён уро́дзіць, нат не́ко зягра́то насе́нё. *Гр.*

ЗЯГРА́Ч, -оў *м. груб.* З вялікімі вачыма. Ог ве́лькія во́чы — зягра́ч не́кі. *Вальк.*

ЗЯЛЕ́ПУХА, -аў *ж.* незад. Недаспелая ягада (груша, яблык). Як наясіся зяле́пухаў, жыватом бу́дзяш кача́цца,— яны́ шко́дзяць. *Гр.* 2. *зняважл.* Хваравіты чалавек. Ні есьць нічагу́тко зяле́пуха гэта. *Кр.*

ЗЯРНЯ́, -ятаў *н.* 1. Каліва (асобнае зерне). Па тры зярня́ці ў адно́ ме́сцо кладзём, як са́дзімо. *Кр.* 2. Ядро. Пусты́я гарэ́хі не́кія, самы́я ве́лькія, а зярня́ мало́ё. *Ст. С.* Вы́лушчы зярня́ хло́пцу. *Гр.*

ЗЯЦЮ́ЛЯ (зяцю́лё), -яў *м. зняважл.* Зяць. Гэто ўсё твой зяцю́лё нарабіў, злыду́х! *Вальк.*

# І

ІГЛІ́ЦА, -аў *ж.* Планка (у табурэтцы, стале), яе прыбіваюць упоперак асноўнай на месцы адтуліны для ножкі. *Гр.*

І́МЕННА (ні́мянно) *прысл.* Абавязкова. Нака́зваў ба́цько, каб ні́мянно прышо́ў. *Гр.*

ІМЛЕ'ЦЬ (йімлéць), -іць *незак.* Імжэць. От, дажджу́ вéлькаго німá, так йімліць трóхо. *Вар.*

І'МПАТ (йімпат) *м.* 1. Спецыфічны дух. Ні магу́ ў хáту зайсьці, дзе нібóшчык — йімпату ні пяранóшу. *Ст. С.* 2. Парыў (паветру). Йімпатам забіло Грыбіну, яг гром грымéў. *Гр.*

ІНА'ЧШЫ *займ.* Інакшы. Ні хóча інáчшаго, аднó такóго давáй ямý пінджакá. *Ал.*

І'ЎЧЫК (йіўчык), -аў *м.* Назва птушкі. Гэты йіўчык ўсé кáжа: іў-чык — іўчык-чык; жывé ў балóці. *Кр.*

## К

КАБЫ'ЛА, -óў *ж.* Свінушка (грыб). *Кр.*

КАБЫЛІ'ЦЫ, -аў *адз.* кабыліца *ж.* Від грыбоў — свінушкі. Карычнявыя такія казякé, кáлачіня растýць. *Гр.*

КАВА'ЛАК *м.* Узмацняльнае слова, ужываецца пры адмоўнай характарыстыцы асобы. От кавáлак дýрня, каб гэдыкім быць! *Гр.* Кавáлак арыштáнта, і гóдзі! *Ст. С.*

КАВАЛЯРЫ'СТЫ *м.* Коннік. Стрэціў кавалярыстаго, то казáў, бáчыў бáцька твайгó ў лéсі. *Кр.*

КАВА'ЦЬ, куé *незак.* Кукаваць. Зязюля куé — ужэ цяплó стáло. *Гр.*

КА'ДРЫ *жартаўл.* *толькі мн.* Кадрыля (танец). Іграй, музыкáнт, кáдры, чатэ́ры пáры ўжэ éсьцяка. *Ст. С.*

КАЖНЮ'ТКІ *займ.* *узмацн.* Кожны. Кажнюткі дзень ідзé і ідзé (снег). *Ал.*

КАЗА' І, -аў *ж.* Мерка — збітыя ў форме літары. А калы — для вымярэння плошчы. Бры-

гадзір с казо́ю ідзе́, то паме́рая, ко́лькі выжалі. *Вар.*

КАЗА′ II *ж.* Недажатая палоска. А хто тут жаў? Чаму́ каза́ стаіііць, га? *Вар.*

КАЗА′К *м.* Гатунак высокаўраджайнага аўса. *Гр.*

КАЗМЯРО′ЎКА (казьмяро́ўка), -аў і -вак *ж. устар.* Хустка з кашаміру. От харо́шу казьмяро́ўку ба́ба мая́ пака́звала. *Дзяр.*

КАЗЯКІ′ (казяке́), -о́ў *толькі мн.* Грыбы (агульная назва). Пайшо́ў па казяке́, мо і грыба дзе знойдзя, але лісіцаў то назьбіра́я. *Гр.*

КАЕ′Т, -аў *м. устар.* Сшытак. *Зл.*

КА′ЛА *прыназ.* Каля, ля. Ка́ла ха́ты быў. *Гр.*

КАЛАШМА′Ч, -оў *м.* Калашман (пра чалавека ў шырокіх доўгіх штанах). *Гр.*

КАЛДО′БА, -аў *ж.* Выбоіна, калдобіна. Калдо́ба глыбо́ка, чуць вос ні пяравярну́ўсё. *Св.*

КАЛЕ′ЙКА, -аў *ж.* Чарга. У кале́йку ста́лі. *Дайг.*

КАЛЕ′Я, -яў *ж.* Чыгунка. Чутно́, як по́яст ідзе́, кале́я нідале́ко. *Вар.*

КАЛІЗ'АВА′ННЕ (калізава́нё) *н.* Пастрыганне пладовых дрэў. Каб ні калізава́нё, дзе ты нос усадзіў бы я́блыко абарва́ць? *Гал.*

КАЛІЗАВА′ЦЬ, -зу́ю, -зу́яш *незак.* Пастрыгаць пладовыя дрэвы. На́тто зарасла́, трэ́ба калізава́ць, а то зьдзіча́я гру́ша. *Гал.*

КАЛО′ДЗІСЬ, -яў *м.* Калодзеж, студня. Да кало́дзіся пайшла́ во́ду браць. *Гр.*

КАЛО′Ш, -аў *м.* Галёш. Кало́ш у гразі заста́ўсё, го́лым ва́лянкам ступа́ю. *Дайг.*

КАЛО′ША, -аў *ж.* Абмотка з анучы на ніжнюю частку (ад калена) нагі; носяць у час

жніва. Бяс калóш усé лы́ткі паапóрвала рыжы́шчам. *Гр.*

ҚАЛУБЕ′ЛЬ, -яў *ж.* Дзіцячы ложачак (рознай формы, які стаіць і які вісіць). Қалубéль павéсіла пад бэльку, праду́ і калышу́ нагóю. *Гр.*

ҚА′ЛУШ, -аў *м.* і *ж.* *грэбл.* Няўмека. Қáлуш нéка, нічóго звары́ць лю́цко ні мóжа. *Ст. С.*

ҚА′ЛЬВА (кáльво), -аў *н.* Қаліва. *Даўг.*

ҚАЛЯДА′ *ж.* *жартаўл.* Назва адкормленага кабана, якога колюць на каляды. Қалядá дóбра вы́расла, каўбáс нарóбім мнóго. *Гр.*

ҚАЛЯ′ДНІҚ, -аў *м.* Тое, што і к а л я д а. Қаля́дніка закалóлі на кóляды. *Ст. С.*

ҚАЛЯ′НАЧКА, -чак і -каў *ж.* *пяшчотл.* Скрылёк (каўбасы, морквы). Қаля́начку каўбасы́ зьзеў. *Пл.*

ҚАЛЯ′НКА, -нак і -каў *ж.* Скрылёк (каўбасы, морквы, яблыка); мае форму круга (кола). Мо і я каля́нку мóрквы схру́мстаю, яг зу́бы ні балéцімуць. *Гр.*

ҚАЛЯСНА′Я *ж.* Қалёсны шлях, дарога. Як пачнéцца вяснá, то і каляснóю прывязéм гэту штýку, нідзé янá ні падзéняцца. *Кр.*

ҚАМІНО′Қ, -нкóў *м.* Выступ на коміне (на ім захоўваюць запалкі). Запáлкі на камінку́, бяры́ агóнь запáльвай, а то цéмно ўжэ. *Ст. С.*

ҚАМІСА′ЦЫЯ, -яў *ж.* *устар.* Хутарызацыя. Қамісáцыя, таму́ і вы́слалі на ху́тар жыць. *Зл.*

ҚАМЛУ′Қ, -оў *м.* 1. Восілка ў кашалі. Пат сáмы камлу́к картóпяль насы́паў у кашэ́ль. *Ст. С.* 2. Дужка ў баране. Қамлу́к ялаўцóвы да бараны́ рабіў, каб ні так ламáўсё ху́тко. *Гр.* Параўн.: к а б л у к (у 1 знач.) — в. *Альшаны Карэліцкага раёна.*

КАМО'РКА, -аў *ж.* Памяшканне пры сенях для захоўвання агародніны; паралельна ўжываецца с ц ё п к а (гл.). Брўшка ў камо́рцы на картоплях у куце́ ляжыць. *Гр.*

КАНАПЛЯ'НІСКА (канапля́ніоко) *н.* Поле, на якім раслі каноплі. *Гр.* Паралельна бытуе і к а н а п л я н і ш ч а.

КАНАПЛЯ'НКА, -аў і -нак *ж.* Хустка (сярэдняга памеру, з моцнага матэрыялу). Канапля́нку на хўсцы завя́зваюць, кап цяплей было́. *Ст. С.*

КАНДЭ'Т: р а б і ц ь н а к а н д э́ т — на скорую руку, абы-як, на тандэт. Дзе яны́ насіцімуць, чаравікі гэтыя, рас на кандэ́т ро́бляныя. *Ал.*

КАНДЭ'ТНЫ *прым.* Недабраякасны, тандэтны — зроблены на скорую руку, абы-як. Каб ні кандэ́тны, мо і купіў бы. *Гр.*

КАНЧА' -а́ці (*адз.*) *н. непаш.* Конь. Німа́ніякага канча́ці, але́ і гэто ні конь. *Ст. С.*

КАНЯНЯ', -я́ці (*адз.*) *н.* Каняка. Тако́е каняня́ я б і зада́рам ні браў. *Гр.*

КА'ПА, -аў *ж.* 1. Капа. *Кр.* 2. Скураное покрыва хамута. *Гр.*

КАПА'ННІК (капа́ньнік), -аў *м.* Той, хто капае бульбу. *Даўг.*

КАПА'ННІЦА (капа́ньніца), -аў *ж.* Жанчына, якая капае бульбу. Капа́ньніцаў зь дзе́сяць прышло́, то раз-два́ выкапаям карто́плі. *Вар.*

КАПА'ЧКА, -аў *ж.* Прылада для капання бульбы; капач. Бяс капа́чкі, рука́мі у нас ніхто́ ні капа́я карто́пяль. *Кр.*

КАПЕ'Ж I (капе́ш), -оў *м.* Коптар. Дзе я выям: цэлу міску с капяжо́м гэтае ка́шы накла́ла. *Вар.*

КАПЕ'Ж II *м*. Стрэшка ў яме (гл.). Трэ капёш направіць, каб у яму сьнегу ні надуло ў картоплі. *Кр*.

КА'ПЕЛЬКУ (капяльку) *прысл*. Трошкі. Пачакай капяльку, хутко буду. *Яр*.

КАПІ'ЦА, -аў *ж*. 1. Капа (сена). Пяць капіцаў накасіў з грутка таго. *Угр*. 2. *перан. іран*. Тоўстая, мажная. От капіца гэта, як села, так на ўсю драбу. *Гр*.

КАПО'ТА, -аў *ж*. Плашч з даматканага сукна. На кажух капоту нацягні, каб дошч ні прамачыў. *Св*.

КАПТА'Н НА КАЖУ'СЕ. Шуба. Зімою, кап цяплей было, каптан на кажусі апратваю. *Вар*.

КАПУ'ЗА, -аў *ж. грэбл*. Вялікая неакуратная шапка. Халера яе насіцімя, капузу. *Гр*.

КАПУ'СНІК (капусьнік), -аў *м*. Поле (агарод), дзе расце капуста. На капусьнік гною забракавало. *Даўг*.

КАРАБАВА'ТЫ *прым*. Карабаты. Груша збабяла, карабавата стала. *Яр*.

КАРАВА'ЙНІЦА, -аў *ж*. Жанчына, якая робіць каравай. Ужэ каравайніцы прышлі каравай гібаць. *Гр*.

КАРАВУ'ЛІЦЬ, -ю, -іш *незак*. Пільнаваць, вартаваць. *Дзяр*.

КАРА'ННЕ (каранё) *н*. Пакаранне. Тваё каранё нічого ні паможа, лепяй угаворвай дзіцяй. *Кр*.

КАРАЎЛО'ДАК, -дкаў *м*. Калаўрот. На караўлодак прадзе. *Гал*.

КАРАЧЫ' (карачэ), -оў *толькі мн*. Карачкі. На карачох лазіць пападлавічу. *Ст. С*.

КАРНО'ТКІ *прым. устар*. Кароткі. Некі карноткі стаў твой кажух. *Гр*.

КАРО'СТА *ж.* Дробная кастрыца (льну). Каро́сты мно́го натрапа́ла з льну. *Ст. С.*

КАРТАПЛЕ'ННЕ (картапле́нё і картафле́нё) *н.* 1. *зборн.* Сцябло і лісце бульбы, бульбоўнік. Картапле́нё жнем на корм. *Вар.* 2. Поле, дзе расла бульба. Па картапле́ні пшаніцу се́ям. *Гр.*

КАРТАПЛЯ'НІК, -аў *м.* 1. Блінец з бульбы. *Едн.* 2. *неран. жартаўл.* Той, хто любіць бульбяныя блінцы. *Св.*

КАРТАПЛЯ'НІСКА (картапля́ніско і картафля́ніско) *н.* Поле, дзе расла бульба. *Вальк.*

КАРТАПЛЯ'НІШЧА (картапля́нішчо) *н.* Тое, што і к а р т а п л я н і с к а. Па картапля́нішчы до́бро ўсё ро́дзіць. *Ал.*

КАРТО'ПЛІ, -пяль і -яў, *толькі мн.* Бульба. Як до́бро зямля́ ўгрэ́яцца, тагды́ карто́плі са́дзяць. *Кр.*

КАРТО'ПЛЯ, -пяль і -яў *ж.* Бульбіна. Карто́плі ні аднае́ ні падня́ў, а ўжэ е́сьці захацэ́ў. *Дзяр.*

КАРЫ'ТА (кары́то), -аў *н. перан. іран.* Пра мурзатае дзіця. Куды́ за стол садзіць, кары́то тако́ё, хай ідзе́ памы́яцца. *Вальк.*

КАРЭ'МІСЛА (карэ́місло), -аў *н.* Каромысел. *Даўг.*

КАСА' -аў *ж.* Прамень (сонца). Со́нцо ко́сы ў во́кна папуска́ло, а ты сьпіш! *Ал.*

КАСЕ'ННЕ (касе́нё) *н.* Касьба. Яко́ё касе́нё дажджо́м! *Св.*

КАСІ'ЛЬНЯ (касі́льнё), -яў *н.* Дзяржанне касы, кассё. *Гр.*

КА'СЛАЎКА, -аў і -вак *ж.* Пасма (льну). Мо і я да ве́чару ка́слаўку яку́ю льну сатру́. *Ст. С.*

КАСЦЯ'НКІ (касьця́нкі), -аў *зборн*. Касцяніцы (ягады): *Кр*.

КАТА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак*. Даставаць мёд з рамак з дапамогай цэнтрыфугі. *Яр*.

КАЎГА'Н, -о́ў *м.* і *ж.* *абразл*. Няўмека, нячысты. Што яна́ табе́ люцко зва́рыць е́сьці, каўга́н гэта. *Гр*. Параўн.: к а ў г а ц ь — няўмела, з неахвотай мыць — в. *Лукі Карэліцкага раёна*.

КАЎНЕ'РЫК, -аў *м*. Манжэта. Каўне́рык кала рукі̀, а каўне́р кала шы́йі. *Едн*.

КАЦАЛА'ПЫ *прым*. 1. Касалапы, крывалапы. *Гр*. 2. *перан*. *асудж*. Той, у каго ўсёваліцца з рук. Ні дава́й гэтаму кацала́паму, а то і гэ́ты спо́дак разаб'е́. *Гр*.

КА'ЦПАН, -аў *м.* і *ж.* *зняважл*. Нярашлівы, няўмека. Нічагу́тко, як чалаве́к, ні зро́біць ка́цпан гэты. *Ст. С*.

КАЦУБА' *м.* і *ж.* *асудж*. Той, у каго ўсё з рук валіцца. От, кацуба́, усе палміскі паразьбіва́ла. *Вар*.

КАЦЫ'-КАЦЫ'! *выкл*. Кіц-кіц. *Вальк*.

КАЦЮ'ТЫ, -аў 1. *толькі мн*. Ладачкі (гульня). *Кр*. 2. *адз*. Кацюта *ж*. *грэбл*. Канечнасці. Чаго́ кацю́ты вы́цягнуў — ні прайсці? *Гр*.

КАЧА'Н, -о́ў *м*. Катах (кукурузы). Какару́за нат расьце́, а качанэ́ ні сьпе́юць. *Зл*.

КАЧА'НІК, -аў *м*. Спелы арэх, які сам вылузваецца. Адны́х кача́нікаў то́рбу нарва́ў. *Ст. С*.

КАЧАРГЕ'ШНІК, -аў *м*. Куток ля печы для пячных прылад; качарэжнік. *Гр*.

КАЧА'ЦЦА, -а́юсё, -а́яського *незак*. Мерацца сілаю, дужацца. Нашто́ мне кача́цца, я і так ве́даю, што ты міне́ пако́ціш. Ты ду́жайшы. *Ст. С*.

КАЧО'ЛАЧКА, -аў *ж.* 1. *пяшчотл.* Кацёлка, *Св.* 2. Шпулька (нітак). Качолачкі ні хваціць на пальто. *Вар.*

КАЧО'ЛКА, -аў *ж.* 1. Дыск, круг (з дрэва), кацёлка. *Гр.* 2. Гульня, калі адны пускаюць, а другія спыняюць (дошкаю) кацёлку. *Вар.* 3. *перан. іран.* Пра дужую, рухавую жанчыну. Яна табе вёрст зь дзесяць пройдзя — качолка гэта. *Ст. С.*

КАШАРЫ'ЦЦА, -усё, -ысься *незак. асудж.* Мыцца (занадта многа і старанна). Годзі табе ўжэ кашарыцца, а то варона ўглёдзіць. *Кр.*

КАШАРЫ'ЦЬ, -у, -ыш *незак.* 1. *незад.* Мыць. Сам ўсё кашарыць. А жонка нашто? *Гр.* 2. *іран.* Гатаваць. От ён табе накашарыць. Вары лепяй сама. *Ст. С.*

КАШУТА' *ж.* Перхаць. Даўно ні мыўсё, кашуты ў галаве многа. *Вар.*

КВАЦІРА'НТ, -аў *м.* Кватарант. *Гр.*

КВЯЛІ'ЦЬ, -ю, -іш *незак.* Даводзіць да слёз. Ні квялі дзіця, хай лепяй забуляяцца. *Кр.*

КЕЛБ, -аў *м.* Пячкур (рыба). Келба злавіў на чарвяка. *Едн.*

КІ'ДКІ (кіткі) *прым.* Спраўны (чалавек). Каб які кіткі чалавек, то ні валяліся п і гэтыя яблыкі, даў бы рады і йім. *Ст. С.*

КІЛА'ВЫ *прым.* Хворы грыжай, з кілой. Кіламу німожно цяшко падымаць. *Пл.*

КІ'ЛЕ (кілё), -яў *н.* Кілаграм, кіло. Мо с кілё масла будзя с тае сьмятаны. *Гр.*

КІПЯ'ТАК *м.* 1. Вада пры кіпенні; вар. *Гр.* 2. *перан.* Пра надта гарачае. О, ён табе кіпятак есьцімя, ні байіцца гарачаго. *Ст. С.*

КІРАУНІ'ЦА, -аў *ж.* Руль (веласіпеда). От

навучыўсё ездзіць! Ногі на кіраўніцу і бяз рук едзя. *Гр.*

КІСЛО'ЦЦЕ (кіслоцё) *н.* Кісляціна. У жываце рэжа ат кіслоця гэтаго. *Ст. С.*

КІ'ЦА, -аў *ж. дзіцяч.* Кот. Кіцу сабе паймаў. *Гр.*

КІ'ШКА, -аў *ж.* 1. Хамуціна. *Кр.* 2. *перан. незад.* Камера (веласіпеда). Кішку залатаю і паеду. *Гр.*

КІШО'НКА, -аў *ж.* 1. Верхняя кішэнь у пінжаку. *Гр.* 2. Кішэнь. *Ст. С.*

КЛАДАВІ'ЦЦА, -ўлюсё, -вісься *незак.* Класціся. Ні хоча кладаўіцца спаць, то хай пасядзіць іншчэ. *Кр.*

КЛА'ДКА (клатка), -аў *ж.* Доўгае бервяно, якое кладзецца на сохі і падтрымлівае страху ў гумне. Снапоў наклаў пат саму клатку. *Ст. С.*

КЛА'СЦІ (класьці), -дў, -дзеш *незак.* Адзяваць, апранаць. Кладзі кажух, халадно стало на дварэ. *Гр.*

КЛАЧ, -оў *м.* Памазок (для пабелкі, малявання), квач. Клачом хучэй, як пэндзалям, пабеліш. *Ст. С.*

КЛЕ'ВАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Ледзь дыхаць, быць зусім нядужым; ліпець. Які ўжэ зь міне работнік, адно клеваю. *Гр.*

КЛЕЙ *м.* Жыццёвыя сілы, клёк. Такі нілюцкі, усей клей сь цябе выцягня. *Ст. С.*

КЛЕ'ШНЯ, -яў *ж.* Частка штаноў, калоша. Шырокія клешні даўней у ганавіцах рабілі. *Гр.*

КЛЕШЧ, -оў *м.* Драўляная частка хамута, клешчына. *Дзяр.*

КЛЕ'ШЧЫЦЬ, -у, -ыш *незак.* Ламаць тра-

сту (на церніцы). Перш клёшчымо, а тагды́ ўжэ трэм лён. *Ст. С.*

КЛЁК, -аў *м.* 1. Драўляная цурка цыліндрычнай формы. *Кр.* 2. Назва дзіцячай гульні; удзельнікі яе па чарзе збіваюць цурку (клёк) кінутай палкай. У клёк дзе́ці гуля́юць. *Гр.*

КЛІНЫ′ (клінэ́), -óў *толькі мн.* Прарэх, шырынка (у штанах). *Св.*

КЛО′МЛЯ, -яў *ж.* Сетка для лоўлі рыбы; трыгубіца. Кло́мляю па-за бярагóх рэ́чкі ло́вяць. *Едн.*

КЛУ′СТАСЦЬ (клу́стасьць) *ж.* Топленае (вадкае) сала, тлушч. У клу́стасьць абмача́ям блінцэ́. *Гр.*

КЛУ′СТЫ *прым.* Тлусты. *Гр.*

КЛЫ′БА *ж. непаш.* Нага. Клы́бу пацста́віў, каб я ўпаў? *Кр.*

КЛЫБА′ТЫ *прым.* Клышаногі. *Дзяр.*

КЛЫ′БАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Клыпаць, клыгаць. Нóгу прабіў і хадзі̀ць ні мóжа, клы́бая аднó. *Гр.*

КЛЫБА′Ч *м. абразл.* Клышаногі. Хай клыба́ч гэ́ты ідзе́ сам! *Св.*

КЛЫК, -óў *м.* Ікол. Клыке́ мóцныя, вярóўку зачапля́й — і паршу́к ні ўцячэ́. *Кр.*

КЛЫША′ЎКА, -аў *ж.* Клышаногая. *Дзяр.*

КЛЭ′ПАТ *м.* Клопат. Ні меў клэ́пату, та парася́ купіў, як той каза́ў. *Гр.*

КЛЮ′ЧКА, -аў *ж.* 1. Жэрдка для даставання вады з калодзежа. *Вар.* 2. *перан. пагардл.* Нос. Чагó сваю́ клю́чку зьве́сіў? *Гр.*

КЛЯ′ПА, -аў *ж.* Борт, штрыфель. Кля́пы зашырóкія ў пальце́, цяпе́рака такіх ні шы́юць *Даўг.*

КЛЯПА'ЦЬ, -плю, -пляш *незак. асудж.* Біць, лупцаваць. І чагó ты клéпляш дзіця́ гэ́то? Гэ́тым ні навýчыш. *Вар.*

КНЫ'ПЕЛЬ (кны́пяль), -пляў *м.* Палка для моцнага сціскання перавясла. Кны́плям як сціску сноп — і налéто пáльца ні пацсáдзіш паг пяравя́сло. *Гр.*

КНЫПЛЯВА'ЦЬ, -люю, -люяш *незак.* Сціскаць (кныплем — гл.), моцна звязваць (снапы). Бáло кныплявáлі аднó кулé стрэ́ху крыць. *Ст. С.*

КО'ВАРАТ, -аў *м.* Калодзежны журавель. *Гр.*

КО'ЗУБ (кóзуп), -аў *м.* Кубачак (з кары асіны) для ягад. Кóзуба зраблю́ ў лéсі, як я́гады бýдуць. *Гр.*

КО'КА (кóко), -аў *н. дзіцяч.* Бульбіна. Гарáчо кóко, у рот ні бяры́ адрáзу — вы́студзі. *Кр.*

КО'ЛКА (кóлко), -аў *н.* 1. Маленькае кола. *Ст. С.* 2. Шасцярня. Кóлко ў маняжы́ зламáласё, усé зýбы паўлятáлі. *Гр.*

КО'ЛЬБА, -аў *ж.* Ручка, якою прыводзіцца ў рух арфа, цэнтрыфуга. Кóльба ў рýку рэ́жа. *Гр.*

КО'ПА, -аў *ж.* Вялікая кучка канапель. Кóпу накры́й, каб вяраб'é ні абірáлі насéня. *Ст. С.*

КО'РАВАЦЕНЬ (кóравацянь), -тняў *м.* Калодзежны журавель. *Едн.*

КО'СЫ, -аў *толькі мн.* Валасы (наогул). Заплю́шч вóчы, а то кóсы напáдаюць, як стры́хчыму́. *Гр.*

КО'ЎТАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Глытаць (ваду) з асобым гукам пасля кожнага глытка. Як той конь — коўць-коўць — усé кóўтая. *Ст. С.*

КОЎЦЬ-КОЎЦЬ! Выклічнікавая дзеяслоўная форма ад коўтаць (гл.). *Гр.*

КОЦ, -аў *м.* Шарсцяная коўдра. Коцам накрыйся, як халадно. *Зл.*

КОШ, -оў *м.* 1. Верхняе карыта ў арфе, куды сыплюць зерне (для ачысткі). *Вар.* 2. Вялікі кашэль з накрыўкай для захоўвання сыраў (сала). *Ст. С.*

КРАВАЛО'ТАК, -аў *м.* Калаўротак. *Едн.*

КРАСЬКО' *м. жартаўл.* Пра чырванашчокага, здаровага чалавека. Дзе ён хворы, красько такі! *Гр.*

КРУГ (крух), -оў *м.* Абажур (у лямпе-газоўцы). Крух задымеў у лямпі, трэ працерці. *Вар.*

КРУГА' 1. *прыназ.* Кругом. Круга стала бегаць. *Гр.* 2. *прысл.* Кругом. *Кр.*

КРУГЛАВІ'ДЫ *прым.* Круглатвары. Як месяц у поўні — кавалер твой круглавіды. *Ст. С.*

КРУК, -оў *м.* 1. Крумкач. Крук, кажуць, трыста гадоў жыве, хоць падло ўсяко есьць. *Кр.* 2. *перан. іран.* Надта скупы чалавек. Крук гэты ні каплі табе ні дасць. *Гр.*

КРУ'МКАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. Квакаць. Гарох пара сеяць — жабы крумкаюць. *Вальк.* 2. *перан. асудж.* Выпрошваць. От крумкая і крумкая, каб дала яму грошай. *Ст. С.*

КРУТАВЕ'Я, -яў *ж.* Моцная мяцеліца; завіруха. Гаш у гумно сьнегу нанясло — крутавея такая. *Гр.*

КРУ'ЧАНІК, -аў *м.* 1. Кручаны сабака. Кручанік пакусаў, уколы рабілі. *Кр.* 2. *асудж.* Непаседлівы (які круціцца). От, ніяк ні пасядзіць — кручанік гэты. *Ст. С.* 3. *непаш.* Спраўны, але непаслядоўны чалавек. Ты зь ійім ні

зьвязваіся. Кручанік гэты апкруціць цябе і ні вінаваты будзя. *Гр.*

КРУЧО'К, -чкоў *м.* 1. Мера вадкасці — 1/8 літра. *Гр.* 2. Пасудзіна ёмістасцю 1/8 літра. Кручок выпіў і ўжэ п'яны. *Ст. С.*

КРЫВУ'ЛІ, -яў 1. *толькі мн.* Павозка для вывазкі лесу. Доўгу штуку на крывулях прывязём. *Гр.* 2. *адз.* крывуля *ж.* Палкі абапал задка — змацоўваюць бервяно. Крывулі ад восі з бакоў ідуць і на дзяравіні зьвязваюцца. *Гр.*

КРЫВЫ' *прым.* Незадаволены, злосны. Нешто крывы ён сёніка, ні буду прасіць, лепш другім разам. *Зл.*

КРЫ'ГА, -аў *ж.* Скіба цвёрдай зямлі. Крыгамі адвальваяцца зямля. От усохла. *Гр.*

КРЫЖО'ЎКА, -аў *ж.* Крыжавіна. На крыжоўцы стаўлю слоік у вядры, каб ні лопнуў. *Ст. С.*

КРЫКСУ'Н, -оў *м.* Крыкса. От крыксун! І ні сьціхая. *Гр.*

КРЫЛО', -аў *н.* Бакавая частка верхняга адзення (паліто, плашча, пінжака); крысо, пала. Пінджак с круглымі крыламі даўнейшылі. *Св.* Крыло адно даўжэйшо ў кажусі. *Гр.*

КРЭ'СІДЛА (крэсідло), -аў *н.* Крэсіва. *Един.*

КРЭ'СКА, -аў *ж.* Рыска, паметка. Гарачка ўхапіла —39 і тры крэскі. *Ст. С.* Неку крэску на сьнезі правёў. *Даўг.*

КРЭ'СЛА (крэсло), -аў *н.* Частка прасніцы — дошка, на якой сядзяць. *Кр.*

КРЭЧ *м.* Крык. Як нарабіў крэчу — хоць ты с хаты ўцякай. *Вальк.*

КРЭ'ЧМА *прысл.* Крыкам. Адно зачапіў, так ужэ крэчма крычыць. *Дзяр.*

КУ'БАЧАК, -чкаў *м.* 1. Вытачаная з дрэва (цыліндрычнай формы) пасудзіна з вечкам для масла. *Гр.* 2. Чашачка ў сотах. Ку́бачкі назапячатвалі пчолы — поўныя мёду. *Ст. С.*

КУ'ДАСА, -аў *ж.* Мяцеліца. Дзе ты пойдзяш на ноч ку́дасаю такою, каб дзе сьнегам засыпало! *Кр.*

КУДЗЕ'ЛЬНІЦА, -аў *ж.* Жанчына, якая прадзе кудзелю на вячорках. Яшчэ адна кудзёльніца ідзе на кудзяльніцы. *Гр.*

КУДЗЯЛЬНІ'ЦЫ, -аў *толькі мн.* Вячоркі, на якіх дзяўчаты прадуць кудзелю, спяваюць, а хлопцы — заляцаюцца. *Ст. С.*

КУД-КУДА'Х (кут-кудах)! Выклічнікавая форма ад дзеяслова кудахтаць. Ку́рыца кут-кудах — кут-кудах і паляцела з гнязда. Му́сіць, зьнясла́ся. *Гр.*

КУ'ДЛА, -аў *ж.* Распуста. Скруцілася саўсім — ку́длаю ста́ла. *Кр.*

КУЖО'ЛНЫ *прым.* Кужэльны. Кужолно палатно моцно натто. *Гр.*

КУЗ'А'КА, -аў *ж.* 1. Насякомае, кузурка. Куза́ка поўзая — і ўжэ байіцца. От палахлівая! *Гр.* 2. *перан. непаш.* Пра малое дзіця. Куза́ка, і тое цябе палохая. *Ст. С.*

КУ'КА *ж. дзіцяч.* Балячка. Ку́ку зрабіў. *Гр.*

КУ'КЛА, -аў *ж.* Метка ў жыце — звязаныя вузлом каласы. Каб ведаў, дзе твая дзялка — ку́клу завяза́ў. *Гр.*

КУЛІНА'РЧА, -аў *ж.* Кулінар-жанчына. *Гр.*

КУЛЬ, -ёў *м.* 1. Вялікая звязка лёну. Пяць кулёў льну нарва́ла. *Пл.* 2. Сноп адборнай саломы для пакрыцця страхі. Кулёў навыбіра́ў с тае біткі (снапоў). *Св.*

КУЛЬБА'КА, -аў *ж.* Частка варштата, што

прытрымлівае навой асновы (ад вярчэння). *Гр.*

КУ'ЛЬКА, -аў *ж.* Дужка на кассі. За ку́льку бярэ́сься пра́ваю руко́ю і во́дзіш касу́. *Ст. С.*

КУ'ЛЯ, -яў *ж.* Мыліца. На ку́лях хадзіў, як но́гу лячы́ў. *Кр.*

КУМЯЛЬГА'НА *прысл.:* бегчы кумяльгана — вялікімі крокамі (пра звяроў). Му́сіць, воўк, ні саба́ка, рас кумяльга́на бяжы́ць. *Кр.*

КУНА', -аў *ж.* Куніца. Куна́, ка́жуць, каню́ ко́су заплята́я і мышэ́й есьць. *Гр.*

КУНА'ДЫ, -аў *толькі мн. устар.* Бульба. Куна́ды са́дзяць, як зямля́ ады́дзя, пацяплёя. *Гр.*

КУ'НДАЛЬ, -яў *м. непаш.* Кудлаты, кудлач. *Ст. С.*

КУПЛЯ'ННІК (купля́ньнік), -аў *м.* Пакупнік. Ма́ло не́што ў вас купля́ньнікаў се́ні. *Зл.*

КУПЛЯ'ННІЦА (купля́ньніца), -аў *ж.* Пакупніца. *Дайг.*

КУ'ПЧА *ж. незад.* Купляние, купля. Ні было́ ўчо́ра ку́пчы, хай яе́ халёра. *Гр.*

КУРАЛЕ'М *прысл.* Дагары нагамі (падаць). С сто́га куралём ляцёў. *Ст. С.*

КУРА'ЎКА, -аў *ж.* 1. Недагарэлае палена. *Св.* 2. *перан. непаш.* Лямпа без шкла. Гэта кура́ўка адно́ куры́ць, трэ́ба шкло купіць. *Гр.* 3. *перан. абразл.* Неахайная жанчына. Страх глядзе́ць на ўсё ў ха́ці кура́ўкі гэтае. *Ст. С.*

КУРА'ЧНІК, -аў *м.* Хлеў для курэй, куратнік. *Гал.*

КУ'РАЧЫ *прым.* Курыны. Стаіць ха́та ў лазе́ на ку́рачай назе́. *Ст. С.* Ку́рачо мя́со лю́біць малы́. *Гр.*

КУ'РАЧЫНА *ж.* Мяса з курыцы, кураціна. *Гр.*

КУ'РНА: с а г н ý ц ь  к ý р н у — скруціць у казіны рог, перамагчы. *Гр.*

КУ'РТА *м.* і *ж.* 1. Куртаты, бясхвосты (ці з кароткім хвастом). Мой кýрта нáтто пагáны. *Гр.* 2. *іран.* Кепскі, горшы. З вéлькаго гýрту вы́бяраш кýрту. *Ст. С.*

КУ'РТКА, -аў *ж.* Кароткая без падкладкі вопратка з даматканага сукна. *Гр.*

КУСО'К, -óў *м.* Узмацняльнае слова, ужываецца пры назоўніках адмоўнага ацэначнага значэння. От п'яніцы кусóк! Ужэ́ вóчы заліў — лéзьвя валачэ́цца. *Кр.* Кусóк дýрня, і гóдзі. *Гр.*

КУ'ТНІ *прым.* Карэнны (зуб). Кýтнія зýбы ні мóцныя. *Ст. С.*

КУ'ЦЫ *прым.* Закароткі. Хай сам нóсіць такі кýцы пінджáк. *Ст. С.*

КУ'ЧКА *ж.* Хаціна. От, якýю кýчку пабудýю і жы́ціму. *Гр.*

## Л

ЛАБА'З (лабáс), -аў *м.* Канец (бульбы). У лабáзі каб ні сапрэ́лі, як мнóго салóмы дасі да зямлі тóўсто насы́пляш? *Гр.*

ЛАГМАНІ'ЦАЮ *прысл. зламоўн.* Лежма. Лагманіцаю ляжáць, а старóй ні памóгуць картóпяль наабірáць на вячэ́ру. От унýчкі! *Гр.*

ЛАГЦІ'НА (лахціна), -аў *ж.* Нізкае месца, лагчына. *Гр.*

ЛАДАВА'ЦЬ, -дýю, -дýяш *незак.* Пагружаць (цяжкае). Гэ́ту хвóю каб як зладавáць,

як ееьцяка каму памахчы. Ну давай ладаваць. *Даўг.*

ЛАДЗГА'Н, -оў *м. зняважл.* Пра малое, якое соваецца, лазіць куды не трэба. Каб ні схапіла за ногу, разьбіўсё ii ладзган гэты, яг з лавы палящеў. *Гр.*

ЛА'ДЫШ, -аў *м. устар.* Частка калодзежа — цэментавы шырокі круг, што ўстаўляецца ў калодзежную яму; часцей ужываецца ў гэтым значэнні труба (гл.). *У нашум калодзісі дзесяць ладышаў. Гр.*

ЛАДЫ'ШКА, -аў *ж.* Збанок для малака (без ручкі), гладыш. *Ладышку малака даймом выпіў. Ст. С.*

ЛАКІ'РКІ (лакеркі), -аў; *адз.* лакірка (лакерка) *ж.* Лакіраваныя туфлі (чаравікі). *У лакерках ходзіць. Гр.*

ЛАМА'НЦЫ, -аў *адз.* ламанец *м. устар.* Печыва з пшанічнай мукі накшталт пячэння. *Бало ўсё твая баба ламанцы пякла: цеста ў бляху накладзе, раўкамі падзеліць і, як сьпячэцца, ломіць на кусочкі. Гр.*

ЛАМАТА' *ж. зборн.* Дровы — галінкі з дрэва (кустоў), галлё, ламачча. *Ламаты вос прывёс у печцы паліць. Ст. С.*

ЛАМА'ЦЬ, -млю, -міш *незак.* 1. Жаць (лубін). *Пабралі сярпэ і лубін ламаць пашлі. Гр.* 2. Рабіць шапку (гл.) для мэдліка. *Ламі шапку мыдлю накрыць. Гр.*

ЛАПА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Лавіць. *Лапай гіцля гэтаго, а то ўцячэ! Зл.*

ЛА'ПІКА (лапіко), -аў *н.* 1. Латка. 2. *перан.* Невялікі ўчастак зямлі. *З гэтаго лапіка мо і накашу з вос канюшыны? Гр.*

ЛА'ПІЦЬ, -плю, -піш *незак.* Латаць. *Лапяць*

ганавіцы, а ла́таюць кажу́х. Ла́тка — з раме́ню ці аўчы́ны. *Ст. С.*

ЛА'ПКА, -аў *ж.* Рог вілоў. Ла́пку ў віло́х адламаў. *Едн.*

ЛА'ПЛЕННЕ (ла́плянё) *н.* Латанне. Адно́ ла́плянё засьмярдзіць. *Гр.*

ЛА'ЎНА *ж.* Бярвенне, звязанае для сплаву. *Едн.*

ЛАХУ'ДРА, -аў *м.* і *ж.* *зняважл.* Бедны; абарванец. От лаху́дра — адно́ лэхамі трасе́, гаш брытко глядзе́ць на яе́. *Гр.* Каб ні така́я лаху́дра, мо хто і знайшо́ўсё б с кавале́раў, а так сядзе́ціся ў дзяўка́х. *Ст. С.*

ЛЕВАРУ'КІ (ліварукі) *м.* Ляўша. Ліваруйкі, і піша ліваю. *Кр.*

ЛЕВУШНЯ' (лявушня́) *м.* і *ж.* Ляўша. От лявушня́! І піша ле́ваю. *Ст. С.*

ЛЕ'ЖЫВА (ле́жыво) *н.* Месца, дзе ляжаў лён, лежня. *Кр.*

ЛЕ'ЙДА, -аў *м.* і *ж.* *жартаўл.* Той, хто любіць многа гаварыць, расказваць. Бу́дзя вам ле́йду гэтаго слу́хаць. *Гр.*

ЛЕ'ЙДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *незак.* *жартаўл.* Многа гаварыць. Хай ле́йдзяць, абы́ ні пасну́лі. *Ст. С.*

ЛЕКАТА'ЦЬ (ляката́ць), -ачу́, -аціш *незак.* 1. Дрыжаць ад холаду. І чаго́ лякатаць — ішо́ў бы апрану́ўсё п, рас до́ўго бу́дзяш на дварэ́. *Гр.* 2. Баяцца, палохацца. Лякочаш? А каб адзін це́раз магілкі но́ч'ю ішо́ў! *Гр.*

ЛЕ'ЛЕХІ (ле́ляхі), -аў *толькі мн.* *грэбл.* Валасы. От ле́ляхі гэтыя. Адно́ закручвай йіх. *Гр.*

ЛЕ'НТА, -аў *ж.* Металічная рулетка для вы-

мярэння (на мясцовасці). Кам́орнік зь лéнтаю хóдзіць па пóлі. *Кр.*

ЛЕ'ТКІ *прым.* 1. Хуткі (у хадзьбе). Халéра ягó дагóніць, лéткі такí. *Гр.* 2. Жвавы, рухавы, жыццяздольны. Дóўго жы́цімя твая́ свякрóў — лéтка ішчэ́. *Св.*

ЛЕ'ЦЕНЬКІ (лéцяньківі) *прым.* 1. Крыху падагрэты. У лéцяньку́й вадзé памы́ла. *Вар.* 2. Зусім лёгенькі, як для лета (пра адзенне). Адубéла чы́сто ў лéцяньку́м пальцé. *Св.*

ЛЕ'ШКА, -аў *ж.* Градка пасеянага лёну. *Пл.*

ЛЁ'ДЫ, -аў *толькі мн. устар.* Марожанае. Малы́ яг быў, нáтто лёды любіў, пакýль гóрло ні забалéло. *Дзяр.*

ЛЁ'СТАЧКІ, -аў *толькі мн.* Ліслівыя словы, падман. Лёстачкамі дýшу вы́мя. *Даўг.*

ЛЁ'ТНІК, -аў *м. устар.* Лётчык. Ужэ́ свайгó лётніка на рабóту атпрáвіў — набы́ўсё ў нас. *Зл.*

ЛЁ'ХА, -аў *ж.* Адтуліна ў падмуроўцы (вядзе пад падлогу). Лёхі на зíму затыкáю, кап пол ні настывáў. *Гр.*

ЛІ'НКА І, -аў *ж.* Прасека ў лесе. *Гр.*

ЛІ'НКА ІІ *ж.* Канат, па якім рухаецца паром. *Едн.*

ЛІСІ'ЦА, -аў *ж.* Назва грыба, ліоічка. Лісіцаў назьбірáў, хай смáжыць мáці. *Гр.*

ЛІХІ' *прым.* Левы, адваротны (бок матэрыі, адзення). На ліхі бок рубáшку чуць ні злажы́ў на сябé. *Св.*

ЛО'ГМА *прысль.* Лежма. Жáрты табé, цалю́ткі дзень лóгма ляжы́ць, а ні памóжа! *Гр.*

ЛО'ЖКА І (лóшка), -аў *ж. Лыжка.* Лóшку так вéльку шукáя. А да рабóты пóйдзяш? *Ст. С.*

ЛО'ЖКА II (лошко), -аў н. Ложак. Ново лошко жалезно купіў. *Гр.*

ЛО'ТРА, -аў м. і ж. Мот. Што ў яго будзя? Усё прасьвішча лотра гэты. *Ст. С.*

ЛУБЯ'НІСКА (лубяніско) н. Поле, дзе рос лубін. *Гр.* Паралельна ўжываецца і л у б я н і ш ч а. *Кр.*

ЛУГ (лух), -оў м. Нізкае месца, запоўненае вадою; лог. У лузі гусі купаюцца. *Гр.*

ЛУ'ЖА, -аў ж. *перан, абразл.* Той, хто многа выпівае. Дзе ты напоіш яго — лужу гэту. *Гр.*

ЛУ'ПА, -аў ж. *1. груб.* Губа. Чаго лупу ацставіў? *Ст. С.* 2. *перан. грэбл.* Губаты. Падло лупа гэта, і ёй яшчэ ні харошы Генік! *Гр.*

ЛУПАВІ'НЫ, -аў *адз.* л у п а в і н а *ж.* Лупіны (з бульбы). Лупавінамі аднымі накарміў бы сьвіней. *Гр.*

ЛУПА'ТЫ *прым. непаш.* З вялікімі, тоўстымі губамі. Некаго лупатаго нашла сабе. *Вар.*

ЛУПСЕ'Й, -ёў *м. зняважл.* Губаты. Лупсей некі, адно лупы, як каўбасы. *Гр.*

ЛУ'ПСІ, -яў *толькі мн. іран.* Губы. Хутко плакацімя, ужэ лупсі дрыжаць. *Ст. С.*

ЛУПЯНДЗЯ' *ж. зняважл.* Жанчына з вялікімі, тоўстымі губамі. *Гр.*

ЛУШЧАВІ'НА, -аў *ж.* Лушпіна (струка). Добро лубін высах, лушчавіна сама лопая. *Вар.*

ЛУШЧАВІ'НЫ, -аў *толькі мн. зборн.* Лушпінне (з гароху, лубіну). Лушчавінамі пацысьцілаям у хляве. *Ст. С.*

ЛУШЧАНЕ'Ц, -нцоў *м.* Спелы арэх. Лушчанцэ самы лушчацца. *Гр.*

ЛЫ'ГАЦЬ, -аяш, -ая *незак.* Есці (пра гу-

сей). *Яг* замяшáям картóпяль з мукóю — от лы́гаюць гусяня́та. *Ст. С.*

ЛЫ'СЦЯГІ (лы́сьцягі), -аў *грэбл.* Лыткі. Аднó лы́сьцягамі сьвéцяць, як спаніцэ карóткія. *Гр.*

ЛЬНЯ'НІСКА (льняніско) *н.* Поле, дзе рос лён. *Гал.* Ужываецца і л ь н я н і ш ч а. *Гр.*

ЛЭ'НДЖА, -аў *м.* і *ж.* Пустамеля. Лэ́ндзіць і лэ́ндзіць лэ́нджа гэ́ты. *Ст. С.*

ЛЭ'НДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *незак.* Гаварыць пустое, абы-што. *Гр.*

ЛЭ'ПАЦЬ, -ая *незак.* Есці з вялікім апетытам, прыцмокваючы (пра свіней). Од дóбро есьць паршýк, гаш лэ́пая! *Св.*

ЛЭ'ПЦІ, -яў *адз.* л э п а ц ь *м. незад.* Пра кепскі абутак. Мо хоць свае лэ́пці скіняш дэ нóвыя бóты кýпіш? *Зл.*

ЛЭ'ХАЦЬ, -аю, -аяш *незак. непаш.* Хутка ісці. Цяпéрака цягнясься як на зáўтра, а тагды́ лэ́хаць бýдзяш. *Гр.*

ЛЭ'ХІ, -аў *толькі мн.* Рванае адзенне, рыззё, лахманы. І я ні багаты́р, алé лэ́хамі ні трасý, як ты. *Ст. С. Парайн.:* Не ведаю, кажух браць ці не? Мо дарэмна буду толькі валачы л а х і. (А. Карпюк, Пушчанская адысея).

ЛЮБІ'ВЫ: л ю б і в а е м я с а — поснае, без праслоек сытага. Сы́таго ні есьць, аднó любіво. *Гр.*

ЛЮ'ДСКА (лю́цко) *прысл.* Па-чалавечы, па-людску. Усё мóжа зрабіць лю́цко, яг захóча. *Вар.*

ЛЮТАЕ'Ж (лютаéш), -аў *м.* і *ж. асудж.* Пераборлівы ў ядзе (пра чалавека). Ямý ні дабярэ́ш éсьці — лютаéш нéкі. *Кр.*

ЛЮ'ТАР, -аў *м. устар.* Бязбожнік. Лютар гэты нігды ў цэркву ні загляня. *Дзяр.*

ЛЮ'ФЦІК, -аў *м.* Фортка (у акне). Хай люфцік аччыніць, усё ні так будзя гарачо ў хаці. *Кар.*

ЛЮ'ШНЯ, -яў *ж. устар.* Падпорка ў возе (ад восі пад ручку). Бало ўсё люшнямі патпіралі ручке, кап калёса ні шаравалі. *Ст. С.*

ЛЯГА'Р, -аў *м.* Падваліна, на якую кладзецца падлога. *Лягáры згнілí, і дóшкі зыбáюцца ў падлóзі. Гал.*

ЛЯ'ДА, -аў *ж.* 1. Частка варштата, якая трымае набіліцы. *Угр.* 2. Прыстасаванне для падымання бярвення. *Вар.*

ЛЯДО'ЎКА *ж.* Гатунак яравой пшаніцы; сеюць яе вельмі рана, пры замаразках. *Ст. С.*

ЛЯЗАВА'ЦЬ, -зýю, -зýяш *незак.* Перамешваць (цэмент з пяском, вапну з вадою). Яшчэ ні лязуй, я вады падбаўлю. *Вар.*

ЛЯК I *м.* 1. Расол з селядцоў; лёк. *Св.* 2. Халоднае з рыбы. Ляку нарабіў з рыбы. *Кар.*

ЛЯК II *м.* Гаршчок (з вузкім рыльцам) для вады. Цэлы ляк вады выпілі жанцэ. *Гр.*

ЛЯ'ЛЯ, -яў *ж. дзіцяч.* 1. Лялька. *Кр.* 2. Малое дзіця. Лялю ўглéдзяў, да яé пайшóў забуляцца. *Дайг.*

ЛЯ'НДРА, -аў *ж.* Вазон з вузкімі лісцямі *Гр.*

ЛЯНДЭ'РАК, -ркаў *м.* Невялікая каструля. *Едн.*

ЛЯ'ПА, -аў *ж.* 1. Ляпа. *Кр.* 2. *перан. зняважл.* Звяга. І чаго ты зьвягуяш — ляпа нéка! *Ст. С.*

ЛЯПНЯ'К, -óў *м. непаш.* Няўдалы хлеб, які не падышоў, ліпне да зубоў, адпечаны. *Гр.*

ЛЯСАВА'ЦЬ, -ýя *незак.* Свабодна рухацца

ў адтуліне. Трэ больш зёмлю ўтаптаць, а то кол лясўя. *Ст. С.*

ЛЯ'СКА, -аў *ж.* Дошчачка ў драбіне калёс (лесвіцы), лёстка. Ляска адарвалася ў драбіні. *Гр.*

ЛЯ'СКАЎКА, -аў *ж.* Ляскотка. Німа спакою з ляскаўкаю гэтаю, усё ляская і ляская ёю. *Гр.*

ЛЯ'СНУЦЬ, -у, -яш *зак.* 1. Стукнуць, ляснуць. *Гр.* 2. *іран.* Прапасці. Будзяш зьбіраць, а як разруха якая, пярэмяшка,— ляснуць твае грошы. *Зл.*

ЛЯТА'РНЯ, -яў *ж.* 1. *жартаўл.* Галава. Куды ты сваю лятарню садзіш? *Гр.* 2. *перан. зняважл.* Пра чалавека. Гуньдзяка гаш лятарня тая ідзе. *Ст. С.*

ЛЯЦЕ'ЦЬ, -іць *незак.* Рвацца (пра адзенне). Усё ляціць, як на чорту. Што ні адзеня — на тыдзянь, боляй ні будзя. *Гр.* Ужэ і ганавіцы на каленях ляцяць. *Ст. С.*

## М

МАДЫГАВА'ЦЬ, -ўю, -ўяш *незак.* Прымерваць, прыкідваць, прымяркоўваць. Што ты мадыгўяш, усяроўно гэты камянь ні пойдзя ў падмуроўку. *Гр.*

МАДЭ'ДА, -аў *ж. іран.* Пра жанчыну, якая любіць стыльна апранацца. Лядзеця, людзі, што мадэда гэта на голаў злажыла! *Гр.*

МАЁ'РЧА, -аў *ж.* Жонка маёра. Хай тая маёрча сама зробіць. Гаварыць ляхчэй. *Ст. С.*

МАЖНЕ'ЦЬ, -ею, -ёяш *незак.* Станавіцца мажным. Быў некі здохлы, а гадэ свае ўзялі— мажнея хлопяц на вачох. *Ст. С.*

МА'ЗІВА (мázіво) *н.* Мазь. Máзіва купіў, то хоць памáжу вос свої. *Св.*

МАЙДА'Н, -óў *м.* Прыбудоўка да хлява. У майданé лéтам сьвіня стаяць. *Гр.*

МАКАРО'НА, -аў *ж.* Тонкая раскатаная пласцінка цеста, з якой крышаць макароны. Макарóнаў навару — ужэ макарóну крышы́цімy. *Гр.*

МАКЛЯ'К, -óў *м. незад.* Пра надта мокрае. Куды́ ты ў хáту нясéш макля́к гэ́ты, павéсь капóту на плóці, хай вадá сьцякáя. *Ст. С.*

МАКО'ТРА, -аў *ж. жартаўл.* Вялікая міска. Макóтру гэ́ту як вы́трубіш, да вéчару ні захóчаш éсьці. *Гр.*

МАКРАТЭ'ЧА *ж. узмацн.* Макрата, макрэча. На піскум мéсцы мы. *Яг* дошч — макратэ́ча, аднó ў *гу*мóвых бóтах хадзіць. *Зл.*

МА'ЛА (мáло) *часц.* Чуць, амаль. Мáло жыватэ́ ні пападрывáлі са сьмéху. *Кр.*

МАЛАВЕ'ЛЯ *прысл.* Трошкі, хоць трошкі. Малавéля што ні па ягó — і бядá, бýрсу падыма — хоць ты с хáты ўцякáй. *Гр.*

МАЛАДЫ' *прым.* Рэдкі (пра хлеб). Трóхі мукі забракавáло, тамý і малады́ (хлеб). *Ст. С.*

МАЛАДЗЕ'Ж (маладзёш) *м. зборн.* Моладзь. Мáло на сялé маладзяжý, што ты ні хóчаш туды́ ісьці? *Гр.*

МАЛАДЗЯ'Н, -аў *м. асудж.* Пра немаладога ўжо чалавека, які не кідае звычак маладых. Стары́ чалавéк, а ён усё́ маладóё пагаңя́я. От маладзя́н! *Дзяр.*

МАЛАЦЕ'ННЕ (малацéнё) *н.* Малацьба (працэс, час малацьбы). З малацéня ідýць людзі. *Гр.*

МАЛАЦЕ'ННІК (малацéньнік), -аў *м.* Малацьбіт. Малацéньнікам палýдзянь занясý, хай дахáты ні йдуць. *Гр.*

МАЛАЦЦЕ' (малацё) *н.* Млíва. Тры дні сядзіць за малацём. Ніўжэ так завóзно ў бліне? *Дзяр.*

МАЛАЧА'Й, -ёў *м.* Від грыбоў — груздзь. Малачáі вымóчваюць і сóляць на зіму. *Гр.*

МАЛЕ'НЬКІ: ◇ З м а л é н ь к а г а — змалку, з малых год. Ён і з малéнькаго такі здыхляк. *Вар.*

МАЛО'ДЗІВА (малóдзіво) *н.* 1. Малодзіва. 2. Страва з яец, малóдзіва і мукі. *Гр.*

МАНЕБРАВА'ЦЬ (манябравáць), -рýю, -рýяш *незак.* Манеўраваць. *Ст. С.*

МАНЕ'БРЫ, -аў *толькі мн.* Манеўры. *Дзяр.*

МАНЕ'Ж (манéш), -оў *м.* Конны прывод, які рухае малатарню (сячкарню). Манéш стары, каб ні паламáлі жарапцэ гэтыя. *Ст. С.*

МАНКЕ'Т, -аў *м.* Манжэта. Бяз манкéтаў сарóчка. *Кар.*

МАНТАШЫ'ЦЬ, -ý, -ы́ш *незак. жартаўл.* Рваць, тузаючы. Нéшто Лы́ско ў зубáх панёс і стаў манташы́ць. *Гр.*

МАНТЫЛЯ'ЦЦА, -я́яцца *незак.* Хістацца (на ветры), матляцца. Што гэто ў цябé с-пат пальтá вы́лязло і мантыля́яцца? Пóдвіўка, мýсіць. *Вар.*

МАРАКАВА'ЦЬ, -кýю, -кýяш *незак.* Наракаць, крыўдзіцца. Ён маракýя, што ты даказáў тамý злыдухý на ягó. *Гр.*

МА'РАЦ *м.* 1. Назва месяца — сакавік. Як мáрац цёплы — гарáць хýтко пóйдуць. *Ал.* 2. *іран.* Юр. Які на цябé мáрац напáў, што на сялó ўсё бéгаяш. *Вар.*

МАРКІТУ'Н, -оў *м.* Маркач (баран). Маркітуна́ гэтаго на мясо зарэ́жам. *Кр.*

МАРСКАНУ'ЦЬ, -у́, -е́ш *зак.* Кінуць, пабароць. Як марскану́ў яго́ аб зе́млю, гаш зае́нчыў. *Дзяр.*

МАСЛЯ'НКА (масьля́нка) *ж.* Сыроватка, якая застаецца пры збіванні масла, маслёнка. *Пл.*

МАСТАВЕ'ННЕ (маставе́нё), -яў *н.* Дошкі на мосце, памост. *Едн.*

МАСТАКО'ЛІЦЦА, -юсё, -ісься *незак.* Масціцца. Нек прымастако́ліўсё, хоць на крае́чку сло́нчыка. *Гр.*

МАСЦЬ (масьць) *ж.* Састаў з воску, смалы і несалёнага тлушчу для зашчэплівання пладовых дрэў. *Св.*

МАТАРО'ЎКА, -аў *ж.* 1. *устар.* Матацыкл. *Гал.* 2. Мотавеласіпед. *Ал.* 3. Маторная лодка. *Едн.*

МАТРО'СКА, -аў *ж.* Кофта. З ба́йку матро́ску сабе́ пашы́ла. *Гр.*

МАТУ'ЛЯ, -яў *ж.* Хрышчоная маці. Яе́ мату́ля — Паўшы́ха. *Кр.*

МА'ХЕР (ма́хяр), -аў *м.* *іран.* Майстар. О, ты ў міне́ ма́хяр на ўсе ру́кі, як нічо́го ні ро́біш, а як ста́няш рабіць — нічо́го ні выхо́дзіць. *Св.*

МАХЛЯВА'ЦЬ, -лю́ю, -лю́яш *незак.* Ілгаць. Хоч вер, хоч не, аля я табе́ пра́ўду кажу́, ні махлю́ю. *Гр.*

МАХЛЯ'Р, -оў *м.* Хлус, ілгун. Махля́р ты, там ні так напісано. *Ст. С.*

МАЦЁ'РА, -аў *ж.* *жартаўл.* 1. Свінаматка. *Гр.* 2. Бульбіна-насенніца. Мацёра яшчэ́ ні згніла́, і малады́я парасьлі ве́лькія. *Гр.*

МАЦО'ХА, -аў *ж.* *жартаўл.* Свінаматка. Да

дзясяці парасятаў прыво́дзіць ко́жны рок мацо́ха гэта. *Гр.*

МАЦЫКЛЕ'Т, -аў *м.* Матацыкл. *Вар.*

МАЦЯРКІ' (мацяркé), -оў *толькі мн.* Канопліі-насенніцы. Вы́біранкаў ма́ло, а мацярко́ў цэ́ла ко́па. *Ст. С.*

МАШЫ'НКА, -аў *ж.* 1. Запальнічка. Ад машы́нкі прыкуры́ў. *Зл.* 2. Частка лямпы (падае кнот). *Пл.*

МЕЛЬШ *прысл.* Менш. Мельш нічо́го, абі́й лепш зрабіў. *Гр.*

МЕ'ЛЬШЫ *прым.* Меншы. Ме́льшы за яго́. *Ст. С.*

МЕРГАВА'ЦЬ (мяргава́ць), -у́ю, -у́яш *незак.* 1. Прымерваць, прыкідваць. Мяргу́й ні мяргу́й, а я тае́ до́шкі ні дам. *Св.* 2. Мірыць, прымірацьь. Са́мі б'ю́цца, са́мі паміра́цца, нашто́ мне йіх мяргава́ць. *Гр.*

МЕ'РКА, -аў *ж.* Драўляная пасудзіна з ручкай, служыць для насыпання (у мяшок) зерня. Ме́ркаю пано́сіш, ці ў мяшо́к сы́паць бу́дзяш? *Гр.*

МІРУ'Н, -оў *м. іран.* Пра старога халасцяка. Міруно́м век пражы́ў. *Гр.*

МЛЯ'ЎКІ *прым.* Млявы. Мо што баліць, што такі мля́ўкі? *Ст. С.*

МО'ГЛІЦЫ: вы́несці на мо́гліцы — памерці; вынесці на могілкі. *Гр.*

МО'ДЗІЦЦА, -джу́се̂, -дзісься *незак.* Модвічаць. Стара́я, а, як малада́я, мо́дзіцца, усе̂ мо́дно наўме́. *Кр.*

МО'ДЫ, -аў *толькі мн.* Узор. Ба́ло ўсё такія мо́ды тка́лі. *Кар.*

МО'НДРЫ *прым. іран.* Разумны. Каб ні такі мо́ндры, то ні ўляце́ў бы ў бяду́. *Ст. С.*

МО'РКВА *ж.* 1. Морква. 2. Суп з морквы. Пахлёбаў морквы. *Гр.*

МУЗЫ'КІ, -аў *толькі мн.* Вячоркі з танцамі. На музыкі ідуць, гуляць хочуць. *Гал.*

МУЛЯ'К, -оў *м.* Нацёртае, мулянае месца; мазоль. Боты зацесныя, муляк нахапіўсё, як папахадзіў цэлы дзень. *Вар.*

МУ'МРА, -аў *ж. зняважл.* Незгаворлівы, якому цяжка зрабіць ласку. Нігды яму ні дагодзіш, мумры гэтаму. *Гр.*

МУ'МРЫЦЬ, -у, -ыш *незак. асудж.* Гаварыць (пад нос) раздражнёна, незадаволена. Хай мумрыць, а ты ні ўслухайся, рабі сваё. *Ст. С.*

МУ'РЫН, -аў *м. іран.* Пра чорнавалосага, смуглага чалавека. Нуй чорны сын у яго. І сам ён мурын. *Гр.*

МУСО'ВА (мусово) *прысл.* Абавязкова. Наказваў, каб ехалі, кажа, мусово трэба быць. *Ал.*

МЫ'ДЛЯ, -яў *ж.* Часовая ўкладка снапоў на полі; мэдлік. За вос шэсць мыдляў ні забяру мо? *Гр.* Трэ жыто ў мыдлі ставіць. *Кр.* Ты тую дастаўляй мыдлю. *Ст. С.*

МЫЛЯ'ЦЬ, -ю, -яш *незак.* Не трапляць, не пападаць у цэль. Нешто вада ў вядро ні пападая, усё мыляюць каплі па-за боку. *Гал.*

МЫСЛІНО'ЎКА (мысьліноўка), -аў *ж. устар.* Сітцавая хустка з кветкамі. Завязала мысліноўку і яшчэ дубальтоўку просіць. *Ст. С.*

МЭ'НДАЛЬ, -для *м.* 1. Укладка снапоў; мэндлік. *Дзяр., Едн.* 2. *устар.* Мера колькасці — 15 штук. Больш як тузін, з мэндаль будзя. *Гр.*

МЭ'НКА *ж.* Гора, пакута, мука. Каб жа яго дзіця, а то ні яно есьці, ні яно спаць — адна мэнка зь йім. *Гр.*

МЭ'НЧЫЦЦА, -усё, -ысься *незак.* Пакутаваць, мучыцца. *Ал.*

МЭ'ТАР, -траў *м.* 1. Мера даўжыні — метр. *Кар.* 2. Мера вагі — цэнтнер. 3 мэ́тар зава́жыло цяля́. *Дзяр.*

МЭ'ТРА, -аў *ж.* 1. Дровы, складзеныя так, каб усе вымярэнні мелі 100 см. Мэ́тру дроў наклалі. *Ст. С.* 2. Цэнтнер. Мэ́тру жы́та спытлява́ў. *Гр.*

МЯ'ЛІЦА, -аў *ж.* 1. Пасудзіна, у якой труць мак; макацёр. *Гр.* 2. *перан. зняважл.* Галава. Куды́ гэту мя́ліцу су́няш? Ні віднó за табóю нічóго. *Ст. С.*

МЯЛЬНЯ' *м.* і *ж.* Той, хто «меле», менціць языком; пустаслоў. Гóдзі малóць языкóм абы-штó. Ні слу́хайця вы мяльню́ гэ́таго. *Гр.*

МЯНЦЯ' (мяньця́ і мянта́) *ж.* Лапатачка для вастрэння касы; мянташка. Мянцёю як ні пацягняш — ні хóча касіць. *Гр.*

МЯРНІ'ЧЫ *м. устар.* Землямер, каморнік. *Ст. С.*

МЯРЭ'Ц, -рца *м. устар.* Мярцвяк, нябожчык. Пла́ча, як па мярцу́. *Гр.*

МЯШЧА'НКА, -аў *ж.* Жыхарка мястэчка, горада. Была́ калхóзьніца, а цяпе́р мяшча́нка, ў Зэ́льві жыве́ш. *Св.*

## Н

НАБАСАНО'С *прысл.* На босую нагу (без анучы, панчохі). Набасанóс уступіся ў бóты і бяжы́, кап пóзно ні былó. *Кр.*

НАБАСЯКА' *прысл. жартаўл.* Набасанож. Хай набасяка́ пасе́, рас чаравікі парва́ў. *Гр.*

НАБА'ХАЦЬ, -аю, -аяш *зак. незад.* Наліць

(звыш меры). Гэ́дулькі набáхаў, дзе я вы́ям гэ́ты кру́пнік. *Гр.*

НАБІ'ЛЬНІЦЫ, -аў *толькі мн.* Частка варштата, набіліцы. Набільніцы слáбо бéрдо дзéржаць. *Ст. С.*

НАБО'Й, -яў *м.* 1. Тупкая частка зімовай дарогі. Па набóйі ець, то сáні ні завáльвацімуцца. *Кр.* 2. Болька на падэшве нагі, узнікае ад непрывычкі хадзіць босымі нагамі. Набіў набóй на пяцé, як папатрапáў дзéсяць вёрст бóсы. *Ст. С.*

НАБРЭ'НКНУЦЬ, -ня *зак.* Набрыняць (вадою). Набрэ́нклі клéпкі, гаш павыпірáло йіх пры дне. *Пл.*

НАБУ'ЧЫЦЦА, -усё, -ысься *зак.* Злосна наставіцца, набычыцца (пра кароў). Лядзі, каб ні ўбарóў, нéшто набу́чыўсё бык на цябé. *Ст. С.*

НАБЭ'РСАЦЬ, -аю, -аяш *зак. непаш.* Напісаць. Нéшто набэ́рсаў, а што — ішчэ́ ні чытáў. *Гр.*

НАВА'ЛЬНЫ *прым.* Навальнічны (дождж). Як навáльны дошч хлы́нуў, то і ў нас на надвóрку ні прайсьці былó. *Ст. С.*

НАВЕ'СНУ *прысл.* Вясною будучага года. Сяк-так згарáў і гóдзі, а навéсну лепш згарэ́цца. *Кр.*

НАВЫЗУ'БВАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Навыбіраць, з у б а ю ч ы (гл.), моцных яец. Як дабрáўсё, то навызу́бваў яéц сабé і тавáрышам. *Гр.*

НАГА'ДАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак.* Наплятkарыцца. Ніяк ні нагáдаюцца, бéдныя. *Пл.*

НАГАНУ'ЦЬ, -у, -еш *зак. незад.* Зажадаць. Як нагану́ў éхаць, ні ўтры́мала. *Гр.*

НА'ГЛА: нáгла ягó вéдае (*зламоўн.*) — Хто

яго ведае. На́гла яго́ ве́дая, дзе ён с караве́мі прапада́я да палу́дня. *Гр.*

НАДАВА'ЦЦА, -даюсё, -даёсься *незак.* Падыходзіць, быць прыгодным для чаго. Гэ́ты тава́р ні надаёцца на пальто́. *Гр.* Кап надава́ўсё, то ўжэ разабра́лі п на руба́шкі. *Кр.*

НАДАВА'ЦЬ, -даю́, -даёш *незак.* Перадаваць, трансліраваць. Надава́лі з Масквы́, што ху́тко маразэ́ бу́дуць. *Гр.* З Мінску надаю́ць пе́сьні. *Ст. С.*

НА'ДАЛАНКА, -аў *ж.* Частка саней — доўгая планка, што накладвасцца на капылы паралельна полазу (паверх вязаў). На́даланкі паабмярза́лі, руко́ю ні ўзя́цца. *Гр.* *Параўн.:* н а́ д а л а н ь к а — *ів.* *Чамяры Слонімскага раёна.*

НАДАЛО'НЧЫЦЬ, -у, -ыш *зак.* Налатаць (рукавіцы) — паставіць латку на далонную частку. *Гр.*

НАДАЛУ'ЖЫЦЬ, -у, -ыш *зак. незад.* Сэканоміць, нагнаць час. Ат, надалу́жыш ты ўжэ гадзі́наю гэтаю, раз за дзень ні зрабі́ў. Дава́й аддыхнём. *Ст. С.*

НАДВО'РАК *м.* Панос. Каб ні гэ́ты надво́рак, мо і ачуня́ла б хучэ́й, а то нічо́го ні зьзясі. *Гр.*

НАДУБЕ'ЦЦА, -юсё, -ясься *зак.* Намерзнуцца. От надубе́ліся за ту́ю ноч у ле́сі! *Вальк.*

НАДУ'НДЗІЦЦА (наду́ньдзіцца), -джусё, -дзісься *зак. жартаўл.* Нассацца. Як наду́ньдзіўсё — усю́ ноч сьпіць до́бро. *Св.*

НАДЫБА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *зак.* Натрапіць. Прыгляда́цца на́тто ні бу́ду, а як надыба́ю — падыму́ казяка́. *Гр.*

НАДЭ'БАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак. спагадл.*

Нахадзіцца, надыбацца. Які зь яго хадок — ад вéсьніцаў прышóў і ўжэ надэбаўсё. *Ст. С.*

НАЖАНЯ', -яці *н. мн.* н а ж а н я т ы (нажанята), -аў *пяшчотл.* Нага, ножка. Дай наказычў гэто малóё нажаня́. *Кр.*

НАІ'МЕННА (найімянно) *прысл.* Абавязкова. Нака́зваў, каб найімянно былі. *Гр.*

НАКАЗА'ННЕ (наказа́нё) *н.* Гора, бяда. Цэло наказа́нё з гэтым хлóпцам — ні сьпіць і гóдзі. *Ст. С.*

НАКАЗА'ЦЬ, -жу́, -жаш *зак.* Апавясціць. На вясéлё малады́ прышóў наказа́ць. *Гр.*

НАКАРА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *зак.* Пакараць. Ой, накара́ю за вы́брыкі такія! *Угр.*

НАКІДА'ННІК (накіда́ньнік), -аў *м.* Той, хто накідае гной на воз. Яшчэ слабы́ накіда́ньнік сь цябé —ніду́жы. *Гр.*

НА'КРЫВАТКА, -аў *ж.* Вечка, накрыўка (у чыгуне, каструлі). Хай накры́я рандóляк на́крываткаю, хучэй зва́рыцца. *Даўг.*

НАЛАДАВА'ЦЬ, -ду́ю, -ду́яш *зак.* Многа накласці. З аднаé шту́кі, як спусьцілі, цэлы вос дроў наладава́лі. *Вар.*

НАЛА'ПІЦЬ, -плю, -піш *зак.* Налатаць. Нала́піш, то зь мéсяц панашу́ пальтó. *Кр.*

НА'ЛУПА *ж.* 1. Малпа. *Ст. С.* 2. *перан. абразл.* Пра чалавека. От на́лупа, што ні ска́жаш, усé пярака́жа. *Гр.*

НАЛЯГА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак.* Настойваць, прымушаць. Як налéх, му́сяла купіць ішчэ касьцюм. *Гр.*

НАМЭ'ДРЫКІ, -аў *толькі мн.* Частка збруі— пляцёнка з раменю, накладваецца на сліну каня, падтрымлівае хамут. Бяз намэ́дрыкаў хаму́т на гóлаў лéзя, як конь нагнé гóлаў. *Гр.*

*Парайн.:* Выплывае канец аглоблі, хамут, н а б э д р ы к і і магутны бок сівага каня. (А. Карпюк, Пушчанская адысея).

НАПАВІДКУ' (напавітку́) *прысл.* На віду, на відавоку. Напавітку́ жыўшы, нічо́го ні схава́яш ад людзе́й — ні го́ра, ні ра́дасьці. *Кр.*

НАПАДАРЭ'НДЗІ *прысл.* Пад рукой. Хаї нападарэ́ндзі ляжыць, мо ху́тко спатрэ́біцца. *Гр.*

НАПА'РСТАК, -аў *м.* Кольца для мацавання касы на кассі. Клін затоўсты, у напа́рстак ні ле́зя. *Гр.*

НАПА'ШКІ *прысл.* Накінуўшы на плечы (не ўсоўваючы ў рукавы). Злажы́ напа́шкі да вы́бяжы налядзі, дзе дзіця́ пайшло́. *Ст. С.*

НАПІЦАВА'ЦЬ, -у́ю, -у́яш *зак. незад.* Шчыльна, многа накласці; напакаваць. Паўню́ткі сунду́к адзе́жы напіцава́ла. *Пл.*

НАПРАДВЯСНЕ' (напрадвясьне́) *прысл.* Напярэдадні вясны, напрадвесні. Напрадвясьне́ ішчэ́ маразэ́ мо́цныя быва́юць. *Гал.*

НАПУ'ГАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак. непаш.* Напіцца. Яг дапа́ў — напу́гаўсё, гаш баке́ расьпіра́я. *Яр.*

НАПУ'РЫЦЬ, -у, -ыш *зак. непаш.* Нагнаць, прагнаць. Як меў но́гі ўцяк·ў, як напу́рылі яго́. *Кр.*

НАПЯХО'ТУ *прысл.* Пеша, пехатою. Дзе там е́хаў! Напяхо́ту ішо́ў. *Пл.*

НАРА'ДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *зак.* Параіць, нараіць. Мне, сако́лік, сюды́, да вас, нара́дзілі схадзіць. *Яр.*

НАРА'ЗЕ (нара́зі) *прысл.* Пакуль што. Яшчэ́ ўгле́дзімсё, пагаво́рым, а нара́зі быва́й здаро́ў. *Гр.*

НАРА'НКІ *прысл.* Пасвіць кароў наранкі— г. зн. гнаць вельмі рана, да ўсходу сонца, і пасвіць да гадзін 10, а затым з 16 гадзін да вечара. Ра́но вясно́ю і ўво́сянь пасем на ўвесь дзень, а ўле́тку — нара́нкі. *Гр.*

НАСЕ'ННІК (насе́ньнік), -аў *м.* З'лак (агароднiна), які пакідаецца на выспяванне для насення. Лу́бін-насе́ньнік пайшлі ламаць, а астальны́ загарэ́м. *Дзяр.* Гуро́к-насе́ньнік. *Ст. С.*

НАСТАЯЧКА' *прысл.* Стоячы. Здэ́цца, ні вытрываю, упа́ду, як папараблю́ цалю́ткі дзень настаячка́. *Гр.*

НАСТАЯ'ШЧА (настая́шчо) *прысл.* Як мае быць. Панаяда́ліся настая́шчо каравэ́ на лубя́нішчы. Травы́ там мно́го. *Ст. С.*

НАСТАЯ'ШЧЫ *прысл.* Сапраўдны; які мае быць. Гэ́то настая́шчы мёт, ні падро́бляны. *Кр.* Настая́шчы кавале́р: бо́льшы за ба́цька, мажны́. *Гр.*

НАСТО'ЛЬНІЦА, -аў *ж.* Абрус, настольнік. Насто́льніцы ўся́кія ма́ям: і сьвято́чну, і на бу́дзянь. *Вар.*

НАСТЫДЗІ'ЦЬ, -джу́, -дзіш *зак.* Насароміць. Настыдзі, хай бо́ляй так ні ро́біць гіццаль гэ́ты. *Зл.*

НАСУЛЯ' *ж. зняважл.* Насатая. Насулю́ такую ўзяў. *Гр.*

НАСЭ'НТАРЫЦЬ, -у, -ыш *зак. непаш.* Накласці, напакаваць надта многа. Дзе ты ў хале́ры падымяш гэ́ты чамайда́н, насэ́нтарыў так! *Ст. С.*

НАТАЛІ'ЦЬ, -ю, -іш *зак. зламоўн.* Задаволіць (у ядзе, адзенні). Дзе ты яго́ нато́ліш.

Пражо́ра гэта сьвет, здэцца, загро́б бы да оябе́. *Гр.*

НАТАЛЬМАХУ′ *прысл.*: трымаць натальмаху — не датыкаючыся (да чаго). Ру́кі адабра́ло, натальмаху́ трыма́ючы. *Гр.*

НАТРАПА′ЦЬ, -плю́, -пляш *зак.* Налупцаваць. Рас ні слу́хая, натрапа́ў — і бу́дзя слу́хаць. *Зл.*

НАТЫХМЯ′СТ *прысл.* Адразу, на скорую руку, на месцы. Мо і жыў бы, каб натыхмя́ст апара́цу зрабілі. *Гр.*

НАЎМЕ′ЦЦА, -е́юсё, -е́ясься *зак. незад.* Мець удосталь, хапіць. Дзе ты наўме́ясься, каб усё ў но́вум хадзіць ко́жан дзень? *Ст. С.*

НА′ХЛЯШЧ *прысл.* Насцеж. Нашто́ дзве́ры атхля́шчыў? Кане́шня, каб на́хляшч, а прычыніць — ма́ло? *Гр.*

НАЦЕРАБІ′ЦЬ (нацярабі́ць), -блю́, -біш *зак.* Налупцаваць, набіць. Нацярабіў-нацярабіў гэто дзіця́. А за што? *Ал.*

НАЦЯЛЕ′СКАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак. жартаўл.* Пад'есці. Нацяле́скаўсё, так марш з-за стала́! *Гр.*

НАШЧЫНЯ′ЦЬ, -я́ю, -я́яш *зак.* Гл. шчыняць. *Св.*

НЕВАРУ′ШАНЫ (ніва́ру́шаны) *дзеепрым.* Някрануты. Гунь та́я ла́ва ячме́ню і ніва́ру́шана стаі́ць. *Ст. С.*

НЕГАДЖА′Й (нігаджа́й), -ёў *м.* і *ж.* *абразл.* Неахайны. Рас нігаджа́й, хай у гразі хо́дзіць, я яму́ ні бу́ду ко́жан дзень мыць. *Гр.*

НЕГАДЗІ′НА (нігадзі́на) *ж.* 1. Нягода. У таку́ю нігадзіну і воўк сядзіць на ме́сцы. *Кр.* 2. Час суровых выпрабаванняў. У ту́ю нігадзіну німа́ло пагінуло людзе́й. *Ст. С.*

НЕ′ДАВАР *м.* Недаваранае. Ні хачу́ е́сьці: не́давар, ка́жа. *Гр.* Рас не́давар, то пашко́дзіць мо́жа. *Ст. С.*

НЕДАВЯ′РАК (нідавя́рак), -ркаў *м.* і *ж.* *асудж.* Той, хто не давярае. От ужэ́ нідавя́рак! Кап сказа́ў — і паве́рыў. Дзе ты ба́чыў? *Гр.*

НЕДАЛЭ′НГА (нідалэ́нга), -аў *м.* і *ж.* Недарэка, няўклюдны, недалужны. А, ніда́лэнга гэ́та, што яна́ мо́жа! *Гр.* Ні хло́пяц, а нідалэ́нга не́кі — усё́ з рук па́дая. *Ст. С.*

НЕ′ДАСАЛЬ *ж.* Недасоленае. Як вы ясьце́ таку́ю не́дасаль? *Ст. С.*

НЕЗАЧЭ′ПАНЫ (нізачэ́паны) *дзеепрым.* Некрануты. Ніц ні еў — нізачэ́пано стаі́іць усё́. *Кр.*

НЕЗГРАБО′ЦЦЕ (нізграбо́цё), -яў *н.* *зняважл.* Няэграбны, непрыгожы. Тако́ё нізграбо́цё — у сьве́ці ні ба́чыў. *Гр.*

НЕКАНЕ′ЧНЕ (ніканё́шня) *прысл.* Неабавязкова. Ніканё́шня яму́ сё́ніка ўжэ е́хаць. Хаі зь дзень пачака́я. *Гр.*

НЕ′ЛЮДЗЬ (не́люць), -яў *м.* і *ж.* Нечалавек. Каб лю́цкі быў, жыла́ б жо́нка, а зь не́людзям ні ўжыве́ш. *Ст. С.*

НЕНАПА′МКІ (нінапа́мкі) *прысл.* Няўцям. Яму́ і нінапа́мкі, што так до́ўго стаі́іш го́лы на маро́зі. *Св.*

НЕНАРО′КАМ (нінаро́кам) *прысл.* Выпадкова, незнарок. Ішо́ў і нінаро́кам зачапіў — упа́ў збано́к і разьбіўсё. *Гр.*

НЕ′РАДЗЪ (не́раць) *ж.* *непаш.* Неўрадлівае. Не́раць не́ка, ні карто́плі. Капа́ць німа́ чаго́. *Гр.*

НЕ′СМАШ *ж.* *незад.* Нясмачнае. Хто бу́дзя таку́ю не́смаш е́сьці? Усе́ шука́юць сма́шнаго. *Пл.*

НЕЎСТАЕ́НЦЫ (ніўстаѐнцы) *прысл. жартаўл.* Не ўстояць, рупець (кудысьці). Нямá, кап ў хáці пасядзеў, так усѐ на гýлі бéгая — ніўстаѐнцы. *Гр.*

НЕЎЦЯРПЕ́НЦЫ (ніўцярпѐнцы) *прысл. жартаўл. асудж.* Калі не хапае цярплівасці. От ніўцярпѐнцы! Як на іголках: сют-тут і на часэ́ глядзіць, кап хацямсё ні спазьніўсё на танцýлькі. *Ст. С.*

НЕЦЯРПЯ́ЧКА (ніцярпя́чка), -аў *ж. жартаўл.* Нецярплівасць. Што зробіш — ніцярпячка ні дае зрабіць па-люцкі. *Гр.*

НЕСЧЫСЛЕ́НА (нішчысьлёно) *прысл.* Незлічона. Нішчысьлёно мнóго салдáтаў ішлó тагды́ ў наступлéнё. *Ст. С.*

НІ́ГДЫ *прысл.* Ніколі. Нігды такóго ні былó, каб багáты за бéднаго заступáўсё. *Кр.* Нігды-гніадачкі ні былá ў Маскве. *Гр.*

НІ́ЗКІ: ◊ **нізкі на вочы** — блізарукі. Далéко — так ні ўглéдзіць: ніскі на вóчы. *Гр.*

НІКУДЫ́ШНЫ *прым.* Няварта́сны, які ні на што не прыдатны, не здатны. Саўсім нікудышныя дóшкі. *Св.* Рас нікуды́шны, то ні лесь, у хáці сядзі. *Ст. С.*

НІ ЎСЕ́ *злучн.* Ні то (не то). Ні ўсѐ дошч, ні ўсѐ сьнех — ні наймéш. *Гр.*

НІЦ *займ.* Нічога. Ніц ні зрóбіш, рас так вы́шло. *Зл.*

НІ́ЧАЛЬНІЦЫ, -аў *адз.* **нічальніца** *ж.* Частка варштата, ніт. Аснóву ўкладáя ў нічальніцы. *Ст. С.*

НО́САЛЬ, -яў *м. абразл.* Насаты; насач. *Кр.*

НЫ́ГАЦЬ, -аю, -аяш *незак. асудж.* Перабіраць пры ядзе. Ні есьць, а ўсё ныгая, смакóў шукáя. *Гр.*

НЫЦЬ, -я *незак.* Усмажвацца (пра грыбы). Апенкі хай ішчэ ньюць, каб добро ўсмажыліся. *Св.*

НЯВЕ'ЛЬМІСЯ (нівельміся) *прысл.* Не асабліва, не вельмі ж. Нівельміся зухуйся ты сваім пінджаком. *Гр.*

НЯДБА'ЙЛІСКА (нідбайліско), -аў *м. узмацн.* Нядбайла. Такого нідбайлюка ішчэ ні было ў нашум родзі. *Гр.*

НЯЗГО'РШЫ (нізгоршы) *прым.* Някепскі; не надта кепскі. І твой пірох нізгоршы. *Гр.*

НЯМЧУ'Р, -оў *м. зняважл.* 1. Неразгаворлівы. Што ты зь йім, нямчуром гэтым, пагаворыш: адно «ага» да «але», а сам слова ні выцісня. *Гр.* 2. Немец. Нямчур думаў лёхко з намі справіцца, а ні па яго вышло. *Ст. С.*

НЯСУ'ШЧАЯ (нясушча) *прым.* Такая (курыца, гусь), якая нясе многа яец; нясучая. От нясушчая курыца. *Гр.*

НЯЎДО'БАК (ніўдобак), -аў *м.* Дрэнная, непрыдатная для апрацоўкі зямля; няўдобіца. *Кр.*

НЯШЧА'СНЫ (нішчасны) *прым.* 1. Няшчасны. 2. Узмацняльнае слова пры ацэначных назоўніках. Падло гультайско нішчасны, нічого ні робіць, адно ляжыць! *Гр.*

## П

ПАБА'БЕЦЬ (пабабяць) *зак.* Гл. б а б е ц ь. Грушы ні гніюць, адно пабабялі. *Гр.*

ПАБАРУКА'ЦЦА *зак.* Гл. б а р у к а ц ц а. Ну, пабарукайцяся, хлопцы, хто дужайшы. *Кр.*

ПАБУНТАВА'ЦЬ, -тую, -туяш *зак. асудж.*

Перамяшаць, пераблытаць. Хай сам складáя, рас пабунтавáў усé. *Св.*

ПАВА'ЛАК, -лкаў *м.* Валок (сена). Зграбéм у павáлак, а тагды́ ў кóпы складáцімям. *Гр.*

ПАВЕ'СЬМА (павéсьмо), -аў *н.* Тое, што і павесьмене. Павéсьмо льну нацéрла. *Кар.*

ПАВЕ'СЬМЕНЕ (павéсьмянё), -яў *м.* Жменя сцёртага льну; ручайка. Павéсьмянё нацéрла і ўжэ аддыхáя. От рабóтніца! *Вар.*

ПАВЭ'ДЛУГ (павэ́длух) *прыназ.* У параўнанні з. Павэ́длух твайгó мой благí хлóпяц. *Пл.*

ПАВЭ'ДЗГАЦЬ, -аю, -аяш *зак. непаш.* 1. Пабяліць. Якóё гэ́то бялéнё. От, павэ́дзгаў, абы́ сáжу забяліць. *Гр.* 2. Памазаць. Лóям трóхі павэ́дзгай і еш, ні канéшня, кап клýстасьць цяклá з блінцá. *Ст. С.*

ПАГАДА'НКА, -аў *ж.* Пагалоска. І ў нас пусьцілі такýю пагадáнку. *Кр.*

ПАГАНІ'Н, -аў *м. жартаўл.* Крыклівы (пра дзіця). Паганін гэ́ты цэ́лу ноч спаць ні даў: усé «агý» да «агý» — крычы́ць! *Гр.*

ПАГНО'Й, -яў *м.* Назва ўгоддзя з угноенай урадлівай глебай. Пагнóй пóйдзя пат кукурýзу, кáжуць. *Кр.*

ПАДАВА'ННІК (падавáньнік), -аў *м.* Той, хто падае на воз снапы. Нідýжы падавáньнік, снóпа ні закіня на воз. *Вальк.*

ПАДАКО'ННІК (падакóньнік), -аў *м.* Прымацаваны да сцяны (над акном) брусок для гардзін; карніз. Падакóньнік для тýляў сам зрóбіць. *Гр.*

ПАДА'ННЕ (падáнё), -яў *н. устар.* Заява, прашэнне. Трэбуло падáнё склáсьці на пэ́нсію. *Зл.*

ПАДА'РАК, -ркаў *м.* Дарунак, падарунак (рэч). Пада́рак до́бры быў. *Гр.*

ПАДАРУ'НАК *м.* Назва дзеяння па дзеяслове д а р ы ц ь. Хрышчо́нага ба́цька про́сім на падару́нак! Які пада́рак ён дасьць маладо́му. *Ст. С.*

ПАДАТКНУ'ЦЬ, -у́, -ёш *зак.* Даць хабар. Як ні падаткнёш, так нічо́го і ні зро́біць. От нілю́цкі чалаве́к быў. *Гал.*

ПАДАЯ'НКА, -аў *ж.* Перадача (у бальніцу, турму). Хло́пяц хво́ры, трэ яму́ падая́нку занясьці. *Св.*

ПАДБАРО'ДАВІЧА (падбаро́давічо), -аў *н.* Падбародак. Стары́ — падбаро́давічо абвісло. *Вальк.*

ПАДВАРО'ТНІЦА, -аў *ж.* 1. Шырокая шчыліна паміж дзвярыма і зямлёю (у хляве, гумне). Прас падваро́тніцу сьне́гу намяло́ ў гумно́. *Кр.* 2. Дошка для закрывання гэтай шчыліны. Адымі падваро́тніцу, каб ні палама́ў конь, як ступа́цімя. *Гр.*

ПАДВІНУ'ЦЬ, -е *безас.* Уздумацца. Як падвіне́, за дзе́сяць вёрст ідзе́ — і но́гі ні баля́ць. *Ст. С.*

ПАДВО'КНІЧЧА (падво́кнічо), -аў *н.* Падваконне. Ні лась, кажу́, па падво́кнічу, каб вакна́ ні разьбіў. *Вальк.*

ПАДГАЛЁ'НЫ *прым.* Падгалісты. Нёкі твой пяту́х падгалёны. *Гр.*

ПАДГА'ЛЫ *прым.* Тонкі, высокі, з падцягнутым жыватом (пра жывёлу). Як харт, падга́лы паршу́к. *Кр.*

ПАДГА'РЛЕ (падга́рлё), -яў *н.* 1. Падбародак. Падга́рлё ў старо́го адвісло. *Пл.* 2. Зоб. *Дзяр., Ст. С.*

ПАДДАСТА'ТКАМ *прысл.* Удосталь. Цяпёрака і ў нас у сялё ўсягó паддастáткам ёсьцяка. *Св.*

ПАДДЗЕ'РЖАНЫ *прым. жартаўл.* Стары, падношаны (пра чалавека). Ні хачý за такóго — паддзёржанаго — ісьці, і хлóпцаў ні бракýя. *Яр.*

ПА'ДКІ (пáткі) *прым. асудж.* Схільны (да чаго), ласы (на што). О, янá пáтка на чужóё; за сьвет пóйдзя! *Кр.* Такі ўжэ пáткі да дзяўчáт, гаш пáдая. *Гр.*

ПАДЛАЖЫ'ЦЬ, -ý, -ыш *зак.* Падагнуць (падрубіць); зрабіць карацейшым. Задóўго пальтó, трэ падлажыць. *Вар.*

ПАДМАНУ'ЦЬ, -ý, -ёш *зак.* Схлусіць, змяніць. Да ні слýхайця вы ягó, ён падманýў гэто. *Вальк.*

ПАДНІМА'ЦЦА *незак.* Гл. п а д н я ц ц а. *Кр.*

ПАДНЯБЕ'ННЕ (паднябёнё), -яў *н.* Скляпенне. Усё паднябёнё выгарало ў пёчы. *Гр.*

ПАДНЯ'ЦЦА, -німýсё, -німясься *зак.* Выказаць жаданне зрабіць што, узяцца за што. Рас панімáя, то і падняўсё лячыць. І бач, вылячыў чалавéка. *Гр.* Рас падняўсё, то лячы, сынку, ні кідай. *Ст. С.*

ПАДО'ЛАК, -аў *м.* Ніжняя частка кашулі, падол. *Дзяр.*

ПОДО'ЎЖНЯ, -яў *ж.* Адтуліна, ляток (у калодзе пчол). Уцякáюць ад дажджý, гаш у падóўжні ні зьмяшчáюцца (пчолы). *Едн.*

ПАДПАЛАМЯ'НКА (патпаламянка), -аў *ж.* Хлеб, спечаны перад полымем. *Едн.*

ПАДПАЛЮ'К (патпалюк), -óў *м.* Каня (птушка). Патпалюк на дошч крычыць у балóці: патпалю-патпалю! *Гр.*

ПАДПА'СЦІ (патпáсьці), -дý, -дзёш *зак.* Правінаваціцца. Мýсіць, патпáў, рас судзіць бýдуць. *Ст. С.*

ПАДПЕ'РЦІСЯ, падапрýсё, -эсься *зак. іоан.* Атрымаць дапамогу, дапамагчыся. Нуй сын расцé. Такім падапрэсься! Вадыі кáплі ні дасьць, ні тó што. *Гр.*

ПАДРЫЗАВА'ЦЬ, -зýю, -зýяш *зак.* Пададбраць (шуфлем зерне) з ніжняй часткі кучы і высыпаць на верхнюю. Нáтто расплылáся гóрба, трэ падрызавáць, каб меньш мéсца займáла. *Гр.*

ПАДРЫЗО'ЎВАЦЬ, -ю, -яш *незак.* Гл. п а д р ы з а в а ц ь. Ён бýдзя падрызóўваць пшаніцу, а я падмятý ток. *Ст. С.*

ПАДСА'НКІ (пацсáнкі), -аў *толькі мн. устар.* Невялікія дапаможныя санкі для вывазкі лесу. *Кр.*

ПАДСКРЭ'БУХА (пацскрэбуха), -аў *ж.* Хлеб з аскробак цеста, паскрэбак. Пацскрэбуху сьпяклá з тагó цéста, што дзяжý выіскрабла. *Гал.*

ПАДСКРЭ'БУШКА (пацскрэбушко), -аў *м.* Паскрэбак. *Едн.*

ПАДСПО'Д (пацспóт) *прысл.* На самы ніз, падыспод. Сушэйшыя грыбэ пацспóт кладзі, а валкавáтыя навéрх — пацсóхнуць ішчэ. *Гр.*

ПАДСПО'ДАМ (пацспóдам) *прысл.* Падыспадам. Пацспóдам мо і ні выісахло, а зьвéрху пярасóхло. *Св.*

ПАДСТРЫГА'ННІК (пацстрыгáньнік), -аў *м.* Той, хто стрыжэ; цырульнік. На ўсé сялó пацстрыгáньнік. Яг захварэў, так і ні былó камý стрыіхчы. *Вальк.*

ПАДСУ'ХІ (пацсýхі) *прым.* Хударлявы.

Здэ́цца, хво́ры, аля не, так пацсу́хі чалаве́к. *Кр.*

ПАДСЦЕ'Л (пацьсьцёл) *м.* Тое, чым падсціляюць; подсціл. На пацьсьцёл лісту зь ле́су нанасіў. *Гр.*

ПАДТАТА'КВАЦЬ (паттата́кваць), -ваю, -аяш *незак.* Падтакваць. Хай паттата́квая, як вы́расьця — дасьць і яму́ (бацьку). *Вальк.*

ПАДТАТА'КНУЦЬ (паттата́кнуць), -у, -яш *зак.* Гл. падтатакваць. Яшчэ́ больш ро́гі настаўля́я, як ты паттата́княш. *Гр.*

ПАДТО'ЎЧАНЫ (патто́ўчаны) *дзеепрым.* З затаўкаю (пра суп). На́тто лю́біць патто́ўчану капу́сту хло́пяц. *Св.*

ПАДХВАТНЫ' (патхватны́) *прым.* Зручны, Дзе той маленькі но́жык? Такі патхватны́ быў — і карто́плі абрэ́зваць, і ў казяке́ схадзіць. *Кр.*

ПАДЧАРО'ВАК (паччаро́вак), -о́ўкаў *м.* Сала з падчарэўя. С паччаро́ўка ні лю́біць скварак. *Ст. С.*

ПАДШПА'РАК (пачшпа́рак), -ркаў, *м. жартаўл.* Падростак (14—16 год). От ішчэ́ ні кавале́р, а пачшпа́рак ужэ́ до́бры! *Гр.*

ПАДЭ'РВА *ж.* жартаўл.: цэлая падэ́рва — падарвацца можна (ад смеху). Падэ́рва цэ́лая з таго́ дзіця́ці: танцу́я і прыту́пвая, як стары́. *Ст. С.*

ПАЗАБІВА'ТЫ *дзеепрым.* Пазабіваны. Усе́ во́кна пазабіваты, му́сіць, ніхто́ ні жыве́ тут. *Кр.*

ПАЗАВУ'ГЛІЧЧУ (пазаву́глічу) *прысл.* Выціраючы вуглы (лазіць). Бе́гаюць, як саба́кі, пазаву́глічу. *Гр.*

ПАЗВЫКА'ЦЬ, -юць *зак.* Папрывыкаць.

Пазвыкáлі, каб йіх (куранят) крупáмі кармілі, і ні ядýць нічóго бóляй, паскýды гэтыя. *Гр.*

ПАІМЛЕ'ЦЬ (пайімлéць), -ліць *зак.* 1. З'аімжэць. Пайімлéў дошч, мо і разыдзяцца. *Гр.* 2. Паімжэць. Хай хоць трóхі пайімліць, і то сьпёкі такóйі ні бýдзя. *Св.*

ПА'КАЛАДКА (пáкалатка), -аў *ж.* Пастка (для мышэй). У пáкалатку ні лёзуць, да халéра йіх нясé ў скрыню — у пшаніцу. *Вальк.*

ПАКАЛІЗАВА'ЦЬ, -зýю, -зýяш *зак.* Пастрыгчы (пладовыя дрэвы). Як пакалізавáў, нат яблыкі бóльшыя парасьлі на яблыні. *Гр.*

ПАКАЧА'ЦЦА *зак.* Гл. качацца. Давáй пакачáямсё, хто з нас дýжайшы, га? *Ст. С.*

ПАКЛЭ'ДЫЧ, -аў *м.* Той, хто кастрыруе («пакладае»). Паклікаў паклэдыча, хай паршукá выпакладая. *Гр.*

ПАКО'С, -аў *м.* 1. Скошаная трава (збожжа); валок. Пакóсы разьбівáям, хай сóхня сéно. *Св.* 2. Палоска лугу, што пракошваецца адным касцом; пракос. Цяшко касіць, як пакóс шырóкі зóймяш. *Гр.*

ПАЛАКА'ЦЬ, -шчу, -шчаш *незак.* Паласкаць. Пайдý плáцё палакáць у балéйі. *Гр.*

ПАЛАННЕ' (паланё) *н.* Праполка. Паланя аднагó на тыдзянь бýдзя. *Ст. С.*

ПАЛАМЯ'НКА, -аў *ж.* Хлеб (у выглядзе тоўстага блінца), які пякуць перад полымем. Паламянку сьпякý на палýдзянь, пакýль хлеп пасаджáю пякчы. *Ст. С.*

ПАЛА'ТКІ, -аў *толькі мн.* Прыстасаванне з жэрдачак, дзе складаюць снапы (робіцца ў гумне над токам). *Кр.*

ПАЛАТНО' *н.* 1. Металічная сетка сіта (у ар-

фе). Палатно́ зарэ́тко, прапуска́я аза́дзё. *Гр.* 2. Пляцёнка (дно з лубу) у рэшаце. *Ст. С.*

ПАЛАЦЦЕ′ (палацё) *н.* Праполка. Палаця́ мно́го. Ве́дама — гэ́даквяля льну насе́ялі. *Кр.*

ПАЛЕ′ННІК (пале́ньнік), -аў *м.* Той, хто паліць у печы, апальшчык. Хай пе́чы па́ліць у шко́лі. Не́што ш і пале́ньніку пла́цяць. *Св.*

ПАЛЕ′ЧЫ (пале́ча), -аў *толькі мн.* як *зборн.* Пале́нне (дровы). Пале́чаў то́ўстых накідаў у печ — ні хо́чуць гарэ́ць. *Гр.*

ПАЛІ′ВАНІК, -аў *м.* Збанок (гаршчок), пакрыты паліваю. У паліваніку малако́ ні аддае́ за́тхляю. *Вальк.*

ПАЛКА′ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак.* Глытаць. Нітрыма́й у ро́ці, хучэ́й палка́й. На, запі малако́м. *Ст. С.*

ПАЛКНУ′ЦЬ, -у́, е́ш *зак.* Праглынуць. Ні магу́ палкну́ць, засе́ло ў ро́ці. *Кр.*

ПАЛМІ′САК, -скаў *м.* Неглыбокая металічная луджаная талерка. У палміску даю́ дзіця́ці, то хоць ні разаб'е́. *Вальк.*

ПАЛО′ЙКА, -аў *ж.* Ручайка (льну). *Едн.*

ПАЛО′КАНЫ *дзеепрым.* Палаоканы. Пла́цё ішчэ́ ні пало́кано. *Гр.*

ПАЛУ′ДНАЦЬ, -аю, -аяш. Палуднаваць. Дай хло́пцу палу́днаць, мо захацёў е́сьці. *Кр.*

ПАЛУ′ДЗЕНЬ (палу́дзянь) *м.* 1. Абед (ядa). Палу́дзянь хло́пяц нясе́. Ужэ́ гадзін дзве. *Кр.* 2. Паўдня. Бач, як высо́ко со́нцо — палу́дзянь. *Гр.*

ПАЛУЧА′ЦЬ, -а́ю, -ая́ш *незак.* Атрымліваць. Як ро́біш, так і палуча́яш. *Яр.*

ПАЛШУ′БАК, -бкаў *м.* Паўкажушак. У нас палшу́бак харо́шы но́сяць адно́ на сьвя́то. *Гр.*

ПА′ЛЬНУЦЬ, -у, -яш *зак.* 1. Пальнуць. 2. *пе-*

*ран.* Рэзка, нечакана ўдарыць. Як па́льнуў па назе́, гаш заро́ў. *Вальк.*

ПАЛЬТО′ НА КАЖУ′СЕ. Шуба. Яг быў у іх, шу́ба каза́лі, а ў нас — пальто́ на кажу́сі кажуць. *Гр.*

ПАМАГА′ННІК (памага́ньнік), -аў *м. спагадл.* Памагаты. А гунь і памага́ньнік наш ідзе́. *Ст. С.*

ПАМАГА′ННІЦА (памага́ньніца), -аў *ж. спагадл.* Памагатая. Хай малы́м памага́я на́ша памага́ньніца. *Гр.*

ПАМАГА′ТАР, -аў *м.* і *ж. зняважл.* Памочнік; памагаты. Памо́чніку ра́ды, а такі̀х памага́тараў, каб адно́ за гро́шы, ні трэ́ба. *Гр.*

ПАМАЖНЕ′ЦЬ, -е́ю, -е́яш *зак.* Узмужнець. Настая́шча дзе́ўка ста́ла, памажне́ла. А то ўсё дзіця́ была́. *Кр.*

ПАМАЛЕ′ЧКУ *прысл.* 1. Не спяшаючыся, памаленьку. І памале́чку да захо́ду со́нца зо́йдзяш. *Вальк.* 2. Паступова. Памале́чку і мы зро́бімо, што трэ́ба. *Гр.* 3. Асцярожна. Памале́чку, памале́чку, а то ўпа́дзяш. *Гр.*

ПАМАЛЮ′СЕНЬКУ (памалю́сьсяньку) *прысл.* Надта павольна (памалу). І так ужэ́ памалю́сьсяньку ідзе́, ле́дзьвя но́гі ця́гня. *Кр.*

ПАМО′ЦНЫ *прым.* Які памагае. Гэто ляка́рство, ка́жуць, памо́цно. *Вальк.*

ПАМПУ′ШКА, -аў *ж.* Невялікая звязка тытуню. Вя́жам у пампу́шкі і здаём туту́нь. *Зл.*

ПАМЯЛЬНІ′К, -оў *м.* Памяло (для падмятання поду ў печы). Памяльніко́м вымята́ю по́пял, як хлеп саджа́ю. *Ст. С.*

ПАНАПІЦО′ЎВАЦЬ, -аю, -аяш *зак. непаш.* Панапакоўваць. Цэ́лыя то́рбы панапіцо́ўвалі гарэ́хамі. *Вальк.*

ПАНАРА'ВІЦЬ, -а́ўлю, -а́віш *зак.* Спадабаць. От панара́віў ката́ хло́пяц! І сьпіць зь йім. *Гр.*

ПАНАРА'ЎНЫ *прым.* Да спадобы. Дахале́ры панара́ўны хло́пяц. Усе́ яго́ лю́бяць. *Св.*

ПАНЧО'ШКА, -аў *ж.* Шкарпэтка. Панчошкі ле́там но́сяць, а зімо́ю панчо́хі. *Гр.*

ПАНЫ'ГАЦЬ *зак. асудж.* Гл. ныгаць. Што ён тут еў — паны́гаў, паны́гаў — і ўсё цэ́ло. *Ст. С.*

ПАНЯВА', -о́ў *ж.* Скаварада. Цэлу паняву́ ры́бы насма́жыў. *Едн.*

ПАПАДЛА'ВІЧУ *прысл.* Пад лавамі. Чаго́ ён по́ўзая пападла́вічу, выціра́я пыл? *Кр.*

ПАПАЛАКА'ЦЬ, -лашчу́, -ло́шчаш *зак.* Папаласкаць. Бу́ду ве́шаць, ужэ́ папалака́ла. *Гр.*

ПАПА'РЫЦЦА, -ыцца *зак. зламоўн.* Паляжаць. Хале́ра за йімі што папа́рыцца, усё павыця́пваюць. *Ст. С.*

ПАПАТРАПА'ЦЬ, -плю́, -пляш *зак.* 1. Папатрапаць. 2. *незад.* Многа (вялікую дарогу) ісці. От папатрапа́лі мы тагды́, як машы́на сапсава́лася. *Гр.*

ПАПЕ'Р *м.* Папера. Бе́лы, як папе́р. *Гр.* Папе́ру німа́ хату́ аклеяць. *Ст. С.*

ПАПЕ'РЦІ *зак. груб.* З'есці. Усе́ папе́рлі, і зубо́ў зачапіць німа́ за што. *Ст. С.*

ПАПЛЕ'НТАНЫ *дзеепрым.* Паблытаны, патаптаны. Німа́ яг жаць, усе́ жы́то папле́нтано. *Кр.*

ПАПЛЕ'НТАЦЬ, -аю, -аяш *зак.* Паблытаць, стаптаць. Каравэ́ папле́нталі збо́жо, то пасьля́ жніва́ палаві́ну каласо́ў на зямлі́ ляжы́ць. *Гр.*

ПАПРАВУ'НАК *м. непаш.* Выздараўленне, папраўка. Німа́ ніякага паправу́нку, усе́ хварэ́ю. *Гр.*

ПАПРЫБІВА'ЦЬ *зак.* Гл. прыбіць. Папрыбіваў ралю, а цяпер сеяціму. *Св.*

ПАПРЫ'ШЧЫЦЬ *зак.* *Гл.* прышчыць. Блашчыцы кіпятком папрышчыла. *Пл.*

ПАПУСЦІ'ЦЦА (папусьціцца), -шчусё, -сцісься *зак.* Пасучы быдла, перайсці з ім далей ад дому. Німа кала дому, недзя папусьціліся ў лес. *Св.*

ПАПЭ'НКАЦЬ *зак.* Гл. пэнкаць. *Кр.*

ПАРАЖНЯВА'ЦЬ, -нюю, -нюяш *незак.* Бяздзейнічаць. І я нічого ні зараблю, паражнюючы тут (з возам). *Гр.* Конь паражнюя, то бяры і гары ялавіну. *Св.*

ПАРО'ЧНА (парочно) *прысл.* У год раз, за год. Парочно плацім за дом, ні кожан месяц. *Гр.*

ПАРШУ'-ПАРШУ'! Падзыўное слова. Так клічуць кабана. *Гр.*

ПАРШУ'К, -оў *м.* Кабан, парсюк. Свіню кармішімям на прыплот, а паршука заколям. *Ст. С.*

ПА'СВІСКА (пасьвіско) *н.* Паша. Высахло пасьвіско, німа дзе кароў пасьвіць. *Едн.*

ПА-СВО'ЙЦЫ *прысл.* Кожны сваім, не мяняючыся (біць яйкі). *Гр.*

ПАСВЯ'ДЧЫЦЬ (пасьвяччыць), -ччу, -ччыш *зак.* Выступіць сведкай, пасведчыць. І ён пасьвяччыў, што гэдык было. *Гал.*

ПАСЛАБЧА'ЦЬ (паслапчаць), -ая *зак.* Аслабіцца. Трохі паслапчало ў боці, ні так цісьня. *Зл.*

ПАСЛЕ'Д (пасьлет) *м.* Нячыстае, дробнае зерне; адыходы (пры арфаванні). Пасьлет ат пшаніцы курам высыпалі. *Гал.*

ПА'СМЕНЕ (пасьмянё), -яў *н.* Пасма. Пасьмянё ніцей осукала. *Св.* Пасьмянё косаў. *Пл.*

ПАСО'БЕ (пасо́бі) *прысл*. Асобна, паасобку. Пасо́бі жыву́ць: ба́цько сабе́, сын сабе́. *Св.*

ПАСО'ЛЬКА *ж*. Дэкаратыўная (каляровая) фасоля. Пасо́льку ў агаро́ччыку пасадзіў. *Гр.*

ПАСО'ЛЯ *ж*. Суп з бульбы і фасолі. Нахлё-баўсё пасо́лі і бу́дзя зь міне́. *Св.*

ПАСПО'РВАЦЬ, -аю, -аяш *зак. асудж.* Падняць са сну, разбудзіць. І чаго́ ён паспо́рваў йіх у таку́ю рань? *Кр.*

ПАСТРЫГА'ННІК (пастрыга́ньнік), -аў *м.* Тое, што і п а д с т р ы г а н н і к. Хоць ні такі, як у го́радзі, пастрыга́ньнік, але пацстрых. Усё ле́пяй, як касма́ч быў. *Гр.*

ПАСЫКНУ'ЦЦА, -у́сё, -е́ська *зак.* Зрабіць крок да выканання чаго, наважыцца. Быў пасыкну́ўсё сказа́ць, але змо́ўчаў. *Ст. С.*

ПА'СЬМЕНЕ (па́сьмянё), -яў *н.* Пасма (льну, нітак). Мо якоё па́сьмянё напраду́ ішчэ́, пасяджу́ тро́хо. *Гр.*

ПАСЬЦІ' *часц.* 1. Амаль. Пасьці цо́ўно вядро́ надаііла за рас. *Кр.* 2. Бадай. Пасьці што ні варт самы́м пякчы́ хлеп — купля́ць вы́гадняй. *Гр.*

ПАСЯДЗЕ'НКІ, -аў *толькі мн. непаш.* Вячоркі. Ко́жны дзень ляціць на тыя пасядзёнкі, ні ўпыніць. *Ст. С.*

ПАТА'ЧКА, -аў *ж.* Патуранне. Рас пата́чку даю́ць, то дзе ў яго́ (дзіцяці) ро́гі ні вы́растуць! *Вальк.*

ПАТРУ'ХА *ж.* Дробныя астаткі сена, саломы; пацяруха. Нape̋рласё патру́хі, як се́но вазілі. *Вальк.*

ПАТЫ'ЧКІ, -аў *адз.* п а т ы́ ч к а *ж.* Лічыльныя (школьныя) палачкі. Бяс паты́чкаў лічыць, і ні трэ́ба купля́ць йіх. *Кар.*

ПАЎБУТЫ'ЛАК, -лкаў *м.* Тое, што і п а ў б у т э л е к. С паўбутылка паю цяля. *Св.*

ПАЎБУТЭ'ЛЕК (паўбутэляк), -аў *м.* 1. Пасудзіна ёмістасцю 1/4 літра; паўбутэлькі. Цяпёрака ў паўбутэльку гарэлку рэтко ўглёдзіш, усё ў бутэльках. *Яр.* 2. Мера вадкасці — 1/4 літра. *Дзяр.*

ПАЎЗІРА'ЦЦА, -аюсё, -аясься *зак.* Паглядзець. Паўзірайся, што там хлопцы робяць, мо паснулі ўжэ? *Гр.*

ПАЎПА'ЛЬТА (паўпальто), -аў *н.* Кароткае паліто, паўпаліто. У паўпальці ходзіць. *Гр.*

ПАЎПА'ЛЬТКА (паўпальтко), -аў *н.* Святочнае паліто. На сьвято паўпальтко, на будзянь — пальто. *Гр.*

ПАЎПРЫ'ЦА, -аў *ж. абразл.* Пра дзяўчыну. От нілюцка паўпрыца гэта. *Гр.*

ПАЎСЛУХА'ЦЦА, -аюсё, -аясься *зак.* Прыслухацца. Паўслухаўсё і кажа: — Сабака яхкая, нёдзя зайца даганяя. *Кр.*

ПАЎСТРЫГА'ЦЬ, аю, -аяш *зак.* Уваткнуць (у зямлю). От, трохо паўстрыгала, мо парасьцё (цыбуля). *Ст. С.*

ПАЎТАРА'ЧКА, -аў *ж.* Бутэлька, ёмістасцю 0,75 літра. Віна паўтарачку купілі. *Гр.*

ПАЎХІ'Р, -оў *м.* 1. Пухір. 2. *перан.* Карапуз. *Ст. С.*

ПАЎЧА'СТАК, -аў *м. устар.* Мера зямлі — да 10,5 га. *Кр., Пл.*

ПА'ХАЦЬ *ж. устар.* Ворная зямля. Аднаё пахаці ў асадніка было гактараў трыста. *Гр.*

ПАХВАЛЕ'ЙКА (пахвалёйко), -аў *м.* Хвалько. Адно хваліцца — падло пахвалёйко гэты. *Св.*

ПАХРАБУСТА'ЦЬ, -ушчу́, -уоціш *зак. асудж.* Паламаць (з трэскам, хрустам). Усе́ ко́сьці пахрабуста́ў, як нае́хаў (на сабаку). *Кр.*

ПАХРАСЦІ'ЦЦА (пахрасьці́цца), -і́цца *зак.* Парасці, папускаць расткі (пра бульбу). Трэ пяраціра́ць карто́плі, пахрасьціліся, як цяпло́ ста́ло. *Гр.*

ПАХУДНЯ'ЦЬ, -я́ю, -я́яш *зак.* Пахудзець, пахуднець. Пахудня́ў бычо́к за зіму. *Св.*

ПАЦЕ'РЦІ, патру́, -э́ш *зак.* Пакамячыць (адзенне). Ве́дама, ні згорня, кіня абы-як, то дзе яе ні патрэ́ш! *Ст. С.*

ПАЦЕ'С, -аў *м.* Столь. Што над на́мі ўверх нага́мі? — Му́ха на паце́сі. *Дзяр.* Рос боп, рос гаш пат паце́с. *Св.*

ПА'ЧАСЕ (па́часё) *н.* Адыходы (кудзеля) пры часанні льну. Ку́жалю начаса́ла капу́, і па́чася німа́ло начаса́ласё. *Гр.*

ПА'ЧАСІ (і па́часы) *толькі мн.* Тое, што і п а ч а с е. Па́часы праду́. *Кар.*

ПАЧЫ'НАК, -нкаў *м. перан. жартаўл.* Тоўсты. Ад'елася, ру́кі-пачы́нкі і касце́й ні дама́цаясься. *Ст. С.*

ПАШТА'Р (пачта́р), -о́ў *м.* Пашта.льён. Пісьмо́ пачта́р пры́нёс. *Пл.*

ПАШУГА'ЦЬ *зак.* Гл. ш у г а ц ь. Пашуга́й хло́пца. *Гр.*

ПАШЧЭ'НКА, -аў *ж.* Ніжняя чэлюсць. Як па́даў, пашчэ́нкаю зда́ўсё. *Гал.*

ПАШЫХАВА'ЦЬ, -шыху́я *зак. безас.* Пашанцаваць. От яму́ пашыхава́ло: і туды́ і наза́т сва́як прыве́с. *Ст. С.*

ПЕ'ЛЮСЦІ (пе́люсьці), -яў *толькі мн.* Праход у печ; чалеснікі. І ў пе́люсьцях закіпіць, як на хлеп напа́льваяш печ. *Вальк.*

ПЕЛЯНГАВА'ЦЬ (пялянгаваць), -гу́ю, -гу́яш *незак. асудж.* Даглядаць, празмерна многа клапаціцца (аб дзіцяці). Лепшы выраз бы, кап так ні пялянгава́ла яго́ змалянко́сьці. *Зл.*

ПЕНЬ, пнёў *м.* Калода (пчол), вулей. Тры пні пчол ма́ю. *Ст. С.*

ПЕРАВА'РАНАЯ (пярава́рана) (вада) *прым.* Якая закіпела, перагатаваная. Сыро́йі нігды ні п'е, адно́ пярава́рану. *Вар.*

ПЕРАВЯ'ЗІСТЫ (пярав́язісты) *прым.* 1. Перацiснуты (пра сноп). Пярав́язістыя снапэ́ нé-кія, адно́ вузырэ́ стрыча́ць. *Гр.* 2. З доўгай таліяй. Не́ка дзе́ўка пярав́язіста. *Св.*

ПЕРАГАВО'РШЧЫК (пярагаво́ршчык), -аў *м.* Перакладчык. Бяс пярагаво́ршчыка адзін аднаго́ ні паніма́юць. *Вальк.*

ПЕРАГУ'КАЦЬ (пярагу́каць) *зак.* Гл. г у к а ц ь. Ні зганя́ў да кнура́, і пярагу́кала ўжэ. *Кр.*

ПЕРАДО'М (пярадо́м) *прысл.* Даўней, уперад. Пярадо́м тако́йі су́шы ні было́, як цяпе́р. *Гал.*

ПЕРАЖА'БІЦЦА (пяража́біцца), -іцца *зак.* Перагнуцца. Пяража́білася — дугі ні сагну́лі с тае́ бярэ́сьціны. *Даўг.*

ПЕРАЖО'ВІНЫ (пяражо́віны), -аў *толькі мн.* Пеpaжаванае. Не́што мно́го пяражо́вінаў ж жо́луба дастáў — каро́ва сла́бо е́ла. *Вальк.*

ПЕРАЛЯЦЕ'ЦЬ (пяраляце́ць), -іць *зак.* Зламацца нечакана, з трэскам. Ду́маў, вы́трымая кла́тка, як нае́хаў — пяраляце́ла. *Дзяр.*

ПЕРАПІЛІ'КАЦЬ (пярапілі́каць), -аю, -аяш *незад.* Перарэзаць (тупым, з цяжкасцю). Нуй нош, ніткі ні пярапілікая. *Зл.*

ПЕРАРО'ЧНЫ (пяраро́чны) *прым.* Такі, які

дае плады не кожны год, а праз год («рок»). Гэта яблыня пярарóчна: рок рóдзіць, а рок не. *Пл.*

ПЕРАСЯ'ДКА (пярасятка), -аў *ж.* Перасадка. Ехаў бяс пярасяткі. *Вар.*

ПЕРАХЛЯ'БІСТЫ (пярахлябісты) *прым.* Худы, ненаеты — з упалымі пахамі. Ні панаядáліся, пярахлябістыя каравэ́. *Гр.* Ні конь, а дрáба нéка — пярахлябісты такі. *Св.*

ПЕРАХЛЯ'БІЦЦА (пярахлябіцца), -іцца *зак.* Схуднець ад голаду (пра быдла). Німá нáшы, скаціна чысто пярахлябілася. *Гал.*

ПЕРАЦІРА'ЦЬ (пяраціраць), -трý, -трэ́ш *незак.* 1. Ачышчаць бульбу ад расткоў. Пярацірáю картóплі на зáўтра вары́ць. *Вальк.* 2. Рабіць зацірку — мяшаць муку з вадой (яйцом), расціраючы грýдкі. *Кр.*

ПЕРАЧА'ЎРАЦЬ (пярачáўраць), -аю, -аяш *зак.* 1. Ачуняць, адолець хваробу. От, пярачáўраў, і лепш стáло. *Св.* 2. Праліпець. Мо як пярачáўраю зіму. *Гр.*

ПЕ'РВІНА *ж.* Першы ўкос. З вос пéрвіны прывёс, і атáвы трóхо бýдзя. *Кр.*

ПЕ'РСЦІ (пéрсьці), -яў *толькі мн.* Грудзі (у каня), персі. От пéрсьці ў тагó жарапцá! *Вальк.*

ПІДНАВА'ЦЬ, -нýю, -нýяш *незак.* Старажыць, пільнаваць. Стары́, так хоць дом піднýя. *Гал.*

ПІЛАВІ'НЫ, -аў *толькі мн.* як *зборн.* Пілавіннe. Як шалявáў хáту, пілавінамі ацяпліў сьцéны. *Кр.*

ПІЛІ'КАЦЬ, -ю, -яш *незак. незад.* Рэзаць (тупым інструментам). Бýдзя табé пілікаць па дóскам тэ́тым. *Св.*

ПІ'ЛЬНА (пільно) *прысл.* Неадкладна, тэрмінова. Бяжы́, як пільно трэ́ба. *Св.*

ПІНДЖА'К, -óў *м.* Пінжак. У пінджаку́ апра́нуты. *Кр.*

ПІРЫ'ЦЬ, -у́, -ыш *незак.* 1. Праць. Пайшла́ палатно́ піры́ць. *Зл.* 2. Біць, лупцаваць, перыць. Хай пірыць, раз заслужы́ў. *Гал.*

ПІСКЛЯ'*ж.* Піскляк. І сну яму́ німа́, піскля́ нéка. *Вар.*

ПІТУ'К, -óў *непаш.* Аматар выпіць, піток. Які́ с старóго піту́к ўжэ? Мо ча́рку вы́п'я. *Кр.*

ПІТУ'ШКА, -аў *ж.* 1. *устар. жартаўл.* Невялікі гаршчочак. Піту́шку кру́пніку звары́ла — і ні вы́ялі. *Гр.* 2. *зняважл.* Нос. Піту́шку разьбіў, кроў ю́шыць. *Ст. С.*

ПІЦАВА'ЦЬ, -цу́ю, -цу́яш *незак. асудж.* Класці, пакаваць. Наéўсё і ішчэ́ ў кішэ́ні піцу́я. *Гал.*

ПЛАВУ'К, -óў *м.* Плывец. Які́ зь мінé плаву́к, як сакéра, на дно іду́. *Кр.*

ПЛА'ЗМА *прысл.* Плазам. *Пл., Зл., Кр.*

ПЛАЦЕ'НКА (плацéнко) *н.* Самаробнае палатно з шарсцяных і кужэльных нітак; шарачок. Плацéнка ні хваціло на пінджа́к. *Зл.*

ПЛЕ'ЧЫ, плеч *толькі мн.* 1. Падкладка (у кашулі). *Кр.* 2. Ватнія плечыкі ў вопратцы. Плéчы вы́кінуў у пальцé. *Св.*

ПЛЕШ, -óў *м.* Верхні стык страхі; вільчык. Плеш накрыва́ям яшчэ́ дóшкамі, кары́там такі́м. *Гр.*

ПЛЕ'НТАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Блытаць. Ніці плéнтаюць, канца́ ні знóйдзяш. *Вар.*

ПЛЫ'ТКА (плы́тко) *прысл.* Неглыбока, мелкаводна. Тут плы́тко, мóжно пярайсьці́. *Яр.*

ПЛЫ'ТКІ *прым.* Мелкаводны. Плы́ткая рака́. *Гал.*

ПЛЫТЧА'ЦЬ (плыччáць), -áя *незак.* Станавіцца мелкім (мелкаводным). Сýшыць, так і рэ́чка плыччáя. *Св.*

ПЛЮСКАЦЕ'ЦЬ, -іць *незак.* Хлюпаць. Вады́ набрáў у бóты, гаш плюскаціць. *Вальк.*

ПЛЮ'ТА *ж.* Кепскае надвор'е, слота. Дзе ты ў такýю нігадзіну пóйдзяш: цéмнач, плю́та, хоць ты с хáты ні вылáсь. *Гр.*

ПЛЮШЧА'ЦЬ, -ы́ць *незак.* Плюхаць, хлюпаць (пра вадкасць у абутку). Мýсіць, набрáў вады́ ў бот — плюшчы́ць. *Вальк.*

ПЛЯ'ГА *ж.* Флегма. Прастудзіўсё, пля́гу аткáшліваю. *Кр.*

ПЛЯ'МКАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Пляскаць (пры ядзе). Бры́тко пля́мкаць, як я́сі. Чы́сто свіня́. *Гр.*

ПЛЯСКА'Ч *м.* Гатунак ячменю — з двума радамі зярнят у коласе. *Вар.*

ПЛЯТНЯ'К *м.* 1. Пляцень. Плятня́к згніў, і свіня ў вагарóт лáзяць. *Вальк.* 2. Зашчытак ад снегу. Замяцé шашý, як плятня́к ні пастáвяць. *Гр.*

ПЛЯШЫ'ЦЬ, -ý, -ы́ш *незак.* Накрываць страху на стыку — плеш (гл.). Плеш пацёк, бýдзям пляшы́ць. *Гр.*

ПО'ВЕРХУ (пóвярху) *прысл.* Паверх, вышэй. Пóвярху пусьціў, а так па бля́сі забарабаніў бы. *Св.*

ПО'ДЗЕЛЕНКІ (пóдзялянкі), -аў *адз.* п о́ д з е л е н к а *ж.* Асеннія грыбы з зялёным сподам у шапачцы. Пóдзялянкі дóбро саліць. *Вальк.*

ПО'ДЗІШЧА (пóдзішчо), -аў *н.* Подсцілка

для стога. Пóдзішчо на стох рабілі с камéня, лазы́, дроў. *Ст. С.*

ПО'ДЛАПКА, -аў *ж.* Падкладка пад з'езджаны полаз. Пóдлапкі трэ даць, палазэ́ зьлізáліся і капылóм шарýюць. *Вальк.*

ПО'ДУШКА, -каў і -шак *ж.* 1. Падушка. *Кр.* 2. Пракладка ў калёсах — над пярэдняй воссю. *Вар.*

ПО'КАЗКА (пóкаска), -аў *ж.* Прыказка. Мнóго пóкаскаў вéдая гэты чалавéк. *Гр.*

ПО'КУП *м.* Попыт. Як німá пóкупу, то і ні прадасі. *Св.*

ПО'ЛЬІМЯНЕ (пóлымянё) *н.* Полымя. Дым ішóў, а цяпéр пóлымянё віднó. *Гр.*

ПО'РТАЧКА, -аў *ж.* Тое, што і г а л ь к а. *Едн.*

ПО'РТКІ, -аў *толькі мн.* Штаны з валенага дамашняга сукна. Пóрткі цьвярды́я і цяшкія. *Св.*

ПО'СПАЛЬ *прысл.* Запар. Два дні пóспаль ні вылáзіць с хáты. *Дзяр.*

ПО'ЎПРЫК, -аў *зняважл.* Пра малое дзіця. Куды ён палéс, пóўпрык гэ́ты? *Вальк.*

ПО'ЎРАЗ (пóўрас), -аў *м. устар.* Завязка, вяровачка (часцей рубец з адзення). Мо які пóўрас éсьцяка мяшóк завязáць? *Вар.*

ПОЎХ, -оў *м. устар.* Крот. Бáло усё казáлі поўх на кратá. *Гр.*

ПО'ХВА *ж.* Футарал (для брытвы, акуляраў). Бяс пóхвы акуляры каб ні раздушыў у кішэ́ні. *Кр.*

ПО'ЧКА, -аў *ж.* 1. Нырка. Запалéнё пóчак. *Св.* 2. *перан. абразл.* Малая жанчына. Пóчка гэ́та ямý па пóяс. Од жóнка! *Вальк.*

ПО'ШВА, -аў *ж*. Навалочка. По́шву на по́душку з антуля́жамі нацягну́ла. *Гр*.

ПРАГА'ПІЦЬ, -плю, -піш *зак*. Празяваць, прамаргаць. Прага́піў таку́ю каро́ву, а купіў блыху́ не́ку. *Зл*.

ПРАДЗЕ'ННІЦА (прадзе́ньніца), -аў *ж*. Жанчына, якая прадзе кудзелю. *Гр*.

ПРАЕ'РХ, -аў *м*. Прарэх (у кашулі, сарочцы). Расхрэ́стаўсё, прае́рха ні зашпіліць і хо́дзіць так. *Ст. С*.

ПРАЖО'РА, -аў *м*. і *ж*. *абразл*. Ненаедны, ненажэрны. Пражо́ра гэ́та ўсё с по́трахамі зьзе́ла і ішчэ́ ма́ло. *Кр*.

ПРАЗ (прас) *прыназ*. Пра. Усе́ прась цябе́ гавары́лі, што до́ўго німа́шака. *Яр*.

ПРАКІ'НУЦЦА, -уцца *зак*. З'явіцца і хутка знікнуць. От, былі пракінуліся грыбэ́, то тро́хі насушы́лі. *Едн*.

ПРАМАНУ'ЦЬ, -е́ш, -е́ *зак*. *асудж*. Увайсці ў прывычку. Праману́ў го́лы мы́цца ўво́сянь на дварэ́, і хоць ты яму́ што хоч. *Кр*.

ПРАСАВІ'ДЛА (прасавідло), -аў *н*. Прас, жалязка. Асты́ло прасавідло, і вуглёў бо́ляй німа́. Чым ты прасава́цімяш? *Гр*.

ПРАСВЕ'ТНАЯ (прасьве́тная) *ж*. *зняважл*. Вольны час. Прасьве́тнае ні было́, ба́ло, за рабо́таю. *Ст. С*.

ПРАСТРЭ'Л, -аў *м*. Незасаджанае, незабудаванае месца (на дворы, пляцы). На гэ́тум прастрэ́лі пасадзім гру́шу і па́ру вішняў. *Вальк*.

ПРАСЦЯ'ЦКІ (прасьця́цкі) *прым*. Дабрадушны, прасцецкі. На́тто прасьця́цкі хло́пяц, ніц ні задае́цца. *Св*.

ПРА'ТАЦЬ, -чу, -чаш *незак*. 1. Апаражняць (воз ад снапоў). Трэ́ба пра́таць (снапы) да вос

вы́каціць з гумна́. *Гр.* 2. Наводзіць парадак (на стале). Прач стол, хай му́хі ні ко́рмяцца. *Ст. С.*

ПРАЎДЗІ'ВЫ: праўдзівы грыб — баравік. *Едн.*

ПРАЧУХА'НКА, -аў *ж.*: даць прачуха́нкі — налупцаваць (*жартаўл.*). *Кр., Гр.*

ПРАЧЫХА'ЦЦА, -а́юсё, -а́ська *незак.* Прачынацца. Спіць і ні прачыха́яцца, як ні будзі. *Св.*

ПРО'ДУХА, -аў *ж.* Адтуліна для паветра (духу). Про́духу пусьці, ні так паце́цімя. *Гал.*

ПРО'ША! *выкл.* Калі ласка! Не́хто сту́каўся да нас, ці што.— Про́ша, про́ша! *Зл.*

ПРУГІ' (пруте́), -оў *толькі мн.* Дзве планачкі, змацаваныя пасярэдзіне, для нацягвання палатна пры тканні. *Гр.*

ПРУ'ДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *незак.* Знішчаць. Кіпя́ткам пру́дзілі блашчы́цаў. *Кр.*

ПРУЖЫ'НА, -аў *ж.* Культыватар. Пружы́наю тро́хі парыхліў канюшы́нішчо, а тагды́ згара́ў. *Едн.*

ПРУЗУ'К, -о́ў *м.* Завязка з раменю. Каб яко́го прузука́ ле́пшаго, ву́жык адвя́зваяцца ў цэ́пі. *Кр.*

ПРУ'ТКІ *прым.* Дужы, з моцнымі мускуламі. Гэ́ты Іва́начко, німа́ ніц што малы́, а такі пру́ткі. Яго́ ні пако́ціш, рукі ні сагне́ш. *Гр.*

ПРУШНЯ'К (і праўшня́к), -о́ў *м.* Вушак. Прушня́к згніў у дзьвяра́х, выва́льваяцца. *Ст. С.*

ПРЫБІ'ЦЬ, -б'ю, -б'еш *зак.* Параўнаваць (раллю перад сяўбою). Ідзі прыбі ралю́, ні так жы́то зьлята́цімя ў разо́ры, як се́яць бу́ду. *Вар.*

ПРЫ'ВАРАК *м.* 1. Прыпасы для някіслага

варыва (мука, крупы). Прыварак вышаў, трэ малоць єхаць. *Св.* 2. Мука (з ячменю і пшаніцы) на бліны. С прыварку добрыя аладкі. *Пл.*

ПРЫЖДА'ЦЬ, -ду́, -джэш *зак.* Прычакаць Ні прыждаў сына з вайны. *Яр.*

ПРЫ'ЖЫЦЬ, -у, -ыш *незак.* Пячы (гарох); пражыць. На скварадзе гарох прыжыць. *Вар.*

ПРЫЛА'ПІЦЬ, -плю, -піш *зак.* Налатаць збольшага (не ўсё). Прылаплю, і насіцімя за каравамі: гэто ні ў школу. *Вальк.*

ПРЫМАСТАКО'ЛІЦЦА *зак.* Гл. мастаколіцца. Хоць тут як-нібудь прымастаколюсё да вас. *Ал.*

ПРЫ'МАСТКІ, -аў *толькі мн.* Палаці (для спання). Німа дзе спаць. Прымасткі зробімо, і высьпісься. *Ст. С.*

ПРЫМЕРГАВА'ЦЬ (прымяргаваць), -гую, -гуяш *зак.* Прыкінуць, прымерыць — ці падыходзіць. Трэ прымяргаваць, мо задоўга дошка. *Вар.*

ПРЫМО'РАК, -каў *м.* Выступ збоку печы, прымурак. На прыморку рукавіцы ляжаць. *Кр.*

ПРЫНО'ЖАК, -жкаў *м.* Перакладзіна, што злучае ўнізе ножкі стала (табурэткі). Ногі хай ні віснуць, стаў на прыножак. *Гр.*

ПРЫПІДНАВА'ЦЬ, -ную, -нуяш *зак.* Прыпільнаваць. І прыпідну́я, як руку садзіцімя, тагды — цап за руку! *Пл.*

ПРЫПУСЦІ'ЦЦА (прыпусьціцца), -шчусё, -сцісься *зак.* Пасучы, падыйсці (з быдлам) бліжэй да хаты. Прыпусьціліся, то ідзі падой карову. *Вальк.*

ПРЫПУСЬЦІ'ЦЬ (прыпусьціць), -шчу, -сціш *зак.* Моцна пабегчы. Дзе ты дагоніш яго! Як прыпусьціў, адно ногі выляскваюць. *Св.*

ПРЫСА'ДКІ (прыса́ткі), -аў *толькі мн.* 1. Пладовыя дрэвы. Трэ прыса́ткі калізава́ць, хаї ні дзіча́юць, бо́льшыя я́блыкі расьцімуць. *Гал.* 2. Дрэвы вакол сядзібы. Бяс прыса́ткаў ве́цяр выдува́я ха́ту, халадно́. *Св.*

ПРЫСКРЫ'НАК, -нкаў *м.* Бакавая скрыначка ў куфры. Укінь у прыскры́нак гро́шы. *Яр.*

ПРЫ'СТАРАНАК, -нка *м.* 1. Зруб, які аддзяляе бакавую частку гумна ад току. Па пры́старанку цэпам ні бі — біч разаб'еш. *Вар.* 2. Невялікая бакавая частка гумна для складвання снапоў. Ячме́нь у пры́старанак злажы́лі. *Гр.*

ПРЫСТАЎЛЕ'ННЕ (прыстаўле́нё), -яў *н.* Спектакль, прадстаўленне. На прыстаўле́нё ёгдзілі ў го́рат. *Зл.*

ПРЫСТА'ЦЬ, -ну, -няш *зак.* Пайсці жыць у сям'ю ўдавы, стаць потым мужам яе. Наш матады́ст прыста́ў да Во́лькі і жыве́. Ужэ́ дзіця́ ёсьцяка ад яго́. *Гр.*

ПРЫЧАПУ'РЫЦЦА, -усё, -ысься *зак. жартаўл.* Прыбрацца. Прычапу́рылася і чака́я кавале́ра свайго́! *Пл.*

ПРЫ'ШЧЫЦЬ, -у, -ыш *незак.* Знішчаць насякомых варам. Блашчы́цы пры́шчыла кіпя́ткам. *Гр.*

ПРЭ'НДКІ (прэ́нткі) *прым. зняважл.* Хуткі, нецярплівы. Ба́чыш, які̀ ён прэ́нткі: адно́ прышо́ў і дава́й ёсьці. Што ты ле́пшы за ўсіх? *Гал.*

ПРЭНТ, -аў *м.* Прут (жалезны). Каб які̀ прэнт, мо вы́ламаў бы ўім. *Зл.*

ПРЫЯ'ЦЬ, -я́ю, -я́яш *незак.* Прыхільна адносіцца (да каго), мець ласку, зычлівасць. Ве́дама, свой, як яна́ ні прыя́цімя яму́. *Гр.*

ПСІК! *выкл.* Так адганяюць ката. *Гр.*

ПУ'ГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* жартаўл. Піць, есці (суп). Пугая, гаш вушы трасуцца. *Ст. С.*

ПУК, -оў *м.* Галінкі, насечаныя і звязаныя ў куль, для паліва. У печцы пукамі палімо, а ў печы дрывамі. *Св.*

ПУЛЬНУ'ЦЬ, -ў, -еш *зак.* Кінуць, шпурлянуць. Куды ты пульнуў камянь? Ні пабіў акна ішчэ? *Вальк.*

ПУЛЯ'ЦЬ, -яю, -яяш *незак.* Гл. п у л ь н у ц ь. От любяць малыя каменьчыкі ў воду пуляць. *Кр.*

ПУ'НТАМІ *прысл.* З перапынкамі. Да палудня пунтамі ішоў, а цяпэрака лье бяспярэсьціху. *Гр.*

ПУ'ПЕХ (пупях), -аў *м.* 1. Пупышка. Пупяхі набрынялі, хутко распусьцяцца. *Св.* 2. *перан.* Невялікі плод. Пупяхі тыя — і ўжэ ядуць! *Гр.*

ПУСТАСМЕ'Х (пустасьмех), -аў *м.* і *ж.* *асудж.* Хто бездайпрычыны смяецца. От, есьцяка ш чаго ці німашака, усё сьмяецца пустасьмех гэты. *Вар.*

ПУСТКІ' (пусткё), -оў *толькі мн.* Пустая зямля, пустка. Тут нічого ні расьцімя — пусткё. *Ст. С.*

ПУХА' *ж.* 1. Тупы канец яйца. Пухамі такая моцная, як насок. *Кр.* 2. Пустая частка яйца. Пуха збоку, паглядзі пярат сьветам на яйцо — угледзіш і ты. *Вальк.*

ПУ'ЦАЛАВАТЫ *прым.* Мардаты. Нятто пуцалаваты твой кавалер: морды, яг баханкі. *Гр.*

ПУ'ЦЕНЬКІ (пуцянькі), -аў *адз.* п у ц е н ь к а *ж.* *пяшчотл.* Кураняткі. Дай, сынку, вады пуцянькам. *Св.*

ПУЦЬ-ПУЦЬ! *выкл.* Так клічуць куранят. *Ст. С.*

ПУЧО'К, -чкоў *м.* Тое, што і пук. Пучок прынёс, у печцы прапалім. *Гр.*

ПУ'ЧКА, -аў *ж.* Костачка (на пальцах рукі). Пучкі набіваў на руках. *Едн.*

ПУШЫ'ЦЬ, -ыць *незак.* Пучыць. Гароху наеўсё, так пушыць. *Гр.*

ПШО'ННЫ *прым.* Пшанічны. С пшоннае мукі блінцоў напякла. *Гал.*

ПЫРЭ'Й *м.* Пырнік. Пырэй парос, заглушыў авёс усёй. *Вальк.*

ПЫ'СКІ, -аў *толькі мн.* Пыса. Адно пыскі аблізвая Лыско, як мяса паеў. *Зл.*

ПЫТЛЯВА'ННІК (пытляваньнік), -аў *м.* Той, хто пытлюе збожжа. Мо хутко і наш пытляваньнік прыедзя (з мукою), людзі ўжэ едуць з бліна. *Гр.*

ПЭ'НКАЦЬ, -я *незак.* Лопаць, пукаць. На марозі стаяла бутэлька, так пэнкла. *Зл.*

ПЭ'ЦКАЛА (пэцкало), -аў *н.* Пэцкаль. Каб добры майстар, а то пэцкало гэто, адно напэцкая. *Дзяр.*

ПЯКЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Кепскае жыццё, пекла. Халера яго ўжыве ў пякельніцы гэтуй: грыжа заесьць. *Ст. С.*

ПЯЛЮ'ШКА I, -аў *ж.* Пялёнка. Спаві дзіця, мо халадно яму ў пялюшках. *Яр.*

ПЯЛЮ'ШКА II *ж.* Кармавы гарох. Пялюшку каравом на сілос сеюць, а так — горкія зярнята ў ёй. *Кр.*

П'Я'НЫ ◇ П'яны як зямля — надта п'яны, п'яны ў дым. *Гр.*

ПЯРГА' *ж.* Пылок (пчаліны). На ношках у пчалы пярга. *Едн.*

ПЯРЭ'ДНІЦА, -аў *ж.* Вяроўка ў пярэдняй частцы калёс (для ўмацавання снапоў, сена).

Пярэдніцу завельку пусціў, добро сена ні ўціснулі. *Вальк.*

ПЯРЭ'ЗВЫ, *-аў тольки мн.* Пачастунак у бацькоў маладой (праз тыдзень пасля вяселля). *Яр.*

ПЯРЭ'МЕШКА (пярэмяшка), -аў *ж.* Няўладзіца. Мо якая пярэмяшка будзя, куды ты тагды бяс сває хаты падзенясься? *Вальк.*

ПЯРЭ'РВА *ж. устар.* Перапынак. Дзве хоткі змалацілі бяс пярэрвы. *Ал.*

ПЯСЧУГА' (пяшчуга) *ж. зборн. узмацн. незад.* Пяскі, пясчаная зямля (глеба). Якая там зямля! Пяшчуга адна, ніц ні родзіць. *Кр.* Вочы пяшчуга засыпая. *Пл.*

ПЯТНАСТО'ЎКА, -аў *ж.* 1. *жартаўл.* Вельмі маладая (гадоў пятнаццаці) дзяўчына. Стары, а ўсё пятнастоўкі наўме! *Вар.* 2. *пагардл.* Немаладая дзяўчына, якая надта маладзіцца. Гэто Ладзява пятнастоўка такая. Пац сорак ужэ! *Зл.*

ПЯТУ'Х, -оў *м.* Певень. Пятух і шуляка ні байіцца. І яго шуляк ні бярэ, адно курэй. *Гал.*

ПЯЧА'ЙКА *ж.* Пякотка. Нешто пячайка пячэ. Мо што кепско зьзеў? *Вальк.*

ПЯЧО'НКА, -аў *ж.* Бульба, спечаная ў прыску. Пячонкаў як напячэм на полі — от смашныя! *Вар.*

ПЯЧО'РКА, -аў *ж.* 1. Адтуліна ўсцяне печы, пячурка. Палажы мокрыя рукавіцы ў пячорку, хай высахнуць на заўтрашні дзень. *Кр.* 2. Адстаўлены (дошкай) закутак, куды вылятае з малацілкі салома. У пячорцы найгорш пылам заносіць, як малоціш. *Гр.* Ты ў пячорцы стой, салому выкідай, а я буду снапэ падаваць разьвязваць. *Вальк.*

# Р

РАБАЦЕ'ННЕ (рабаце́нё) *н.* Вяснушкі; рабацінне. Як вясна́, так і рабаце́нё на хло́пца нападая. *Гр.*

РАБЭ'ЙЖА, -аў *м.* і *ж.* *абразл.* Рабы. Хто гэ́таго рабэ́йжу любіцімя, як такі ішчэ́ нілюцкі, га? *Гр.*

РАВАРЫ'СТ, -ых *м.* Веласіпедыст. За раварыстым ні ўбяжы́ш, ён раз-два́ заедзя. *Вар.*

РАВІДАВА'ЦЬ, -ду́ю, -ду́яш *незак.* Аналізаваць труп для высвятлення прычыны смерці. Му́сіць, бу́дуць равідава́ць, каб ве́даць, ач чаго́ ўмярла́. *Зл.*

РАГА'ТЫ *прым.* *зняважл.* Неадступны, «бадлівы». Дзе ты да яго́ пады́дзяш, рага́таго тако́го! *Св.*

РА'ДЗІВА (ра́дзіво) *н.* Радыё. У ко́жнуй ха́ці цяпе́р е́сьцяка ра́дзіво. *Св.*

РАДЗІ'ННІЦА (радзіньніца), -аў *ж.* 1. Парадзіха. Як здаро́ё радзіньніцы? *Гр.* 2. Удзельніца радзінаў (хрэсьбінаў). Радзіньніца прышла́ ўжэ з радзінаў. *Ст. С.*

РАДЗЮ'ЖКА (радзю́шка), -ко́ў, -жак *ж.* 1. Посцілка свае работы, вытканая з грубай пражы; дзяружка. Радзю́шкаю акры́йся, а то го́лы сьпіш — халадно́ так. *Яр.* 2. Пакрывала свае работы, з узорамі. От натка́ла харо́шых радзюжак. На ло́шко, на сьце́ну ве́шаюць. *Пл.*

РАДНО', -аў *н.* Падвойная свае работы посцілка з грубай пражы. Радно́м, як халадне́й, акры́ямсё, а як цяпле́й — радзю́шкаю. *Св.*

РАДНЯ'НІЦА *ж.* 1. Кудзеля з адыходаў (пры трапанні льну). Прадзе́ радня́ніцу. *Яр.* 2. Ніткі і палатно з гэтых адыходаў. Радня́ніцы напра́-

ла і наткала. На мяшке́ бу́дзя і на радзю́шку. *Вальк.*

РА'ЖАЧКА, -аў *ж.* Драўляная пасудзіна для цеста на бліны. Рашчыніла блінцэ ў ра́жацны. *Вар.*

РА'ЖКА (ра́шка), -аў *ж.* Пасудзіна (невысокая, авальнаї формы) з векам для захавання мяса (сала). По́ўну ра́шку с паршука́ накла́лі. *Гр.* 2. *перан. груб.* Галава. Усю́ды ра́шку сваю́ ўса́дзіць! Ні ба́чыў, ці што? *Ст. С.*

РА'З'БАЗЫ'РАЦЬ, -у, -ыш *зак.* Раздурыцца, што хацець, тое і рабіць. Разбазы́раў так, што ні ба́цька, ні ма́цяры ні слу́хая. *Дзяр.*

РАЗБА'ХАЦЬ, -ю, -яш *зак. незад.* Залішне разбавіць. І нашто́ так разба́халі? Адна́ вада́, ні раство́р стаў. *Св.*

РАЗБРУХІТА'ЦЬ, -чу́, -ічаш *зак. асудж.* Раскідаць, парассоўваць. Пасьце́ль усю́ разбрухіта́лі, як сьві́ня. *Кр.* Стох разбрухіта́лі дзяціска гэтыя. *Вальк.*

РАЗБУЯ'ЦЦА, -уюсё, -уісься *зак.* 1. Разгудзецца. Буя́ць і буя́ць — от разбуя́ліся самалёты. *Кр.* 2. Разбуяніцца. Так разбуя́ўсё, што гэтуй жо́нцы хоць с ха́ты ўцяка́й. *Кр.*

РАЗВАЛЬНЕ'ННЕ (развальне́нё): разв а л ь н е н н е ж а л у д к а — панос. *Ал.*

РАЗГА'ДАЦЦА, -юсё, -ясься *зак. жартаўл.* Разгаварыцца. Дзе ты што пачу́яш, так разга́даўсё зь е́ю. *Гр.*

РАЗГАРА'ЧЫЦЬ, -у, -ыш *зак.* Расставіць (ногі), раскірачыць. Разьдзярэ́сься, так разгара́чыў но́гі! *Кр.*

РА'З-ДВА' *прысл.* Надта хутка, неадкладна. Бяжы́ — і хай раз-два́ іду́ць! *Вар.*

РАЗ'Е'ВА (разьзёва), -аў *м.* і *ж.* Разява. Каб

ні быў разьзёваю, дастаў бы і ты, а так ні мéцімяш. *Даўг.*

РАЗЛЕ′ЗЛІК (разьлéзьлік), -аў *м.* 1. Плакса. Ні зачапі яго — ужэ і разьлéзяцца — плáча разьлéзьлік. *Гр.* 2. *незад.* Нямоцнае адзенне. Што за тавáр? Разьлéзьлік нéкі. Ні ўсьпеў пашы́ць, і разьлéсьсё пінджáк. *Кр.*

РАЗМАЖДЖЫ′ЦЬ, -ý, -ы́ш *зак.* Разбіць, размажджэрыць. Як напіўсё, усё размажджыў. *Яр.*

РАЗМУЗНЕ′ЦЬ (размузьнéць), -éя *толькі ў 3 ас.* Раскуляшэць, растварыцца пасля доўгага стаяння (пра зацірку). Як сьвéжа, люблю зацéрку, а пастайіць,— размузьнéя — от ні люблю. *Ст. С.*

РАЗРАБІ′ЦЦА, -блюсё, -бісься *зак.* 1. Увайсці ў ахвоту пры рабоце. Як разрóбісься — і дзень малы́. *Вальк.* 2. *непаш.* Патаўсцець, пасыцець. Мýсіць, ні кéпско жы́ве, рас так разрабілася. *Кр.*

РАСІ′ЦЦА (*толькі ў прошл. часе, часцей з адмоўем не*): н і р а с і л а с я — і расінкі ў рот не брала. Жáрты табé, с сáмаго рáнку і да вéчару ні расілася. *Гр.* А дýмаяш, я расіўсё? Не, ні еў. *Ст. С.*

РАСКАРЧЫ′ЦЦА, -ы́сься, -ы́цца *зак.* Разрасціся (карчом — пра агародніну). Мо і ні благія бýдуць картóплі, нек раскарчы́ліся ўжэ. *Гал.*

РАСКО′Л, -аў *м.* 1. Распуста. Раскóл гэты адно́ сьвет дзёўчыні завязáў. *Кар.* 2. Нахабнік, хуліган. Як патурáцімяш — раскóл вы́расьця, біцца з бáцькам бýдзя. *Угр.*

РАСО′ВЫ *прым.* Рыжы (масць жывёлы). Расóваго бычкá прывялá карóва. *Угр.*

РАСО'Л *м.* 1. Вадкасць у соленай капусце (агурках, сале). *Кр.* 2. Халодная страва з зяленіва і квасу. Расо́лу нарабіў з гуркоў і наеўсё с хлёбам. *Гр.*

РАСПАРЭ'НДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *зак. асудж.* Разабраць на часткі. Паку́ль прышла́, ужэ ляльку распарэ́ндзілі дзяціска гэтыя. *Зл.*

РАСПАСТРЫ'ЦЬ, -у́, -ы́ш *зак.* Распасцерці. Распастры́ на траве́, то раз-два́ вы́сахня адзіяд-ло. *Гр.*

РАСПЛЫ'ТУХА, -аў *ж. абразл.* Тоўстая, сытая жанчына. От расплы́туха, ху́тко ў дзьве́ры ні ўлёзя. *Кр.*

РАСПУ'ДЗІЦЬ, -джу, -дзіш *зак. незад.* Разадраць. Од ганавіцы распу́дзіў на частако́ліні. *Гр.*

РАСХРЭ'СТАНЫ *дзеепрым.* Расхрыстаны. Чаго́ расхрэ́станы хо́дзіш? Іщчэ́ ні прастудзіўсё? *Кр.*

РАСХРЭ'СТАЦЦА *зак.* Расшпіліцца, расхрыстацца. І зімо́ю расхрэ́стаяцца і з го́лаю грудзінаю хо́дзіць. *Св.*

РАСЦЯ'ЦЬ (расьця́ць), разатну́, -е́ш *зак.* 1. Рассекчы. Расьця́ў папала́м палёно. *Ал.* 2. *перан.* Налупцаваць, забіць. Я б расьцяла́ гэтаго хло́пца! *Св.*

РАСШВО'РКА (рашво́рка), -аў *ж.* 1. Доўгая жэрдка, якая злучае задок воза з перадком; канец яе выходзіць на 1—2 м за задок воза. *Пл.* 2. Від калёс( без драбін, задок адцягнены на ўсю расшворку) для перавозкі доўгіх дроў. Яліну парэ́залі на до́ўгія кава́лкі і на рашво́рцы прывязьлі. *Гр.*

РАЎГА'Ч, -оў *м.* Плакса. От раўга́ч дурны́— раве́ і раве́. А чаго́? Цябе́ ш ніхто́ ні біў. *Вар.*

РАЎНІНА' *ж.* Роўнядзь. Дзе ты такую раўніну знойдзяш, як у нас? *Вальк.*

РАЧАНЕ'Ц, -нцоў *м.* Галавое свята. Яг гэто дахаты ні прыехаць — такое велько сьвято — рачанец! *Кр.* Ракавое сьвято, рачанец, а ён і пісьма ні прыслаў, жарты табе! *Гр.*

РАЧНЫ' *прым.* Нахабны. О, які ты рачны! Слова ні дасі сказаць, так і духе заб'еш. *Ст. С.*

РО'ВАР, -оў *м.* Веласіпед. На ровары лаехаў сам. *Пл.*

РОК, -аў *м.* Год. У гэтум року ні кепскія картоплі вырасьлі. *Кар.*

РО'СКІД (роскіт) *м.* Від ворыва (глеба адвальваецца ў розныя бакі). *Яр.*

РО'ЎГАЛА (роўгало) *н.* Тое, што і р а ў г а ч. Брытко плакаць. Хто такое роўгало любіцімя, га? *Св.*

РО'ШЧА *ж. незад.* Рост (працэс). Німа йім, халерам, ніякае рошчы, хоць і дошч прахódзіць. *Ст. С.*

РУБА'ШКА, -каў -шок *ж.* Верхняя кашуля. На сарочку кладзем рубашку. *Вальк.*

РУБЕ'ЛЬ, -блёў *м.* Жэрдка для ўціскання снапоў (сена). Як рублём ні ўцісьняш, мало ўложыш на вос снапоў. *Яр.*

РУКАВІ'ЦЫ, -аў. Слова ўжываецца ў розных значэннях — рукавіцы, пальчаткі. Часам бытуюць састаўныя назвы: р у к а в і ц ы з а д н ы м п а л ь ц а м, р у к а в і ц ы з т р ы м а п а л ь ц а м і і р у к а в і ц ы н а п я ц ь п а л ь ц а ў. *Гал.*

РУ'СКІ МЕ'СЯЦ. Надта доўга (*непаш.*) Жарты табе, жджы яго, а ён рускі месяц стрычыць там. *Яр.*

РУЧАНЯ', -яці *н. мн.* р у ч а н я т ы (ручаня-

та), -аў *пяшчотл.* Рука, ручка. А, якоё ў цябе ручаня цёпло, бахур ты мой малы! *Кр.*

РЫДВА'Н, -оў *м.* Моцны, чырванашчокі, мажны мужчына. Халера зь йім спрастая, рыдваном гэтым. *Гр.*

РЫДЛЯ'ЎКА, -каў, -вак *ж.* Лапата, рыдлёўка. Бяз рыдляўкі ні ўкапаяш, так усохло моцно. *Вар.*

РЫЖА' *ж.* Іржа. Усё вядро паела п рыжа, каб ні выліла вады. *Кр.*

РЫЖЫ'СКА (рыжыско) *н.* Тое, што і р ы ж ы ш ч а. *Вар.*

РЫЖЫ'ШЧА (рыжышчо) *н.* Іржышча. Рыжышчо згараў. *Вальк.*

РЫ'МСЦІЦЬ (рымсьціць), -іць *незак.* Карцець. От, рымсьціць яму сказаць, што ведая. *Ал.*

РЫСАВА'ЦЬ, -суя *незак.* Красаваць (пра збожжа). Ужэ жыто рысуя, хутко і жаць пайдуць. *Гр.*

РЫ'ХТЫК 1. *прысл.* Якраз, якраз як. Гэта мая цялушка, рыхтык твая. *Яр.* 2. *часц.* Быццам, як. Рыхтык да вянцу выбраўсё. *Гал.* 3. *злучн.* Прыбіраяцца, рыхтык на вясёлё ці да вянцу паёдзя. *Ст. С.*

РЭ'ПА *ж.* Пра цыпкі на нагах. Бусял рэпу сёяў на тваіх нагах, ці што? *Гал.*

РЭ'СЯ, -яў *ж.* Дурная. Слухай рэсю гэту, што яна кажа! Нігды толку ў галаве німа. *Гр.*

РЭ'ХВА, -аў *ж.* 1. Кольца (на калодцы каляса). 2. *перан.* Дурань. Рэхва нека, ні чалавек. *Ст. С.*

РЭ'ХВАЧКА, -аў *ж.* Кольца (на грабільне). Рэхвачку нагнаў на граблішчо, каб ні раскалоласё. *Гр.*

## С

САБА'ЧАЕ МЫ'ЛА. Назва расліны — мыльнік. *Пл.*

САВЭ'ЛКА (савэ́лко), -аў *м. жартаўл.* Той, хто соваецца, замінае. От савэ́лко гэты — адно пад нагáмі сóваяцца! *Гр.*

САВЯ'К, -óў *м.* Падбярозавік, абабак, асавік. Савя́к расьцé ў бяразнякý. *Св.*

САГА'Н, -óў *м.* Чыгун з ручкамі. У *сагане́* картóплі сьвіням вáрымо. *Ст. С.*

САГА'НІК, -аў *м.* Невялікі чыгун з ручкай. У *сагáніку* малакó пáрымо абó чай стáвімо. *Гал.*

САДЗЕ'ННЕ (садзéнё) *н.* Пасадка. Каб ні гэ́то *садзéнё* (прысадкаў), то і ні спазьні́ўсё п да цябé. *Вальк.*

САДЗЕ'ННІЦА (садзéньніца), -аў *ж.* Жанчына, якая садзіць (бульбу). Хоць малáя, а *садзéньніца* сь цябé акурáтна. *Гр.*

САДЗІ'ЛКА, -аў *ж.* Жанчына, якая садзіць бульбу. *Едн.*

СА'ЖАЎКА, -каў *ж.* Штучны вадаём, сажалка. *Ст. С.*

САКЕ'РА, -аў *ж.* Сякера. *Сакéраю* расьсéк кумпякá. *Ал.*

САЛАДЖА'ЦЬ, -ая *незак.* Станавіцца салодкім, саладзець. Ужэ́ цéсто *саладжáя*. *Вальк.*

САЛАДУ'ХА *ж. устар.* Страва з рэдкага саладжавага цеста. Бáло, *саладýху* ў пост éлі. *Угр.*

САЛАПЯ'КА, -аў *м. незад.* Той, хто высоўвае, «высалапляе» язык. Зáра адрэ́жу языкá, раз высалаплéяш ягó, *салапя́ка* ты. *Гр.*

САЛЁ'НКІ, -каў і -ак *адз.* с а л ё н к а *ж.* Бульба, якую вараць ачышчанай. *Салéнак* на-

варыла на вячэру. Гр. Параўн.: салóніцы— в. Парэчча Слонімскага раёна.

САЛО'ДНЫ *прым*. Салёны. Нáтто салóдны твой сялядзéц, сынку. *Ст. С.*

САМАЛО'ЎКА *ж*. Вар'яцтва. Хай на ягó самалóўка нóйдзя, як ён усё ідзé і ідзé, і ўпыну яму́ німá! *Гр.*

САМАЎПРА'ЎНІК, -аў *м*. Самаўправец. Трэба былó аштрафавáць самаўпрáўніка такóга. *Пл.*

САМАХО'Д (самахóт), -аў *м. устар.* Аўтамабіль. Самахóдам падвёс шóфяр грабаўскі. *Вальк.*

САМАХО'ДЫ, -аў *толькі мн. жартаўл.* Абутак з пакрышкі аўтамабіля. У вайну́ хадакé с тóўстае *гу́мы* рабілі, усё самахóды казáлі. *Ст. С.* І цяпéрака ў дзяцька éсьцяка самахóды, на хáці ляжáць. *Гр.*

САМАХО'ЦЬ *прысл.* Па сваёй волі; самохаць. Самахóць дзіця́ загубіў. Од жа бáцько які! *Пл.*

СА'НАЧКІ, -аў Санкі (дзіцячыя). На сáначках дзéці éгдзяць. *Гр.*

СА'НКІ, -аў Выязныя сані. У сáнках аднó на кярмáш éгдзімо, у сáнях — па дрóва. *Гр.*

САННА'Я *ж*. Санны шлях, дарога. Саннóю гэдаквяля прывязéш, а калясна́ю — ні змóжаш. *Ст. С.*

САПАЦЕ'ЦЬ, іць *зак*. Пыхаць, палаць гарачынёй. От напаліў печ, гаш сапаціць. *Гр.*

САРАЧНЯ' *ж. устар.* 40 штук (жменяў атрэпанага льну). Сарачню́ за дзень натрапáла. *Пл.*

САРО'ЧКА, -каў і -чок *ж*. Споднняя кашуля.

Сарóчку на гóло цéло кладзéм, а рубáшку на ёй. *Кр.*

САСО'НКА *ж.* Назва раслíны — хвошч. Сасóнку дóбра каравэ́ ядýць. Кáжуць — і лякáрство зь яé. *Гр.*

САЎГАНУ'ЦЬ, -ý, -éш *зак.* Гл. с о ў г а ц ь. Як саўганýло пад лапáтку, паварушыцца ні магла́. *Ст. С.*

САХА', -аў *ж.* Тоўсты, высокі слуп, на іх трымаецца страха (у гумне). *Гр.*

СА'ЧЫК, -аў *ж.* Верхняе жаночае адзенне накшталт пінжака. У нас, мужчы́наў, пінджáк, а ў жанкóў сáчык такі. *Св.*

САША', сóшаў *ж.* Шасейная дарога, шаша. На сашý вы́йдзяш, а там прóсто ў сялó дарóга. *Кр.*

СВА'ДЗЬБА, -аў *ж.* Вясельная капэла (маладыя, шаферкі і шаферы, брат і сястра маладой, сват, бацькі маладых). За гэтым сталóм свáдзьба сядзя, а за астáтнімі ўсе астальны́я. *Гр.*

СВА'НЬКА, -аў *ж.* Сваццfolk. На вясéлі за свáньку ёй éгдзіла. *Ст. С.* Гэто мая́ свáнька. *Кр.*

СВЕТ (сьвет) *м.* Світанне. Да сьвéту ішчó прыéхалі з балóта. *Гр.*

СВІНІ'НЕЦ (сьвініняц), -нцаў *м.* Хлеў для свіней, свінух. Сьвіня ў сьвініцы, а парасята ў майданé. *Гр.*

СВІНІ'НЧЫК (сьвінінчык), -аў *м.* Невялікі хлеў ці закутак для свіней; свінушок. Парася́та зажані ў сьвінінчык. *Вар.*

СВІНЧА' (сьвінчá) *н.* Свіння (родавае паняцце). От якóё сьвінчá загнятý, падгадавáўшы, і нам бýдзя скарóміны. *Гр.*

СВЕ'РАН (сьвёран), -аў *м.* Будынак для захавання збожжа, свіран. У сьвёрыні мука стайіць, прынясёш на хлеп. *Вар.*

СВЯНЦІ'ЦЬ (сьвянціць), -чу́, -ціш *незак.* 1. *устар.* Свянціць (ваду ў царкве). *Ал.* 2. *жартаўл.* Падаць (пра дождж). От свёнціць дошч! Чысто вымакня пастух. *Пл.* 3. *іран.* Біць, лупцаваць. Як пачну́ сьвянціць, то будзяш вёдаць, як малого квяліць. *Угр.*

СВЯРБЯ'ЧКА (сьвярбячка) *ж. непаш.* Сверб. Нёка сьвярбячка напала, усё цёло разьдзірая хлопяц. *Св.*

СЕДАВІ'ЦЦА (сядавіцца), -ўлюсё, -вісься, *незак.* Садзіцца. Мокро тут, ні сядавіся. *Ал.* Сонцо саўсім сядавіцца — вёчар. *Пл.*

СЕ'ДНЯ *ж. нёпаш.* Сядзенне (працэс). Як стары чалавёк, то ні лёжня, ні сёдня яму ні ў смак. *Гал.*

СЕЛАВЫ' (сялавы) *прым.* Сельскі. Сялавыя гусі на хутар зайшлі. *Яр.*

СЕЛЯДО'ЎКА (сялядоўка), -каў і -вак *ж. устар.* Бочка невялікага памеру для розных мэт. Высяўкі ў сялядоўцы. *Зл.*

СЕМНАСТО'ЎКА (сямнастоўка), -аў і -вак *ж. жартаўл.* 1. Маладая дзяўчына (год 17). Стары, а ўсё кап сямнастоўку ўзяць. *Яр.* 2. *пагардл.* Немаладая дзяўчына, якая надта маладзіцца. Хутко пад сорак. От сямнастоўка Рыгосява! *Яр.*

СЕ'МЯНЕ (сёмянё) *н.* Льняное семя. Пойло варыла сь сёмяня і малаком забёльвала. *Гр.* Сёмянё добро п'е цялй. *Ст. С.*

СЕ'ЯННІК (сёяньнік), -аў *м. спагадл.* Сейбіт. Ах, ты мой сёяньнік, так стаміўсё, сёючы! *Ст. С.*

СЕ́ЛКА (сёлко), -аў *н.* Адасобленая частка сяла. Ста́ро Сяло́ ма́я сёлко за рако́ю. *Гр.* На сёлку жыве́, ні ў сялé. *Ст. С.*

СЕ́РБАЛА (сёрбало), -аў *н. асудж.* Той, хто есць з прыцмокваннем (гукам). Ні мо́жаш ціхо, культу́рно наéсьці ці што, сёрбало ты? *Пл.*

СІКА́ЎКА, -аў *ж.* Дзіцячая забаўка — люмпа з сцябла сланечніка. Вадо́ю пы́рскаюцца сь сіка́ўкі кала каló́дзіся. *Угр.*

СІКЯРЫ́ (сікярэ́), -óў толькі *мн.* Ледзяшы. Сікярэ́ с стрэ́хі пазьвіса́лі. *Едн.*

СІНЯ́К І, -óў *м.* Грыб, расце ў грабняку, мае цёмную шапачку, на абрэзаным месцы сінее. *Гр.*

СІНЯ́К ІІ *м.* Чорная неўрадлівая зямля на нізкім месцы. Нічо́го расьці ні хо́ча — сіня́к. *Ст. С.*

СІ́ТКА (сітко), -аў *н.* 1. Густое рэшата. На сітко прасéю муку́ — бялéйшыя блінцэ́ бу́дуць. *Св.* 2. Прыстасаванне для падглядвання пчол. Бясь сітка пакуса́юць пчо́лы. *Гр.* 3. Сузор'е Вялікай Мядзведзіцы. *Гр.*

СІТНЯ́К *м.* Хлеб з прасеянай на густое сіта жытняй мукі; сітніца. Сітня́к лю́бяць дзéці лéняй за бéлы хлеп. *Дзяр.*

СКА́БА *ж.* Некалькі рабрынак (як ежа). Лю́біць, як ска́бу зва́рыш. Ка́жа, мя́со смашно пры касьця́х. *Кр.*

СКАВА́ЦЬ, -кую́, -куéш *незак.* Цкаваць. Саба́камі ту́ю каро́ву скава́ў — і ўсё ў шко́ду лéзя. *Вальк.*

СКАЛА́ *ж.* Пчаліная разведка. Скала́ абляцéла ву́ляй — ху́тко рой ся́дзя. *Кар.*

СКАЛЯРУ́ШЧА (скаляру́шчо) *н.* Тое, што і скаралюшча. Як у хало́дну во́ду адра́зу

ні налóжыш, скалярýшчо ні лýпіцца ў яйцы́. *Едн.*

СКАПЕ'Ц, -пцóў *м.* 1. Капец (бульбы). На пругмéні скапéц картóпяль на зіму засыпалі. *Гр.* 2. Межавы насып, капец. *Кр.*

СКАРАЛЮ'ШЧА (скаралю́шчо) *н.* Лупіна яйца. Вы́лівак бяс скаралю́шча — разальéцца. *Св.*

СКВАРАДА', -аў *ж.* Патэльня, скварада. Кладзі на скварадý сьвéжу каўбасý — бýдзям прóбаваць, што за смак зь яé. *Гр.*

СКВАРЭ'ЧНІЦА, -аў *ж.* Шпакоўня. Шпак палéс ў скварэ́чніцу. *Гр.*

СКЛА'ДКА (склáтка), -аў *ж.* Складчына. Склáтку зрабілі і так сьвяткавáлі. *Зл.*

СКЛО'ННАЯ *ж.* *асудж.*: н я м á с к л ó н н а е — няма канца, няма спакою. Па цэ́лых начáх éнчыць гэто дзіця́, і склóннае ямý німá. *Гр.*

СКЛЮТ, -óў *м.* *абразл.* Худы, высокі, гарбаты чалавек; паралельна ўжываецца г н ё н і к (гл.). І ў хáту ні ўлéзя склют гэ́ты. *Св.*

СКНЫПЛЯВА'ЦЬ, -лю́ю, -лю́яш *зак.* Моцна звязаць (сноп), сціснуць «к н ы п л е м» (гл.). Кулé скныплявáў, то і налéто ні разьвя́жуцца. *Гал.*

СКНЭ'РА, -а, *м.* і *ж.* Скнара. От скнэ́ра гэта! У яé ні вы́рвяш нічóго. *Вальк.*

СКО'ЧНІ, -яў *толькі мн.* Пярэдняя частка саней. *Едн.*

СКО'РЧЫЦЬ, -ыць *зак.* *безас.* Сагнуць у крук. От скóрчыло, і разагнýцца ні разагнéцца. *Гал.*

СКО'САК І, -окаў *м.* Старая каса з вузкім

палатном. Адно́ крапіву́ гэтым ско́скам касіць. *Ст. С.*

СКО′САК II *м. устар.* Касынка. Што яе нагрэ́я ско́сак гэ́ты. Уся́ галава́ го́ла. *Гр.*

СКРАБЕ′ННІК (скрабе́ньнік), -аў *м.* Той, хто чысціць («скрабе») бульбу. *Гр., Дзяр.*

СКРАБЕ′ННІЦА (скрабе́ньніца), -аў *ж.* Жанчына, якая чысціць («скрабе») бульбу. *Св., Кр.*

СКРУЖЫ′ЦЬ, -у́, -ыш *зак.* Аддзяліць пацяруху ад семя (кружачы рэшатам). Скружы́ла тро́хі, усе́ чысце́йшы ячме́нь бу́дзя. *Пл.*

СКРУ′ТАК, -ткаў *м.* Дзве ручайкі атрэпанага льну (скручваюцца разам). У сарачні два́ццаць скру́ткаў. *Вальк.*

СКРУЦІ′ЦЦА, -іцца *зак.* Ашалець (пра сабаку). Застрэ́лілі, як скруці́ўсё (сабака). *Вар.*

СКРЫГІТА′ЦЬ, -ічу́, -ічаш *незак.* 1. Рохкаць — прасіць есці (пра свіней). *Кр.* 2. Скрыпець зубамі. Од зло́сны, гаш зуба́мі скрыгі́ча. *Гр.*

СКУЛЯ′ЧКА, -аў *ж.* Скула, скулянка. Скуля́чка не́ка се́ла — і галавы́ ні павярну́ць. *Св.*

СКУПЯНДЗЯ′ (скупяньдзя́) *м.* і *ж. абразл.* Скупы (-ая). Гэ́та скупяньдзя́ ніко́го ў го́сьці ні про́сіць. *Вальк.*

СЛАБА′К, -о́ў *м. пагардл.* Слабы. Саўсі́м слаба́к, нічо́го ні мо́жа. *Вар.*

СЛАБІ′ЗНА *ж. зняважл.* Слабы. Што слабізна гэ́та табе́ памо́жа? Пуд жы́та ні падымя. *Яр.*

СЛАБО′ДА *ж.* Воля, свабода. Од ужэ́ слабо́ды дачака́ліся! Нігды ні ду́малі. *Гал.*

СЛАБО′ДНЫ *прым.* 1. Не цесны. Слабо́дныя чаравікі. *Ст. С.* 2. Не заняты. Слабо́дно ме́сцо і сядавіся, ні стой. *Св.* 3. Прасторны. От слабо́д-

ны аўто́бус стаў да нас хадзіць, усіх забіра́я. *Кр.*

СЛАННЕ′ (сланѐ) *н.* Рассцілка льну. П'яць на сланѐ по́йдзя (льну), а астальны́я — малаціць жы́то. *Ст. С.*

СЛА′ННІЦА (сла́ньніца), -аў *ж.* Жанчына, якая сцеле лён. Сла́ньніцаў ішчэ́ німа́, ху́тко пры́дуць. *Кр.*

СЛЕПЯНДЗЯ′ (сьляпяньдзя́) *ж.* *абразл.* Сляпы. Сла́бо ба́чыць сьляпяньдзя́ гэ́та. *Кр.* От сьляпяндзя́! Гры́ба ні ўгле́дзяла, і тако́го ве́лькаго. *Гл.*

СЛІЖ (сьліш), -о́ў *м.* Доўгае бервяно ўздоўж моста. Па баках сьліжэ́ кладзе́м, а тагды́ насьціл. *Дзяр.*

СЛІЗГАЦЕ′ЧА (сьлізгаце́ча) *ж.* *незад.* Слізкасць. На дварэ́ сьлізгаце́ча, хоць ты ні выла́сь. *Гр.*

СЛІЗГО′ВІЦА (сьлізго́віца) *ж.* Слізгота. Каб ні така́я сьлізго́віца, схадзіў бы на кярма́ш. *Ст. С.*

СЛІЗО′ТА (сьлізо́та) *ж.* Слізкасць, слізгота. От слізо́та на дварэ́! *Гр.*

СЛІМА′К (сьліма́к), -о́ў *м.* Вінт з асобай нарэзкай для перадачы руху; чарвяк. Каро́тка сало́ма, і сьліма́к ке́пско цягня, як се́чку рэ́жаш. *Ст. С.*

СЛОЙ, -ѐў *м.* Трубка палатна; сувой. Яг за́муш ішла́, ма́ці ні адзін слой палатна́ дала́ ў паса́х. *Гр.*

СЛОН, -о́ў *м.* Лаўка, заслон, услон. Пацста́ў слон і сядавіся. *Яр.*

СЛО′НЧЫК, -аў *м.* Невялікая лаўка, услончык, заслончык. На сло́нчыку сядзіць адзін ча-

лавéк усягó, як у пéццы пáліць ці абуваяцца. *Вар.*

СЛУЖБО'ВАЯ *ж.* Стограмовая чарка, сто-грамоўка. Ой, ліхо, службóвае ні вып'я! Што сь цябé за пітýк? *Ст. С.*

СМАКІ' (смакé), -óў *толькі мн.* Смачнае. Ат смакóў ніхтó ні аткáжацца. *Гр.*

СМАЛІ'ЦАЮ *прысл. асудж.* Неадчэпна, як смала. Смаліцаю лéзя ў вóчы, ні аччапіцца ад ягó! *Св.*

СМАЛЬНЯ'К, -óў *м.* Смаляное палена (ідзе на падпал). Хýтко печ распаліла, як смальня-кóў падлажыла. *Гал.*

СМА'ЛЯНІ'НА (смáляніна) *ж.* Гар (ад воў-ны, шэрсці); смаль. Мо дзе адзéжа гарыць. Нéшто смáлянінаю сьмярдзіць у хáці. *Гр.*

СМАРГУЛЯ' ж. *пагардл.* Смаркатая. Смар-гуля́ гэта, і яна́ цябé страшыць! *Ст. С.*

СМОК, -áў *м.* Дракон. Смóкам усё палóхалі бáло. *Вальк.*

СМО'ЛЬНЫ *(смóлны) прым. асудж.* 1. Не-адчэпны. Які ты смóлны да дзявóк. *Кр.* 2. Заў-зяты. От смóлны, ні дня ні прапускáя, каб ні схадзіць на вячаркé. *Гр.*

СМО'РГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. Абрываць (колас аўса бяруць уабхват і цягнуць — зерне абрываецца). Смóргаю курáм авéс. *Яр.* 2. Скрэбці (лён церніцаю). Як сатрэ́ш, тагды́ смóргаяш, кап карóста вылятáла. *Гр.* 3. *перан.* Цягнуць да сябе паветра (з шумам). Ні вытра нóса да ўсё смóргая. *Кр.* 4. *перан. іран.* Пла-каць. Ніхтó і ні біў, а ўжэ смóргая. І ні брыт-ко плáкаць. *Вальк.*

СМЭ'РГЕЛЬ (смэ́ргяль), -ёў *м.* Смаркач. Чагó смэрглі папусьціў? *Кр.* 2. *перан.* Недаро-

слы, смаркач. Ра́но на музы́кі хадзіць! Смэргяль ішчэ́. *Гр.*

СМЭ'РГЛІ, -яў *толькі мн.* Смаркачы. Ху́стачку ма́яш — і выціра́й смэ́ргліі. *Гр.*

СМЯРДЗЮХА' (сьмярдзюха́) *ж.* 1. Смярдзючка. Кр. 2. *перан.* Хлорка. Сьмярдзюхо́ю выбе́львала палатно́. *Яр.*

СМЯЦЮ'Х (сьмяцю́х), -о́ў *м.* Назва птушкі. *Кр.* 2. *перан. зламоўн.* Малы, нядужы чалавек. Што табе́ сьмяцю́х гэты пады́мя? Мо с пут занясе́? *Гр.*

СНАВА'ЦЬ, -ую́, -уе́ш *незак.* 1. Асноўваць (кросны). *Ал.* 2. перан. Сноўдацца. І чаго́ ты снуе́ш тут цэлы дзень? Што табе́ рабо́ты німа́? *Гр.*

СНО'ЎНІЦА, -аў *ж.* Прыстасаванне для снавання кроснаў. Пайду́ кро́сна снава́ць да Ага́ты, у яе́ сно́ўніца е́сьцяка. *Гр.*

СНЯГО'ЎЦЫ (сьнягоўцы), -аў *адз.* с н я г о́ в е ц *м.* Жаночыя гумавыя боцікі. Сьнягоўцы, *яг* гра́ско, но́сяць. *Пл.*

СНЯКА'ЦЬ (сьняка́ць), -а́ю, а́яш *незак.* Смаркаць. От кавале́р! Нат но́са сьня́каць ні ўме́я. *Вальк.*

СО'-ДВА. Каля двух; штукі дзве. Со́два кусо́чкі мо зьзеў бы піра́га́. *Гр.*

СО'ПУХА: ч о́ р н ы я к с о́ п у х а — чорны як сажа. Па́ляц, *яг* зьбіў ап ка́мянь, чо́рны як со́пуха. *Гал.*

СО'СНУ *прысл.* Спрасонку. Ве́дама, со́сну, во́чы ні пралупіўшы, што мо́жно ўгле́дзяць. *Кр.* Не́кі вялы, як со́сну. *Гр.*

СО'ТКІ, -аў *толькі мн.* Прысядзібны ўчастак зямлі. На со́тках ні благія карто́плі, і калхо́зныя харо́шыя. *Угр.*

СО'-ТРЫ. Каля трох; штукі тры. Сотры сарваў, ні боляй (яблык). *Ст. С.*

СО'ЎГАЦЬ, -ая *безас.* Востра калоць. Усё соўгая і соўгая ў крыш, як хто голкаю. *Пл.*

СО'ШКА, -аў *ж.* Плужок для акучвання бульбы. Сошку меўшы, за дзень асыпляш картоплі. *Вальк.*

СПАВЯДА'ЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Прабіраць. Сустрэў гэто пан і давай спавядаць, чаму на работу ні хаджу. *Св.*

СПАГАНІ'ЦЬ, -ю, -іш *зак.* Заставіць аддаць доўг, спагнаць. *Яг* задоўжыцца, ні спаганіць будзя тых грошай. *Вар.*

СПАДАВО'Е (спадавоё) *прым.* Сподняе, са споду (сена). Ні хочуць есьці каравэ спадавого сена. *Гр.*

СПАДА'К, -аў *м.* Дошка на дно саней. *Кар.*

СПАДА'ЦЦА *незак.* (*часцей у прошл. часе*) *непаш.* Худнець. Я сыта, аля і ты ні спалася за работаю. *Гр.*

СПАДА'ЦЬ, -дзе *незак. безас. непаш.* Даставацца, пераходзіць па спадчыне. Думаяш, табе што спадзе, як увамру! *Кр.*

СПАДЛО'Б'Я *прысл.* Спадылба. Баюсё, як ён спадлоб'я паглядая. *Св.*

СПАМІ'Ж (спаміш) *прыназ.* Мае значэнне месца і напрамку дзеяння. Спаміж скрыняў выбягла мыш і просто пад ногі. *Пл.*

СПАНА'ТРЫЦЬ, -у, -ыш *зак. асудж.* Узяць за правіла рабіць шкоду. Як спанатрыў, лезя і лезя ў канюшыну (конь). *Вар.*

СПАНЕ'ЦЬ, -ею, -еяш *зак.* Распанець. Абышто і есьці ні будзя. От спанеў ён у вас! *Зл.*

СПАНІ'ЦА, -оў *ж.* Спадніца. На спаніцу плаценко, бало, ткалі. *Гр.*

СПАРО'ЦЬ, -ý, -аш *зак. незад.* Разбудзіць. І чагó ён спарóў пастухóў так рáно? Хай пасиáлі п з гадзіну. *Ал.*

СПАРАНЖАВА'ЦЬ, -жýя, *зак. безас.* Разбіць палярушам. Ні нох, ні рук ні падыймя, так спаранжавáло, бéднаго. *Вар.*

СПАС *м.* Ратунак. Німá спáсу ад лісы́, зáра ўсе кýры пяравалóчыць. *Вальк.*

СПА'СЦІСЯ (спáсьціся), -дýсё, -дзéсься *зак. зламоўн.* Схуднець. Бóйся прайсьціся напяхóту: спадзéсься чысто! *Ст. С.*

СПАТАЙКА' *прысл.* Спадцішка, спотайку. Спатайкá зрóбіць — і ніхтó ні вéдаціміа. *Кр.*

СПА'ЦЫР, -аў *м.* Шпацыр. Пайшóў на спáцыр. *Зл.*

СПАЦЫРАВА'ЦЬ, -рýю, -рýяш *незак.* Шпацыраваць. *Ал.*

СПЛА'КАНЫ *прым.* Які многа плакаў. Мо хто біў цябé, што сплáканы ўвесь такі? *Кар.*

СПЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Заплаціць. Хáта на двайіх былá, так брат сплаціў і адзін у ёй жывé. *Кр.*

СПЕ'ХА (сьпéха), -аў *м.* і *ж.* Соня. От сьпéха, нóчы ёй мáло! *Вальк.* Параўн.: с п л ю х а (А. Карпюк. Пушчанская адысея).

СПІРЫ'ЦЬ (сьпіры́ць), -ý, -ыш, *зак.* Пабіць, адлупцаваць. Так спіры́ў, што мо ўсё цéло ў сінякóх. *Кр.*

СПО'ЛКА *ж.* Суполка. На спóлку рóбімо. *Гр.* Ні лю́біць спóлкі, адзін цягня. *Кр.*

СПРАСТА'ЦЬ *зак. незад.* Зраўняцца ў сіле, лоўкасці, уменні. Ты зь йім ні спрастáяш. Гэто хітрýн! *Ст. С.*

СПРА'ЎНЫ *прым.* 1. Спраўны (*у розн. знач.*). 2. Здаровы, дужы, сыты. Нат спрáўна карóва, ні худáя. *Гр.*

СПРО'ГЧЫСЯ (спрóхчыся), -жэ́сься, -жэ́цца *зак.* Здохнуць. Каб янó спраглóся, з гэ́тым цэ́лям, якóё нілюцко. *Кр.*

СПРО'НЖКА (спрóншка), -аў *ж.* Жалезная частка папругі, спражка. *Яр.*

СПРУЖЫНО'ЎКА, -аў *ж.* Культыватар (конны). Як цвéрдо — спружынóўкаю пярадзярэ́м і тагды́ гарэ́м (плугам). *Вальк.*

СПРЫТНА' *прысл.* Папарадку (браць), з краю, выбіраючы да дна. Ні лась па гóрбі, спрытна́ бяры́ картóплі. *Гр.*

СПРЫ'ЦІЦЬ, -чу, -ціш *зак. зламоўн.* Моцна звязаць (спавіць). Спры́ціла, то ні павару́шысься. *Кр.*

СПРЫ'ЧАНЫ *дзеепрым. зламоўн.* Моцна звязаны (спавіты). Хóдзіць, як спры́чаны, пасля́ ўчара́шняго гуля́ня. *Вар.*

СПУСКА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак.* 1. Габляваць (спускам). Спуска́ць бу́дзяш, як пагаблю́яш,— тагды́ падгла́дзіш. *Кр.* 2. Звіваць (вяроўкі). Пайшлі вярóўкі спуска́ць. *Гр.* 3. *перан.* Даравваць, уступаць. Спусьці ты яму́, ён ішчэ́ смэ́ргяль, а ты кавалéр. *Пл.*

СПУШЫ'ЦЬ, -ы́ць *зак. безас.* Гл. пушыць. Ад ра́ня пóўны жывóт і баліць,— спушы́ло. *Св.*

СПЭ'НДУ *прысл.* Сходу, тут жа. Што ты спэ́нду мóжаш атказа́ць! *Дзяр.*

СПЭ'ЎНІЦЬ (сьпéўніць), -ю, -іш *зак.* Дакладна высветліць, упэўніцца. Трэ сьпéўніць, ці éсьцяка там га́за ў ла́ўцы. *Вальк.*

ССЫ'ПКА, -аў *ж.* Насыпка (для пер'я). З густóго палатна́ ссы́пку пашы́ла, кап пéр'ё ні вылазіло. *Гр.*

СТАВО'К *м.* Нізкае месца, запоўненае вадою. І на стаўку́ вы́сахла вада́. *Ст. С.*

СТА'ДА *ж.* Статак. Да ста́ды каро́ву пагна̀лі. *Угр.*

СТАЛЬВА'ГА, -аў *ж.* Трайны ворчык для пары коней. Як двайіма гара́цімяш — стальва́гу нясі. *Гал.*

СТАЛЬНІ'ЦА, -аў *ж.* Кружок (на ім рэжуць, крышаць). Стальніцу парэ́заў, а жы́ла цэла. *Кар.*

СТАЛЮ'ГІ, -аў *толькі мн.* Козлы (для распілоўкі дроў); сталюга. Сталюгі̀ нясі, распілу́ям кругля́к які̀ на дро́ва. *Гр.*

СТАНАЎНЫ' *прым.* Упарты. Дзе ён паслу́хая цябе́, станаўны́ такі! *Ст. С.*

СТА'НІК, -аў *м.* 1. Ліфчык. *Яр.* 2. Бюстгалтар. *Яр.*

СТАРАНА' *ж.* Бакавая частка гумна для складвання збожжа. По́ўну старану́ накла́лі. *Вар.*

СТАР'Ё' *н.* зборн. Старызна. Стар'ё гану́чніку адда́ў на запа́лкі. *Вар.*

СТАРЧАКА' *прысл.* Старчком. Ляцёў с сто́га старчака́. *Гал.*

СТАРЫ' *прым.* Дарослы, сталы. Ты ш ні дзіця́ ўжэ, стары́ чалаве́к, а зь дзе́цьмі б'е́ська. *Св.*

СТАЎБУ'Н, -оў *м.* *непаш.* Высокі, тонкі. Стаўбу́н гэ́ты ніду́жы і дахвато́вы. *Гр.*

СТАЎБУНАВА'ТЫ *прым.* Высакаваты і тонкі. І капіца твая́ не́ка стаўбунава́та. *Вальк.*

СТАЎБУ'Р, -оў *м.* 1. Сцябло (без лісця); цыбур. Стаўбурэ́ ве́лькія, а шчаўю ма́ло нава̀рыш. *Гр.* 2. Пяро цыбулі, якое нясе цвет. Цыбу́лю ні прадыміла, усю ў стаўбурэ̀ пагна̀ло. *Вар.*

СТАЎПЕ'Ц, -пцоў *м.* Падстаўка для ручнога

трапання льну. Стаўпéц ні стайіць, то як я трапáціму? *Ст. С.*

СТАЯЧКА' *прысл.* Стоячы. Усё стáячкá рóбіць. І каб янá на мінюціну прысéла! *Ст. С.*

СТО'ГАВІШЧА (стóгавішчо), -аў *н.* Месца, дзе стаяў стог. *Гр.*

СТО'ЙКА, -аў *ж.* Прыстасаванне, дзе малыя дзеці вучацца стаяць. *Вар.*

СТОЛ, -оў *м.* Насціл з дошчак, з якога падаюць у малатарню збожжа. Я на стол падавáла, а ён у малатáрню. *Кр.*

СТО'ЛІК, -аў *м.* Частка калаўрота—дошка, да якой прымацоўваюцца ножкі. *Кр.*

СТРАМЯ'К, -óў *м.* Стрэмка. Пат скýру страмя́к залéс. *Ст. С.*

СТРАЧЫ'ЦЦА, -ыцца *незак.* Уцякаць ад авадня (с т р о к а) (пра кароў). Дзе ты ў палýдні ўпасéш каравэ́: так страчáцца. *Гр.*

СТРАЧЫ'ЦЬ, -ý, -ыш *незак.* Палохаць кароў — гудзець, як «строк» (гл.). Гóдзі бзыяць — ні страчы́ карóў, а то як пастрачáцца — у лес пазабягáюць. *Ст. С.*

СТРОЙ, -яў *м. жартаўл.* Убор. Гунь які строй на ёй! *Вар.*

СТРОК, -аў 1. Авадзень, які лятае апаўдня і кусае кароў. Пáтто стрóку баяцца каравэ́. *Гр.* 2. *перан. асудж.* Хто бурчыць, злуецца. Строк гэ́ты, усё бурчы́ць. Німá, кап пагаварыў тóлкам. *Ст. С.*

СТРУПЯНЕ'ЦЬ, -éю, -éяш *зак.* Вельмі моцна палохацца, страціўшы ўладу над сабою. Ззáду як схвáціць за каўнéр упóцямках — струпянéла ўся, ні вéдала хто. *Вар.*

СТРЫЖЭ'ННІК (стрыжэ́ньнік), -аў *м.* Той, хто стрыжэ, цырульнік. *Гр.*

СТРЫМО'ТЫЧ *прысл.* Старчма. Хай яго́ на́гла, з гэ́тым хло́пцам: стрымо́тыч ляцёў с сто́га. Ду́малі, голаў зло́міць. *Кр.*

СТРЫЧА'ЦЬ, -у́, -ы́ш *незак.* Тарчаць. Нош стрычы́ць у сьцяне́. *Вальк.*

СТРЭЧ *ж.* Ступень сваяцтва: першая стрэч — родныя, другая стрэч — дваюрадныя, трэцяя стрэч — траюрадныя. Мы зь яго́ ма́цяраю ро́дныя сёстры, а вы ўжэ, дзёці,— друга́я стрэч. *Гр.*

СТУЖА'ЦЬ, -ая *зак.* Зрабіцца тугаватым. Ма́сло ў вадзе́ хало́днуй стужа́ло. *Кр.* Сьнех стужа́ў пасьля́ атлігі. *Гр.*

СТУПА'К, -о́ў *м.* Ступня. Нага́ баліць у ступаку́ — нічо́го абу́ць ні абу́ю. *Вар.*

СТЭ'ПЦЫ, -аў *толькі мн. устар.* Сходы (на ганку). Цы́манту трэ́ба, кап стэ́пцы параўня́ць. *Зл.*

СТЫДЗІ'ЦЬ, -джу́, -дзіш *незак.* Сароміць. Як і ты стыдзіць бу́дзяш — мо паслу́хая, чалаве́кам ста́ня. *Кр.*

СТЫ'ЧКА, -аў *ж.* Сутыкненне, сутычка. Зь не́мцамі ў гэ́тум ле́сі сты́чка была́. *Кр.*

СУДЗІ'НА, -аў *ж.* Вялікая кадушка (на 30—50 пудоў зерня). *Едн.*

СУК, -о́ў *м.* 1. Сук. 2. *перан.* Скупы чалавек Дзе ён табе́ пазы́чыць што, сук гэ́ты! *Св.*

СУКА'ДЛА (сука́дло), -аў *н.* Прыстасаванне для звівання нітак на цэўку; сукала. *Вальк.*

СУКА'Ч, -о́ў *м.* 1. Моцна засуканая частка ніткі, што скручваецца ў пятлю. Лішнё су́чаш, гаш сукачэ́ кру́цяцца на шпу́лі. *Гр.* 2. Бруд, які змываецца з цела. Як стаў це́рці сьпіну, во ко́лькі сукачо́ў наце́рласё. *Ст. С.*

СУКО'ННІК (суко́ньнік), -аў *м.* Плашч з да-

матканага сукна. Сукóньнік па кажýсі на дошч кладзём. *Кар.*

СУМАТО'ХА *ж.* Мітусня, беганіна. У такýю суматóху і ганавіцы згýбіш, ні то што шáпку. *Угр.*

СУНДУ'К, -óў *м.* Куфар. У сундукý рубáшка ляжыць, кладзі (на сябе), як трэба. *Зл.* Паралельна бытуе і к у ф а р.

СУНДУЧО'К, -чкóў *м.* Куфэрак для бялізны. Плáцё памыла і ў сундучóк, пакачáўшы, палажыла. Мóжаш сарóчку браць, там яна. *Вар.*

СУПО'ЛЬНІЦА, -аў *ж.* жартаўл. 1. Суцэльнае адзенне. Ні віднó, каб дзе шшыто былó, мýсіць супóльніца. *Ст. С.* 2. Доўгая і шырокая дзіцячая сарочка. Наштó ты гэту супóльніцу кладзёш дзіцяці на дзень. *Гр.*

СУ'ТАЛАКА *ж.* Штурханіна, мітусня. У такóй сýталацы дзе ты тóлкам што зрóбіш. *Ал.*

СУ'ТКА, -аў *ж.* Суткі. За сýтку зрóбім. *Едн.*

СУХАРЭ'БРЫК, -аў *м.* Худы, адныя косьці. От сухарэбрык гэты! *Гр.*

СУХЮ'ТКІ *прым.* Зусім сухі. Мóжно браць: сухютко сéно. *Ст. С.*

СУ'ЧКА, -аў *ж.* Невялічкія дапаможныя санкі для перавозкі доўгага бярвення. Камéль на сáні, а верх на сýчку і прывязý цэлу дзяравіну. *Дайг.*

СХО'ВАНЬ *ж.* Сховы. Аддáй лéпяй мáцяры на схóвань, то там нікýды ні ўцякýць твае грóшы. *Св.* Ад бóмбы гэто ні схóвань. *Кр.*

СХО'ДЫ, -аў *толькі мн.* 1. Сходкі лесвіцы. Схóдаў мнóго, пакýль на верх залéзяш! *Зл.* 2. Прыступкі на ганак. Схóды з дóшчак зрабіў. *Гр.*

СХУДНЯ'ЦЬ *зак*. Гл. пахудняць. Чысто схудняў, як на жывот хварэў бацько. *Св.*

СЦЕ'ЖАР (сьцежар), -аў *м*. Падсцілка для стога (скірды). Сцежар зрабілі, будзям стох кідаць. *Едн.*

СЦЕ'РПНУЦЬ (сьцерпнуць), -ня *зак*. Анямець, адзервянець, выйсці з-пад кантролю, сшэрхнуць (пра ногі, рукі). Ні магу ўстояць, так нага сьцерпла, гаш цяляпаяцца. *Вальк.*

СЦЁ'ПКА (сьцёпка), -аў *ж*. Варыўня, стопка. Кадушку с капустаю ў сьцёпку вынясу. *Св.*

СЦІНА'ЦЦА (сьцінацца, сатнуўсё, сатнесься) *незак*. 1. Сцінацца. 2. Схапіцца, уступіць у сварку, бойку. От нілюцкія. Абы сышліся, так і сьцінаюцца. *Гр.*

СЦІХ (сьціх) *м. незад.* Спакой, канец. Ідзе і ідзе дошч гэты, і німа сьціху яму. *Кр.* Някі дурны мужык: адно б'ецца і б'ецца, і сьціху яму німа. *Ст. С.*

СЦУКРАВА'ЦЦА, -руяцца *зак*. Зацукравацца. Як пастаіць на холадзі, так і сцукруяцца мёт. *Гр.*

СЦЯГНУ'ЦЬ, (сьцягнуць) *зак. незад.* Стрываць. Дзе ты ні еўшы сьцягняш да палудня! *Гр.*

СЧУ'БІЦЦА (шчубіцца), -яцца *зак*. Пачаць сварыцца, біцца. Адно адышлася ад малых — ужэ і шчубіліся — б'юцца. *Ал.*

СШЭ'РХНУЦЬ (шшэрхнуць), -ня *зак. безас.* Крыху падмарозіць. Сушэй будзя, як шшэрхня. *Пл.*

СЫНАВА'Я *ж*. Жонка сына ў адносінах да маці мужа. *Кар.*

СЫНО'ВЕЦ (сыновяц), -оўцаў *м. непаш.* Няродны (прыёмны) сын. Гэто яго сыновяц так абляяў. *Вар.*

СЫРЫНІ'ШЧА (сырынішчо) *н. незад.* Садавіна (у супрацьлегласць варыву). Што ты сырынішча гэтаго пад'ясі. Ідзі перш паабедаі, а тагды пойдзяш у яблыкі. *Гр.* Сырынішча наеўсё нашчо і сьнедаць ні хочаш. *Ст. С.*

СЫСА'К, -оў *м.* Цяля, якое яшчэ ссе карову; сысун. Сысаком над глатко цяля было, а як ацсадзілі — пахудняло. *Вар.*

СЫ'СКА, -аў *ж.* Соска. Сыска слабо малако пуская. *Вар.*

СЫЧЫНЯ' *ж.* Надта сыты. Паздаравеў і твой, але ні такі, як Езік, сычыня. *Гр.*

СЭ'ПЛІ, -яў *толькі мн.* 1. Соплі. *Кр.* 2. Замёрзлыя каплі (на страсе). Сэплі, як штыке, вісяць на стрэсі. *Гр.*

СЮД-ТУ'Д (сют-тут) *прысл.* Крышачку счакаўшы, хутка. Лесь на вос, доўго ні чакацімяш: сют-тут і давацімУ табе сноп. *Гр.* У малатарню трэба ўсьпяваць падаваць: сют-сут і снопа німа, другі давай. *Ст. С.*

СЮДЭ'МІ *прысл.* У гэты бок, у гэтым напрамку, гэтаю дарогаю (напрамкам). Сюдэмі, як дошч ні ідзе, ездзяць вазамі, а цяпер і напяхоту грузьняш. *Угр.*

СЯВА'К, -оў *м.* Сейбіт. Сявак пайшоў сеяць, а я — баранаваць. *Едн.*

СЯВА'ЛКА, -лкаў *ж.* Конная сеялка. *Едн.*

СЯВЕ'Ц, -ўцоў *м.* 1. *устар.* Сейбіт. Сявец зь яго слабы — стары, нідужы ўжэ. *Гр.* 2. Фартух, з якога сеюць. Сявец астаўсё дома. У што ён жыто брацімя сеяць? *Ст. С.*

СЯГДЫ-'ТАГДЫ' *прысл.* Сяды-талы. Часто ні бываю, аля сягды-тагды егджу на кярмаш. *Даўг.*

СЯ'ДРАВА (сядраво) *прысл.* Ядрана. От сядрава на дварэ, холат. *Едн.*

СЯ'ДРАВЫ *прым.* Ядраны. Сядравы ранак. *Едн.*

СЯЛЬНІ'К, -оў *м.* Самаробны матрац—шырокі мяшок, набіты саломаю. Усй салома пырацерлася ў сяльніку, німа на чом спаць. *Вар.*

СЯЎНЯ' *ж. іран.* Тоўстая жанчына. Крэсло пэнкло, як села сяўня гэта. *Гр.*

## Т

ТАБАЧКО'ВЫ *прым.* Колеру тытуню. Файно пальто — табачково такое — наравіцца цьвет. *Ст. С.*

ТАВАРЫШІКАВА'ЦЬ, -кую, -куяш *незак.* Сябраваць, таварышаваць. Мы з Марысяю таварышкавалі. *Ал.*

ТАГДЫ' 1. *прысл.* Тады. *Гр.* 2. *прысл.* Потым. Перш я буду гараць, тагды ты. *Кр.* 3. *злучн.* Сходзімо, тагды прыедзяш. *Гал.*

ТАКВЕ'ЛЯ *прысл.* Столькі (многа), так шмат. Таквеля льну пасеяў. Хто яго абробіць? *Ст. С.*

ТАКСО'ЎКА, -аў *ж.* Легкавы аўтамабіль. На таксоўцы, як пан, ездзіць. *Зл.*

ТА'РКА, -аў *ж.* Дошка для мыцця бялізны. Як тарка есьцяка, ляхчэй мыць плаце. *Гр.*

ТАРПАТЫ'НА *ж.* Шкіпінар. Глістоў завеў, тарпатынаю мажу пад носам. *Вар.*

ТАТУ'ЛЯ (татулё), -яў *м. устар.* Хрышчоны бацька. Татулё мой нігэдыкі скупы, яг бацько. *Кр.*

ТА'ТУСЬ *м. зняважл.* Тата. І гэто ўсё татусь нарабіў бяды. *Гр.*

ТА'ТУШКА (тáтушко) *м. пяшчотн.* Татка. Тáтушко, гасьцінца дай мне. *Гр.*

ТАЎКА'Ч, -óў *м. зняважл.* Той, хто замінае, таўчэцца пад рукамі. Ні мяшáй, адыдзі, таўкáч. *Св.* 2. *асудж.* Маруда. Таўкáч нéкі, нічóго ні зрóбіць, калі трэба,— капáяцца. *Гал.*

ТАЎКЕ'ЛЬ, -ёў *м.* Штурханец. Надаюць табé таўкялёў, хлóпяц, як ні слýхацімяш. *Св.*

ТАЎСМА'НЫ *прым.* Таўсматы. Нат таўсмáны камéль, дроў бýдзя, як папілýям. *Яр.*

ТАЧЫ'ДЛА (тачы́дло), -аў *н.* Тачыльны станок, тачыла. На тачы́длі хýтко гóстраица нажэ. *Зл.*

ТКА'ННІЦА (ткáньніца), -аў *ж.* Ткалля, ткачыха. Ішчэ адна ткáньніца прышлá, хýтко крóсна вы́ччам. *Ст. С.*

ТОК, -óў *м.* 1. Частка гумна для малацьбы. *Яр.* 2. Под (у печы). Ток вы́гараў. *Кр.* 3. Земляная падлога. У кýхні падлóгі ні рóбяць у нас, а ток, бо мнóго вады́ налівáяцца. *Гал.*

ТО'ЎСТАЯ *ж.* Цяжарная. *Яр.*

ТО'ЧКА, -аў *ж.* Група, грамада (сабак, ваўкоў). На грамніцы ваўкé, кáжуць, тóчкаю хóдзяць. *Вальк.* І тут цэла тóчка сабáк гэтых назьбірáласё. *Гал.*

ТПРО-ТПРО! *выкл.* Так клічуць кароў. *Кр.*

ТПРУ'ЦІ *прысл. дзіцяч.* На двор, на вуліцу. Сáшка прóсіць тпрýці, хóча на сáнках паéгдзіць. *Вар.*

ТРАЙГА' *ліч. устар.* Трое. І ў Гáндзі ўжэ трайгá дзяцéй. *Гр.*

ТРАЙНІ'ЛА (трайніло), -аў *н.* 1. Частка воза (вілкі, што злучаюць задок воза з перадком); трайня. Трайніло палажы́ў, як у лес éгдзіў. *Гр.* 2. *перан. абразл.* Пра чалавека. *Св.*

ТРАЙЦІНА', -аў *ж. устар.* Мера зямлі — 7 *га* (1/3 участка). *Едн.*

ТРАЙЦЯ'К, -оў *м.* 1. *устар.* Мера зямлі — трэць участка (да 8 *га*). На трайця́к во́сім душ было́. *Кр.* 2. Пра жывёлу трох год. *Ст. С.*

ТРАКЕ'НЯ, -яў *ж.* Бапна, гразкае месца. Дзе ты там про́йдзяш — тракéня гэ́дыкая! *Гр.*

ТРАПА'ННІЦА (трапа́ньніца), *-аў ж.* Трапальшчыца. Каб бо́ляй трапа́ньніцаў, мо і ўсей лён атрапа́лі п. *Гр.*

ТРАПА'ЦЬ, -плю́, -пляш *незак. незад.* Ісці, пакрываць вялікую адлегласць. Халéра яго́ бу́дзя трапа́ць таку́ю да́ляч — паéдзям. *Гал.*

ТРАПА'ЧКА, -аў *ж.* Трапло. Трапа́чка нéшто лён цяга́я, му́сіць, пакало́лася. *Ст. С.*

ТРАПУ'ШКА, -аў *ж.* Тое, што і т р а п а ч к а. Трапу́шка зал́ехка, трапа́ць кéпско. *Едн.*

ТРО'ПНУЦЬ, -у, -яш *зак.* Ударыць, стукнуць (цвёрдым). Бу́дзяш кру́ціцца за стало́м — тро́пну ло́шкаю па ло́бі. *Гал.*

ТРУБА', -аў і труп *ж.* 1. Цэментаваны абруч у калодзежы. Пяць труп — і вады́ ні даста́лі. *Вар.* 2. *іран.* Тоўстая, ненаедная. От труба́, усё есьць і есьць — за́ра ў ха́ту ні ўле́зя. *Ст. С.*

ТРУБІ'ЦЬ І, -блю́, -біш *незак. іран.* Многа і прагна есці. Як прысéў — тру́біць і тру́біць, паку́ль уся́ капу́ста ні бу́дзя. *Гр.*

ТРУБІ'ЦЬ ІІ *незак.* Сігналіць. Хутчэй ідзі, а то шо́фяр усё тру́біць. *Гр.*

ТРУДНАВА'ЦЬ, -ну́ю, -ну́яш *незак.* Пакутаваць. Наза́ўтра от труднава́ў пасля́ гарэ́лкі таé. І нашто́ яé гэдаквяля піць? *Вальк.*

ТРУДЫ', -о́ў *толькі мн.* Пакута, цяжкасць. Гато́ву купіў (хату) і найле́пяй. Ко́лькі трудо́ў на яе трэ́ба, што сама́ таго́ ні ва́рта. *Угр.*

ТРУМЦЕ'ЦЬ, -іць *незак. толькі ў 3 ас.* Пра наколаны гаршчок (збанок), калі ім стукаюць — правяраюць, ці цэлы. Не́дзя двірка, рас трумціць. *Ст. С.*

ТРУПЭ'РНЯ, -яў *ж.* Морг, трупярня. Халадно́, як у трупэ́рні. *Зл.*

ТРУШКА' *прысл.* Трушком. Усю дарóгу трушка́ е́халі. *Кр.*

ТРЫ'БА, -аў *ж.* Лясная дарога. Тры́баю паедзям ці па-за ле́сі? *Гр.*

ТРЫБУХА'Ч, -оў *м. абразл.* Трыбухаты. *Яр.*

ТРЫБУШНЯ' *ж. абразл.* Трыбухатая. *Ст. С.*

ТРЫБУШО'К, -оў *м.* Ручнік, тканіна якога нагадвае соты пчол. У дарóгу трыбушóк вазьмі выціра́цца. *Гр.*

ТРЫВУ'ЛА (трыву́ло) *прысл. у безас. сказах.* Трывала. Як ні паясі капу́сты с са́лам — ні трыву́ло, раз-два́ е́сьці хо́чацца. *Вальк.*

ТРЫ'МКАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Іграць, тромкаць. Тро́хі тры́мкая, аля ні скажу́, каб до́бро граў. *Яр.*

ТРЫНО'ЖКІ (трыно́шкі), -аў і -жак *толькі мн.* Металічная падстаўка на трох ножках; трыножак. Есьці на трыно́шках звару́. *Вар.*

ТРЫСЦІ'ЦЬ (трысьці́ць), -шчу́, -сціш *незак.* Злучаць, зводзіць для сукання ніткі. Я трысьціць бу́ду, а ука́цімяш пасьля́. *Гал.*

ТРЭ'ЙЧЫ *прысл.* Тры разы. Тройчы. Трэ́йчы захо́дзіў, і нікагу́тко німа́. *Пл.*

ТРЭ'ЛІЦЬ, -ю, -іш *незак.* Гаварыць пустое, абы-гаварыць. Ніхто́ яго́ ні слу́хая, што ён там трэ́ліць. *Гр.*

ТРЭ'ЛЯ, -яў *м.* і *ж.* Пустамеля. От трэ́ля не́ка, усё трэ́ліць і трэ́ліць. Абы-што́. *Вальк.*

ТУ'ВАВА-ТУ'ВАВА! Гукаперайманне ігры

на гармонiку. I ён, хоць малы́, а ўжэ ту́вава-ту́вава — гра́я. *Дзяр.*

ТУДЭ'МІ *прысл.* У тым напрамку, па тым шляху. Ідзі, дзе́ткі, туды́мі, бо тут на́тто гра́ско, у чаравіках ні про́йдзяш. *Пл.*

ТУ'ЛІ, -яў *толькі мн.* Гардзіны з прыгожай парусінавай тканіны. Цяпе́рака ту́лі мно́го ў каго́ на во́кнах е́сьцяка. *Дауг.*

ТУ'ПКАЯ *прым.* Трывалая, вытаптаная (дарога). Ні павінна загра́знуць, даро́га ту́пкая. *Гал.*

ТУ'ПТАЦЬ, -чу, -чаш *незак, зламоўн.* Працаваць (дома). Ухо́шка за карава́мі да за ва́мі так надае́сьць. Цэ́лы дзень ту́пчаш кала пе́чы. *Ст. С.*

ТУ'РЗАЦЬ, -я *незак.* Тузаць. Баля́чка нарыва́я, на́тто ту́рзая. *Гр.* Ні ту́рзай каня́ так! *Яр.*

ТУРБА'ЦЫЯ, -ыяў *ж.* Турботы, клопат. Нашто́ ішчэ́ рас така́я турба́цыя, хай ра́зам е́дзя. Ні надалу́жыш гэ́тым днём. *Гр.*

ТЫМЧАСО'ВЫ *прым.* Часовы, да часу. Мо хоць тымчасо́ву буду́ яку́ю зьле́пім на зіму, каб было дзе жыць. *Зл.*

ТЫР-Р! — *выкл.* Так спыняюць каня. Тыр-р! Гняды́! Прые́халі. *Вальк.*

ТЫЧКАВА'Я *прым.* Гатунак фасолі, якая пляцецца па тычках. *Кр.*

ТЭ'ЛЬБУХ, -аў *м. іран.* Трыбух. Нія́к ні зашпіліцца: тэ́льбух ні дае́ — ха-ха-ха! *Гр.*

ТЭ'ЎШЧАР *м. незад.* Тоўсты. Дзе ты яго́ двох пады́мяш! Тэ́ўшчар гэ́дыкі каме́ль той. *Гр.*

ТЭ'ЧКА, -аў *м.* 1. *устар.* Партфель. Ба́ло ўсё ўжэ́ндикі с тэ́чкамі хадзілі за По́льскаю. *Кр.* 2. *іран.* Сумка, партфель. Нуй ве́лька тэ́чка ў цябе́, сы́нку! *Яр.*

УБО'ІНА (убо́йіна), -аў *м.* і *ж.* Неслух, упарты, лянівы. Дзе ён табе́ по́йдзя! Ле́пяй паляжыць — убо́йіна гэты. *Гр.*

УВАБРА'ЦЬ, убяру́, -эш *зак.* Зжаць (скасіць) і забраць зжатае (скошанае); убраць. До́бро што ўвабра́лі з-за паго́ды, а то як раздажджы́цца — згніло́ п. *Кр.* І мы ўжэ ўвабра́лі — у гумне́ ні змарну́яцца. *Ст. С.*

УВАРЫ'ЦЦА, -ыська, -ыцца *зак. непаш.* Моцна спацець, увапрэць. Гаш цячэ́ зь яго́, так уварыўсё, на лы́жах е́гдзячы. *Дзяр.*

УГАЛО'ЎНЕ (угало́ўня) *незад. прысл.* Абавязкова, канечне. От, угало́ўня яму́ на торх се́ніка! Другім ра́зам паедзяш. *Вальк.*

УДО'Д (ўдо́т), -аў *м.* 1. Удот. 2. *абразл.* Дурань. Хале́ра з гэтым удо́там што лю́цко зро́біш. *Гр.*

УДУ'ХА *ж.* Дыхавіца. Уду́ха напа́ла, ні магу́ адды́хацца. *Св.*

УДЗЮ'БАЦЦА, -юсё, -ясься *зак. непаш.* Памыліцца, у незнаёмым бачыць знаёмага; укляпацца. І што на міне́ найшло́: удзю́баўсё ў не́ку жо́нку — мая́ сва́нька, і ўсё! Аля не, ні яна была́ гэто. *Гр.*

УЖЭ'НДНІК, -аў *м.* 1. *устар.* Служачы. Пры По́льшчы с тэ́чкамі такімі ўжэ́ндникі хадзілі адно́. *Пл.* 2. *іран.* Служачы. Ужэ́нднікам не́кім ро́біць у го́радзі. *Ал.*

УЗІРА'ЦЦА, -а́юсё, -а́ясься *незак.* Глядзець. Узіра́йся сюды́, а не ты наза́д узіра́ясься. *Ст. С.*

УКАМЯНЕ'ЦЬ, -е́ю, -е́яш *зак.* 1. Стаць каменным, скамянець. На маро́зі ўкамяне́ло са́ло. *Кр.* 2. *зламоўн.* Стаць нерухомым. Чаго́ ты ўка-

мянеў на ла́ві гэтуй? Ідзі каро́ві дай е́сьці. *Яр.* Се́ла, як ужамяне́ла, ні паднякца. *Гр.*

УКАРА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *зак.* Даць кару, пакараць. Укара́лі, так няраста́ў рабіць што ні трэ́ба. *Дайг.*

УКЛЕ'ЯЦЬ, -е́ю, -е́іш *зак.* Пабіць, агрэць. Ні хо́ча слу́хаць, паку́ль ні у́кле́йіш па мо́рдзі. *Дзяр.*

УКО'ПАНЫ прым. 1. Укопаны. 2. *перан.* Нерухомы, які не паказвае жыцця. Спіць — ну у́ко́паны. *Гр.*

УКРА'ДКАМ (укра́ткам) *прысл.* Крадком. Хо́чаш, так папыта́й, а ні ты укра́ткам цягняш. *Гал.*

УМАНУ'ЦЬ, -у́, -е́ш *зак. асудж.* Прывыкнуць. Уману́ў нічо́го ні е́сьці ра́но і так хо́дзіць гало́дны да палу́дня. *Вар.*

УМІ'ТУСЬ *прысл.* Каласы да каласоў (класці); мітусь. Умітусь снапэ́ на то́рні кладзе́м. *Кр.*

УПІРА'ЦЬ, -а́я *незак. безас.* Прыпіраць. Мне ні у́піра́я, мо́жаш а́ддаць і праз ме́сяц. *Угр.*

УПО'РУЧ *прысл.* Радам, поруч. Упо́руч пасе́лі ў во́зі, а фу́рман адзін сьпе́раду. *Гал.*

УПРА'УКА, -аў *ж.* Работа па гаспадарцы (дома). І у́пра́ўка — ні мала́я рабо́та: накармі, напо́й і скаціну і вас. *Св.*

УПРЫ'ЦІЦЬ, -чу, -ціш *зак. зламоўн.* Моцна звязаць. Як упры́цім, ні павару́шысься. *Вальк.*

УПЫ'Н *м. незад.* Супакой, стрыманне. Праману́ў — ідзе і ідзе́ ў тое́ сяло́, і у́пы́ну на яго́ німа́. *Св.*

УРО'Д (у́ро́т) *м. устар.* Ураджай. Яг до́бры у́рот, то і з гэтаго па пудо́ў со́рак намало́чваям. *Гр.*

УРУЧКІ' (уручкé) *прысл.* Роўна з драбінамі (накласці воз). Мнóго ні бяры́ сéна — уручкé накладзі і ець хучэ́й. *Вальк.*

УРЭ'Х, -аў *м.* Вузенькая палоска глебы (ля разоры), якую астаўляе неспрактыкаваны араты. Слабы́ гара́ньнік, рас урэ́х ні вóзьмяш. *Гр.*

УСМІРА'ЦЬ (усьміра́ць), -а́ю, -а́яш *незак.* Супакойваць, мірыць. Як прыдý с папрýгаю, хýтко усьмірý, ні бýдзяця біцца і крыча́ць там. *Вальк.*

УСТРАШЫ'ЦЬ, -ý, -ы́ш *зак.* Запалохаць. Ты ягó ні ўстрашы́ш. Ён ні гэ́то ба́чыў. *Пл.*

УСТРЭ'НУЦЬ, -у, -яш *зак.* Сустрэць. Хай ідзé, мо дзе ваўкé ўстрэ́нуць дýрня гэ́таго. Тагда́ ні бýдзя хадзіць. *Гал.*

УСТУПА'ЦЦА -а́юсё, -а́яцься *незак.* Абувацца на хаду, без анучы, не зашнуроўваючы. Уступа́юся ў бóты і ідý да цябé. *Кр.* Наштó ўступа́цца, раз бóсаму цяплó. *Гр.*

УСТУПІ'ЦЦА, -плю́сё, -пісься *зак.* Гл. у с т у п а ц ц а. Німа́ калі зашнурóўваць, так уступлю́сё і пабягý хучэ́й да малóго. *Яр.*

УСТУ'ПКІ, -аў *адз.* у с т ý п а к *м.* Пакаёвы абутак; тапкі. У ха́ці ўстýпкі, а на двор другóё што абува́й. *Гр.*

УСЦЕ'ЛЬКА (усьцéлька), -аў *ж.* Вусцілка, сцілка. Усьцéльку даў з раме́ню ў бот. *Ст. С.*

УСЭ'НТАРЫЦЬ, -у, -ыш *зак. жартаўл.* Укласці. Усягó паршукá ўсэнтарылі ў ра́шку, яг закалóлі. *Гр.*

УТО'РЫ, -аў *толькі мн.* Утора. Утóры выразаў у клéпках на дно. *Вар.*

УТРА'ТА *ж.* Страта, згуба. Які зарóбак з гэ́тымі парася́тамі — адна́ ўтра́та: так ча́сто здыха́юць. *Яр.*

УТРА'ЦІЦЬ, -чу, -ціш *зак.* Не мець выгоды, страціць. На грушах зараблю, а на яблыках заўша ўтраціш, бо мало хто купляя йіх. *Гал.*

УТРУБІ'ЦЬ, -блю, -біш *зак. жартаўл.* З'есці. Як утрубіў чыгун капусты — пад'еў добро! *Ст. С.*

УХО'ДАРЫЦЬ, -у, -ыш *зак.* Прывесці ў парадак, прыбраць заколанага кабана. Лёдзьвя ўходарылі паршука да цямна, як закалолі ў палудзянь. *Гр.*

УХО'ЖКА (ухошка) *ж.* Тое, што і у п р а ў к а. Аднае ўхошкі колькі — натупаясься добро за дзень. *Гр.*

УЦЮ'КАЦЦА, -аюсё, -аясься *зак. асудж.* Закахацца без меры. Як уцюкаўсё, то хоць ты яму што хоч. Кажа, буду жаніцца, і ўсё. *Ст. С.*

УЦЮ'ЦЬКАЦЦА -юсё, -ясься *зак. асудж.* Гультайнічаць, нічога не рабіць. Хоць ты разарвіся, а ён сабе уцюцькаяцца і ляжыць. *Гр.*

УЦЯ'ЦЦА, уватнусё, уватнёсься *зак.* Уперціся, занатурыцца. От убойіна, як уцяўсё, ні заставіш ніякаю радаю. *Гал.*

УЦЯ'ЦЬ, уватнёш, -нё *зак.* Укусіць. Сарваўсё і ўцяў за лытку (сабака). *Вальк.*

УЧА'СТАК, -аў *м. устар.* Мера зямлі—21 *га. Кр., Гр.*

УШПІЛІ'ЦЬ, ю, -іш *зак. незад.* Моцна оцебануць. Як ушпіліў, гаш заскавытаў (сабака). *Гал.*

УШЧАПІ'ЦЬ, -плю, -піш *зак.* Прышчапіць. Ушчапіў дзьве грушы і яблыню. *Ст. С.*

УШЧАПЛЯ'ЦЬ, -яю, -яяш *незак.* Гл. у ш ч а п і ц ь. Малы, а ўжэ ўшчапляць навучыўсё прысаткі. *Св.*

УШЧЭ'ПАК, -аў *м.* Прышчэпа. Нешто ссох

той ушчэ́пак. *Гр.* Прас чатэ́ры ро́кі ўшчэ́пак я́блыкі даў. *Вальк.*

## Ф

ФА′ЙНА (фа́йно) *прысл.* Хораша. Каб адно ты ўмеў так фа́йно сьпява́ць! *Ал.*

ФА′ЙНЫ *прым.* Прыгожы, харошы. Гро́шай ні ўзяла́. От фа́йны тава́р быў, трэ́було купіць — і на́ табе! *Зл.*

ФАМІЛЬЯ′НТ, -аў *м.* Чалавек, які носіць аднолькавае прозвішча. Хай фамілья́нт ска́жа, ці гэ́то ніпра́ўда? *Вальк.*

ФАНА′Р, -о́ў *м.* Ліхтар. С фанаро́м у хлеў хадзіла каро́ву лядзе́ць. *Вальк.*

ФАСМЭ′ТАР, -аў *м.* Кубічны метр. Дроў фасмэ́тар купілі. *Кр.*

ФІЛІНГО′ВЫ: ф і л і н г о́ в ы я д з в е́ р ы — узорчатыя, на дзве створкі. *Гр.*

ФУНДАВА′ЦЬ, -у́ю, -у́яш *незак.* Частаваць. Я прыве́с, а фундава́ць трэ́ба табе́. *Ал.*

ФУФА′ЙКА, -аў *ж.* Ватнік. У фуфа́йцы цяпло́ і зру́чно рабіць. *Ст. С.*

ФЕ′ЙЧАР (фэ́йчар), -аў *м.* Фельчар. За фэ́йчара не́дзя ро́біць дачка́. *Кр.*

## Х

ХАДАКІ′, -о́ў *адз.* х а д а к *м.* Скураныя лапці. Гадо́ў трыццаць наза́т, за пана́мі, ішчэ́ ў хадако́х хадзілі па сяле́. *Вальк.*

ХАДУ′Н, -о́ў *незад.* Хадак. Які зь яго́ хадун! Ле́дзьвя но́гі цягня. *Вар.*

ХАЛЭ′МБУС *м.* Капут, канец. Ну, ду́маю, нямчу́р, тут табе́ і халэ́мбус бу́дзя. *Гр.*

ХА'ТА, -аў *ж*. 1. Двор (асобная сядзіба). У нáшум сялé сто хáтаў. *Кр*. 2. Гарышча. На хáці сыры вісяць. *Св*. 3. Пакой. У тýю хáту ідзéця, тут дым на кýхні. *Гал*.

ХА'ЎКАННЕ (хáўкане̇), -яў *н. незад*. 1. Цяжкае дыханне. Адно́ хáўкане̇ чýла с таé хáты. *Гр*. 2. Пазяханне. Яг бытто я бóляй спáла, што ўсё хáўкаяш! *Гр*.

ХА'ЎКАЦЬ, -аю, -аяш *незак. незад*. 1. Цяжка дыхаць. І чагó ты хáўкаяш? Нáтто дáўсё, воз дроў прывéшшы? *Гр*. 2. Пазяхаць. От ні сеў ні паў і хáўкая — спаць ямý, бéднаму, німá калі! *Ст. С*.

ХАЦЯ'МСЯ (хацямсё) 1. *злучн*. Хаця б, хоць бы. Байіцца, хацямсё яго бáцька хапýн ні ўзяў! *Гр*. 2. *часц*. Хоць. Хацямсё ты ні лесь нікýды, Вáнька! *Ст. С*.

ХВАІНА' (хвайінá) ж. *зборн*. Хвойнік. Дóбрыя грыбэ̇ ў хвайінé нарасьлі. *Вальк*.

ХВАСТЫ' (хвастэ̇), -оў *толькі мн*. Канцы асновы, якія астаюцца, калі адрэжуць палатно. Мо хвастáмі тутýнь вязáцімям? *Яр*.

ХВАШЧА'ЙКА *ж*. Хвашчавыя (расліна). Хвашчáйку каравэ̇ дóбро ядýць. *Св*.

ХЛАПЧА'К, -óў *м*. Хлопец гадоў пад 14, хлапчук. Ужэ̇ вéлькі Змітрýк, настаяшчы хлапчáк. *Гал*.

ХЛЮШЧ: м ó к р ы я к х л ю ш ч — надта мокры. Гэта ш трэ̇ба так змóкнуць — мóкры як хлюшч прышóў дахáты. *Ст. С*.

ХЛЯ'БА, -аў *ж*. 1. Дыхавіца. Дух сьпéрло, як у хлябу здаў. *Гр*. 2. Пах. Мáло пад'éла карóва. адно́ хлябы стрычáць. *Св*.

ХО'ДКА (хóтка), -аў *ж*. Час работы паміж адпачынкамі (пры малацьбе, рэзанні сечкі).

За адну́ хо́тку змало́цім гэ́тыя дзьве капе́ жыта. *Кр.*

ХО'ДНІК, -аў *м.* Тратуар. Гэ́то ні ў горадзі, што хо́дніки, у сяле́ німа́ йіх. *Вар.*

ХРА'ПА *ж.* Замёрзлая гразь, груда. Па хра́пі гэтуй кало́шы папрабіва́яш. *Пл.*

ХРАПА'ТЫ *прым.* З вялікімі ноздрамі. Храпа́ты які: па́ляц ле́зя ў хра́пу. *Даўг.*

ХРАСЛЫ' (хрэслэ́), -о́ў *адз.* храсёл *м.* Грыбы груздзі. Храслэ́ на́тто сма́шныя, пасаліўшы. *Гр.*

ХРАСТО'К, -сткоў *м.* Расток (бульбы). Карто́плі храстке́ папуска́лі. *Пл.*

ХРО'ПНУЦЬ, -я *зак.* З трэскам, нечакана зламацца. На́тто кро́хкая асіна. Як сеў на сук, так і хро́пнула. *Гал.*

ХРОСЦЬ (хросьць), -яў *м.* Тое, што і храсток. Хро́сьці апціра́ям с карто́пяль. *Кар.*

ХТО-БА'ЧАЧЫ *займ.* Хто-ніхто. Хто-ба́чачы і пасе́яў, а ты ні згара́ў на́ват. *Гр.*

ХУДАШЧА'ВЫ *прым.* Хударлявы. Не, ні мажны́ хло́пяц, худашча́вы. *Даўг.*

ХУДНЯ'ЦЬ, -я́ю, -я́яш *незак.* Худзець, худнець. Ко́рму яг забраку́я, худня́я скаціна. *Ал.*

ХУДЭ'БА, -аў *м.* і *ж.* Худзізна. Есьць — і яго́ есьць — худэ́ба гэ́та. *Св.*

## Ц

ЦАДЗІ'ЛАК, -лкаў *м.* Цадзілка. Паце́к цадзілак. *Вальк.*

ЦАПЕ'ЛЬЯ (цапе́льё), -яў, *н.* Цапільна. Задо́ўго цапе́льё. *Кар.*

ЦАПІ'ДЛА (цапідло), -аў *н.* Цапільна. Біч сарва́ўсё с цапідла. *Едн.*

ЦВА'НЫ *прым. іран.* Харошы, добры. Чаму ні любіць такога цванага кавалера? *Дзяр.*

ЦВІ'ЧЫЦЬ (цьвічыць), -у, -ыш *незак.* Муштраваць. Будзя табе цьвічыць каня гэтаго. *Гр.*

ЦВІЧЭ'ННЕ (цьвічэнё), -яў *н.* 1. Вучэнне, муштраванне. І цьвічэнё тваё ні паможа, як сам за розум ні возьмяцца. *Ст. С.* 2. Манеўры, вучэнне (ваеннае). Як цвічэнё было, цьма-цьмушчая салдатаў тых наехало. *Гр.*

ЦЕ-ЦЕ-ЦЕ! *выкл.* Так клічуць гусей. *Пл.*

ЦЕЛЯПА'ЙЛА (цяляпайло), -аў *н.* Маруда. Колькі яна выжня за дзень, цяляпайло гэто. *Кр.* Ідзі хучэй, цяляпайло! *Ст. С.*

ЦЕЛЯПА'ЦЦА (цяляпацца), -ясься, -яцца *незак.* 1. Хістацца, матляцца. Нешто цяляпаяцца. Мо колас які. *Яр.* 2. *асудж.* Паволі, марудна працаваць. Які зь яго работнік! От, цяляпаяцца, абы дзень да вечару. *Св.* 3. *жартаўл.* Ісці ўразвалку. Просто ідзі, ні цяляпайся! *Кр.*

ЦЕЛЯПЕ'Й (цяляпей), -яў *м.* Целяпень, маруда. Кап хоць трохі хутчэй рабіў цяляпей гэты. *Гр.*

ЦЕМНАТЭ'ЧА (цямнатэча) *ж. узмацн.* Цемра, цемната. А на дварэ цямнатэча, хоць у воко калі. *Гал.*

ЦЕ'МНАЧ *ж.* Тое, што і ц е м н а т э ч а. Ноч'ю такая цемнач, хоць на воўка лесь. *Ст. С.*

ЦЕ'МЯНЕ (цемянё), -яў *н.* Цемя. І ў яго доўго цемянё ні зарастало, як малы быў. *Гр.*

ЦЕМЯНУ'ЦЬ (цямянуць), -ў, -еш *зак.* Моцна ўдарыць. Чуць ні забіў, як цямянуў калом па галаве. *Св.*

ЦЕ'НЖАР *м. незад.* Цяжар. Дзе ты бачыў, кап такі ценжар двох паднялі. *Вальк.*

/

ЦЕРАБІ'ЦЦА (цярабіцца) *незак.* 1. Церабіцца. *Яр.* 2. Сіліцца вылезці (з-пад каго). Дармá ты цярэбісься — ні вылязяш с-пад мінé. *Яр.* 3. Чухацца. І чагó ўсё цярэбіцца, як карóсьлівы! *Дайг.*

ЦЕРАБІ'ЦЬ (цярабіць) *незак. незад.* Абіраць (здымаць з дрэва). Од гіцлі, пóўныя кішэні наабірáлі і яшчэ цярэбяць (яблыкі). *Кр.* 2. Біць, лупцаваць. Паймáя і цярэбіць па вушáх гіцля гэтаго. Св.

ЦЕ'РАД (цéрат) *прыназ.* Сярод, пасярэдзіне. У куцé сяць, ні церат хáты прымасьціўсё. *Гр.*

ЦЕ'РНІЦА, -аў *ж, перан. жартаўл.* Ненаедны. От цéрніца гэта! І калі яна наéсца. *Кр.*

ЦЕ'РПНУЦЬ, -ня *незак.* Нямець, дзервянець. Як патрымáяш дóўго рýку ўвéрху, так сьцéрпня, як ніжывáя стáня. *Дайг.*

ЦЕЦІВА' (цяцівá) *ж.* Надземная частка раслін. На цяцівý картóплі ні благія, а якія бýдуць — капáнё пакáжа. *Гр.*

ЦЕНГ (цёнх) *м. устар.* Цяга. Цéнгу німá, і дыму пóўна хáта. *Кр.* ◇ А д н ы м ц é н г а м — беспераиынна, не сціхаючы (*незад.*). Спаць ні сьпіць, адным цéнгам éнчыць. *Гр.*

ЦЕ'ПКАЦЦА, -яцца *толькі ў 3 ас.* Калашмаціцца, высыпацца (пра незарублены краї тканіны). Цéпкацца бýдзя, як ні зарýбіш хýстку. *Гр.*

ЦЕ'ТУШКА (цéтушко) *ж. пяшчотл.* Цётачка (пры звароце). Каб я так жыва былá, прáўду, цéтушко, кажý. *Дзяр.*

ЦІ'ЖЫК, -аў *м.* 1. Чыж. І ціжык пшаніцу любіць. *Кр.* 2. Ваўчок (забаўка). От крýціцца ціжык. *Св.*

ЦОХ-ЦОХ! *выкл.* Так клічуць парасят. *Гал.*

ЦУБРЫ'ЦЬ, -ý, -ы́ш *незак*. Цурчаць, моцна ліцца. Од дошч цубры́ць па бля́сі. *Ст. С.*

ЦУ'КЕР (цу́кяр) *м*. Цукар. Цу́кяр пяскавы́. *Зл.*

ЦУ'НГЛІ, -яў *толькі мн*. Цуглі. *Едн.*

ЦУ'НТАР, -аў *м*. Крэсіва. Цу́нтар і цыр — і аго́нь бу́дзя. *Кар.*

ЦУ'ХЛІЦЬ, -ю, -іш *незак*. Жлукціць (піць). Адну́ во́ду цу́хліць, ніц ні есьць. *Гр.*

ЦЫБУРЭ'ННЕ (цыбурэ́нё) *н. зборн*. Сцябло тытуню; цыбуры. Цыбурэ́ня ні прыма́юць, адно́ лісьцё. *Вальк.*

ЦЫ'МБАЛ *м*. *жартаўл*. Высокі, падгалісты. Вы́пярсё, ху́тко бу́дзя ро́ўны з ба́цькам, цы́мбал гэ́ты. *Ст. С.*

ЦЫ'МАНТ *м*. Цэмент. *Гр., Кр.*

ЦЫ'НГЕЛЬ (цы́нгяль), -яў *м*. Спускавы кручок (вінтоўкі). Ужэ́, здэ́цца, і за цы́нгяль бярэ́цца нямчуры́ско гэ́ты, хо́ча стрэ́льнуць у цябе́. *Ал.*

ЦЫ'НДРА *ж*. Пра цвёрдае. Сыр высах. Цы́ндру гэту ні ўку́сіш. *Св.*

ЦЫ'ПУСЬ! *выкл*. Так адганяюць куранят. *Вар.*

ЦЫР *м*. Губа (расце на дрэве); цэра. Цыр вары́лі ў лу́зі і выбіва́лі. Од бярэ́цца до́бро, як краса́не́ш аго́нь. *Угр.*

ЦЫ'ЦКА' I, -аў *ж*. Сасок. С цы́цкі мала́ко сьсе. *Яр.*

ЦЫ'ЦКА II. Адбітая (адцягненая) частка ляза ў касе. Усю́ ко́су на цы́цкі пабіў, ні ўме́ючы кляпа́ць. *Кр.*

ЦЬМА-ЦЬМУ'ШЧАЯ: Надта многа, безліч. *Кар., Вар.*

ЦЭ'ВА, -аў *ж*. Цэўка. Цэ́ву ссука́ў і го́дзі.

*Кар.* Цэву выкапалі — нéдзя чалавéка пахавáлі тут. *Кар.*

ЦЭ'ЛКІ *прым.* Які метка страляе. Чаму ён ні пацэліць, цэлкі такі. *Пл.*

ЦЭ'ЛЫ *прым.* Вялікі; сапраўдны. Цэлае гóро зь йім. *Кр.* Цэлая бядá з гэтым хлóпцам: ёсьці ніц ні есьць. *Дзяр.*

ЦЯКА'ЦЬ: ц я к á й (цякáйце) — адчапіцеся, не лезьце, не прыставайце. Чагó прычапіўсё, цякáй ад мінé. *Яр.*

ЦЯЛЕ'ШКІ, -аў *толькі мн.* 1. Прыстасаванне (у выглядзе санак) для перавозкі (на поле) плуга. На цялéшках вязі, ні меў рýкі вырывáць. *Гр.* 2. *абразл.* Непаваротлівы. Што ён дастáня дзе, цялéшкі гэтыя. *Ст. С.*

ЦЯЛУ'Ш-ЦЯЛУ'Ш! *выкл.* Так клічуць цялушку. *Вар.*

ЦЯЛЯ'ЧЫНА *ж.* Мяса з цяляці, цяляціна. Цялячына — лёгкія харчэ. *Гр.* Мо цялячыны зварыць? *Кр.*

ЦЯРЭ'ДНАЧЫ *прысл.* Сярод ночы. Дзе ты пóйдзяш дахáты цярэдначы. *Гр.*

ЦЯРЭ'ДНЯ *прысл.* Сярод дня. Цярэдня абірáюць і нікóго ні баяцца. Од гіцлі, злыдухé! *Гр.*

ЦЯРЭ'ДНЯ-БЯЛЕ'ДНЯ *прысл.* Сярод белага дня. Дравіска валакýць зь лéсу і лясьнікá ні баяцца. І ўсё — цярэдня-бялéдня. *Ст. С.*

ЦЯРЭ'ЗЗАГАНЫ *прысл.* Напрасткі цераз загоны. Цярэззаганы ні пацягня конь, трэ на дарóгу выягджáць. *Гр.*

ЦЯРЭ'СПАЛЯ *прысл.* Напрасткі пераз поле. Цярэспаля так і джгáя — прэ ягó ліхо. *Ст. С.*

ЦЯРЭ'ШНЯ, -яў *ж.* Чарэшня. Ушчапіў цярэшню. *Вальк.*

ЦЯЦЕ'РА, -аў *м.* і *ж.* Балбатун, пустамеля. Ні слухайця цяцёру. Ён вам бочку арыштантаў нагаворыць. *Яр.*

ЦЯЦЕ'РЫЦЬ, -у, -ыш *незак.* Гаварыць пустое. Цяцёрыць і цяцёрыць, і як яму язык ні забаліць. *Ст. С.*

ЦЯ'ЦЦА, -тнусё, -ёсься *зак.* Стукнуцца, ударыцца. Бех, і як цяўсё, чуць галавы ні разьбіў. *Гал.*

ЦЯЦЬ, -тну, -еш *незак.* Ударыць. Як цяў тагды таму сабацы, так ні ўстаў ён. *Вальк.*

## Ч

ЧАЛАВЕ'ЧАК, -аў *м.* Зрэнка. Парнуў у самы чалавёчак, то дзе ён ні асьлепня. *Кр.*

ЧА'МКАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Чаўкаць (есці). Ні можа, як людзі, а, як сьвіня, чамкая. *Яр.*

ЧАПІ'ЛЬНЯ, -яў *ж.* Страха на слупах, пад якой захоўваецца сена. Пат чапільню зложым сёно. *Ст. С.*

ЧАПУ'РЫЦЦА, -усё, -ысься *незак.* *іран.* Прыхарошвацца. На музыкі пойдзя, так усё чапурыцца. *Яр.*

ЧАРАНО'К, -нкоў *м.* 1. Дзяржанне; ручка. Чаранок да сярпа зрабіў. *Кр.* 2. Пруток, на якім круціцца вітушка (матавіла). Чаранок выпадая з вітушкі. *Ст. С.*

ЧАРВЕ'ННЕ (чарвёнё) *н.* Адкладванне яечак пчалінай маткай. Само чарвёнё, ні зачапай пчол! *Кр.*

ЧАСАВЭ'ЛЬНЯ, -яў *ж.* Машына для часання воўны. На часавэльню пусьціла воўну. *Дзяр.*

ЧАСТАКО'ЛІНА, -аў *ж.* Кол у частаколе.

Частакóліну адарвáлі, і кýры ў вагарóт лáзяць. *Кр.*

ЧАСЫ′ (часэ́), -óў *толькі мн.* Гадзіннік. Часэ́ кéпско ідýць. Нéшто ацстаю́ць усé. *Зл.*

ЧА′ЎРАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* 1. Сохнуць, вянуць. От, німá рóсту картóплям гэ́тым бяз дажджý — аднó чáўраюць. *Гр.* 2. Ліпець. Якóё с старóго жы́цё — чáўраяш ішчэ́. *Кр.*

ЧАЦВЯРТА′Я (чацывяртáя) *устар.* Мера зямлі —5 *га* (1/4 участка). *Гр.*

ЧАЦВЯРЦІ′НА (чацывярціна) *устар.* Тое, што і ч а ц в я р т а я. *Едн.*

ЧВЭ′РА, -аў *м.* і *ж.* *жартаўл.* Гаварун. Бýдзя бáйкі бáяць, старáя чвэ́ра. *Гр.*

ЧВЭ′РЫЦЬ, -у, -ыш *незак.* *жартаўл.* Гаварыць (многа, лішне). Хай пярастáня чвэ́рыць, скажы́, а то галавá балíць. *Ст. С.*

ЧКЭ-ЧКЭ! *выкл.* Так клічуць свіней. *Вар.*

ЧО′РНЫЯ Я′ГАДЫ. Чарніцы. *Кр.*

ЧУБРЫ′НА *ж.* Чуб, чупрына. *Кр., Дзяр., Зл.*

ЧУМА′ЖНЫ *прым.* Вялікі, мажны (пра карову, каня). Павíнна мнóго малакá давáць: чумáжная карóва. *Гр.*

ЧУ′ПАЧКІ: н а ч ý п а ч к а х — на кукішках. На чýпачках прысеў і шэ́пча на вýхо. *Гр.*

ЧУ′ЧАЛАНКА, -аў *ж.* Тое, што і ч у ч к а. Чýчаланку парэ́заў. *Едн.*

ЧУ′ЧКА, -аў *ж.* Костачка (на пальцах рук). Усé чýчкі паабіваў дрывáмі. *Вальк.*

ЧЫРВО′НЫЯ Я′ГАДЫ. Суніцы. *Пл.*

ЧЫ′СТА (чы́сто) 1. *прысл.* Абсалютна. Нікóго тут німá, чы́сто ўсе вы́яхалі. *Кр.* 2. *часц.* Як, быццам, нібы. Чы́сто ты сам ні бáчыш, што тут рóбіцца, да пытáяш? *Св.* 3. *злучн.* Як, быццам. Гóлас, чы́сто ў майгó дзéда. *Гр.*

ЧЫСЦЮ'Х (чысьцюх) *м.* Чысцёха. Од дзе чысьцюх! У самого ў хату ні ўлесьці. *Яр.*

ЧЫСЦЮХА' (чысьцюха) *ж.* Чысцёха (пра жанчыну). *Вальк.*

ЧЫ'ТАР, -аў *м.* Чытач. Чытай, чытай, мой ты малы чытар. *Гр.* От чытар! І часу яму на другое німа, усё чытая. *Ст. С.*

ЧЫ'ХАЎКА *ж.* Чханне. Нека чыхаўка напала, усё чхая і чхая. *Вальк.*

ЧЫЧАКІ' (чычаке), -оў *толькі мн. зняважл.* Валасы. Чычаке пара стрыхчы. *Гр.*

ЧЭ'ПАЦЬ, -аю, -аяш *незак. спагадл.* Хадзіць, дыбаць. От, патрошкі чэпая па хаці. Аля слабы зь яго хадун. *Кр.*

ЧЭ'РАН, -аў *м.* Тронак. Чэран абгарэў у вілох. *Св.*

ЧЭ'РХАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Запальваць запалку (тручы аб карабок). Ацсырэлі запалкі. Чэрхай ні чэрхай — ні запаліш. *Пл.*

## Ш

ША! *выкл.* Ціха! Ша, дзеці, ні крычэця! *Гр.*

ШАЛПАТА'ЦЬ, -чу, -чаш *незак.* 1. Біць крыламі — шастаць. Курыца падая ўпоўначы, шалпоча крыламі. *Ст. С.* 2. Невыразна гаварыць. Нешто шалпоча сабе пад нос, а што — ніведама, ні разьбярэсься. *Кр.*

ШАМРЭ'ЦЬ, -ыць *незак.* Багата апранацца, зіхацець. О, гэто кавалер: усё навютко, шамрыць. *Яр.*

ША'ПКА, -аў, *ж.* Сноп, якім накрываюць мэдлік збожжа. Зламі шапку мыдлю накрыць. *Гал.*

ШАРАВА'РКА, -аў *ж. устар.* Павіннасць па рамонце дарог. Пры паля́ках шарава́рку адбыва́лі на сашы́. *Дайг.*

ШАРО'С *м.* Верхні цвёрды пласт снегу. Усё бо́ты шаро́с парэ́заў, як ішо́ў напрасткё. *Ст. С.*

ШАСТА'Я *устар.* Мера зямлі—3,5 *га* (1/6 участка). *Гр.*

ШАСЦІНА' *устар.* Тое, што і ш а с т а я. *Едн.*

ШВАГРУ'СЬ *м. зняважл.* Швагер. Гэто мне швагру́сь так нарабіў! *Гр.*

ШВАРЦУ'ГА, -аў *ж.* Дубец для звязвання калоў у загарадзі. *Едн.*

ШВЭ'ДАР, -драў *м.* Тое, што і ш в э д р а. Шве́дар зьвяза́ла. *Кр.*

ШВЭ'ДРА *ж.* Світар. Пададзёў шве́дру, то цяплёй ста́ло. *Вар.*

ШВЯРГАТА'ЦЬ, -чу́, -чаш *незак.* Вучыцца гаварыць. От швярго́ча і швярго́ча нешто сабё малоё. Мо гавары́ць ху́тко бу́дзя. *Ал.*

ШКАРЛУ'ПА *ж.* Лупіна (яйца). *Едн., Кар.*

ШКІ'ЛЯ! *выкл.* Так адганяюць авечак. *Вальк.*

ШКЛЭ'НДЗЯ, -яў *ж.* Крывяная каўбаса. *Кар.*

ШКЛЯ'НКІ, -аў *толькі мн. абразл.* Вочы. Шкля́нкі гэтыя вы́лупіў і крычы́ць. *Гр.*

ШКЛЯР *м. абразл.* З вялікімі вачыма. Ду́мала, зьзесьць шкляр гэты, як вы́лупіў сваё шкля́нкі. *Св.*

ШКЛЯЧКО', -о́ў *н.* Шкельца, шклечка. *Гр., Дзяр.*

ШКО'ДЛІВЫ *прым.* Шкодны. На́тто шко́дліви кот быў у гаспадара́. *Вальк.*

ШКО'ЛКА, -аў *ж.* Гадавальнік (лесу). Хо́дзіць у шко́лку пало́ць вы́саткі. *Пл.*

ШЛЕ'ГАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Сцёбаць. Шлёгая і шлёгая гэтаго каня́ дупцо́м. *Дайг.*

ШЛЯ'ГА, -аў *ж.* Доўбня. Шлягаю б'е па абўху, каб камéль раскалóць. *Гр.*

ШМА'РА (і шмэ́ра), -аў *жартаўл.* Той, хто не хоча сядзець дома, хто любіць хадзіць у госці. От калі аднó прышлá сь сялá шмáра гэ́та. *Ст. С.*

ШМАРАВІ'ДЛА (шмаравідло) *н.* Каламазь. Трóхо шмаравідла прынёс калёса памáзаць. *Вар.*

ШМУЛЬ *м.* *асудж.* Тое, што і шмуляр. У зашмýлянуй і ў людзі цягняцца шмуль гэ́ты. *Гр.*

ШМУЛЬНУ'ЦЬ, -ý, -éш *зак.* Сцёбнуць, агрэць. Шмульні, як ні слýхаюць, то палéпшаюць. *Св.*

ШМУ'ЛЯР, -аў *м.* *асудж.* Пра таго, хто ходзіць у падраным, заношаным адзенні. Ніяк рубáшкі ні пяраменіць. Так і хóдзіць у зашмýлянуй шмýляр гэ́ты. *Гр.*

ШМЭ'РКА (шмэ́рко), -аў *м.* *жартаўл.* Той, хто любіць хадзіць па людзях і мала бывае дома. Шмэ́рко гэ́ты нéдзя да Ёзуба пацягнýўсё. *Вальк.*

ШНУРАВА'ЦЬ, -рýю, -рýяш *незак.* Хадзіць узад-уперад без толку, марна траціць час. Ні меў шнураваць тут, ідзі каравэ́ памагáй пáсьвіць. *Яр.*

ШО'ПА, -аў *ж.* 1. Стрэшка на слупах для захоўвання сена. У шóпу з вос улёзя ішчэ́. *Кр.* 2. Павець. Вос у шóпу закацілі. *Гр.*

ШОФ, -аў *м.* Тое, што і шопа (у 1 знач). Сéно ў шоф склáлі. *Кар.*

ШПА'РЫЦЬ, -ý, -ыш *незак.* 1. *жартаўл.* Хутка ісці. Аднó пыл курыць пад нагáмі, як шпáрыць дахáты. *Яр.* 2. Біць, лупцаваць. Аднó шпá-

рыць і шпа́рыць каня́ гэ́таго. Ле́пяй аўса́ дава́й, то бе́гчымя. *Кр.*

ШТА'БА, -аў *ж.* Жалезная планка для запірання аканіц. *Вальк.*

ШТО-БА'ЧАЧЫ *займ.* Што-нішто. Штоба́чачы забяру́ цяпе́р, а астально́ё ўза́ўтра. *Ст. С.*

ШТЫ'РХАЦЬ, -аю, -аяш *незак.* Штурхаць. І нашто́ хло́пца шты́рхаць, ён і так, бе́дны, ча́сто пла́ча. *Дзяр.*

ШУ'ГАНКА, -аў *ж.* Гушкалка (звязаныя галіны дрэў ці вяроўка). Пастухе́ шу́ганку зрабілі і шуга́юцца. *Св.*

ШУГА'ЦЦА, -а́юсё, -а́яcься *незак.* Гойдацца (на гушкалцы). Як парве́цца шу́ганка, то шуга́цца ні бу́дуць. *Гр.*

ШУГА'ЦЬ, -а́ю, -а́яш *незак.* Гушкаць. Палядзі, як хло́пцы шуга́юць Лёніка. І ні баіцца. *Вальк.*

ШУПЛАВА'ТЫ *прым.* Няцвёрды, мяккі (пра галоўку капусты). *Яр.*

ШУПЛЯ'К, -оў *м. незад.* Няцвёрдая галоўка капусты. *Кар.*

ШУТ-ШУТ! *выкл.* Так клічуць авечак. *Пл.*

ШУ'ТКА *ж. пяшчотл.* Авечка. Лаві шу́тку за шы́ю і ў хлеў. *Вальк.*

ШЧАВЕ'Й *м.* 1. Шчаўе. Кр. 2. Страва з шчаўя. Шчаве́й лю́біць хлёбаць. *Дайг.*

ШЧАЛАЧО'НКІ, -аў *толькі мн.* Бульбяны суп. Наскрабі карто́пяль, накрышы і зва́рыш на палу́дзянь шчалачо́нкі. *Гр.*

ШЧАЛУ'БІНА, -аў *ж.* Шчыліна. У шчалу́біну зале́зя мыш і грызе́. *Гр.* Прас шчалу́біну сьве́ціцца. *Вальк.*

ШЧАРБЕ'ЛЬ, -ёў *м. жартаўл.* Шчарбаты. Шчарбéль гэты усе зýбы пагубіў. *Угр.*

ШЧО'ЛАК *м.* Рэдкая частка варыва; поліўка. Гýшчу есьць, а шчóлак пакідáя. *Ст. С.*

ШЧО'ЛАКІ, -аў *толькі мн.* Бульбяны суп. Шчóлакаў зварыла на палýдзянь. *Едн.*

ШЧО'ПЦІ, -яў *толькі мн.* 1. Драбок чаго-небудзь, як узяць у тры пальцы. Шчóпці сóлі ўзяў і бýдзя пасаліць капýсту ў місцы. *Яп.* 2. *перан.* Надта мала. Што ты наясіся тагó пірагá. Каб ягó мнóго былó — а гэто шчóпці ўсягó. *Св. Параўн. у руск.:* щепотка.

ШЧЫ'КАЎКА *ж.* Іканне. Шчыкаўка напáла, і рáды німá. *Гр.*

ШЧЫ'КАЦЬ, -ю, -яш *незак.* Ікаць. Удубéў, ці што — шчыкая і шчыкая хлóпяц гэты. *Кр.*

ШЧЫ'НАК, -нкаў *м.* Пласт сена (кладуць у копы і на воз). Нашчыняй шчынак і кладзі ў капіцу. *Вальк.*

ШЧЫНЯ'ЦЬ, -яю, -яяш *незак.* Рабіць пласты (шчынкі). Шчыняй, а я бýду шчынкі насіць і падавáць на вос. *Вальк.*

ШЧЫПЕ'Р, -óў *м.* Пяро цыбулі. Шчыпярóў сó-два ў сáло ўкрышы. *Гр.*

ШЧЫТ, -óў *м.* Закот (у доме). Акéнцо ў шчыцé зрабіў, кап вéцяр па гáры хадзіў. *Дайг.*

ШЫ'ЙКА, -аў *ж.* Вузкая частка пасуды (бутэлькі і г. д.); рыльца. Наліў ні шкадýючы, гаш ў шыйку бутэлькі. *Вальк.*

ШЫКАВА'ЦЦА, -кýюсё, -кýясься *незак. незад.* Прыбірацца. Ішчэ рáно, а янá ўжэ шыкýяцца на кярмáш. *Гал.*

ШЫ'КАЦЬ, аю, -аяш *незак.* Гаварыць на вуха, шаптаць. Нéшто шыкая ямý, а тагды рагóчуць абóдва. *Ал.*

ШЫ'КІ, -аў *толькі мн.* Шэпты. Шыкі хату зводзяць. *Пл.*

ШЫПУ'ЛЬ, -ёў *м.* Тонкая шчэпка. Дзе ты напáліш гэтымі шыпулямі. Уразз згарыць. *Гал.* Шыпулём грась аскрабі. *Св.*

ШЫТНЫ'Я (ніткі) *прым.* Сваe работы, моцныя (ніткі). Крáмныя тут ні трымáцімуць, трэба шытнымі ніцьмі прышыць. *Гал.*

ШЫХ *м.* Шанц. Мáюць людзі шых на сьвіня. *Ст. С.*

ШЫХАВА'ЦЬ, -ýя *незак. безас.* Шанцаваць. Шыхýя, кáжуць, так і мужык танцýя. *Гр.*

ШЫЦЮ'К, -оў *м.* Шашаль. Шыцюк усё дзьвéры стачыў. *Вальк.*

ШЭ'РХНУЦЬ, -ня *незак.* 1. Ледзь-ледзь замярзаць (пра глебу). Шэрхня зямля. Кап картóплі ні памéрзьлі хаця. *Яр.* 2. *перан.* Ледзянець. Такоё лачýў, што скýра шэрхня. *Ст. С.*

## Э

ЭЛЕ'КТРЫКА (алéктрыка) *ж.* Электрычнасць. Алéктрыка дóбро сьвéціць. Яг днём, відно. *Яр.* І рáдзіво, і алéктрыку правялі ў сяло. *Зл.*

## Ю

ЮРО'К, юркоў *м.* Палачка (з прораззю і дзірачкамі на канцах) для звівання нітак (на клубок). Бяз юрка клубок слáпкі бýдзя. *Яр.*

ЮСТЭ'РКА (юстэрко), -аў *н.* Люстэрка. А самá усё ў юстэрко глядзіць, ці хацямсё дóбро прыглáдзіла кýдлы. *Гал.*

Ю'ШКА *ж.* 1. Суп з крыві кабана і перацёртай мукі. Наварыла юшкі, як паршукá закало-

лі. Елі і хвалілі, што сма́шна. *Дайг.* 2. Кроў. Юшку спусьцілі с паршука́, кап са́ло бе́ло было́. *Яр.*

Ю'ШЫЦЬ, -ыць *незак. незад.* Цячы струменем (пра кроў). От стра́шно лядзе́ць на яго́: кроў гаш ю́шыць з ра́ны. *Яр.*

## Я

Я'БЛЫКА (я́блыко), -аў *н.* Яблык. Яблыко нісма́шно даў. *Яр.*

ЯДРО'НЫ *прым.* Ураджайны — з вялікаї колькасцю пладоў. От ядро́ныя гру́шы бу́дуць, як цьвет ні апа́дзя. *Гр.* Гарэ́хі ядро́ныя, але зярня́та яшчэ́ малы́я. *Св.*

ЯЁ'РКА, -аў *ж.* Белка, вавёрка. *Ст. С.*

ЯЗДУ'Н, -оў *м. незад.* Яздок. Лядзі, каб ні зваліўсё с каня́, язду́н такі! *Гр.*

Я'МА, -аў *ж.* Склеп (не ў будынку) для захоўвання бульбы. Яму по́ўну карто́плямі насыпалі, бу́дзя з нас. *Яр.* Зь я́мы бярэ́м вясно́ю карто́плі. *Дайг.*

Я'МКА, -аў *ж.* Баковачка на прыпечку (у яе выграбаюць вуголле з печы, калі пякуць хлеб). У я́мцы вуглікé мо ішчэ́ ні пату́хлі. *Гал.*

Я'СЕК (я́сяк і я́сік), -аў *м.* Невялічкая падушачка. Ясяк наве́рх на падушке́ кладу́ць, кап харашэ́й было́. *Зл.*

ЯСЁ'НКА, -аў *устар.* Дэмісезоннае паліто. Ясёнку ма́я на во́сянь, а на зіму пальто́ пашы́ям. *Яр.*

ЯЧАВЫ'Я: я ч а в ы́ з у б — той, на якім больш за ўсё ядуць. *Вальк.*

ЯЧМЕ'НІСКА (ячме́ніско) *н.* Поле, дзе рос ячмень. *Зл.*

Навуковы рэдактар
*доктар філалагічных навук М. В. БІРЫЛА*

**Сцяцко П.**
**С 92** Дыялектны слоўнік. З гаворак Зэльвеншчыны. Навуковы рэдактар доктар філалагічных навук М. В. Бірыла. Мн., Выд. БДУ імя У. І. Леніна, 1970.
184 с. 2500 экз. 19 к.

У слоўніку тлумачыцца значэнне да 2,5 тысяч дыялектных слоў, адлюстроўваюцца граматычныя і фанетычныя асаблівасці гаворак, словаўтварэнне і сінаніміка, паказваецца сфера бытавання дыялектызмаў.

Слоўнік прызначан навуковым работнікам, выкладчыкам вну, студэнтам-філолагам, настаўнікам школ.

7-1-5
41-70 4(Бел)(03)

## Заўважаныя памылкі друку

| Стар. | Радок | Надрукавана | Трэба чытаць |
|---|---|---|---|
| 45 | 2 знізу | гляну́ў | гняну́ў |
| 123 | 1 знізу | па до́скам | падо́скам |
| 174 | 4 знізу | пераз | цераз |

Зак. 214.

На белорусском языке

**Павел Владимирович Стецко**

ДИАЛЕКТНЫЙ СЛОВАРЬ

Издательство Белорусского государственного университета им. В. И. Ленина. Минск, Кирова, 24.

Рэдактар А. Ляпіч
Мастацкі рэдактар В. Лапіцкі
Тэхнічны рэдактар Т. Акуловіч
Карэктары А. Дзераш, Е. Бурсак

АТ 29146. Здадзена ў набор 6/I 1970 г. Падпісана да друку 21/VII 1970 г. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 3. Фіз. друк. арк. 5,75. Ум. друк. арк. 6,72. Уч.-выд. арк. 7,02. Выд. № 41-70. Тыраж 2500. Заказ 214. Цана 19 к.

Друкарня Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, Кірава, 24